**АПОВЕСЦЬ ПРА АДКАЗНАСЦЬ ПЕРАД СУМЛЕННЕМ**

**У ПЕРАД'ЮБІЛЕЙНАЙ ПЕРАКЛІЧЦЫ — БРЭСТ І ГРОДНА**

**ЗНАЁМЦЕСЯ — ХЛЕБАРОБЫ**

**СЫН, ВАРТЫ БАЦЬКІ**

**СЛОВА ДА ТЫХ, ХТО НЕ ПРАЙШОЎ ПА КОНКУРСУ**

**СВІЦЯЗЯНСКІЯ СУСТРЭЧЫ**

**РОЗДУМ ПЕРАД АЛІМПІЯДАЙ У МЕХІКА**

**З ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСКАГА СПОРТУ**



# 9

**ВЕРАСЕНЬ**

**МІНСК, 1968**

*ШТОМЕСЯЧНЫ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ІЛЮСТРАВАНЫ ЧАСОПІС*

●

**Заснаваны ў 1953 годзе**

# МАЛАДОСЦЬ

**ОРГАН ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА ЛКСМ БЕЛАРУСІ І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР**

## У НУМАРЫ:

**Юрась СВІРКА.** Мінск. Плошча Перамогі. 9 мая. Нязломнасць. Трагічны эцюд. Малітва дзявочай красе. Вершы . . . . . . . . . . . 4
**Мікола ГРОДНЕЎ.** Сын. Аповесць . . . . . . 7
**Уладзімір ПАЎЛАЎ.** Ад першае вясновае паводкі... Адкрытае мора. Вясковыя танцы. Дзяцел лечыць сасну... Вершы . . . . . . . . . . . 31
**Іван НАВУМЕНКА** Сіні снег. Апавяданне . . . 33
**Хведар АЛЕСЬ.** Дарога. Воўчанка. Першы капеж. Вершы . . . . . . . . . . . . . 37
**Міхась ВЫШЫНСКІ.** Вокны ўначы. Апавяданне . . 39
**Уладзімір ВАСЬКО.** Добры дзень, жаўтаротых сям'я!.. Купальшчыца. Вершы . . . . . . . 52
**Анатоль СЕРБАНТОВІЧ.** Іспанскія балады: Матадор, Барыкады. Снежны чалавек. Круглякі пратупаюць, як коні... Вершы . . . . . . . . 53
**Напалеон РЫДЗЕЎСКІ.** Парашуты на дрэвах. Дакументальная аповесць. (Заканчэнне) . . . . . 55
**Валянціна ХАМЧУК.** Я пісьмы чытаю. Па вясне у ваду... Вершы . . . . . . . . . . . 77
**Марыя БАРАВІК.** Ты не крыўдуй, чалавек... Восень мая, восень... Расказваеш мне пра Волгу... Вершы... 78
**Кэтрын МАКЛІН.** Тэлекадры не хлусяць. Фантастычнае апавяданне . . . . . . . . . . 80

**ПЕРАКЛІЧКА СУСЕДЗЯЎ.** Гутарка з сакратарамі Гродзенскага і Брэсцкага абкомаў камсамола **Яўгенам РАБКО і Аляксандрам САКАЛОЎСКІМ** 90
**Валянцін ЖДАНОВІЧ.** Паважаны таварыш хлеб! Рэпартаж . . . . . . . . . . . . 101
**Васіль МАЕЎСКІ.** Адмірал з берагоў Сожа. . . 106
**Аляксандр ЮДАНАЎ.** Па слядах подзвігу . . 112
**Ці помнім мы ўсё!** Кастрычнік . . . . . . 115

**Выдавецтва «Звязда»**

**Перад дарогай.** Інтэрв'ю старшыні Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па выкарыстанню працоўных рэсурсаў **Ф. З. РОМЫ** . . . . . 117
**Уладзімір ЮРЭВІЧ.** Кім быць? Якім быць? . . . . 118
**Мікола ГІЛЬ.** Дванаццаць дзён сустрэч . . . 122
**Вера ПАЛТАРАН.** Свет добрых людзей . . . 132
**Леанід ПАДГАЙСКІ.** Мова Якуба Коласа . . . 135
**Зусім сур'ёзна** . . . . . . . . . . . 137
**Вясёлы куфэрак** . . . . . . . . . . . 138
**Грымасы і фокусы фотааб'ектыва** . . . . . 140
**Міхаіл СУПАНЕЎ.** Лік у нашу карысць . . . . 144
**Аляксандр ХУДАВЕЦ.** Піянер парашутнага спорту . 147
**Аляксандр ГУБАНАЎ.** Чароўная кветка . . . . 148
**Віктар ЛАМЕЙКА.** Спартыўная мазаіка . . . . 151
**Аляксей СУЭЦІН.** Паядынкі дужых. Шпаркі разгром 152
**Антось ЦЫБУЛЬКА.** Прэм'ера . . . . . . 155
**Нашы аўтары** . . . . . . . . . . . 160

Вокладка **Ю. Архіпава.**

Шмуцтытулы **В. Шаранговіча** (стар. 3) і **Ю. Іванова** (стар. 89).

---







# ПАЭЗІЯ ПРОЗА

● **Юрась СВІРКА** ● **Мікола ГРОДНЕЎ** ● **Уладзімір ПАЎЛАЎ** ● **Іван НАВУМЕНКА** ● **Хведар АЛЕСЬ** ● **Міхась ВЫШЫНСКІ** ● **Уладзімір ВАСЬКО** ● **Анатоль СЕРБАНТОВІЧ** ● **Напалеон РЫДЗЕЎСКІ** ● **Валянціна ХАМЧУК** ● **Марыя БАРАВІК** ● **Кэтрын МАКЛІН.**

# ПАЭЗІЯ

● *Мінск. Плошча Перамогі. 9 мая.*

●● *Нязломнасць*

●●● *Трагічны эцюд*

●●●● *Малітва дзявочай красе*



## Юрась СВІРКА



●

Напэўна, ім было б прасцей
Камандаваць стралковай ротаю,
Чым тут выроўніваць праспект
Партрэтным строем пасмяротным.

Здаецца, здзіўленыя ўсім,
Стаяць між ліп, яшчэ не верачы,
Што гэта ім, нібы жывым,
І столькі музыкі і велічы.

А май выцягвае лісты,
На ліпу кожную навешвае.
Праспект маўчыць, праспект застыў,
Прыбраны чырванню навейшаю.

І Плошча — у жывым кальцы...
Я слухаю маўчанне грознае.
І каравульныя байцы
Застылі у паставах бронзавых.

Бягуць хвіліны у вякі
І недзе з вечнасцю зліваюцца,
І толькі чутна, як вянкі
Ля абеліска абвіваюцца.

●●

Дуб на ўзгорак адбегся ад кручы,
Прадчуваў, што шуміць да пары.
Ён маланкам галовы адкручваў
І каціў іх студзіць пад абрыў.

Але бачу — ляжыць ён падвалены.
Адзінокі асілак лясны.
І парэжуць яго на падваліны
Ці на клёпкі для бочак піўных.

І маўчыць ён, збавення не просячы:
Адшумела яго галава.
А карэнне ў глыбінях ад роспачы
Будзе доўга яшчэ бунтаваць...

Пацішэлі грымоты з маланкамі,
Але ж стануць яшчэ на дыбкі:
Не пусцее за кручай дзялянка,
Убіраюцца ў сілу дубкі.

●●●

Звыкся,
Што падаюць толькі ад выстралаў
І то не у нас,
А ў В'етнаме ці Лівіі...
Бягу з прыпынку выстылага —
Ляжаць нежывыя
На трамвайнай лініі.

Стаю каля гора.
Шкадую няшчасных,
Плачуць жанчыны,
Маўчаць вінавата вадзіцелі.
Здаецца,
Над імі схіляецца горад сучасны.
Толькі ніхто не праясніць ім вочы
Самай гаючай вадзіцаю.

Міліцыя, санітары ля іх,
Як самыя блізкія.
Снег засыпае сляды.
Жывыя дамоў разыходзяцца.
І доўга трамвай слязой электрычнаю бліскае,
Прыгорблены горам,
Па рэйках, стукочучы,
коціцца...

●●●●

О, божа мой,
Калі ты ёсць,
Скажы,
Адкуль такая!
О, божа мой,
Калі ты ёсць,
Па ёй і ты ўздыхаеш...

Скажы,
Якой яна парой
Лугамі пахадзіла?
Скажы,
Якой яна расой,
Так ножкі адбяліла?

Скажы,
З якіх яна палян
Суніцы смакавала,
Што вусны —
(Ты на вусны глянь)—
Навек падфарбавала?

Скажы,
Вадой якіх крыніц
Яна аблічча мыла,
Што, нібы сонейка, зіхціць
Даверліва і міла?

Скажы мне,
Ля якіх бяроз
Паставу вывярала,
Што, божа мой,
Калі ты ёсць,
То сэрца замірала б...

Скажы,
З якіх глыбіняў-дзіў
Блакіты сабірала,
Што вочы — толькі паглядзі —
Аслепнуць без забрала?

Калі б ты быў...
Хоць пекла мук —
Адрокся б ад нябёсаў.
За ёю бег бы, як хлапчук,
Расхрыстаны і босы...



## ПРОЗА



**Мікола ГРОДНЕЎ**

Мал. В. ШАРАНГОВІЧА

# СЫН

АПОВЕСЦЬ



Ростам Сяргей не пакрыўджаны. За васемнаццаць гадоў ледзьве не да столі вымахаў. Да таго яшчэ — шыракаплечы, дужы. А вось валасы... Ужо каторы раз, стаўшы перад люстэркам, думаў: «Ну, што гэта за валасы? Расчэсвай ці не — заўсёды ляжаць, нібы прылізаныя. Хоць бы ўскудлачыліся калі...» І як бы Сяргей ні наводзіў прычоску, ні чапурыў яе, а прычоска, калі сказаць па праўдзе, нікудышняя — валасы задужа мяккія.

О, як хацелася Сяргею быць прыгожым! Ды бог прыгажосці не даў. Тут ужо нічога не зробіш. Можа гэта і лепш. Менш блазнаваў. Стараўся трымацца па-даросламу. Калі ісці паўз людзей, дык цвёрдай, упэўненай паходкай. Калі ў кампанію трапіць, не балбатаць абы-што, каб упэўніліся ўсе, што ён і начытаны, і сур'ёзны, і таму-сяму навучаны жыццём. Праўда, калі-нікалі хацелася з хлапчукамі, як бывала, паганяць галубоў або схапіцца са сваімі аднагодкамі і падужацца ўволю.

Цяжка было Сяргею расставацца з маленствам. Дзіва што! Бегай сабе цэлы дзень, гарэзнічай да стомы. А ўвечары, абы толькі да падушкі, і ўжо спіш, як забіты, нават без ніякіх сноў.

От так жыць бы Сяргею без трывогі і клопатаў. Пакуль на армейскую службу, ведаць адно — заводскую прахадную, свой цэх, а пасля работы памыцца халоднай вадой да пояса, паабедаць, і — хоць спі, хоць скачы да вечара. А ўвечары пагаліцца, апрануць

новы касцюм, узяць гітару, і — да хлопцаў. Ён ужо дарослы. Прыносіць дадому палучку, нават раз ці два хадзіў з хлопцамі ў маладзёжнае кафэ, піў рыслінг. Запрашаў неяк і Валю на рыслінг. Не пайшла. Баялася, што яе, школьніцу, заўважаць у кафэ, ды яшчэ з хлопцам.

— А колькі табе засталося быць школьніцай? — угаворваў Сяргей.— Адны экзамены, і дзень добры, сталасць. Не хочаш рыслінгу, закажу эскімо, «мішак».

На вуліцы Валя не саромелася ўзяць ад яго порцыю марожанага, а ў кафэ не ішла.

— Ці табе мама забараняе? Ці ж кафэ не маладзёжнае? — не разумеў Сяргей.

— Не пайду, і ўсё,— адказвала яна.

А Сяргею было ўсюды хараша з Валяй: і ў клубе, і на танцавальнай пляцоўцы, і ў парку. От толькі маці, калі ён, па-святочнаму апрануты, выходзіў надвячоркам з кватэры, употай праводзіла яго сумнымі вачыма. Не інакш, думала: ці даўно вадзіла яго за руку, колькі ў яго яшчэ розуму, а ўжо закахаўся...

Аднаго разу Сяргей сустрэўся з Валяй у двары. Яна пахвалілася, што ўжо здала адзін экзамен. Сяргей падзяліўся сваёй радасцю: «Мінскае «Дынама» выйграла ў армейцаў два-ноль». Потым Валя стала войкаць, як здаць кантрольную па матэматыцы. Сяргей — сваё:

— Усе здадуць, і ты здасі. А вось як, па-твойму, хто сёлета ў зборную трапіць?

Валя паціскала плячыма — не ведала яна. Ды ёй усё роўна, хто трапіць у зборную.

Непрыкметна павярнулі за вугал дома. Слова за слова, і Валя не ўчулася, як яе рука апынулася ў Сяргеевай руцэ.

— Ці я дзіця? Пусці! — Валя пачала саромецца.

— Не пушчу.

Можа б і не пусціў, але заўважыў маці. Яна ішла з сумкай, відаць, у гастраном. Сяргей адразу сумеўся, пачырванеў і падаўся насустрач.

— Мама, давайце сумку паднясу.

Маці ўсміхнулася: сумку паднясе. Сумка ж пустая.



Праз колькі дзён заўважыла Раіса Андрэеўна, што Валя ўжо не вырывала ад Сяргея руку. Яны сустрэліся надвячоркам у двары пад грыбком (Валя жыла ў кватэры суседняга пад'езда). Яна была апранута ў белую, як воблачка, сукенку. Сяргей трымаў пышны букет кветак. Пастаялі хвіліну, аб нечым дамаўляючыся, і пайшлі. Валя панесла букет, Сяргей трымаў яе пад руку. «Відаць, на выпускны»,— падумала Раіса Андрэеўна.

Пайшлі, як блізкія. Сяргей нешта расказваў ёй. Валя звонка смяялася.

У той вечар Сяргей не прыйшоў дадому. Прыйшоў назаўтра, разам з сонцам. Раіса Андрэеўна наважылася была сказаць: «Калі зараз, сынок, пачынаеш раніцай прыходзіць, то што далей будзе?» Але змоўчала. Ён распрануўся ціхутка, лёг у пасцель і як бы замёр.

Промні сонца паволі спускаліся па сцяне і праз які час трапяткімі зайчыкамі гулялі ў Сярожы па шчацэ. Ад сонейка ці прыемнага, салодкага сну губы яго кранула ўсмешка.

Раіса Андрэеўна асцярожна папраўіла яго падушку, прыкрыла голае плячо коўдрай. «Хто ведае, каго ён прывядзе за руку і чыя дачка назаве мяне мамай...» — падумала яна. Потым, падышоўшы да акна, паліла пышную хрызантэму: «Ці даўно былі ўсяго два маленькія лісточкі. А цяпер, бач, якая вырасла! Скора ў Сярожы будзе свая сям'я».

Раіса Андрэеўна задумліва ўглядзелася ў блакітную далячынь — над горадам усё вышэй і вышэй паднімалася сонца. «У Сярожы нарodзіцца сын. Сярожа стане бацькам». Раіса Андрэеўна ўздыхнула, і вочы яе пачалі мружыцца. «Бацька... А ў самога бацькі няма. Толькі ж ён не ведае пра гэта». Ёй было нялёгка, што так доўга маніла сыну, расказвала розныя небыліцы. «Навошта маніла? Навошта?» Яна рада была б аблегчыць душу, расказаць усю праўду пра бацьку. Толькі як? Столькі год прайшло. Сама не ведае, чаму, а маніла.

Усё пачалося з дробязі. Купіла Сярожу канькі. О, як абрадаваўся хлапчук! Да самага вечара катаўся на вуліцы і, каго ні сустракаў, хваліўся:

— Мама такія купіла: во, бліскучыя, прыгожыя.

— А цябе дзе купілі? — пажартаваў сусед.

Прыйшоўшы дадому, Сярожа спытаў у маці:

— Мама, канькі ты ў магазіне купіла? А мяне дзе купіла?

— Там жа, сынок, дзе і канькі, у магазіне,— адказала Раіса Андрэеўна.

— А таткі не было ў магазіне?

— Не было.

Сярожа вырас, як і ўсе яго равеснікі, без трывог і нястач. Ведаў адно — вучыцца. Яму заўсёды ўпару стаялі на стале снеданне, абед і вячэра. Ён заўжды быў апрануты не горш за іншых. На што б ні спатрэбіліся Сярожу грошы,— у кіно, у цырк ці на кніжкі,— маці заўсёды знаходзіла. Сваіх не было, у суседзяў пазычала, але ні разу не казала, што грошы пазычаныя. І ніколі не папярэджвала, што ў яе не такая ўжо вялікая зарплата (яна працавала тэлефаністкай на пошце), а бацька ж нічога не прышле. Дарэчы, пры сыне яна ніколі не ўспамінала бацьку — не хацела кранаць былое, а тым больш не хацела ў Сяргея распальваць цікаўнасць. Ён ведаў, што бацька яго загінуў, і ўсё. А як загінуў?.. Шмат бацькоў загінула на вайне, і яго загінуў...

Колькі кніжак перачытаў Сярожа! І ўсё — пра герояў вайны, пра лётчыкаў. Хто самы адважны, той, здавалася Сярожу, быў, як яго бацька.

З кожным годам, ведала Раіса Андрэеўна, набліжаўся той дзень, калі Сярожа нарэшце скажа: «Даволі казак, мама, прызнайся: што з маім таткам, дзе ён?»

І той дзень настаў.

Сярожа не паспеў падняцца з пасцелі, як прыйшоў да яго аднакласнік Генка запрашаць на свае імяніны.

— А колькі табе год? — пацікавіўся Сярожа.

— Столькі, колькі і табе,— адказаў Генка,— З сорак дзевятага.

Сяргей задумаўся: яму ўжо трынаццаць год. Пасля вайны мінула шаснаццаць. То як жа так? Праз тры гады, як бацька загінуў на вайне, ён, Сяргей, нарадзіўся? Без бацькі?

Калі Раіса Андрэеўна падавала на стол абед, Сярожа сказаў:

— Мама, я ўжо не маленькі і нарэшце павінен ведаць, што з маім таткам.

Раіса Андрэеўна насцярожылася.

— Калі ён злачынец і сядзіць у турме, то навошта мяне пад-

манваць, што ён загінуў... на вайне? Я ж у сорак дзевятым, пасля вайны, нарадзіўся.

Раіса Андрэеўна як магла спакойна сказала:

— Твой бацька не дзяржаўны злачынец і не сядзіць у турме.

Потым Сярожа бачыў, як маці заплакала, і яму стала няёмка. Чаму маці сказала, што бацька яго не дзяржаўны злачынец і не сядзіць у турме? Дык хто ж ён?

Калі слёзы на вачах у маці, ведаў Сяргей, то яны ад нясцерпнага болю ці вялікага гора. Няўжо, распытваючы пра бацьку, ён зрабіў балюча? І Сяргей, каб больш не трывожыць маці, змоўчаў.

Раіса Андрэеўна таксама не стала расказваць, чаму пры жывым бацьку ён — сірата. А калі пачаць, разумела яна, то трэба прызнацца сыну, якія прычыны прымусілі яе столькі год маніць, што бацька загінуў, і не абы-як, а па-геройску і пад Берлінам.

Хацела яна, каб сыну было на каго раўняцца ў жыцці, каб сын ганарыўся сваім бацькам так, як і яна, маці, сваім.

Тая зіма была лютая. Ледзянела вада ў хаце, вымярзалі яблыні ў садах. Кіпела вайна з Фінляндыяй. З перадавой прыслаў ліст яе бацька, Андрэй Хлебнікаў. Ён не скардзіўся, што люты звер-мароз страшней за ворага. Напісаў, што жывы, здаровы. І, як бы між іншым, заўважыў: «Ваюем. Даём белафінам прыкурыць...» Раісе здавалася, што не такія і халодныя былі тыя дні. А праз колькі дзён пачула ўся Сяргееўка, як загаласіла Раісіна маці. Ёй прачыталі паперку, якую прынёс паштальён: «Хлебнікаў Андрэй пры выкананні баявога задання...»

Колькі выплакала слёз Раіса... Жалобе не было б канца, калі б у тыя дні не вярнуўся са шпіталю дзядзька Павел, бацькаў брат. (На фронце яму адарвала правую руку.) Дзядзька тады выступаў у школе, расказваў пра вайну. Раіса запомніла такую карціну: наўкола выбухі, дым, снег, на снезе людская кроў. Праціўнік моцна трымае абарону. З жалезнага мяшка, з крэпасці, бясконца страляе.

— От тады Андрэй, бацька Раісы,— працягваў расказваць дзядзька Павел,— кажа байцам: «Хто смелы, за мной, таварышы!» Дванаццаць чалавек апранулі белыя халаты, сталі на лыжы і ўначы — гайда за Андрэем, у абход. На досвітку з жалезнага мяшка ўжо ніхто не страляў, і на крэпасці лунаў наш, чырвоны сцяг. Дывізія прарвала абарону праціўніка і пайшла ў наступленне.

У школе загаманілі: «Во, які Раісін бацька!» (Раіса тады вучылася ў восьмым класе. І Раіса стала як бы менш смуткаваць і плакаць. Бацька яе загінуў героем! Можа праз яго і вайна хутчэй закончылася і людзей менш загінула.

Сярожа ведаў, што прадзед яго ваяваў у японскую, дзед Андрэй хадзіў на Урангеля і даў добра «прыкурыць» белафінам на лініі Манергейма, а бацька... Бацьку таксама лічыў храбрым, пакуль не сказалі пра тое іначай матчыны слёзы.

...Промні сонца трапяткімі зайчыкамі ўжо гулялі на падушцы. Сяргей спаў спакойна. А маці ўсё глядзела на яго і думала: «Ён ужо дарослы, і рукі ў яго дужыя, і плечы шырокія. Усё ў яго самавітае: душа і думкі. Харошы, справядлівы хлопец. А вось пра бацьку праўды не ведае...»

●

Дзяніс, бацька Сярожаў, нарадзіўся ў вёсцы. Потым, як і Сярожава маці, хадзіў у школу за чатыры вярсты. Праўда, вучыўся не так,



як усе. Па два гады сядзеў у трэцім і чацвёртым класе. У пятым жа класе яго дагнала Раіса. І яны вучыліся разам. Раіса намерылася канчаць дзесяцігодку, а потым паступаць у настаўніцкі інстытут. Дзянісу ўсё роўна было, кім быць: шаўцом, краўцом, конюхам у калгасе ці майстрам на заводзе — абы хлеб есці... Нават калі ў Сяргееўку прыйшлі фашысты, ён не спалохаўся і не здзівіўся — быццам так і трэба было. На параненым кульгавым салдацкім кані засяваў свае палоскі, звозіў снапы з поля, словам — як потым пісаў у аўтабіяграфіі — працаваў на сельскай гаспадарцы. Калі яго клікалі ў партызаны, адказваў: «Няўжо ў мяне сваёй хаты няма?» Фашысты ў Сяргееўцы ці яшчэ якая саранча — па Дзянісу абы хлеб не зводзіўся са стала. А калі стараста прызначыў яго ў Нямеччыну, Дзяніс не спалохаўся, а перш за ўсё спытаў: «А які там паёк будуць даваць?»

Пакуль Савецкая Армія не вызваліла Усходнюю Прусію, Дзяніс парабкаваў у нямецкага баўэра.

Вярнуўся ён у Сяргееўку вясной сорак восьмага года. Узмужнелы, стройны, па-салдацку падцягнуты. Як заўважылі дзяўчаты, нават прыгожы. Пасумаваў крыху па маці, якая загінула ў вайну, і пачаў абжывацца ў Сяргееўцы. Але што за жыццё аднаму, тым больш, пасля такой вайны, калі столькі нявест у Сяргееўцы?

Раіса была не з тых дзяўчат, пра якіх кажуць: «так сабе, падчапурыўшы, можна з рук збыць». Стане прасці, ткаць, карункі вязаць альбо дровы секчы, касіць, жаць ці малаціць,— паспрабуй управіцца за ёю! А зірнеш на яе, бы вады нап'ешся, прыгледзішся — вачэй не адвядзеш. Яна была першая прыгажуня ў Сяргееўцы.

Дзяніс доўга прыглядаўся да Раісы. Нарэшце адважыўся зайсці да яе ў хату.

— Адно з двух,— сказаў ён,— або ты будзеш мая, або кіну хату, завярбуюся і паеду ў горад. Што мне тут гібець адзінокаму...

Спачатку не ведала Раіса, што рабіць. Потым больш пільна прыглядзелася да Дзяніса. «А ўвогуле, хлопец ён нішто сабе: рослы і дужы, з твару прывабны. У касцюме, у белай сарочцы — першы кавалер у вёсцы!» Так, ён і сапраўды адзіны ў Сяргееўцы хлопец. Выбіраць няма каго. І вось гэты адзіны не да каго-небудзь, а да яе, Раісы, прыйшоў. Прыйшоў не насмяяцца, а прасіць яе рукі. Хай сабе ён не пацалаваў яе ніколі — век доўгі, справіцца абняць, прыгалубіць, пацалаваць.

У той вечар Дзяніс засватаў Раісу. Праз два тыдні згулялі вяселле.

Месяц жылі ў ласцы і згодзе. Раіса з маці хадзіла ў калгас на работу. Дзяніс таксама не сядзеў дома: то снапы вазіў з поля, то малаціў на таку, а калі-нікалі адлучаўся ў лес, каб на зіму накасіць каровe сена. Пакуль бульбу капаць, на агародзе стаяў стажок зялёнага і духмянага мурагу. Нарыхтаваў і дроў. Потым сказаў Раісе:

— Чаго я буду сядзець дома? Лепш на завод пайду. Ты з калгаса сёе-тое палучыш, з сотак бульбы накапаеш. Сваё сала, малако будзе. А я кожны месяц грошы буду прыносіць.

Раіса сэрцам чула бяду. Не хацела, каб Дзяніс адлучаўся з дому. Якога мужа, што ад'едзе ад жонкі, не пацягне да халасцяцкай вольніцы. Праўда, ён не едзе на край свету, а на завод, які ўсяго за пятнаццаць кіламетраў ад дому. Аўтамашыны адтуль ходзяць часта. Будзе працаваць на першай змене, пасля работы прыедзе дадому. А калі на другой, то не вялікі страх, калі пераначуе з хлопцамі ў рабочым інтэрнаце.

І ўсё ж сэрца ныла ад трывогі.

Дзяніс гнуў сваё:

— Завод будзе пашырацца, будуць і жылыя дамы будаваць. То каму ў першую чаргу кватэру дадуць? Вядома, таму, хто больш працаваў. Тады і цябе забяру.

Праз колькі месяцаў яна народзіць дзіцё. Клопатаў прыбавіцца ў сям'і. А тут маці занядужала. Добра, калі паздаравее. Як патрэбны памочнік дома... А тут чакай, кума, Пятра, сыру з'ясі — у горад забярэ... Быццам у Сяргееўцы сваёй хаты няма.

Той дзень быў ветраны і дажджлівы. З бяроз і клёнаў ляцелі жоўтыя лісты. Дзяніс не паглядзеў на непагадзь, ранец з харчамі на плечы і — гайда на шашу. Яго праводзіла Раіса. Спярша ішла моўчкі, бо цяжка было гаварыць. Не таму, што ліў дождж,— крыўда пякла нутро. Нарэшце, не стрымалася. Заплакала наўзрыд. Дзяніс засмяяўся і адразу загадаў, каб яна вярнулася, а сам прыбавіў кроку. Раіса не супакоілася. Яна галасіла, як некалі маці, праводзячы бацьку на вайну.

Толькі праз два месяцы Дзяніс наведаўся ў Сяргееўку. «Раней,— казаў,— часу не было. Работы зашмат на заводзе... Апрача таго, паступіў вучыцца ў вячэрнюю школу».

— Ты б у тэхнікум адразу,— параіла Раіса.

— Чаго мне ў тэхнікум, калі я пасля дзесяцігодкі ў інстытут.

Раіса была рада за Дзяніса. Бач, скора ён у людзі выб'ецца, паступіць у інстытут, а там не справішся агледзецца, як інжынерам стане. Дарэмна баялася адпускаць яго на завод. Да таго яшчэ, Дзяніс грошы дастаў і адлічыў сот восем.

— Можа купіш сабе што,— сказаў ён.

— Ты працуеш і вучышся, то хай табе,— не ўзяла Раіса.— У мяне ж хлеб і да хлеба ёсць. З мяне і даволі.

Дзяніс не настойваў: не трэба дык не трэба. Грошы — у кішэню, пераначаваў і паехаў. Наведацца памеўся не раней, як перад Новым годам.

Надыходзіў Новы год. Дзяніс даслаў ліст, што на свята прыедзе не адзін, а са сваім таварышам. Да сустрэчы Раіса рыхтавалася, як ніколі. Ёлку ўпрыгожыла, гарэлкі накупляла, добрай закускі прыстаралася.



Як толькі пачало змяркацца, стала глядзець у акно: вось ідуць. Чакала а восьмай, а дзесятай гадзіне вечара — няма. Стала хвалявацца і выходзіць на вуліцу, угледацца ў цемрадзь, ці не ідуць. Нарэшце не вытрымала, пайшла за вёску. Пастаяла, паглядзела ў цёмную, пустую далячынь. Была наважылася прайсці па шашы, але снег, бы шротам, сек у твар.

Вярнулася дадому позна. У хаце і ёлка, і багаты стол, а няма Дзяніса. Людзі гуляюць, весяляцца, а ёй — хоць галасі. Маці ад болю стогне на печы, і ў коміне скавыча вецер.

Яна лягла ў пасцель і ўпотай заплакала.

І назаўтра Дзяніс не прыехаў. Можа б ён так больш і не падаў пра сябе вестку, калі б у Раісы не здарылася няшчасце: памерла маці. Раіса наказала яму.

На пахаванне Дзяніс прыехаў. Чаму столькі часу вачэй не паказваў, не спытала. Ён жа не пераначаваў нават.

Засталася адна і не адна. Кожную хвіліну пад сэрцам чула дзіцё. Яна бясконца напамінала не толькі пра сябе, а і пра бацьку. А Дзяніс усё быў заняты. З-за вучобы не знаходзіў часу ці, можа, была яшчэ якая прычына.

Калі нарадзіўся сын, таксама прыехаў. Праўда, не адразу, а тыдні праз два, у выхадны. У новым бастонавым касцюме, у белай шаўковай сарочцы, у доўгім скураным паліто, з наручным гадзіннікам. Раіса здзівілася, што Дзяніс змог адзецца гэтак шыкоўна, а разам з тым падумала: можа ў каго ўзяў і паліто гэтае, і касцюм? Хацела спытаць — не спытала.

Быў на добрым падпітку. Аднак стараўся трымаць сябе прыстойна. Паглядзеў на сына. Малое спала. Каб хоць слова ласкавае жонцы сказаў, пацікавіўся гаспадаркай. За абедам выпіў бутэльку гарэлкі, якую прынёс, добра закусіў і, паглядзеўшы на гадзіннік, сказаў, што нанач трэба дабірацца ў горад, бо заўтра рана на работу, а пасля работы — у школу.

Што магла сказаць Раіса: папракнуць, што доўга не быў — былое не вернеш, затрымаць — дык яму ж рана на работу. А калі засталася з сынам, на душы, як ніколі, стала трывожна. Столькі не быў дома... Нарэшце завітаў, як чужы. Хоць бы парадаваўся сынам, параіўся, як назваць першынца. Заліў вочы гарэлкай і пайшоў. Не спытаў нават, ці ёсць за што купіць дзіцяці пялёнкі. Няўжо знайшоў якую ў горадзе, што гэтак прыгрэла да сябе?

Чаму цяпер стаў да яе такі халодны, не разумела. «Мабыць, ад мужа чакаць большага не варта. Што ж, сілай мілы не будзеш». Назаўтра Раіса пайшла ў сельсавет і дала імя сыну. Вёска Сяргееўка — і сына назвала Сяргеем.

●

Першыя два месяцы Дзяніс працаваў падсобным рабочым: памагаў упарадкоўваць тэрыторыю завода. Заробкі былі нікудышнія. Падвязуць матэрыялы — ёсць работа, а не падвязуць — ні работы, ні грошай.

Усё было дорага, а харчы — па картачках. Можна было б завесці хаўрус з буфетчыцай Кацярынай, але адвагі не меў. Маладзіца яна — нішто сабе. Дарма, што кажуць, нібыта за распусту муж кінуў. Затое паглядзець на яе — душу адвесці. Здаровая, гладкая. Праўда, вочы трохі касаватыя — так і страляюць па баках. Новага мужа шукае. Толькі абы-каго не хоча. У яе кватэра свая і, як ні кажы, не першы

год доіць буфет. Па ўсім відаць, што ўмее ад яйка адліць і паклясціся, што такое курыца знесла.

Не стаў Дзяніс галаву забіваць Кацярынай. Вып'е каля бочкі куфаль піва, заплаціць грошы і пойдзе.

Куды вяло жыццё Дзяніса, ён і сам не ведаў. Адкрыліся курсы шафёраў — паступіў вучыцца. Пасля курсаў пачаў працаваць на самазвале. Маршрут быў адзін. Нагрузяць яму поўны кузаў раствору. прывязе да будаўнічай пляцоўкі і зноў гайда па раствор. І так кожны дзень.

Аднаго разу — гэта было ў пачатку зімы — Дзяніс ехаў паражняком на абед. На дарозе жанчына падняла руку. Стаў. Да кабіны падышла буфетчыца Кацярына. Усміхнулася на ўсе зубы, сказала:

— Дроў трэба прывезці са склада.

— Доўга ўмеючы!..— з ахвотай пагадзіўся Дзяніс.

Праз якую гадзіну дровы былі згружаны каля Кацярынінага хлеўчука.

— То можа ўвечары паможаш парэзаць, пасекчы? — Кацярына падміргнула вокам.— Заплачу. Магарыч пастаўлю...

— Прыйду,— падумаўшы, паабяцаў Дзяніс.

І прыйшоў...

Назаўтра дамовіліся, што Дзяніс перабярэцца да яе на кватэру. Зойме асобны пакой і будзе жыць. Тым больш, што Кацярына з Новага года ідзе ў адпачынак і паедзе да сваіх бацькоў.

Праз некалькі дзён Кацярына са свае кватэры выпраўляла Дзяніса на работу. На парозе цалавала яго, казала, каб не забыўся на абед прыехаць.

Ні ад маці, ні ад жонкі Дзяніс не меў такое ласкі. Ён быў шчаслівы.

●

Суседзям Раіса казала: «Мой удзень на заводзе, а ўвечары бяжыць у школу. Інжынерам надумаўся стаць». Суседзі, людзі памяркоўныя, разважалі: «Інжынерам то інжынерам, а хоць бы калі заявіўся на выхадны дзіцё праведаць: тут жа яму да Сяргееўкі рукой падаць».

Не згаджалася Раіса. «Лёгка сказаць: на выхадны. У выхадны можа трэба да заняткаў рыхтавацца. А паспрабуй яму адвярніся — дома, апроч таго, што жонка ды дзіцё, яшчэ чарка. Затуманіць у галаве. Якая ж тады вучоба?» Аднак сэрца ўсё вастрэй прадчувала нешта нядобрае.

У той дзень якраз прыляцелі буслы з выраю. Пакружыўся адзін над шатамі старога ясеня і, шырока расставіўшы крылы, спакойна апусціўся на сваё леташняе гняздо. Раіса, наставіўшы казырком далонь, паглядзела на бусла, падумала: «Вось так і кожнага цягне свой родны кут...» і, падняўшы на каромысле бялізну, панесла паласкаць да ракі.

Дзень быў цёплы. На небе ні хмурынкі. У прырэччы цвіла лотаць, камары таўклі мак.

У той час па гразкай палявой дарозе ў Сяргееўку, буксуючы, прабіваўся самазвал. Калі ён супыніўся каля Раісінай хаты, пасігналіў, збегліся хлапчукі са свістам і крыкам: «Дзяніс прыехаў!» Ён яшчэ пасігналіў. Відаць, спадзяваўся, што Раіса выбежыць яму насустрач. Але на дзвярах убачыў замок.

Хлапчукі паказалі: «Вунь Рая — на падоле». Над рэчкай віднелася белая хустка. Дзяніс свіснуў у два пальцы: маўляў, бачыш, хто





прыехаў! А ёй што было рабіць? Не кідаць жа ля рэчкі недапаласканую бялізну. І дадому няма як несці брудную. Парашыла: прыехаў, то пачакае. Яна больш чакала яго. Дзяніс пакрыўдзіўся: прыехаў па такой дарозе, столькі прабуксаваў, а яна, бач, і не ўзрадавалася! Ці ж Кацярына так яго сустрэла б?

Ён напісаў запіску: «Я ўпэўніўся, як ты мяне чакаеш. Не патрэбны я табе...»

Павесіў запіску на замок, павярнуўся і паехаў.

Раіса не паверыла запісцы. Не інакш — пажартаваў. Як гэта не патрэбны бацька дзіцяці? Нават калі след убачыла, як заварочваўся ля варот грузавік, і то яшчэ веры не дала. Думала, можа ў краму адвярнуўся купіць чаго.

Неўзабаве прачнуўся Сярожа. Раіса зняла з дужкі шырму, і хлопчык усміхнуўся:

— Тата прыехаў, сынулька, твой тата,— замілавана сказала яму, але голас неяк абарваўся. Падумала: «А можа папраўдзе зазлаваўся?» Паглядзела ў акно — няма. Потым прайшла да крамы, спытала, ці спыняўся грузавік які? Стары Лаўрэн, прыплюснуўшы вока, сказаў:

— Забягаючы наперад, не набегаешся, маладзіца. Стаяў я тут, кіўнуў мне галавой твой Дзяніс і паехаў, акурат на гасцінец.

Ні ў што благое не хацела верыць Раіса: ні той запісцы, ні Лаўрэну. Што запіска? Яна мёртвая паперка. Словы Лаўрэнавы таксама не ад шчырае душы. Куды вецер, туды і словы. Недзе пачуў стары, нашто Дзяніса не было доўга, вось і змянташыў: маўляў, не бегай за ім. А за кім жа ёй бегаць?

Горка на душы. Засталася адзінокая з дзіцём на руках. Калі выйдзе з хаты, дык толькі да студні ці на падол. Вочы прагледзела ў акно, ці не едзе, ці не ідзе ён, Дзяніс. Ён і прыехаў. Не радасць прывёз, а гора, слёзы.

Раіса выцерла хусцінкай вочы, уздыхнула. «А можа хто напляузгаў абы-чаго,— ці ж мала злых языкоў,— дык ён, дзівак, не разабраўся і паехаў».

Тая ноч была доўгая, трывожная. Да самае раніцы вачэй не звяла. Успомніла, які быў рахманы і добры ён у маленстве. А як пасля вайны вярнуўся ў Сяргееўку, здавалася, хоць за пазуху было кладзі. І пражылі некалькі месяцаў разам — вады не замуцілі адно аднаму. А што цяпер здарылася, не разумела. Няўжо чалавек — такая таямніца, што самы блізкі і той не можа разгадаць яго да канца. А можа, у Дзяніса характар мяняецца і з цягам часу ён стане такі нелюдзімы і злы, як была яго маці?

Аб чым толькі не перадумала Раіса. Назаўтра быў выхадны. Паехала ў горад праведаць, што з ім такое.

У інтэрнаце не застала Дзяніса. Хлопцы сказалі, што ён даўно перабраўся на прыватную кватэру. Далі адрас.

Не разумела Раіса, чаму на прыватную. Выселілі з інтэрната ці ў яго знайшліся лішнія грошы плаціць гаспадыні? А можа, каб да заняткаў рыхтавацца было зручней?

Усё зразумела, калі знайшла дом, дзе жыў Дзяніс. На званок выйшла сярэдняга росту, гладкая маладзіца. Яна была ў чырвоным квяцістым халаце, губы падфарбаваныя.

— Даруйце, Дзяніс Кухта тут жыве?

— Тут,— нібы пахвалілася маладзіца. І раптам разгубілася.— Ён патрэбны вам? А што яму перадаць?

— Ён куды пайшоў? Ці дома?



— Дома... Пасля снедання адпачывае.

— А я да яго,— Раіса была памкнулася наперад.

— А вы хто будзеце?—маладзіца, як укапаная, стаяла ў дзвярах.

— Раіса Хлебнікава.

— Нешта я не ведаю.

— Яго жонка.

— Жонка? — маладзіца халоднымі вачыма агледзела Раісу.— Ну, тады праходзьце,— і яшчэ з парога гукнула Дзяніса.

— Што табе? — спытаў ён.

Раіса ўбачыла мужа. Падклаўшы рукі пад галаву, ён ляжаў на канапе. Каб хоць разгубіўся, глянуў на Раісу, а то і не варухнуўся. Праўда, спытаў:

— А ты чаго сюды?

Яна падумала, што Дзяніс, як заўсёды, пажартаваў. Пасля жаніцьбы нейкі час Раіса жыла ў яго хаце. Не адзін раз, калі прыходзіла, Дзяніс казаў: «Што, заблудзілася?» Можа ён і цяпер пажартаваў? Жартаўнік з яго няўдалы...

Нарэшце Дзяніс прыўзняўся з канапы.

— Ты даўно ўжо тут? — спытала Раіса.

— А яму тут няблага,— апярэдзіла Кацярына.— Во яго канапа, гардэроб, пісьмовы стол. Вы пытаецеся, ці даўно ён тут? Калі гэта, Дзяніс, дровы прывозілі?.. Яшчэ перад Новым годам. Неўзабаве пасля таго і перабраўся.

«Значыць, у кватэры два пакоі, і Кацярына тут гаспадыня,— насцярожылася Раіса.— Няўжо ён тут, як збродлівы кот?»

— Ты ў прымах тут ці на кватэры? — стрымана запытала яна.

Пакуль Дзяніс моршчыў лоб, думаючы, што сказаць жонцы, Кацярына выпаліла:

— Цяпер мужчына, што чырвонец. Сёння аднаму памагае жыць, заўтра — другому. Няма чаго раўнаваць. Пойдзе Дзяніс з вамі, плакаць не буду. Мой мне знойдзецца.

Дзяніс самаўлюбёна ўсміхнуўся: бач, за яго гатовы і за чубкі ўхапіцца...

— Я вас бачу ўпершыню,— Раіса падышла да Кацярыны.— Думаю, сварыцца нам няма чаго. Я прыехала да мужа, да бацькі свайго сына. Калі вы кажаце: учора мне памагаў жыць, а сёння вам,— то я вам чэсна скажу, ён мне не памагаў. Хутчэй за ўсё, я памагала яму... У людзі выправіла, спадзявалася, чалавекам стане, а ён во кім стаў, душой разменнай, ацэнены ўсяго на адзін чырвонец... Што ж, жыві сабе, Дзяніс. Папраўляйся на здароўе. Толькі не падумайце,— Раіса звярнулася да Кацярыны,— што я прыязджала да свайго мужа. Бывайце.

— А я дужа не забягала яму наперад.— Кацярына махнула ўслед рукой.— Хочаш, бяры яго назад.

Раіса не пачула апошнія словы. Яна выйшла з кватэры.

У той час жыццё яе было ўсё наперадзе. Набіваліся да яе многія. Кляліся, што будуць кахаць яе і любіць Сярожу, як роднага. Можа б і паверыла, аднак жа во апяклася на малацэ і халодную ваду гатова была студзіць. Тым больш, што ні аднаго пакахаць ужо не магла.

А гады ішлі. Горад разрастаўся. З цягам часу вакол Сяргееўкі падняўся новы мікрараён. У новым пяціпавярховым доме Раіса атрымала кватэру. Стала працаваць тэлефаністкай у аддзяленні сувязі. Пачала жыць у адным горадзе з Дзянісам. Аднак не шукала былога мужа, не старалася сустрэць ні на вуліцы, ні ў тралейбусе. А калі б

сустрэла, можа б дзеля чалавечай прыстойнасці і сказала: «Добры дзень». Раіса ведала, што вада хутчэй праб'е камень, чым Дзяніса крануць людскія словы. Ён нічыю радасць не раздзеліць, чужому гору не паспагадае. Ды што — чужому! Калі захварэў Сярожа на запаленне лёгкіх, а пасля хваробы да кволага хлапчука прыкінулася яшчэ і малакроўе, Раіса вымушана была знайсці Дзяніса, прызнацца, што сына трэба ратаваць. Першай яго думкай была думка пра грошы. Дастаў з кішэні трыста рублёў, за якія можна было купіць хіба толькі дзіцячы касцюм, і падаў Раісе. Яна не ўзяла. Не па грошы прыходзіла.

— Аліменты на сына не плаціш, хоць бы так чым памог,— пасарамаціла яго.

Дзяніс, не доўга думаючы, адказаў:

— Я ж табе замест аліментаў хату матчыну пакінуў.

Што праўда, то праўда: пакінуў... Старую, спарахнелую. Можа б тую хату ўзялі ў хлебапякарню на дровы, калі б Дзяніс надумаўся прадаваць. Але ён не прыязджаў у Сяргееўку,— сорамна было на вочы паказвацца людзям ці Кацярына не пускала ад сябе,— і хата пад замшэлай страхой, на якой парос быльнёг, стаяла да таго часу, пакуль не прыйшлі забудоўшчыкі мікрараёна. Падчапілі яе трактарам. Ох і пылу было з тае парахні...

Сына Раіса Андрэеўна выгадавала сама.

●

Раісу Андрэеўну з кожным днём усё больш і больш непакоілі думкі: «Можа Сяргей ведае ўсю праўду пра бацьку, а я дагэтуль нічога не сказала яму? Колькі разоў пытаўся, а я не сказала». Тады яна парашыла пагутарыць з Сяргеем шчыра. Хай ведае ўсё пра свайго бацьку. Можа тады больш сур'ёзна паставіцца да жыцця. Паклікала яго да стала.

— Ты ўжо дарослы,— пачала Раіса Андрэеўна.— Выбіраеш ці можа выбраў сяброўку, з кім пражывеш свой век...

«Быццам не відаць, што я дарослы,— усміхнуўся ён вачыма.—А з кім пражыць век, няўжо праблема вялікая?»

— Можа сёння-заўтра,— працягвала маці,— возьмеш пад руку Валю, прывядзеш дадому і скажаш: «Во, мама, любі і шануй яе. Гэта мая Валя».

«І вазьму, і прывяду»,— адказвала яго ўсмешка.

— А пражыць жыццё — не поле перайсці, сын.

«Каму гэта невядома...»

— Ты ажэнішся... Каб самастойна пайсці ў жыццё, табе трэба ведаць пра самога сябе ўсё. Хто ты? Ці зможаш быць сапраўдным, перш за ўсё, грамадзянінам? Даўшы сваім дзецям жыццё, ці зможаш іх, як трэба, выхаваць. Каб у цябе не паўтарылася тое, што здарылася ў твайго бацькі.

«Тое, што... у твайго бацькі...» Сяргею здалося, што маці пачала загаворвацца. Ён адвярнуўся.

— Я гавару табе, Сярожа, каб у цябе не здарылася таго, што ў твайго бацькі.

— Я не разумею, мама,— насцярожыўся Сяргей.— Што ў майго бацькі?

Раіса Андрэеўна цяжка ўздыхнула.

— Бацька ў цябе ёсць, сын...— прызналася яна.— Ён і цяпер





жыве. Я табе не прызнавалася, хто ён і дзе ён,— Раіса Андрэеўна гаварыла як бы не сваім голасам.— Маніла, што ён загінуў. Знарок маніла. Каб ты рос і не аглядаўся, які ў цябе бацька... Не, ён не дзяржаўны злачынец, не казнакрад. Такога закону не было, каб яго судзіць. Але...— голас у маці задрыжаў. Здавалася, вымавіць яшчэ адно слова і — зальецца слязьмі...

— Мама, хто ён? Дзе жыве? — падхапіўся Сяргей.

Раіса Андрэеўна прыкусіла засмяглыя губы, рукой сцерла слязу з адной, потым з другой шчакі. Падышла да акна.

— Мама, прашу цябе, скажы, хто ён?

Яна плакала, плечы сутаргава калаціліся. Праз нейкі момант супакоілася, сказала:

— Ён жыве на Пясочным завулку. А ў якім доме...

Яна закрыла далонямі твар, выйшла на кухню.

Сяргей сядзеў, як аглушаны. «Маці не прызнавалася. Каб я не ведаў яго. Ён яе зганьбіў».

Сяргей накінуў на плечы пінжак, узяў «Беламор».

— Сярожа, куды ты? — спалохалася маці.

— Мама,—Сяргей, не хаваючы хвалявання, прыпаліў папяросу.— Я пайду... пайду пазнаёмлюся з ім.

Раіса Андрэеўна прадчувала, што першая сустрэча з бацькам не прынясе радасці.

— Сынок! Родны!..—яна засланіла дзверы.—Не пушчу! Сама раскажу, нічога не ўтаю. Не пушчу, сынок! Жыву без мужа, а пойдзеш— без сына застануся...

— Але ж я павінен хоць зірнуць на яго.

— Толькі не чапай. Прашу цябе, сынок, не чапай... Лёс пакарае яго.

...Назаўтра Сяргей ішоў на Пясочны завулак. Як ніколі, хваляваўся: праз колькі часу ён будзе на парозе бацькавай кватэры... Якая выйдзе сустрэча, Сяргей уявіць не мог.

Бацька... Яго бацька жывы...

●

Кожны дзень сонца, скочваючыся за горад, свяціла ў Дзянісава акно. У пакоі ўздымаўся рой мух. Колькі разоў Дзяніс выганяў іх, ліпучкі вешаў пад столь, але ўсё роўна ратунку не было.

Хоць пакой у Дзяніса невялікі,— памяшчаўся драўляны ложак з мяккім матрацам, канапка, стол, тэлевізар,— але прастору для мух хапала. Яны віліся над сталом, дзе заўсёды стаяла патэльня, былі парассыпаны хлебныя крошкі, кісла ненакрытае малако.

Дзяніс мог бы прыбіраць са стала, аднак пасля яды звычайна яго хіліла на сон. Стомлены, распацелы за сталом, як толькі датыкаўся да падушкі, адразу драмаў. Калі прачынаўся, сонца якраз ужо свяціла ў акно, і ён, хмурачыся, зноў і зноў пачынаў думаць і разважаць пра адно і тое ж: «Свеціць сонца — жыве дзень, а закоціцца яно за лес і — няма дня... Так і ў чалавека. Тады свеціць яму сонца, калі здаровае ў яго сэрца...»

О, як бярог сябе Дзяніс: спаў — колькі хацеў, еў — колькі лезла, і — на табе — ні адтуль, ні адсюль, без ніякае прастуды, пачаў душыць кашаль. Мала таго, у руках і нагах ён адчуў прыкрую слабасць. Бывала, за дзесяць мінут зойдзе на завод. Сілы тае хапала горад перайсці без прыпынку. А здарылася такое, што стала боязна за



парог выходзіць. Нападала задышка, у вачах мутнела, а як павядзе ўбок — то і на нагах цяжка ўстаяць.

Дзяніс не разумеў, што з ім. Але нікому не скардзіўся, і сам не хныкаў. Думаў, што адлежыцца ў пасцелі, адаспіцца і — трохі ачуняе. Да ўрача не хацеў ісці. Тым больш, што амаль ніколі не хварэў, нават не ведаў, як трэба трымаць пад пахай тэрмометр. Праўда, у дзяцінстве кволіўся на ногі. Нібыта раматус быў. Аднак з тае пары мінуў доўгі час, а цяпер такая немач абрынулася на яго: слабасць ды яшчэ галавакружэнне.

Не пайшоў бы Дзяніс да ўрача, каб не кашаль ды на шчоках не з'явіўся падазроны румянец. Падумаў: ці не на сухоты захварэў? У яго пасінелі губы, пальцы рук і, што асабліва трывожыла, шчокі сталі нейкія чырвона-сінія. Абслухаўшы Дзяніса, доктар сказаў:

— Кацінае мурлыканне ў вас... Мітральны стэноз, таварыш.

Дзяніс лыпнуў вачыма. Хацеў спытаць, ці гэтае мурлыканне сур'ёзнае, ці, як пасля прастуды, само мінецца.

Доктар прапанаваў легчы ў бальніцу.

Лячылі Дзяніса некалькі тыдняў. Нарэшце яму стала крыху лягчэй. Пасля бальніцы параілі, каб ён і дома паляжаў. Што ж, Дзяніс ляжаў. Піў лякарствы, якія былі яму прапісаны. Настрой быў несамавіты. Балела сэрца. Горка было і на душы. Баяўся аднаго — аперацыі. Яму ўжо за сорак. У такім узросце, ведаў ён, рызыкоўна класціся пад нож.

Дзяніс, лежачы ў пасцелі, глядзеў у акно і думаў, што жыццё яго, як і сонца ў акне, з кожнай мінутай спадае ніжэй, не так ярка свеціць, паступова гасне і нарэшце... згасне. Няўжо на тым скончыцца і яго дзень? Толькі шкада, да болю крыўдна, што скончыцца заўчасна, без пары.

А сонца Дзянісу ўзыходзіла, як і кожнаму на зямлі. Раніца ў Дзяніса была сапраўды добрая. Колькі радасці было, колькі надзеі... Лепшая дзяўчына ў Сяргееўцы яго ашчаслівіла. Збіраліся жыць, дружыць, дзяцей расціць. А вось дзень... О, калі б не гасла заўчасна яго сонца, ён пастараўся б перайначыць свой дзень.

Думы, думы... Хоць бы што суцешнае прыйшло ў галаву. Вярнуліся б Дзянісу яго дваццаць пяць гадоў. Якая б ні была слаўная Кацярына, не прысеў бы ў яе за сталом, не прылёг бы на яе падушку. За сваім сталом свой кавалак хлеба не стаў бы папярок горла, свой бы ложак да веку не муліў бакі. Дык не, спакусіла Кацярына. Як злодзей, палез у чужую сям'ю. Не думаў, што будзе заўтра. Ведаў адно: адбыць на заводзе змену, смачна паабедаць, выспацца і — зноў на завод, каб прынесці Кацярыне зарплату, паказаць, што ён чэсны муж. Яна ўмела залезці ў душу яго. Пасля палучкі Дзяніса іншы раз на «вы» называла, сярод ночы, замест вады, піва падносіла ў пасцель. Аб Раісе ён і не ўспамінаў.

Дзяніс не хаваўся ад Раісы. Прыйшла б, папрасіла б грошай, калі ласка. Сваіх не было б, у Кацярыны ўзяў бы, а з пустымі рукамі не выпусціў бы яе за парог. Але раз прыйшла і не пакланілася. Сына сама гадавала.

Спакойнае жыццё падабалася Дзянісу. Сёння ціха, ён хацеў, каб было і заўтра так. Прывык да Кацярыны, як да роднай. Праўда, іншы раз яе сын, Жоржык, зласнавата глядзеў на яго. Жоржык не лічыў Дзяніса ні бацькам, ні кватарантам. Аднак на такія адносіны Дзяніс не зважаў. «Абы не кусаўся гэты шашок,— казаў ён.— А як хоча, так няхай і глядзіць».



Ішоў час. Дзяніс жыў з Кацярынай. Іншы раз на заводзе хваліўся, што ён толькі кватаруе ў Кацярыны, беражэ сваю вольніцу. Гэта значыць, у кожную хвіліну можа пайсці ад Кацярыны, знайсці сабе новую маладзіцу. Кацярына ўсё разумела і, каб трымаць ля сябе мужчыну, старалася як мага лепш дагадзіць яму. Старалася, каб Дзяніса нішто не цягнула з дому. Скажам, захацелася яму свежага піва, Дзяніс толькі падумае, як Кацярына пытае: «Ці не скокнуць з графінам у ларок?» Не хацела яна, каб пасля работы швэндаўся ён па вуліцы ці ў парку. Каб нават да сяброў не хадзіў. Кацярына купіла тэлевізар: маўляў, ляжы сабе на канапе, смакуй піва, глядзі дома кіно і футбольныя матчы.

Бесклапотнасць такая забрала некалькі год шчасця. І раптам...

Дзяніс адчуў незвычайную стомленасць. Больш таго, у сэрца нібы іголкі сталі калоць.

«Няўжо на сэрца захварэў» — занепакоіўся ён. Неўзабаве сказаў, каб Кацярына прыстаралася яму грошай на курорт.

Праз месяц Дзяніс вярнуўся з курорта і падкаціў на таксі да пад'езда. Разлічыўся апошнімі грашыма з таксістам, узяў чамадан і спаважнай, цвёрдай хадою падышоў да дзвярэй. Націснуў на кнопку. Спадзяваўся ў расчыненых дзвярах убачыць Кацярыну, пацешыцца, як яна ўзрадуецца —хай сабе трошкі прыкінецца, сфальшывіць, аднак усё роўна было прыемна пачуць яе ласкавыя словы.

Адчыніла дзверы не Кацярына, а ягоны пасынак Жоржык. Дзяніс кінуў яму скрозь зубы: «Салют!..» Памкнуўся быў наперад. А Жоржык — ні з месца...

— Гэта што, змова якая? — запытаў Дзяніс і на парозе паставіў чамадан.

— Вы надоўга сюды? — спытаў, як ударыў, Жоржык.

Чаго-чаго, а такога не чакаў Дзяніс: вярнуўся пасля заслужанага адпачынку дадому, здарожыўся, гэтак спяшаўся, каб асвяжыцца хутчэй, адаспацца ў мяккай пасцелі пасля мулкага вагона, а ён, бач яго, нахабнік, пытае, ці надоўга... Жоржык адступіўся.

Дзяніс не справіўся распрануцца, як з пакоя выйшаў Карней, Жоржыкаў бацька. Ён быў высокага росту, хударлявы, але, як здалося Дзянісу, жылісты і дужы на рукі. Яго пякучыя чорныя вочы як бы пранізалі Дзяніса навылёт.

Дзяніс моўчкі падаў Карнею руку. Карней жа спакойна павітаў Дзяніса «добрым днём» і прапанаваў распрануцца. «Што гэта такое? Быццам не я тут гаспадар, а ён? — падумаў Дзяніс.— Няўжо падхаміць сабраліся? То дзе ж Кацярына?»

І Кацярына якраз выйшла ў калідор. Адчужаная і баязлівая, быццам яе хто падмяніў.

— Распранайся, праходзь. Чаго стаіш тут? — ціхім і нейкім прастуджаным голасам запрасіла яна.

Калі зайшоў у пакой і прысеў у мяккае крэсла, у тое крэсла, якое сам купіў з авансу і прывалок сюды на спіне, раптам адчуў той рэзкі і зацяты боль у сэрцы. Адкінуў галаву на спінку, колькі разоў працяжна і глыбока ўздыхнуў, стараючыся пераадолець знямогу, каб не паказаць сябе нікчэмным, хворым.

Карней, відаць, таксама хваляваўся. Не дакурыўшы папяросы, адразу прыпаліў новую. Колькі разоў моўчкі прайшоў па пакоі, потым дастаў з кішэні некалькі рублёў, паклаў іх перад Дзянісам.

— Гэта табе на гасцініцу. Бяры...

Дзяніс заікнуўся запярэчыць: навошта яму гасцініца, ён прыйшоў на сваё старое месца, дзе пражыў з Кацярынай столькі год, і не абы-як — душа ў душу. Зірнуў на Кацярыну, спадзяваўся, што заступіцца за яго. А яна скрыжавала рукі на грудзях і апусціла вочы, як чужая. Скарылася Карнею, раскісла...

— Я не разумею! Я буду скардзіцца,— Дзяніс напружыўся прыўзняцца, але тут жа палахліва ўтуліў галаву ў плечы і развёў рукамі.

— Разважаць будзем потым,— ужо са злосцю сказаў Карней.— Што датычыцца трантаў тваіх, то забярэш, калі мяне дома не будзе. А пакуль па-добраму — вунь парог.

Ён не аспрэчваў, не агрызаўся. Ведаў, што з чужога воза і сярод броду злезеш. І злез. Цяжкай хадою накіраваўся да выхаду.

Наперад яму зайшла Кацярына. Не разнімаючы скрыжаваных на грудзях рук, паглядзела ў вочы, потым, адвёўшы позірк некуды ўбок, прызналася:

— Мне заставалася адно, Дзяніс: з табой ці з сям'ёй... Дык я з сынам і мужам. А ты не сярдуй. Такі ўжо наш лёс... Прыходзь калі ў госці...

«Было б ранейшае здароўе,— ідучы невядома куды, разважаў Дзяніс,— вярнуўся б да Раісы. Праслязіўся б, папрасіў... У бабы сэрца не камень... Можа б і даравала. Цяпер скажа: «Навошта ты мне, трухлявы пень». Вядома, не патрэбны... Столькі гадоў прайшло. Сын жа, мабыць, ужо вырас...»

Начаваць пайшоў у гасцініцу.

Назаўтра Дзяніс сядзеў у дырэктара завода, прасіў парады, як яму цяпер быць. Дырэктар паслухаў яго і, паспачуваўшы, уздыхнуў:

— Чым я магу вам дапамагчы...

— Сёння ў гасцініцу не прымуць. На вакзале трэба начаваць...

Столькі гадоў Дзяніс аддаў заводу. Каб лепш працаваць, кончыў вячэрні тэхнікум. Доўгі час быў майстрам кавальскага цэха. Цяпер сэрца не тое стала.

Дырэктар паспагадаў яму:

— Хіба толькі папрашу мясцком, каб для вас пакойчык які выдзелілі... А пакуль справа будзе вырашацца, пажывіце ў рабочым інтэрнаце.

Неўзабаве на Пясочным завулку ў старым цагляным доме на першым паверсе вызваліўся пакойчык. Хоць змрочны і няўтульны,—сонца заглядвала, калі заходзіла, і то ўлетку,— але і за яго Дзяніс быў удзячны дырэктару.

І вось ужо трэці год, як ён у гэтым пакойчыку. Тое-сёе набыў з мэблі. Апроч мяккага крэсла і тэлевізара, якія забраў ад Кацярыны, купіў у камісійным магазіне паўтараспальны драўляны ложак, шафу з люстэркам, а потым — новую канапу і дыван на сцяну. Паступова сабраў грошай на халадзільнік, але пакуль не ведаў, халадзільнік купляць ці зноў выбрацца на курорт і падлячыць сэрца. Бо з хворым сэрцам жыцця няма. Добра, што дворнік, стары і глухі Янук, у пакоі прыбярэ, лякарства прынясе з аптэкі, у магазін сходзіць.

Пайшоў бы Дзяніс на пенсію, па інваліднасці, вядома, ды толькі адзінокаму дужа самотна дома. Страшэнна доўгія ночы. Гэта ўлетку. А што будзе ўзімку? Узяў бы да сябе адзінокага суседа Янука. Але які толк з яго, глухога?



Да ўчарашняга Дзяніс Кухта ведаў свае звычайныя абавязкі — як мага больш ляжаць у пасцелі, рэгулярна піць мікстуру, глытаць пілюлі, карацей — мацаваць сэрца. Іншых клопатаў у яго не было. Хіба толькі сказаць Януку, каб той прынёс з магазіна які харч. А ўчора прыйшоў да яго ўрач і прапанаваў зноў легчы ў бальніцу, а там — на аперацыю. «О, гэта жудасна...— у Дзяніса па целе прабеглі мурашкі.— Аперацыя не дзе-небудзь на пальцы, а на сэрцы. А хто гарантуе, што пасля аперацыі я буду жывы і здаровы?»

Не так даўно,— колькі часу, Дзяніс не памятае, а было такое,— вечары былі для яго начамі, ночы — днямі. Яго трэсла бясконцая трасца, і, здавалася, што ён правальваўся некуды ў цёмныя і вузкія, як вушка іголкі, калідоры. То былі не калідоры, а пячоры з лёдавай вадой і лятучымі мышамі. Ён бегаў, кідаўся, крычаў і прачынаўся халодны і мокры, быццам уцёк з пекла. Цяпер жа, калі і трызніцца што, то раніцай. Нават успомніць не можа. А тут зноў валакуць у тое пекла, на аперацыю...

Мінулая ноч для Дзяніса прайшла ў тупой нудзе. Да самага досвітку і не заснуў. Было горача і душна: чаму такое насланнё на яго? Няўжо яму ўвесь час гэтак пакутаваць?

Дзянісу мулка было на мяккім ложку. Млелі бакі і ныла сэрца. Ён ладзіўся прылегчы ямчэй, варочаўся, мацаў пульс, і на які момант, здавалася, усё замірала ў яго: і пульс, і дыханне... Тады ён прыўзнімаўся з ложка, каб раптоўна не сканаць, і цяжкай хадою дабіраўся да адчыненага акна. Стараўся як мага больш дыхаць свежым паветрам, дыхаць роўна і спакойна, але горкі одум зноў і зноў вярэдзіў яго душу. Што далей будзе? Яму рабілася нядобра. Ён ішоў на ганак, спрабаваў праходжвацца каля дому і на кожным кроку не пераставаў прыслухоўвацца, што кажа сэрца. Аднак чым больш слухаў, тым больш не разумеў. Сэрца то нібы замірала на хвіліну, то, як шалёнае, пачынала тахкаць.

Досвіткам спадзяваўся задрамаць, аднак, хоць і дзень зірнуў у акно, сон не прыходзіў, сэрца не пераставала ныць. «Легчы на аперацыю,— Дзяніса ўсё больш ахопліваў жах,— гэта ўсё роўна, што нырнуць на той свет...»



Нарэшце калыхнуліся фіранкі ў акне, свежы ветрык дыхнуў прахаладай, і яму здалося, што ўсё жудаснае і прыкрае правалілася скрозь зямлю — стала свежа і лёгка. «А што, калі б і адважыцца?— Дзяніс набраў поўныя грудзі паветра.— Пашанцавала б — падлячыўся б. Вярнуўся б на завод. А там і маладзіцу якую нагледзеў бы...»

Не ведаў Дзяніс, з кім параіцца. Хіба толькі з Януком. Янук — чалавек бывалы, чаго толькі не перанёс: і кантузію, і аперацыі. Вайна адняла ў яго слых, здароўе, пазбавіла сям'і. Цяпер ён жыве адзінока ў суседнім пакоі. Няма чаго рабіць старому, прыходзіць адведаць Дзяніса. Тым часам з аптэкі лякарства прынясе ці з магазіна — харчы.

Дзяніс цяжка варухнуўся на ложку, уздыхнуў: «Што мне раўняцца з Януком...»

Сонца прыпякала. Дзяніс ляжаў пад адным прасцірадлам і рушніком выціраў з твару пот. Яму не хапала паветра. «Што значыць — нездаровае сэрца,— нудзіўся ён.— Прайдзі босым па двары, парні знянацку нагу, от сэрца і пакажа сябе... Гэта нагу... А ўкалі само сэрца! Гэта ўсё роўна, што хворага ляжачага ды яшчэ—абухам...»

Званок абарваў думкі. «Хто ж такі? — насцярожыўся Дзяніс.— Няўжо — Янук? Янук ніколі не звоніць: ён мае ключ...»

Крэкчучы, Дзяніс адкінуў прасцірадла, прыўзняўся. Памкнуўся быў без сарочкі да дзвярэй, але няўпэўнены быў, што за парогам Янук. Тады дастаў з-пад падушкі паласатую, заношаную піжаму, накінуў на сябе, намацаў нагой замшавыя тапкі і, не спяшаючыся, патупаў да дзвярэй.

Адчыніў.

У калідоры стаяў незнаёмы малады чалавек. Ён быў высокага росту, з белявымі, гладка прычэсанымі валасамі. «Хто ж ён? Чаго сюды?»

Хлопец, перш чым сказаць што, правёў пяцярнёй па валасах, кашлянуў у кулак,— ён прыкметна хваляваўся,— а потым спытаў:

— Ці можна бачыць Дзяніса Кухту?

— А ты хто? Адкуль?

— Я да вас,— Сяргей хацеў сказаць «з просьбай». Але якая просьба, калі чалавек сустрэў яго з такой непрыязнасцю? Наважыўся быў сказаць «у госці». Аднак — у госці запрашаюць... Гасцей не так і сустракаюць.

— Што ж,— Дзяніс яшчэ раз змераў хлопца халоднымі вачыма і, уздыхнуўшы,— маўляў, не хапала яшчэ дакукі,— хрыпла буркнуў: — Зайдзі...

Ламавата павярнуўся і, цяжка дыхаючы, пацюпаў да ложка. На ложак ён апусціўся спакойна і вяла. Адразу лёг і засоп шумна.

«Няўжо гэта мой бацька? — як бы анямеўшы, Сяргей стаяў пасярод пакоя.— Такі тоўсты, азызлы».

— Вы Дзяніс Нічыпаравіч Кухта? — запытаў Сяргей.

— Я Кухта,— адказаў Дзяніс.— А што такое? Што ты хацеў? Калі па справе, то прысядзь...

Гэта Дзяніс Кухта, бацька... Яго бацька.

— З крэсла пінжак здымі і прысядзь. А не, дык во — ля стала.

Ля стала стаяла табурэтка. На ёй — каструля, і вакол яе роем лёталі мухі.

— Дык гэта вы — Дзяніс Кухта?

— Табе што, дакументы паказаць? — голас у Дзяніса быў цвярозы, вочы сур'ёзныя.

Сяргею стала крыўдна, жахліва. Столькі гадоў маці хавала ад яго бацьку. Чаму?

— А ты хто? — запытаў Дзяніс.

Рэзка, з грукатам Сяргей падцягнуў да ложка крэсла. Хацеў адразу і адкрыта сказаць: «Ты пазнаеш сына? Свайго сына?», але толькі запытаўся:

— Вы што, адпачываеце?

— Сэрца, сэрца...— нямоглым голасам прастагнаў Дзяніс і, як бы ў доказ таму, што сапраўды няма жыцця праз гэтае сэрца, белую пульхную руку перанёс на свае валасатыя грудзі і пяцярнёй сціснуў левы бок, нібыта хацеў памагчы таму сэрцу. Праз які момант сказаў: — О, каб не гэта духата...

— Чаму вы не ў бальніцы?

— У бальніцы новае не ўставяць. А нажом пароць грудзі я не дазволю...

— А што будзе?

— Што будзе, то будзе. Адзін раз паміраць...

Здавалася, Дзяніс дажываў свае дні і яму было ўсё роўна, зараз развітацца з белым светам ці праз колькі год. Вочы яго былі выцвілыя і сумныя. Яны глядзелі на ўсё абыякава. Сяргей пацікавіўся:

— Вы, часам, мяне не пазнаеце?

Дзяніс ляніва перавёў позірк на Сяргея, прыглядзеўся, потым, як сам па сабе, прашаптаў:

— Вароны чуюць, дзе спажывай пахне.

Сяргею стала прыкра: сына прыняў за злодзея. Ён не стрымаўся:

— Мне нічога вашага не трэба. Я працую на заводзе, палучаю зарплату. У мяне ёсць усё сваё: спецыяльнасць, будучыня. У мяне ёсць сумленне. Я нікому не рабіў зла. Нават вам не збіраюся. Шкада толькі, што вы ў такім стане. Я хацеў бы з вамі па шчырасці... Але, відаць, не ў час прыйшоў. Позна.

Дзяніс глядзеў на Сяргея і не разумеў, хто ён, адкуль, чаго?

— Што ты ад мяне хочаш? — прастагнаў ён.

— Здаецца, я не такі, каб мяне баяцца,— далей гаварыў Сяргей.— Я не злодзей. Мяне самога абакралі. І не хто-небудзь, а вы!

Дзяніс лыпаў вачыма і нічога не разумеў: як гэта ён абакраў гэтага незнаёмага?

Якраз зашоргаў ключ у замочнай шчыліне, шчоўкнуў замок, і ў пакой зайшоў хударлявы, нямоглы дзядок з сівой бародкай. Гэта Янук. Ён падышоў да стала. На стале, звычайна, кожны дзень ляжалі грошы і лісток з блакнота. На ім загадзя было напісана, колькі купіць каўбасы, кефіру, хлеба, цукру. На гэты раз не было ні лістка, ні грошай.

— Кепска, значыць, калі сёння ні піць, ні есці,— сказаў Янук і прысеў на табурэтку.— Нічога і не патрэбна?

Дзяніс хітнуў галавой: нічога.

— То як жа будзе, што нічога? Я ў шпіталі, помню, ляжаў, то як кепска ні было, а патроху еў. Хацеў жыць і еў... Бачу, за шчаку трымаешся. Ці не зубы яшчэ ў цябе баляць? А ў мяне зубы, як часнок. Гэта на цыбулю трэба налягаць. У цыбулі мітаміны ўсе для зубоў. Бывала, з меншай сястрой залезем на печ і — давай аб заклад, хто больш цыбулі з'есць. Дык во ў мяне і зубы, як часнок.

— Ён часта мне так,— сказаў Дзяніс да Сяргея.— Я яму пра хлеб, а ён мне пра лазню. З вайны прыйшоў такі, кантужаны...

Пад акном зафыркала аўтамашына. Сяргей зірнуў — санітарная. З яе выйшаў у белым халаце, у акулярах мужчына.





— Доктар да вас,— сказаў Сяргей.

— Мне лепш смерці ў вочы глядзець, чым дактарам гэтым,— прастагнаў Дзяніс. І, паглядзеўшы панылым позіркам у глухую сцяну, дадаў: — Смерць — яна доўга не цешыцца. Надышоў час, і яна глызь цябе, і — ты спакойны... А дактары, пакуль тая смерць, дык напрактыкуюцца над табой. Рэбры пакрышаць. У вантробы твае залезуць. Гэта каб толькі не сядзець склаўшы рукі ды жалаванне палучаць.

Зайшоў доктар.

Адразу паставіў чамаданчык на крэсла і, перш чым спытаць пра Дзянісава здароўе, рупна працёр насоўкай акуляры. Затым прысеў да Дзяніса, узяў яго за руку, прыслухаўся.

— Нешта не падабаецца мне ваш пульс. А ўвогуле, як сябе адчуваеце сёння?

— Як бы ні адчуваў, а дзень пражыў — то і бліжэй да смерці,— гледзячы на глухую белую сцяну, стагнаў Дзяніс і, ведаючы, чаго прыйшоў доктар, папярэдзіў яго: — А пад нож класціся не буду. Аперацыю ўсё роўна не перанясу. То хоць паляжу яшчэ трохі ў сваёй пасцелі.

— Вы не справіцеся ў сне паглядзець цудоўную казку, як аперацыя скончыцца.

— Я не хлапчук, і суцяшаць мяне казкамі дарэмна. Бо на аперацыю...— Дзянісу нават жахліва было вымаўляць гэтае слова.

— Пасля аперацыі,— доктар не збаўляў аптымізму,— я вам даю чэснае доктарскае, вы будзеце ездзіць на рыбалку, зімой катацца на лыжах. У вас будзе здаровае сэрца. Магчыма, і пра сям'ю падумаеце: не быць жа вам давеку бабылём.

— А колькі вы зарэзалі людзей, доктар? — дапытваўся Дзяніс.

— Вы не з тым пытаннем да мяне. Вы лепш пацікаўцеся, колькі я паставіў на ногі людзей...

— У каго якая доля, а ў мяне...

— Доля ваша ад вас залежыць: пагодзіцеся на аперацыю ці не.— Доктар як бы па-сяброўску паклаў руку на Дзянісава плячо.—Я не ўгавару вас, родныя вашы ўгавораць.

— Няма ў мяне родных, доктар...— расчуліўшыся, Дзяніс, здавалася, гатовы быў заплакаць.

— Сям'і ў вас і не было?

— Не пытайце ў мяне пра гэта, доктар... Няма ў мяне ні сям'і, ні родных...

— Ёсць у яго родныя! — на ўвесь голас сказаў Сяргей.— Ёсць родныя! — І падышоў бліжэй да доктара: — Я сын яго! Родны сын!..

Абрынулася б столь, згасла б сонца, здавалася, Дзяніса нішто так не ўразіла б, як гэтае: «Я сын яго!» Столькі год ён нікому не казаў, нават самому сабе не прызнаваўся, што ў яго ёсць сын, а тут — на табе...

— Хэ! Што гэта, доктар, сон ці праўда?

Сын, яго родны сын прыйшоў. Дзяніс глядзеў на Сяргея і нешта ўспамінаў. Што ён мог успомніць?

— То гэта ты, Сярожа? — прыўзняўшыся на ўзлокатках, здавалася, больш насцярожыўся, чым абрадаваўся Дзяніс.— То хоць бы руку падаў...

— Здаецца, у жыцці вы павінны былі мне першаму руку падаць. Вы ніколі не хацелі бачыць мяне.

— Сярожа,— Дзяніс споўз з ложка,— ты зразумей мяне...

— Вы хочаце сказаць, што не зналі майго адрасу... Я большага не знаў. Не знаў да сённяшняга дня, што мой бацька жывы. Маці не прызнавалася. І вось я... Я ішоў не толькі зірнуць на вас... Аднак вы не дачакаліся кары ад сына. Вас жыццё пакарала. Ну, а паколькі вы ў такім стане, то я прашу доктара зрабіць усё магчымае.

Дзяніс хацеў застацца з Сяргеем адзін на адзін. Доктару сказаў:

— Заўтра вы мяне возьмеце. А сёння дазвольце пабыць з сынам. Мне палепшала трохі.

Калі доктар развітаўся да заўтра, Дзяніс прапанаваў Сяргею:

— Прысядзь ля мяне і давай, як бацька з сынам. А то я адзін, як пень...

Колькі разоў — не палічыў бы — сінім ранкам, белым днём Сярожа быў адзін. Маці на рабоце, а ён, абгароджаны падушкамі, адзін. А пазней і прывязаны матузом, каб не зваліўся з ложка, таксама адзін. Колькі, плачучы, клікаў блізкага яму чалавека. Маці прыходзіла да яго з работы і пасля работы. А татка не прыходзіў. Ён не чуў. Да сіраты, з жывым бацькам, заўсёды лашчыўся кот. Казытаў яго сваімі доўгімі вусамі, шкрабаў лапкай, фыркаў, і ў Сярожы на які момант прасыхалі слёзы. Кот хутка надакучаў, і Сярожа зноў клікаў і татку і мамку. Мамка прыходзіла. Татка зноў не чуў. Не пачуў татка, калі сын падрос. Забыўся на сына, калі ён і вырас. Відаць, і ніколі не ўспомніў бы. Затое сын нібы душою пачуў стогны бацькі.

Сяргей прысеў ля бацькі. Прысеў і... ні слова ні ён бацьку, ні бацька яму. Сяргей чакаў, каб бацька запытаўся пра што ці пахваліўся чым, альбо, урэшце, паскардзіўся на сваю долю. Абы не маўчаў, абы не соп, як кавальскі мех. Няўжо за столькі год і — няма чаго сказаць?..

Дзяніс маўчаў. Нарэшце няўмела паклаў сваю важкую руку на Сяргеева плячо, прашаптаў...

— Сынок...

У пакоі зноў запанавала напружаная цішыня. Януку здалося, што Дзянісу і маладому чалавеку няма аб чым гаварыць. Стары пачаў расказваць, як з ім у бальніцы ляжаў хлопец. На абед прынясуць, бывала, боршч, а ён просіць малочнага крупніку. Пададуць катлету, а ён кажа: «Дайце лепш маннай кашы». А калі няма і кашы, тады просіць: «Дайце адзін кампот...» Колькі дапытваліся ў яго, што з ім такое, не прызнаўся.

— А мне ўсё расказаў,— вёў сваё Янук.— Калі быў малы, палез у чужыя грады цыбулі нашчыпаць. Адкуль узяўся гаспадар — цап яго за каўнер. Прыгнуў у баразну і давай у рот пхаць яму тую цыбулю. На ўсё жыццё накарміў. З тае пары, калі ў страве ёсць які пах ад цыбулі, не паднось — есці не будзе... Што значыць чужое,— памаўчаўшы, заключыў Янук.— Як награшыў у маленстве, дык і цяпер бокам вылазіць чужое.

Дзяніс падумаў, што і Янук на яго нагаворвае. Гэта ён награшыў некалі, сям'ю пакінуў, дык от цяпер і хвароба спляжыла яго і сын не хоча ведаць бацьку. Дзяніс зірнуў з-пад ілба на старога: «Не хапала яшчэ, каб і гэты глухі тыцкаў пальцам у мяне...». І стрымана папрасіў Янука за дзверы.

— То можа сакрэты якія? Пайду...— пагадзіўся Янук.

Нейкі момант Дзяніс сядзеў моўчкі. Цяжка было зразумець, што ён таіў у сабе. Нарэшце падняў вочы і ўпершыню, здавалася, шчыра зірнуў на Сяргея, потым сказаў:

— То можа б і ты пайшоў.

Зірнуў шчыра, а сказаў — бы пад прынукай.

— Я прывык адзін, і пабуду адзін.— Дзяніс безнадзейна вёў

ваё.— Мне аднаму, калі давядзецца, то і паміраць лягчэй. Ад лёсу я больш нічога не чакаю: абы спакойна на сваім ложку...

Дзяніс як бы падагуліў сваё і пачаў прымошчвацца легчы. У апошнія дні ён не мог падоўгу ні хадзіць, ні сядзець.

— Памерці я не дазволю вам! — сказаў Сяргей і, зірнуўшы на наручны гадзіннік — стрэлкі стаялі на палове чацвёртай, занепакоіўся: — Шкада, што праз трыццаць хвілін мне на змену. Знайшоў бы доктара і сказаў, што вы згодны на аперацыю.

— На аперацыю? — здзівіўся Дзяніс. Вочы яго зрабіліся вялікія, поўныя жаху.— Рэзаць грудзі?.. Хіба толькі сілком! А сілком не маюць права...

Ён прылёг на ложак, шумна засоп.

— Што ж, тады падумайце да заўтра,— не адступаў Сяргей.— А заўтра я пастараюся быць.

Дыханне ў Дзяніса было няроўнае, і, як ад едкага дыму, ён заплюскаў вачыма. Нарэшце твар яго перасмыкнуўся балючай грымасай.

— Сярожа,— цяжка варухнуўшыся, прастагнаў ён.— Сярожа, я цябе прашу...

Сяргей насцярожыўся, падышоў да ложка.

— Кажыце,— чакаў Сяргей.— Што вам трэба...

У Дзяніса па шчацэ скацілася сляза. Відаць, яму цяжка было прасіць. Нарэшце ён сказаў, бы праплакаў:

— Я прашу, Сярожа, не хадзі да мяне... Я да цябе не хадзіў, і ты да мяне не прыходзь.

Гэтыя словы ніколькі не здзівілі Сяргея. Ён разумеў Дзяніса. Цяпер, калі ён нямоглы і адзінокі, калі няма каму прыгледзець за ім, ён не супраць быў займець сына. Ну, а калі гэта немагчыма, то, вядома, навошта, каб да яго хадзіў Сяргей ды яшчэ больш калоў і так балючае сэрца.

— А я буду да вас прыходзіць,— спакойна сказаў Сяргей.—Буду прыходзіць. Да пабачэння!

І пайшоў...







## ● Адкрытае мора
## ●●● Вясковыя танцы

Уладзімір ПАЎЛАЎ



●

Ад першае вясновае паводкі,
Ад самых першых памятлівых дзён
Свайго жыцця пахіслівую лодку
На плынь выводжу, быццам плытагон.

Бывае, вецер, бы ў свісцёлкі, свішча,
А не дагоніць аніяк мяне.
Часцей, аднак, прасмоленае днішча
Па водмелі іржава шкрабане.

Таварыш лоцман, аддавай швартовы —
Тваё жыццё вісіць на валаску!
Для іншага шчаслівыя падковы,
Засыпаныя, грэюцца ў пяску.

Няхай ляжаць. Хай вецер выдзімае
З пазоў іх тонкіх пыл раўнін і гор.
Мне б хваля зараз свежая, крутая
Ды з дзержаком учэпісты багор.

Ды абмінуць віры ўсе і заплывы,
Ля берага ўхапіцца за лазу.
А там,
А там я,— сам сабе на дзіва,—
Падкоў паўлодкі цэлай прывязу.

●●

Карабель наш сягоння —
Без вестак прапаўшы
Для насупленых скал
І маўклівых ракіт.
За кармою вада
Па фарватары нашым,—
Як Палярнага ззяння
Жывы малахіт.

Мора возьме сваё
Не адразу, дык зморам.
І замкі разаб'е,
Хто замкнуўся на сушы.
Мы ў сцюдзёнае йдзём
У адкрытае мора.
І жывы малахіт —
Як адкрытыя душы.

●●●

А ці бачылі вы пагулянку,
Пра такую ці радзілі раду,—
Усю ноч каб, да самага ранку
Танцавалі, як кажуць, да ўпаду.

Сербіянка,
Мая мамка,
Не хадзі на вуліцу...
Там за нашым частаколам
Дзеўка к хлопцу туліцца.

А ці бачылі вы пагулянку,
Каб напраўду, без фальшу-падлогу,
Пасля быстрай, як він, «Сербіянкі»
Прабівалі у польцы падлогу.

Э-эх!
Дайце круг,
Дайце круг —
Захапіла ў польцы дух!
Калі хто шкадуе ног,
Я станцую вам за двух!

А ці бачылі вы пагулянку
Без чубатага хлопца-назолы,
Дзе б на барыню ўжо на світанку
Ён не браў ў гаспадыні дазволу:

— Вы дазвольце станцаваць!
Вы дазвольце топнуць!
Ды няўжо ж у вашай хаце
Падваліны лопнуць?!

Пасвятлее ад хустачак белых —
Нібы з ціхага плёсу лябёдкі,
Сарамяжліва ў круг апусцелы
Выплываюць у вальсе малодкі.

На другіх не глядзі,
Развядзі маю жальбу-нуду.
Падыдзі — павядзі,
За табой на край свету пайду.

А ці бачылі вы...
Эх, ды што там!
Я ад танцаў вясковых нямею.
Сыпануў бы во барыню шротам,
Ды шкада аднаго — не ўмею.

●●●●

Дзяцел лечыць сасну —
Рэха стукат разносіць.
Ад вясны да вясны
Дзяцел дзюбай малоціць.

У зялёны свой дом
Ён здароўе вяртае.
Ды ўсё ж дрэва з дуплом
Дзяцел нанач шукае.



ПРОЗА



Іван НАВУМЕНКА

Мал. К. ЦІХАНОВІЧА

# СІНІ СНЕГ

АПАВЯДАННЕ

Быў надвячорак, церусіў снег. На цэнтральнай плошчы Віктар Пасашка злез з аўтобуса, якім прыехаў са станцыі. Дзіўнае пачуццё валодала ім. Ён не хваляваўся, не чакаў ад падарожжа свайго нічога незвычайнага, нават не надта спадзяваўся пабачыць знаёмых. Замнога вады сплыло за дваццаць гадоў.

Цэнтральная плошча, як і вуліца, па якой ехаў Пасашка, была незнаёмай. Замест прызямістых абшарпаных дамкоў з драўлянымі надворнымі лесвічкамі на другія паверхі сталі новыя сучасныя муры, вуліца зрабілася прамой і шырокай. Толькі з процілеглага боку плошчы як бы праглядваліся ранейшыя крамы-камянічкі з навіслымі над дзвярамі шыльдамі.

Узбоч набярэжнай стаялі падстрыжаныя нізкія дрэвы, за імі новая чарада будынкаў, якія зусім засланілі раку. Церусіў снег, але бралася на прымаразак.

Трохпавярховая гасцініца размяшчалася на месцы былога рынку. Тут таксама была суцэльная новая забудова. Горад запаліў агні і здаўся Пасашку чужым і халодным.

Вольнага месца ў гасцініцы не было. Пасашка вярнуўся на цэнтральную плошчу, перасек яе і зайшоў у рэстаран. Тут было цемнавата, бруднавата, дзве тоўстыя афіцыянткі разносілі па сталах кухлі піва.

Ён знайшоў незаняты столік і адразу адчуў сябе вольным падарожнікам, якому зусім не страшна ад таго, што няма дзе нача-

ваць і што гадзін у адзінаццаць рэстаран закрыецца. Выпадак мусіў выручыць. Пасашка любіў вось такія хвіліны поўнай бесклапотнасці, калі не трэба нічога рабіць, прадпрымаць, цалкам пакладаючыся на волю выпадку.

Афіцыянтка прынесла заказаныя сто грамаў гарэлкі, кухаль піва, і там, ля буфета, адразу зайграў акардэон. Музыкант сядзеў на невысокім памосце, быў немалады, апрануты ў паношаны шэры пінжак. Яго вочы закрывалі вялікія цёмныя акуляры, і Пасашка падумаў, што музыкант сляпы.

За трыма суседнімі столікамі сядзелі мужчыны і хлопцы, вопратка якіх сведчыла, што яны з раёна, з вёскі. Вясковых людзей з першага погляду вылучала вопратка — купленыя ў крамах пінжакі, цесныя або залішне вялікія, з адтапыранымі штрыфелямі, штаны, запраўленыя ў боты або ў пацягнутыя скурай валёнкі. Дваццаць гадоў назад, калі Пасашка яшчэ тут жыў, мода была іншая: хто насіў пацёртую гімнасцёрку, кіцель, а хто і новае шыў на вайсковы манер. Тады і гараджане любілі фарсіць у кіцелях і галіфэ.

Настрой, які валодаў Пасашкавымі суседзямі, быў падобен на яго ўласны настрой, хоць выказваўся не маўчаннем, а гучнымі размовамі і смехам. Гэта, без усякага сумнення, былі завочнікі, хутчэй за ўсё, настаўнікі, якія скончылі сесію ў педагагічным інстытуце, здалі экзамены і залікі. Вечар быў вольны ад абавязкаў і належаў ім адным. Нават кніжкі, падручнікі ляжалі на сталах побач з кухлямі піва.

Музыкант пачаў мелодыю пра незнаёмы пасёлак, безымянную вышыню, і Пасашка здрыгануўся. Ён уявіў чалавека ў цёмных акулярах пехацінцам, камандзірам узвода, які падаў на пачарнелы снег за некалькі крокаў ад асляпляльна сіняга выбуху. Гэта магло быць надвячоркам. На снежнай раўніне, наперадзе, на ўзгорку чарнела вёсачка, тры крайнія хаты асветлены водбліскам пажару, і вакол сіні з цёмным адлівам снег, чорнае неба...

Божа мой, ён жа дзеля гэтага прыехаў... Прадчуваў, што толькі тут, у горадзе, такім блізкім і такім нямілым, знойдзе тое, пра што думае даўно, усе апошнія гады...

Пасашка падняўся, паклікаў афіцыянтку і, разлічыўшыся, выбраўся на вуліцу. Па плошчы, парыпваючы снегам, ішлі парачкі. Ён рушыў да набярэжнай, знайшоў лесвіцу і па абледзянелых прыступках спусціўся ўніз, да ракі. Адсюль горад здаваўся шматпавярховым. На пясчаных пагорках па-ранейшаму стаялі прыземістыя дамкі, яны караскаліся ад падножжа да самай седлавіны, ствараючы ілюзію, што горад застаўлен небаскробамі.

Рака ляжала маўклівая, пакрытая ільдом і зацярушаная снегам, з левага боку навісалі над ёю цёмнай аркай фермы новага чыгуначнага моста, справа, за сіняватым прасцягам сенажацяў, чарнелі сасоннікі. Горад быў той самы, знаёмы.

Выпадак вывозіў — Пасашка ішоў якраз туды, куды трэба было ісці. Ён хутка ўбачыў скаваны ільдом, зношаны параходзік. Вокны каютак свяціліся, і Пасашка здагадаўся, што параходзік пристасаваны пад жыллё. Па дашчаным насціле ён падняўся на палубу, знайшоў дзверы і пастукаўся. Ніхто не адказаў, ён хацеў было рушыць прэч, але пачуў за спіной асцярожныя крокі.

— Зачынена? — спытаў жаночы голас.

— Не ведаю. А што такое тут?

— Ноеў каўчэг для беспрытульных.

Жанчына без стуку адчыніла дзверы, услед за ёй Пасашка падняўся па слаба асветленай лесвіцы ў доўгі калідорчык. Па абодва бакі яго размяшчаліся каюткі. З першай, тручы сонныя вочы, выйшла чарнявая дзяўчына-вахцёрша.

— Месц няма,— сказала яна, як бы просячы прабачэння.— У агульным пакоі паставілі дзесяць раскладушак. Каб хоць на гадзіну раней...

Тая, што прывяла Пасашку, стаяла і глядзела на яго. Ён зноў, як там, у рэстаране, унутрана здрыгануўся. Яму здалося, што перад ім Валя, далёкая і забытая, з якой тут, у гэтым нямілым горадзе, у яго было столькі шчаслівых і горкіх хвілін. Але гэта была не яна, нават не падобная на яе. Ён проста ўзрушыўся, і — усё ад гэтага... Развітаўшыся, Пасашка стаў спускацца па лесвічцы. Ён быў ужо ля дзвярэй, калі яго пазвалі наверх.

— Вы прыезджы? — спытала жанчына.— Калі няма дзе начаваць, то вольны ложак ёсць. У маім пакоі. Я геолаг, мужчын не баюся. Толькі дайце мне распрануцца.

Дзяўчына-вахцёрша, узяўшы ў Пасашкі пашпарт і рубель, зачыніла за сабой дзверы. Ён хвілін дзесяць праходжваўся па калідорчыку, стараючыся не рыпець масніцамі, потым спыніўся перад каютай і пастукаў.

Каюта была маленькая, цёплая, у ёй ледзь не ўпрытык стаялі два вузкія жалезныя ложкі. Пасашка зняў паліто, пінжак і лёг. Суседка павярнулася да яго тварам.

— Я, праўда, геолаг. Вы нічога не думайце. І я бачыла, як вы ішлі ля ракі. Мне здалося, што вы тут першы раз...

— Я тут жыў і працаваў,— сказаў Пасашка.— Тры гады. Адразу пасля партызан. Быў тады маладым хлопцам.

— І нікога знаёмых не засталося?

— Мабыць, ёсць. Не хацелася шукаць...



Ён прыўзняўся на руках, зірнуў у акно. Яно выходзіла на зарэчныя лугі. Пад зорным небам ляжала аснежаная сіняватая раўніна, чарнеў лес. Некалі з таго лесу па такім самым снезе ён прабіраўся ў горад на сувязь.

— Чаго вы прыехалі?

— Не ведаю. Хачу злавіць за хвост жар-птушку.

— Дабранач,— сказала яна і павярнулася тварам да сценкі.

Пасашка маўчаў. Яму стала непрыемна. Крыўдзіць суседку ён не хацеў.

— Я працаваў у газеце,— ціха сказаў ён.— Мастаком-рэтушорам. Ёсць і газетныя мастакі. Дзяўчына была... Наша сувязная. Яе арыштавалі, далі восем гадоў. Я паехаў адсюль. Вось і ўсё...

Ён не заўважыў, калі яна зноў павярнулася да яго тварам.

— Чаму вы так позна прыехалі?

— Я не да яе прыехаў.

— Да каго?

— У горад. Было не толькі благое. Пачынаю старэць і разумею, што лепшага часу, чым тады, у партызанах, у мяне не было.

— А з ёй што?

— Рэабілітавалі. Выйшла замуж. Жыве не тут.

Пасашка разумеў, што не засне. Зрэшты ён мог і не заходзіць на параходзік, які адслужыў свой век і ператварыўся ў гасцініцу. Тое, што хацеў адчуць, адчуў, і можна было дачакацца на плошчы аўтобуса, сесці і паехаць на станцыю.

— Вы не толькі ў горад прыехалі,— ціха сказала суседка.—У вас штосьці не ладзіцца... Можа ў сям'і, можа на душы. Я па сабе ведаю. Находзіць такое, і хочацца вырвацца з прывычнага, абрыдлага...

Ён устаў, прысеў на ўскраек яе ложка. За вакном у месячным святле сінела аснежаная раўніна, на дзіва падобная на тую, даўнейшую, па якой ён хадзіў на сувязь у горад.

## У НАСТУПНЫМ НУМАРЫ ЧЫТАЙЦЕ:

**аповесць Уладзіміра НАВУМОВІЧА «УЗАРАНАЕ ПОЛЕ»;
апавяданні Уладзіміра АЛЯХНОВІЧА, Леаніда КАЛОДЗЕЖНАГА
і
Раісы ШОЛАХАВАЙ.**

# ПАЭЗІЯ

• *Дарога*

•• *Воўчанка*

••• *Першы капеж*



**Хведар АЛЕСЬ**



•

Зноўку, як калісь, заве дарога.
Як рысак, састаў бярэ разгон.
Цішыню бацькоўскага парога
Рве знаёмы рэйкаў переразвон.

Як у казку еду.
Не спыніцца,
Ад вакна ніяк не адысці...
Вось Аленчын брацік ля вадзіцы
І яе сцяжынка у трысці...

Вось жар-птушка ззяе.
Сад гасцінны,
Яблыкі гайдаюцца ў цішы...
Трактарыст, як Мурамец былінны,
Конь яго сталёвы ля шашы.

Гарады гудуць, як цыклатроны.
У сёлах — марсіянскія слупы,
Жыватворных рэк, каналаў
звоны,
Белых хмар рухавыя клубы...

Ява гэта?..
Не, то казка, пэўна!
Усё дзівосна. Ні пагроз, ні зла.
Ледзь шавеліць спячая царэўна
Вейкамі-радарамі — зямля.

••

Меленькая рэчка ў хмызняках,
Дзе вадзіцы— буслу да крыла,
Усё цячэ кудысьці па лугах,
Як спрадвеку некалі цякла.

І глядзіць не наглядзіцца ў шыр
Акіяна-неба над сабой
І Мядзведзіц па начах каўшы
Напаўняе чыстаю вадой...

Добрая рачулка, дзе, за што
Ахрысцілі так цябе дзяды?
Воўчы нораў мог убачыць хто
У цурчанні ласкавай вады?

Бачыў Волгу я, Дняпро і Сож,
Даставаў у Енісеі дна,
Захапляўся Іртышом...
А ўсё ж
Ў маім сэрцы — Воўчанка адна...

●●●

Вугалі залацістыя
Падарункам вясне
Зверху сонца агністае
Сыпанула на снег.

Аж успыхнулі полымем
Лес і поле без меж.
І званкамі вясёлымі
Грае першы капеж.

Не закрыць аканіцамі
Шыбам радасных слёз.
Ў скоках па-над крыніцамі
Змоклі спіны бяроз.

Лемяхамі іскрыстымі
Сонца поле арэ.
Далі сталі празрыстымі:
Крок вясны на двары.

**У кастрычніцкім нумары**

**мы пазнаёмім вас**

**З МАЛАДОЙ БАЛГАРСКАЙ ЛІТАРАТУРАЙ.**



# ПРОЗА



**Міхась ВЫШЫНСКІ**

Мал. Ю. ПУЧЫНСКАГА

# ВОКНЫ ЎНАЧЫ

АПАВЯДАННЕ



Адам не спяшаўся. Ён развучыўся спяшацца. Паціху плыў паўз бераг Шчары, часам нырнаў, пасля зноў плыў — ужо на спіне. Быў ён спакойны, свежы і лёгкі. Мо ад вады, мо ад цішыні і сонца.

Мякка ішла вада. Адам, падграбаючы яе пад спіну, часта і міжволі як губляў сябе. Адчуваў адно, нібы жывую калыску, Шчарураку, адно неба над ёй і лес паўз яе. А сябе як бы не чуў. Гэта раптоўна палохала яго. Тады ён, каб збыцца намарачы, рэзка ўзмахваў рукамі — імкліва сігаў да берагавой кручы. Ля кручы Адам заціхаў. У плыткай вадзе жаўцела, пераліўвалася, адсвечвала сонцам пясчаная палоска. Такая ціхая і счараваная, як душа ракі. Гэтая палоска пяску кожны раз уражвала яго, і заўсёды нязвыкла. Адам не аглядваўся. Ведаў, што і лес, і рака, калі зірнуць цяпер, зноў здадуцца, бы незнаёмыя.

Зыбаўся ў вадзе яго цень-адбітак. Недарэчна кароткі, таўсматы. Поўдзень пякельнага жніўня. Час, калі толькі і можна жыць ля вады.

— Аднак пакурым, мілы мой,— сказаў ён сабе. І падаўся да затравелай спадзінкі ў беразе, дзе льга было выбрацца на кручу— высокі і танклявы, як сасна ў лясной няволі. Яго не дзівіла, што ён гаворыць з самім сабой. Ён ужо прывык. Як і да свайго загару — роўнага, цёмна-карычневага, пад колер старой, закаржэлай сасновай кары. Дзіва што: за такі час — ці не больш за месяц, як

ён жыве ў вёсцы? — можна загарэць. Каб якому гарадскому хлюсту такі загар, сшалеў бы ад радасці. У адных трусіках хадзіў бы па вуліцы. А яму неяк усё роўна: загарэў ці не загарэў.

Цьмяна зелянела і вяла на кручы трава. Адам кінуў мімалётны зірк на дзяружку, на папяросы... Затрымаўся на кнізе ў зялёнай, як трава, супервокладцы. «С. Фицджеральд. Великий Гэтсби». Дачытаем пасля? Лады. І лёг на схіле пад сасновым кустом — галавою ў цень. У прахалоду.

Зноў яго, як калі глядзеў на пясчаную палоску ў вадзе, свежа, нібы ўпершыню, уразіла вясёлае зяленіва скошанага лугу, статкі парыжэлых коп, цёмная стоенасць лесу — таго, што ўперадзе, па другі бок Шчары; лес той неяк цяжка ідзе, не ідзе, а цягнецца паўз сенажаць, захінуўшы гарызонт, і невядома, дзе ён пачынаецца і дзе канчаецца. Гурмавічы — далёкая ад вёскі зацішная мясціна. Як прываражыла яго за лета.

Уразіў Адама і паўдзённы спакой ракі, такі па-летняму роўны, нібы рака спынілася, заснула... Толькі ў лукавінах ніяк не ўгамоніцца. Вось як тут ля кручы: зіхціць на сонцы, абзываецца ўсплёскамі. І Адам у каторы ўжо раз падумаў, што апошнім годам яго чамусьці асабліва радуе ўсё такое простае, як бы звычайнае: дрэвы, вада, трава... Да ўсяго іншага,— горада, інстытута, у якім хутка пачнуцца заняткі, нават да вёскі, у якой жыве,— душой зусім глухі.

Як і ў той дзень, калі ён, здаўшы за чацвёрты курс залікі і экзамены, прыехаў да сваёй цёткі. У Хвалевічы.

Пыльны, здарожаны, ён стаяў сярод хаты—азіраўся. Цётка Алімпа як адхінулася ад балеі, у якой мыла бялізну, так і стаяла: задыханая, ссутуленая... У адной руцэ мокры ручнік, у другой — мыла.

Ён усміхнуўся, зразумеўшы яе позірк — радасна здзіўлены позірк паблеклых вачэй. Няўжо гэта Адам? Яе пляменнік? Той, які — дай божа памяць, ці не дзесяць гадоў таму? — пасля смерці маці з'ехаў у горад і болей не паяўляўся. Ні ў Хвалевічах, ні ў сваіх Борках. Як і дзе жыў — пра тое пісалася рады ў гады. І во прыехаў... А куды ж яму ехаць? Ні бацькі, ні маці — адна цётка. Як ён вырас! Мужчына, адным словам, рослы, сталы. Зграбны ў паставе, у адзенні — касцюм далікатны і, мусіць, дарагі. Ведама, гарадскі чалавек. Як незнаёмы ўсё роўна. Але ж нешта з твару благі. Худы.

— Адам?

— Ён самы,— і абняў яе.

Цётка скоранька прыбрала сваю работу. А ён тым часам пакорпаўся ў чамадане, выцягнуў белую зімовую хустку, адрэз на сукенку. Падаў жанчыне. Пасля выставіў на стол бутэльку з віном. І ўсё ўсміхаўся—ціха і скупа. Але як ні сіліўся ён, усмешка, мусіць, не магла схаваць таго, чым жыла душа яшчэ ў горадзе. Цётка Алімпа часамі непаразуменна, з прыкметнай трывогай углядалася ў яго.

— А ты нібы ўсё той, ціхманы ды задуманы... Той і не той... Мо часам табе нездаровіцца?

— Ды не,—хітнуў Адам рукой і сеў за стол.—Стаміўся проста.

— Ах, што ж я: словамі цябе кармлю... Трэба сабраць што...

Сваё віно ён сам і выпіў. Кабета колькі кропель узяла, а болей — не. Няможна. І неяк незаўважна з душы Адама сышла стомленасць, нават абыякавасць. Ласкавая цеп-





лыня абняла яго. Закружылася галава. І ў радасным узрушанні, як у хвіліны шчасця, яму падумалася, што вось ён, нарэшце, у Хвалевічах. Як жа добра, што ён не паехаў на Каўказ, куды клікалі і куды аж ірваліся аднакурснікі. Вандроўнікі-дзікуны — ах, якая мілая рамантыка!

Але гаварыў Адам мала: бачыў на свае вочы ўсё сам—і цяпер, і калі ішоў вуліцай. Як заняпаў двор цёткі Алімпы... І як састарэла хата, а таксама—яе гаспадыня: яшчэ больш—як помніў—падрабнела, паменшала ў невялікім сваім росце. Шчокі на твары, вострым і такім цьмяным, у маршчынах, як мёртвы ліст позняй восені, запалі яшчэ глыбей. Але вочы, хаця і паблеклыя, праяснялі аблічча нейкай сцішанай, як бы затоенай дабратой, ласкай.

— А мой жа чалавек памёр, яшчэ мінулым летам,— зláжыўшы на стол рукі, нечакана паведаміла цётка.

Яго здзівіў яе голас, якім яна гэта сказала: роўны, спакойны, нават будні. Відаць, яна даўно звыклася са сваім горам.

— Змеркавалі мы было з Макарам памяняць у хаце падваліны. Прывезлі былі на два вянкі дзерава. Абчасаў яго Макар з мужчынамі. І во чаго-та ўвайшло яму ў галаву змазаць тое дзерава мазутай ці якой немаччу...— каб не гніло на вяку. Ну, узяў вядро ён, адшкадаваў у мяне тым часам рубель,— сказаў — Хведзьку-трактарысту на самагонку,— і недзе абедам пайшоў, мілы божа. Сам-то Макар мой не піў: сэрцам быў нездароўчы. Дзень чалавека няма, вечар няма. Я ўжо ўсе грады папалола... Дзе чалавек дзеўся? І тут мне цюкнула — аж сэрца зайшлося. Я да Хведзькі, дзе Макар мой? Мо, прыстаўшы да чалавека, як смала, напаіў яго і той дзе валяецца, розум страціўшы? «Што вы, цётка Алімпа,— кажа,— я не браў у старога нават капейкі. Даў яму,— кажа,— мазуты і паскробся ён сабе здароў». А бо-ожа мілы! Абабегла я па дарозе хмызы, нат жыты, а пасля як не праз голаў да суседзяў. Тыя: не, не бачылі Макара. У мяне ўжэ ўваччу цямнее ад той сумятні. Тады я ў Селец да Кульчанкі — сельсавецкага сакратара — чуў мо яго? Так і гэтак, кажу яму, у хаце... «Счас, Алімпо, познавато ўжэ,— бае,— цямно. А вот утрам сарганізуем вашых хвалевіцкіх... Будзем іскаць». Сарганізаваў, здароўя яму, людзей на раніцу. А я-то ўсю ноч вачэй не самгнула. Што-то не перабрала, не перадумала... Дак вот — нагадзілася чалавек з дзесяць. Пачалі шукаць. Абышлі дачыста ўсю ваколіцу. Нат блізкія вёскі. І ні почуту. Няма Макара. Нарэшце кажа Кульчанка мне: «Надзейся, Алімпо, на міліцыю, я званіў туды...» І ўсе пачалі разыходзіцца. Аж тут бяжыць Алесікаў хлопчык і крычыць — аж душа заходзіцца, так крычыць: «Ваш дзядзька ў Бібалатах, у альшэўніку ляжыць. Я там каровы гнаў, чую — сабака якоча. Я туды...» І болей нічога не можа сказаць ад пералёку. А Бібалаты пры саменькай дарозе. Ёсць у нас такое месца: хмызы там, мох, балотцы... Мы ж, здаецца, яго абшнырылі... Але во... Прыспяшыла я, і са мной хто туды, гляджу: Макар мой ужэ ўвесь пасінеў. Збоку каля яго вядро ляжыць — мазута тая расплылася, нат пад плечы яму. Ах, што тут казаць,— даўно ўжэ выказала ўсё ўсім. Нядобрая смерць напаткала майго чалавека. Ішоў, валок спякотай у вядры сваё няшчасце, і тут сардэчны прыпад. А наўгрунь — нікагусенькі... Ні-кагу-усенькі. Адно сонца, хмыз, чад...

«Нікагусенькі» — вось яно што... Штосьці імгненна сцепанулася ў Адамавых грудзях ад холаду і страху... Ён, то апускаючы вочы, то падымаючы іх на цётку, знерухомеў, быццам замёр. Нагадалася яму дзяцінства, маці, яе смерць...



Як маці падобна на цётку Алімпу... Нават цяпер, калі гэтулькі часу сплыло з дня яе смерці. Быццам блізняты. Хоць маці была маладзей за цётку, і жыццё яе ці ж можна было зраўняць з жыццём сястры. Цётка Алімпа мела мужа, двух хлапцоў (і кожны з іх быў старэйшы за яго, Адама). Яна не хварэла — напару са сваім чалавекам, з падмогай дзяцей рабіла ў калгасе, а болей пры двары, на гаспадарцы. Сям'я яе не галадала. А як жылося ім? Як помніць, вечны халодны змрок у хаце, а на стале штодня адно і тое: бульба, бульба... Часам зацірка-калатуха. Нудная і нішчымная. Горкае жыццё маці-ўдавы. Ён звыкся з ім і інакшым не ўяўляў: такім яно было наканавана вайной, той страхалюднай зверынай, якая праглынула бацьку. Мо яшчэ ім было б нічога, каб не хварэла маці. Хварэла ж яна, як ён помніў сябе. Нібы заўсёды. Але па дактарах яна нешта не любіла хадзіць. Правілася сваімі, вядомымі адной ёй і суседкам лекамі. Варыла і піла нейкае смуроднае зелле. І ў пасцелі ляжаць ёй не вельмі каб выпадала. Штодзённыя клопаты, як нуда, мучылі, падымалі хворую на нogі.

Часам з Хвалевіч, з-за далёкай, як здавалася тады, Шчары да іх прыязджала ў адведкі цётка Алімпа. Засмучаная, сядзела пры маленькім ваконцы за голым сталом — уздыхала, божкала, бедавала з іх жыцця. Гэтыя яе ўздыханні і божканні былі для яго горш за голад і тугу.

«Памру я, мусі быць, Алімпа»,— ціха, каб не пачуў ён, казала іншым разам маці. А цётка і слухаць не хацела, мітусілася, махала рукамі. Гневалася, хаваючы за гневам чорную трывогу. А пасля ўжо, клапатлівая і лагодная, доўга і заўсёды чамусьці шэптам, як адкрываючы тайну, расказвала пра нейкае асаблівае зелле. Дзе расце яно і як гатаваць з яго лякобу. «І не думай, Гэлё — палягчэе: вельмі ж спрыяе яно на хворае нутро».

І пасля гэтых слоў цётка раптам нібы знікала—на месцы яе, звычайнай, знаёмай цёткі Алімпы, паўставала добрая, як з казкі, чараўніца. Ціха, з таемнай усмешкай яна брала з лавы дарожны клунак і выкладала на стол...— ён, не верачы, аж вочы зажмурваў — масла, хлеб, сала, булкі... Прападаў у хаце нудны сум, сыры змрок, знікалі цёмныя сцены... Сонца, як песня, узыходзіла ў акне, залівала да столі хату. Ад гэтай сонечнай песні аж заходзілася душа. Усё ў хаце тады свяцілася і нібы грала: стол, цётчыны рукі ў промнях, павуціннe над люстэркам і само люстэрка, лязо сточанага нажа... І хацелася закрычаць ад радасці або... заплакаць.

А маці быццам не радавалася, нават дакарала сястру: «І нашто ты, Алімпа... Такая дарога, а ты... ты ж плечы паабрывала, несучы». А цётка, ужо звычайная, простая цётка Алімпа, адмахвалася: «Ат, сціхні тым часам... Лепш паеш. Чаму не ясі? Табе правіцца трэба: глядзі, схуднела, як склют. І паслухай: на тым месяцы Макар да цябе пад'едзе. Мукі трохі прывязе. А хлапца забяру я на які час».

Як чакаў ён ад цёткі гэтых апошніх слоў! Як ірваўся ў дарогу! Бо зведаў няпростую радасць такіх гасцяванняў у далёкіх Хвалевічах: цётка часцяком брала яго з сабой. Усё там заўсёды было так, як марылася яму ў дарозе: хата, прасторная і гулкая пасля іх хаціны, багаты стол і вясёлыя — да самазабыцця — гульні з братамі.

Дні там адразу ляцелі — не заўважыць — усе кароценькія, як адзін дзень, а пасля ішлі, цягнуліся, нарэшце заміралі... Ён неўзаметку страчваў да ўсяго цікавасць. І як спачатку рваўся ён да цёткі Алімпы, так потым з горкім смуткам па маці прасіўся ў дарогу.

У такія дні ён нічога не бачыў (не хацеў бачыць) і ні пра што не думаў, апрача родных, дарагіх і недасяжных Борак.

І ўсё ж вяртаўся ён да маці, як з іншага свету: дзіўнага, светлага, як рэдкі сон. Маці тады забывалася на немач: увіхалася ля печы, цешылася з сустрэчы і заўжды казала, што калі-небудзь яны разам паедуць у Хвалевічы. Гэта ўжо напэўна...

Паехаць ім туды так і не прыйшлося. Ён не здагадваўся, а каб здагадаўся, не даў бы веры, што смяротная цень ужо ажыла і хаця была яшчэ далёка-далёка, а ўсё ж плыла, насоўвалася марудна і няўхільна на іх хату.

Памерла маці на пачатку лета — акурат тады ён здаў апошнія экзамены. Рак! — слова гэта ўдарыла, як камень. Ён нібы аглух і цьмяна помніў ужо іншую, нежывую маці, яе ціхае пахаванне. Запомнілася адно, як у хвіліны яснасці штосьці халоднае, цяжкое і маруднае пачынала душыць грудзі... і нечалавечы крык, у якім нібы сабралася чорная туга ўсяго свету, іраўся з душы. Ён крывіўся, сціскаў— пакуль мог — зубы, а слёзы ліліся — залівалі твар.

Пасля пахавання свет як спусцеў. Як вымер. Ведаючы, адчуваючы гэта, цётка забрала яго да сябе. Дзядзька Макар не доўга меркаваў — радзіўся з ім, з цёткай, як распарадзіцца з яго нікчэмнай гаспадаркай: хаціну прадаць, а свінчо — не-е... Якія там грошы! Хай гадуецца — дароствае ў нас да вепрука тым часам. Грошы і сала — усё будзе тваё, будзь пэвен.

Толькі грошы і сала не вельмі каб турбавалі яго. Ён думаў пра горад. У Борках нічога ўжо не трымала яго. Нямілымі былі цяпер і Хвалевічы. А дзядзька і цётка, як маглі, адгаворвалі: жыві, даходжвай школу тут... Навошта горад? Паспееш пабачыць свету, усё ў цябе наперадзе. Ён не паслухаў. Палучыўшы школьнае пасведчанне, а потым грошы за хату, ён назаўсёды пакінуў вёску.

Уперадзе яго чакаў невядомы горад, рамеснае вучылішча, прахадная завода, служба ў арміі, а потым зноў клопаты на заводзе.

Ён спазнаў усё.

Кожная з тых палос жыцця змяшчала ў сабе гэтульки падзей, пачуццяў і думак, што часамі здавалася, быццам пражыў на свеце ён не якую чвэрць веку, а ўвесь век.

А дні не спыняліся, і ўсё, чым жыў учора і пазаўчора — падзеі, думкі і пачуцці — размываліся ў часе, сплывалі ў мінулае і станавіліся мінулым. У памяці заставаўся зыбкі туман, з якога востра і чамусьці заўсёды сумна і балюча выступалі вяршыні-ўспаміны самага значнага ў былым жыцці: горад, які ўбачыў упершыню, дзень залічэння ў вучылішча, першыя дні службы ў арміі...

Ва ўсёй паўнаце — да дробязей — помнілася толькі тое, чым жыў у блізкія гады.

А цяпер ён — студэнт інстытута, старшакурснік.

Віно, размовы і ўспаміны ажывілі Адама. Але і стамілі і без таго ўжо знябытага дарогай. «Трэба будзе ў Боркі пад'ехаць... Як там магілы? — падумаў ён.— А матчына магілка?.. Цётка даўно там не была... Відаць, дзірваном узялася. І агарожка, як цётчын плот, развальваецца... Сустрэнуся з маці... Праз дзесяць год...»

Адам пазмрачнеў. Сёе-тое яшчэ пераказаўшы са свайго жыцця, ён нецярпліва дакурыў цыгарэту, і як прылёг, не распранаючыся, на ложак, так і заснуў. І спаў да позняй нядзельнай раніцы.

Пад поўдзень Адам, як гаспадар, абышоў сад, гарод і ўзяўся быў, каб наладзіць, за плот, але цётка не дала. Прыспяшыла з хлява, запратэставала: «Трэба ж даўмецца! На што ён табе? Сёння ж свята. Пачакай. Апослячы... Не гарыць жа. Ты ж госць. Прыедуць на восень з Баранавіч мае бэйбусы — Колька з Толікам — мае токары-слесары і ўсё да ладу давядуць». І Адам адступіўся. Адно павёў плячыма, падумаў: «Мусіць, не вельмі пячэ ім дамоў, калі такі двор». І пажартаваў:

— Каб хаця, як прыедуць, агарожка саўсім не павалілася пад іх вясёлымі рукамі. Вунь як гарладзёраць ля гумна... Што? Клуба? Ну, не думаў...

Адам радаваўся, што вёска яму цяпер была як чужая. Тыя з аднагодкаў, з кім некалі звязвала знаёмства — а іх было нягуста — у Хвалевічах не жылі. Недзе далёка вучыліся, як ён, ці рабілі.

Ён ні з кім не знаёміўся і не хацеў знаёмства. Адзінота і спакой,— тое, што шукаў у горадзе, але амаль не знаходзіў,— нарэшце прыйшлі, і — гэта ж адно падумаць! — на ўсё вясковае лета.

Прыхапіўшы кнігу, вуду ці кошык, у які клаў, загарнуўшы газетай, хлеб і што да хлеба, Адам як не на дзень сыходзіў у поле, а часцей — на рэчку, у лес.

Ён ішоў ціхай жытнёвай мяжой, думаў: «Я прыехаў сюды, каб адпачыць. Забыць горад — самае першае, што мне трэба... Мне памогуць поле, трава, лес і рака. Вось глядзі, як заглухла мяжа: скрозь трава, трава, трава. Пільна глядзі... Якая яна рослая, густая і ціхая... Жыве сабе ў добрай згодзе з зямлёй, сонцам і дажджамі. З пагодай і непагаддзю. Так бы і мне... Але падзівіся ты і падумай: чаму гэта яе не зааралі? Жоўты жытнёвы абсяг — як кінуць вокам: і праваруч, і леваруч. А яна — цалюткая. А, каменне... Вунь якія цёмныя, імшаныя крушні з іх. Відаць, з усяго поля пазносілі... Каменне ратуе мяжу... Пачакай: тут жа да ліха ягад, паземак, як заве цётка. Ну вось, і ўсе, як адна ў адну, буйныя, зацукраваныя сонцам... мм... смакоцце адно,— душа тае. Каб прайшоў гэтую мяжу з канца ў канец, кошыкі са тры-чатыры набраў бы... Але, мілы мой, мы не будзем... Потым, потым... Мы пойдзем мяжой, мяжой — аж да пагорка з бярэзнікам. Будзе грыбны рай: там адскочылі такія цупкія, па дзіцячаму кулачку, абабкі. Тыя самыя цёмна-рудыя жытнікі, з парэпанымі на сонцы капялюшыкамі. Нарэжам кошык, пасядзім, падумаем, пачытаем...»

Адам загаворваў сябе, сваю душу, як шаптуха — хворыя зубы. Ён ішоў, падбіраў часам ягады, а над ім была жытнёвая цішыня раніцы, сінява неба, стогны шэпт ветру ў калоссях, але ўсё гэта было яшчэ не ягоным...

...Адам зразаў у бярэзніку абабкі і цяжка, упарта з асаблівай для сябе бязлітаснасцю пытаў: «Калі ж усё пачалося? Ці не тым часам, калі памерла маці? А мо тады, калі яна, прадчуваючы ноч свайго жыцця, сказала: «Зімна будзе табе, сынок, без мяне... Алімпа, то Алімпа, але ўсё ж яна — не родная маці...» І сілілася вачыма, галасам выказаць штосьці яшчэ большае, але не магла... Відаць, берагла яго.

Але тое, што ў смутку і болі ўсё ж вырвалася ў маці, спраўдзілася. Холад сіроцтва нарастаў непрыкметна. Яго пранізлівае дыханне схаладзіла душу, калі ўжо рабіў на заводзе.

Тады ён, падлетак, жыў у заводскім інтэрнаце. У яго па цэху было шмат знаёмых, як бы нават прыяцеляў,— амаль усе аднагодкі. Ён, не вельмі хочучы таго, вечарамі, калі не было школы, шпацыраваў з імі па парку, спяшыў на танцы або ў кіно. А калі, здаралася, выпіваў (часцей няўмела, праз меру), нават біўся... Ён стараўся не цурацца сваіх прыяцеляў. Але заўсёды адчуваў сябе не роўняю ім. У прыя-

целяў быў дзесьці цёплы ласкавы кут,— там жылі іх бацькі,— а яму сэрца студзіў холад сіроцтва. Ён быў адзінокі сярод іх.

Холад мякчэў, на час забываўся, калі Адам палучаў ад цёткі пісьмо або пасылку. Але такое здаралася не вельмі часта: сам ён не любіў пісаць пісьмы, а цётцы і дзядзьку не было калі апамятацца, раздыхнуцца ад клапот.

З часам — асабліва ў арміі — ён прывык да сваёй адзіноты. І ўжо не мог адчуваць сябе без яе. Адзінота стала для яго такой звыклай, як думаць, як спаць. Апраўдваўся: такі ён ужо ўрадзіўся. Замкнуты, нелюдзімы. І тут нічога не парадзіш. Яму б геолагам быць. Жыў бы заўсёды ў дарогах, у якой таежнай глухамані, далёка ад шумных гарадоў.

Пасля арміі гэтая думка стала жыццёвай мэтай.

Тры гады запар ён паступаў у геалагічны, і ўсё дарэмна. То па конкурсу не праходзіў, то завальваў які экзамен. У нейкім адчаі, нават злосці, падаў дакументы ў інстытут механізацыі. І... паступіў. Лёгка і проста. Ён не радаваўся і не маркоціўся. Бадзёрыўся перад сабой. Бывай, геолаг — вітанне, інжынер! Смешна. Расчараванні ў надзеях абвастрылі пачуццё адзіноты, спарадзілі незадаволенасць і тугу.

Такі душэўны цяжар аднаму ўжо нялёгка было пераносіць. Яму патрэбен быў друг. Адзіны, чулы сэрцам і розумам. У першыя гады студэнцтва ён шукаў яго. І быццам знаходзіў. Але ненадоўга.

Ён лічыў, і лічыў правільна, што ў дружбе людзі павінны быць роўнымі перад сабой. А выходзіла, што адзін, уявіўшы сябе разумнейшым, чым быў у сапраўднасці, нібы прарок, навучаў яго жыццю, таму, чаго не ведаў і баяўся сам; другі, здзіўлены яго памяркоўнасцю і стоенай добрасцю да свету, грубіў яму ў спрэчках-размовах. І, не хочучы таго, зневажаў, адкрываў тым самым сваю душэўную глухасць. А ён, уражлівы, горды і крыўдлівы, не мог гэтага — нават у дробязях — даравáць. Часам ён, як бы спалохаўшыся, дзівіўся: ці яны не разумеюць яго ці ён іх? Вінаваціў сябе.

Ён прыглядаўся да дзяўчат-студэнтак: няўжо і тут не знойдзе, каго шукае? Нарэшце як бы засвяціла сонца — сонца сяброўства, нават лёсу. Ён аж не паверыў, аж разгубіўся. Была яна, Элька, як дзяўчынка-падлетак, маўклівая, непрыкметная сабой. Выдавалі яе — косы на грудзях, доўгія, русыя, з бліскаўкамі святла. А яшчэ — вочы, такія ціхія і адчужаныя, быццам штосьці раптоўнае і горкае, як бяда, уразіла яе і яна ўсё не магла апамятацца, зразумець: што ж здарылася?

У іх абаіх была адна туга, адна бяда — сіроцтва.

Як хораша дружылі яны першым годам! І як непрыкметна ўсё прайшло! Быццам і не было іх вясны, быццам вясна тая прымроілася ў доўгую зімовую ноч. Што тут скажаш? Ёй, мусіць, абрыдлі і свой, і яго сум, іх заўсёдная адчужанасць ад другіх, сур'ёзнасць, што не стасавалася з гадамі. Элька нібы прабудзілася. Яе пацягнула да студэнцкай гурмы, да бестурботнай весялосці. А ён, хворы на адзіноту, пазбягаў усяго гэтага.

Сталася так, што ён усё больш адыходзіў ад людзей і ўсё больш буваходзіў у сябе, у глыбокі свет адзіноты.

Але цяпер горад далёка...

...Навісаў над дарогамі ляшчыннік. Кудлaстыя цені глушылі сонца. Дзённая дрымота спавівала кожны лісцік. Адам сыходзіў з дарогі — былі Пакуцічы — шукаў першыя саспелыя арэхі. І адначасова прыкмячаў, як непадалёку ў верасе, што ўжо браўся пупышкамі і цветам, чародкай разбягаліся баравікі. Усе маладзенькія, завідныя, тугія, нібы вылітыя. Адам забываўся на арэхі. Адыходзіў, зразаў грыбы. І ўжо, хвалюючыся, шукаў болей. У часе такога грыбнога забыцця ён неўпрыкмет выходзіў на пясчаныя, усе ў пад'ядлоўцах, пагоркі. Пonізу разлягалася сенажаць, а ў асяродку яе — паважная Шчара. Гурмавічы... Можна было купацца і рыбачыць: там, у прырэчных зарасніках, Адам, здаралася, затойваў сваю вуду, а часам спінінг.

З такіх дзён ткалася яго ціхае лета. Было ўсё так проста: Адам абыходзіў Бібалаты, сцежкі Пакуціч, чытаў ці спаў на лясных пагорках, а дзесьці ў задоннях душы ішла нябачная работа: тварылася абнаўленне.

Аднойчы Адам прачнуўся ў Пакуцічах з вострым, як пасля застарэлай хваробы, адчуваннем такой сонечнай лёгкасці і свежасці... Не было ні звыклай тугі, ні халоднага здранцвення ў душы — была адна пранізлівая радасць. Ён адчуў сябе жывой і гарачай жылкай Зямлі. Зямля і сонца, дрэвы і травы жылі не па-за межамі душы — яны былі яго духоўным жыццём. І ён не чуў сябе адзінокім. Розная бывае адзінота! Душэўны свет Адама быў неабдымны і так шчодра, хвалююча напоўнены жыццём, як свет прыроды.

Заўжды было б так!

А лета ўжо глядзела на восень.

Тады Адам спахапіўся: хутка сабраўся адным днём і паехаў у Боркі. Нешта каля двух дзён не было яго ў Хвалевічах. А вярнуўся (як ніколі суцішны, пахмуры) і яшчэ шчырэй зачасціў на рэчку.

За час лясных бадзянняў Адам як задзічэў. Цэлымі днямі амаль ні з кім не гаварыў. Адно ранкам ці вечарам крыху перамаўляўся з цёткай. Пра надвор'е, бульбу, калгасныя справы...

А калі быў сенакос — пра траву: «Мо дзе прыкасіць? Гляджу сабе, як людзі завіхаюцца... Часу ж у мяне — не пазычаць, і здолею пры касе: некалі ж ў Борках выгольваў іржонне свінням на падсціл...» Яму хацелася пазбыцца прыкрай няёмкасці, нават віны перад цёткай — маўляў, прыехаў да яе дармаед.

Цётка Алімпа тады саслабела апускала рукі, як бы скінуўшы з плеч цяжкі мех з зеллем,— падымала галаву:

— А па што мне сена гэта? Самой хіба есці? Ты то знаеш, а нешта забываеш... Гэта ж збыла я сваю Ласку — гэта як Макар памёр... Дзе ж я, адной будучы, травы той мехам нацягаюся?! Плечы пааблазяць, сэрцам зачарнееш. А,— разводзіла яна рукамі,— і без кароўкі не жыць, а і з кароўкай не быць... Што паробіш: прыкупліваю малако — калі ў прысуседзяў, калі ў калгасе... Не раўнуючы, як у вас у горадзе. Што сена?! Во, хіба, як канякі даб'юся, прыстарайся мне дроў...

— Ну, гэта можна...

Кароткія былі размовы.

А ў заглушы поля і лесу гаварыць не хацелася і не было з кім. У часы такога стоенага маўчання да Адама прыходзілі дзіўныя мроі. Былі яны ціха светлыя, як даўнія гарадскія жаданні. Часцей яму бачылася хата — ля рэчкі, у зялёнай глухамані: невялічкая і ўся залацістая ад свежай сасны, смалы. Яго хата... І аж ныла ў грудзях ад яе смольнага паху. А навокала, і нібы на ўвесь падсонечны свет, ціш, ціш...

Наіўныя мроі-жаданні... Што зробіш... Спачатку Адам нібы пасмейваўся з сябе, а пасля чамусьці перастаў.

І вось прыйдзецца яму неўзабаве пакінуць гэтыя мясціны. Не верылася.

Аднак у запаску ён мае яшчэ некалькі дзён. Праўда, яны прыцьмелі ад тужлівага клопату, ад непакою перад блізкай дарогай. Яны нібы яблыкі, што вось-вось сарвуцца з галіны, пераспелыя, падгнілыя яблыкі. Але праўдзе ён іх, гэтыя апошнія дні лета, як правеў усе іншыя.

Вось сёння ён з ранку тут, на Шчары: чытае, загарае, купаецца. Дамоў, як часамі рабіў, не пойдзе. Будзе абедаць на рацэ: хлеб, сала ёсць. Цыгарэтай задыміць. А пасля, як пасунецца на вечар, на прахалоду сонца,— паставіць вуду, возьмецца за спінінг...

«Чакай, чакай, мілы мой: раскладзем на беразе агеньчык, павесім з вадой кацялочак — будзе гарачая юшка: ...мм, смак, з цыбуляй, салам, дымком... Але што гэта? Ах, яна... Адам раптам, сагнаўшы дрымоту, падняўся. Адвярнуў назад руку і, скрывіўшы ад прыкрасці губы, пацёр ля пояса спіну — там, дзе яшчэ з ранку нешта глуха і нудна смыліла. Стары знаёмы боль, які заўжды, то ажываючы, то заціхаючы, быў з ім і на які ён у горадзе, як і ў вёсцы, лічы, не звяртаў увагі. Не ўпершыню яму. Адам зноў лёг — спіной да сонца — узяў кнігу... Але ўжо не мог ні чытаць, ні думаць. Боль шырыўся, вастрэў, быццам на спіне варушыліся, дрыжалі, разгараючыся, пякучыя жарынкі: штосьці ён сёння ўзяўся за яго. Ляжаць і слухаць яго не ставала сіл. Адам устаў — нервова захадзіў ад куста да сасны, ад сасны да куста, пад якім ляжаў. Радасць прападала. Пра вячэрнюю рыбу і юшку не хацелася думаць. Як недарэчна ўсё... «Матаюся тут, як...» Ён з раздражненнем узяўся адзявацца — нічога не зробіш, трэба валачыся ў вёску. Дамоў.

На хаце вісеў замок. Успомнілася, што цётка Алімпа вечарам нешта гаварыла пра калгасны лён. Ага, паехала з бабамі рваць яго недзе за Шчару. Ці не пад Восаўцы? Далёка. Не скора прыедзе. Ён памацаў рукой пад ганкам — знайшоў ключ, адамкнуў сені.

У хаце вываліў на стол усё, што ўзяў па дарозе ў вясковым магазіне: віно, хлеб, селядцы, папяросы. Боль не адпускаў яго. І халодная, забытая туга ўжо ажывала, падымалася ў душы, як паганая і бязлітасная звяруга. Гэта ўпершыню за ўсё лета. «Ну, пачакай...» — пагразіўся ён у думках не то ёй, не то невядома каму.

Адкрыў бутэльку. Наліў да краёў шклянку. «А, чэрці з ім, нап'юся... Але ж якая брыда!» Віно было цёплае, мусіць, застаялася дзесь на сонцы ў магазінным акне.

Пасля, пачырванелы, цёпленькі, Адам ляжаў на ложку і ўсміхаўся. Сабе, хаце, кату. Дзіўна, але спіна ўжо не балела. Ці яе сапраўды адпусціла, ці ён, выпіўшы, не чуў болю?

Заснуў Адам лёгка і хутка — не прыкмеціў, калі.

Сышоў на зямлю ружовы летні вечар. Ціха і журбліва глядзеўся ў вокны хаты. А потым пагасла сонца, і ў хаце пацішэла яшчэ больш. Звінелі мухі.

Познім ужо змрокам на вуліцы загырчала машына, засакаталі вясёлыя жаночыя галасы. Зайшла ў хату гаспадыня, шчоўкнула ўключальнікам. Жмурачыся, моўчкі паўзіралася то на яго, то на стол... Загасіла святло і ў няпэўным одуме пайшла на кухню.

Недзе апоўначы Адам прачнуўся. Прахапіўся ад свайго крыку. Нічога не бачачы, не чуючы, апроч сну, апроч болю ў спіне, як здзічэлы, закруціўся на сваім ложку... Громка, здавалася, на ўсю хату, грахала сэрца — ірвалася з грудзей і быццам крычала. Ад страху. У нерухомых пашырэлых зрэнках стаяў сон: ноч і нейкая цесная гарадская вуліца. Ён бяжыць гэтай вулачкай — хутчэй-хутчэй туды, дзе ў цемры скверыка зырчаць ліхтары, а хтосьці, нябачны і люты, апантана гоніцца за ім. Глуха бухае па бруку нагамі, задыхана сапе... Вось і скверык, ліхтар. Ён хапаецца абедзвюма рукамі за металёвы слупок і адскоквае. Знячэўку спатыкаецца — падае: во ён, яго таямнічы ганіцель... Высозны, нейкі цёмны з твару — адны вочы і зубы свецяцца — барадач. Яго аж распірае ад злосці. Што яму трэба? А той з нядобрай ухмылкай навальваецца на яго, хапае за плечы і цяжкім, цвёрдым, як з жалеза, каленам упіраецца ў спіну — гне на сябе.

— А-аля-яя!..— аж заходзячыся, крычыць ён.

Крык гэты — цяпер ныў-дрыжаў у вушах. «І трэба ж... прыпляцецца што»...— пацёр Адам, адганяючы на́марач, вочы.

Ён вёртка ссунуўся з ложка. Баючыся разагнуцца як трэба, папатаўся ў споднім да дзверак у перагародцы. «Толькі не сядзець аднаму... Хаця б пагаварыць, проста пагаварыць... Цётка, здаецца, дома... Была б хаця... Яна ведае, дзе, што тут... Лячэбніца... Машыну б якую... А мо ўсё пройдзе?.. Гэткая цемра... Дзе ж уключальнік? А вось...»



Святло нечакана і балюча разанула па вачах. І нібы штурханула. На момант асляпіла. І ўсё ж, прыадкрыўшы дзверцы, Адам паспеў заўважыць кабету. «Дома, дома! Спіць...» Ад радасці ён аж успацеў. І вальней, лягчэй задыхалася яму. Нібы свежага паветра глынуў. Адам часта, хапаючыся, пастукаў у гулкую перагародку. Але гэта было лішне: цётка ўжо абудзілася — відаць, ад святла і яго хадні. Глянула на яго і адразу ўсё зразумела, хутчэй адчула па ім — бяда! Вочы яе пацямнелі, твар ураз сцяўся ад трывогі.

— Спіна... аж гарыць,— паказаў ён рукой. Проста дзіва: нібы два вятры раптам напераменку захадзілі па хаце: халодны і гарачы. І Адам, сцінаючыся ад дрыжыкаў, то стульваў ля грудзей рукі, то,

успацелы, млява апускаў іх — расслабляўся. І ўсё нешта цяжэла, цяжэла ў галаве.

— Пачакай... Ах, божа...

Цётка Алімпа божкала, мітусілася, апраналася. А ён, крыху паспакайнеўшы, вярнуўся да ложка, але не лёг — сеў, натужліва згорбіўся: так яму ў спіне было як бы лягчэй.

— Няйнакш як застудзіўся.— трывожліва біўся за перагародкай голас.— Такая ўдзень пякельня! А ці доўга да бяды? Вечна сядзіш на Шчары... Дзесь нахапаўся вады з крыніцы, дзесь паляжаў на сырым месцы... Ведама, лета... паліць піць. Ці доўга да бяды?

— Хто яго ведае...— замяўся Адам.— Мо прастуда, а мо не яна: мне даўно, яшчэ ў горадзе, пабольвала. Але ж не так...

— То чаму ж не было табе схадзіць у бальніцу, праверыцца? Там горад, а тут... Едзь за свет у той Селец. А на чым? Мусім чакаць да раніцы...

— Чаму?... Ды вот не выпадала неяк...

— Дзіўны ты якісь: яму баліць, а ён... Дзіўны... Мне ўжо і бабы казалі: «Дзікі якісь твой госць. Усё адзін, адзін — цягаецца па кустах. Нікуды воч не паказвае: да дзяўчат не ходзіць, на вячорках не відаць. Як бы людзей цураецца...» І во выпіваеш без дай прычыны. Але чакай, недзе ж у мяне была гарэлка з зеллем. Натрэм спіну, мо палягчэе... Паспрабую сама палячыць. Не першы раз мне...

Рыпнулі дзверы — жанчына паспяшала на кухню. Хвіліну патапталася там і чагосьці хутка выскачыла ў сені.

— От, галава мая дурная! — гукнула яму.— І забылася я, што лякобу сваю на той нядзелі аддала Прузыне. Счакай, Адам. Збегаю я ткале да Анэлі Барысовай... Недалечка тут...

«Анэля Барысова... Якая яшчэ Анэля?» — варухнулася ў ім цьмянае раздражненне. Па ім зноў захадзілі два вятры: халодны і гарачы. Пакутліва падціснуўшы губы, стаў рачком і вызірнуў на вуліцу. Шырока і неяк цёпла ішло ад акон у гародчык святло, крокі, жывыя, чалавечыя, чуліся ўначы. Такая нібы дробязь: святло, крокі. Аднак адчуванне нядаўняга сіроцтва і пустэлі прыглухла, быццам пакінула яго. Ноч ажыла ад трывогі.

Цётчыны крокі аціхлі недзе на суседнім, праз вуліцу, двары. Адам стомлена апусціў пацяжэлую ад гарачыні галаву. Слухаў сябе.

А калі зноў вызірнуў на вуліцу, неспадзявана ўбачыў вокны той, суседняй хаты. Нібы прабудзіліся яны. І ўглядаліся ў цемру, як чыесь пільныя і добрыя вочы. Вялікія, зыркія ад святла — аж двор быў відзён.

У вокнах мільгалі неспакойныя чалавечыя цені — яго начная трывога перадалася і ў другую хату, другім—невядомым яму—людзям. Вострая, як святло тых акон, радасць кранула яго. Падумаў, што сваёй абыякавасцю і раздражненнем абразіў невядомага чалавека з той хаты. Лёг ніцма, выцягнуўся,— нялёгка было яму выбраць месца, паставу,— цярпліва чакаў цётку.

Вярнулася яна, і ад яе гаворкі і мітусні стала ўтульней, нават, падалося, цясней у хаце. Гэтая асаблівая ўзрушанасць і мітусня жанчыны спачатку насцярожылі яго... Але насцярогу неўпрыкмет патушыла радасць: свой чалавек зноў з ім, побач,— ён, аднак, стаміўся ад вусцішнага чакання, хоць і чакаў яго нядоўга.

— То давай сюды сваю спіну,— на лагодзе гаманіла кабета.— Во, што трэба, усё дастала: націранне і нат чацвярцінку першака, ядрога, як казаў мой Макар... Анэля запаслівы чалавек... Згатую на маліне чаю — вып'еш, гарачага, з першаком. Як бач, выганіць тваю застуду. Дзякаваць Анэлі: не пашкадавала дабра. І нат грошай не хацела была браць. «Такая бяда,— кажа,— не жартачкі. А вы з грашыма... Пасля разлічымся: мы ж суседзі». І пэўна ж. А яе чалавек ухапіўся быў падскочыць у Сашкі, да Каляды. Па машыну. Пасля спахапіўся. «Ладна,— кажа,— як не палягчэе вашаму госцю, накажыце тады мне. Быць не можа, каб не ўгаварыў шафёра». Нічога не скажаш, добрыя яны людзі. Каторы ўжо год суседзямі жывём, знаемся.

Завінуўшыся ў цяжкую ватовую коўдру, Адам ляжаў у ложку і хапатліва дыхаў. Вельмі ж было яму задушна і парна. Ён аж узмакрэў ад поту. І няможна было адкінуць коўдру.

А ў хаце ўсё бачылася, як са сну: такім невыразным і аддаленым. Нейкім чужым. Столь, кабету ля стала, шафу — усё скрадваў, як бы размываў, туман. Хмельнае мроіва. Яно дрымотна зыбалася, гасіла гукі, абрысы рэчаў. І сам сябе Адам адчуваў, як чужога... Гэтая мяккая лёгкасць у галаве і на душы, гэтая змора і млявасць цела, атрутная горыч ад выпітага чаю.

А туман усё глушэў, глушэў, і словы гаспадыні цішэлі, заміралі... Як, здаецца, і боль у змучанай спіне. Зморваў сон. Неспадзявана, як бы на яве, Адам убачыў сябе на вясковай вуліцы. Нават не на вуліцы, а дзесь ля вёскі, збоч дарогі, што цягнулася ў Хвалевічы з Сельца. Ён нібы вяртаўся са сваіх Борак. Недзе гарэла нябачнае сонца, пасвечвалі зоры. Быў нібы вечар. А мо раніца? Ён ішоў, углядаўся ў вуліцу, і вельмі ж дзівіўся з думкі: чаму гэта ён спяшаецца не на Шчару, нават не ў поле, а сюды, у вёску? Дзівіла яшчэ і сама вуліца, нейкая мнагалюдная, прыціхлая — такая незвычайная. Скрозь людзі, людзі...— у дварах, ля платоў, пры школе. Быццам усе павыходзілі з хат. Сядзяць нечага на бярвеннях, на лаўках, кураць, штосьці пацїху робяць, аб чымсьці перамаўляюцца. Але гамонка іх і работа як бы так, для выгляду — усе быццам каго чакаюць. Вядома ж, не яго. А мо... Але навошта ён ім? Ён хоча спыніцца, павярнуць назад, але невядомая сіла гоніць яго далей, далей у вёску. Якая ціхата... На сярэдзіне вуліцы — зблізку гумна (ах, клуба)—ён спыняецца. Гамонка адразу змаўкае — людзі абарочваюцца да яго. На іх тварах — насцярожанасць, цікаўнасць, трывожнае недаўменне. І ўсе глядзяць так, нібы даўно з ім знаёмы і... незнаёмы. Штосьці сціскаецца, сціскаецца ў ім, гняце, як невыносны цяжар. Аж дыхнуць не дае. Людзі, людзі. І нікога ён не ведае, хоць усё лета жыве сярод іх.

Ён раптам усміхаецца — чаго, і сам не разумее. Аднак насцярога ў людзей знікае. Усе яны, як змовіўшыся, загаманілі, прасвятлелі... Хтосьці — ці не сусед цёткі Алімпы? — высокі і рыжы паказаў яму на край бервяна — там было вольнае месца. Ён разгубіўся... Дастаў папяросы — закурыў. Зараз ён пойдзе да іх, сядзе...

Але што іх турбуе? Нешта ж хочуць ад яго пачуць...

... Калі Адам заснуў, у хатах усё яшчэ свяціліся вокны.

ПАЭЗІЯ

● ———

●● *Купальшчыца*



**Уладзімір ВАСЬКО**



●

Добры дзень, жаўтаротых сям'я!
Як ты дыхаеш тут пад купінай?
Жаўтаротым калісьці быў я,
Жыў у хатцы, прадзедам зрубленай.
І на ўсё толькі знізу глядзеў.
Покуль крылы ў падлётка выраслі,
Верыў у добрыя сэрцы людзей
І не ведаў, што ў свеце ёсць вылюдкі.
А хадзілі яны па зямлі
З лютай злосцю, з прыкрасцю нейкаю...
Тыя сцежкі мы ўжо замялі
Беларускім бярозавым венікам.
Падрастайце, ўзлятайце хутчэй
І глядзіце на ўсё не з-пад купіны...
Прагне свет сёння пільных вачэй,
Чыстых сэрцаў, нічым не падкупленых.

●●

Яна адна прыйшла на бераг,
Дзе нікагуткі не было,
Над морам кветак сініх, белых —
Яе духмянае цяпло.
Сплыло з плячэй яе адзенне
На парыжэлы мяккі мох,
Спыніўся Нёман на імгненне
Каля яе прыгожых ног.
Яна ўвайшла ў ваду, і цела
Жывыя хвалі абвілі...
Усё пад сонцам зіхацела,
Над лесам воблачкі плылі.
Як чайка белая, упала
На хвалі сінія яна.
І паплыла. Бы адплывала
Ад берага майго вясна...



ПАЭЗІЯ

● *Іспанскія балады*

●● *Снежны чалавек*

●●● ———



**Анатоль СЕРБАНТОВІЧ**



●

## МАТАДОР

Выходзіць ён упэўнены і строгі:
Да крыку і да посвісту прывык.
Ён прад сабою бачыць толькі рогі,
І толькі чырвань хусткі бачыць бык.

Тут ні прычым ні рогі і ні шпага!
Сышліся між сабой, як ноч і дзень,
Святая чалавечая адвага
І злосць, што да дабра не давядзе...

Ах, шпага, шпага,— кволая пацінка,—
Ламаешся ты з хрустам у касцях.
Але гарыць, трапечацца хусцінка,
Жывая і чырвоная, як сцяг!

Гарыць, як і тады, у трыццаць шостым,
Калі баец ад крыўды анямеў,
Ішоў на танкі з дубальтоўкай простай
І крыламі плашча свайго шумеў.

## БАРЫКАДЫ

*Будь, моё окно, моей бойницей!*

*М. СВЯТЛОЎ.*

Дымам спавіта Гранада.
Той, трыццаць шосты год...
Апошняя барыкада
Свеціцца навылёт.

Знямелая кананада
Калыша ствалы гармат.
Мёртвым не трэба каманда,
Што час адыходзіць назад.

Крэпам спавіта Гранада.
Шэсцьдзесят шосты год!

Апошні на барыкадах —
Святлоў! І ён — навылёт...

Потым пра іх успомняць,
Выплеснецца «ура».
...Бяззбройны, кладуся побач:
«Но пасаран!»

●●

Вузкі лоб. Нахмураныя бровы.
На дубіне цвёрдая рука.
І няскора ласкавыя словы
Скоцяцца, як ядры, з языка.

У яго звярыная манера:
Нападай, ратуйся і жыві...
Ды ужо бунтуе ў жылах звера
Кропля незвярынае крыві.

І на сцежцы войн, глухі ад крыку,
Над крутой варожай галавой
Занясе ён цяжкую дубінку
І — застыне, здзіўлены сабой.

Ён такім і прыйдзе, круталобы,
Праз вякі у наш дваццаты век:
І — ужо на звера непадобны
І — яшчэ зусім не чалавек.

●●●

Круглякі пратупаюць, як коні,
Па насціле берагам глухім
І расцягне плыт, нібы гармонік,
На каленях хваль свае мяхі.

Эх, дарога — сіняя старонка!
Берагоў і рэчкі не пазнаць.
Глыбіня іграе тонка-тонка,
А парогі, як чмялі, басяць.

І нічога дзіўнага не бачу,
Што, рублёўку кінуўшы на кон,
І пяе ад радасці і плача
Босы развясёлы плытагон.





Напалеон РЫДЗЕЎСКІ

# ПАРАШУТЫ НА ДРЭВАХ

ДАКУМЕНТАЛЬНАЯ АПОВЕСЦЬ

## НАЧЛЕГ У БЯРЛОЗЕ

Да раніцы прайшлі кіламетраў з дваццаць. Недзе злева ад нас цякла Старая Прэгель. Днявалі ў кустах, залёгшы паміж высокімі купінамі, аброслымі зеленавата-сівым мохам. Пад вечар стала брацца на мароз. Мы рашылі пад'есці і добра выспацца. Надралі моху, выслалі неглыбокую ямінку і накрыліся зверху з галовамі так, што заўважыць нас можна было хіба калі наступіш нагой. Мо за ўвесь час нашай разведкі ва Усходняй Прусіі нам ні разу так добра не давялося выспацца. У мяккім моху, як у пярыне, сагрэліся. Апусцелы лес не трывожыў нічым чуйнага сну.

Каб папасці да паштовай скрынкі нумар два ля штабеля дроў, нам трэба было перабрацца цераз Мазурскі канал. Для гэтага ў нас быў толькі адзіны спосаб — пераплысці. Толькі на гэты раз трэба было лезці ў ледзяную ваду. Знялі з сябе ўсё, звязалі ў плашч-палаткі, апусцілі на ваду, каб пераканацца, ці не пацягне клункі на дно: усё ж такі там цяжкія аўтаматы, патроны. Нічога: усё, здаецца, добра. Памалу палезлі ў ваду. Трэба плысці асцярожна, падпіхваючы перад сабой клункі так, каб яны не перавярнуліся вузлом уніз.

Вылезлі на другім беразе, адбегліся ў кусты і там добра нацерліся. Далей пайшлі подбегам, каб сагрэцца. Вельмі хацелася хутчэй дайсці да месца.

— Калі нішто не перашкодзіць, дабяромся да штабеля якраз сёмага лістапада,— напомніў Генка.— Вось бы сваіх яшчэ там сустрэць — было свята б удвайне! — Ён памаўчаў крыху: — Да кастрычніцкіх свят мама заўсёды такія смачныя пірагі пякла... У хаце з тыдзень імі пахла. Там уся краіна святкуе, а мы тут...— Генка не дагаварыў. Мне здалося, што голас яго задрыжаў.

— Не сумуй. І мы адсвяткуем: каля штабеля, напэўна, нашы Іваны, Зіна і Аня. Яны нам добрыя звесткі з «Цэнтра» перададуць. А можа і Шпакаў аб'явіўся...— стараўся я падбадзёрыць Генку.

---

Заканчэнне. Гл. № 7 і № 8.

Праз суткі мы падышлі да месца. Ад хвалявання дух заняло: што ж на гэты раз чакае нас тут?

На явачным пункце — ніводнай прыкметы, што тут быў хто-небудзь з нашых. На душы было цяжка.

— Пойдзем да жалезкі, мо там што ёсць,— пасядзеўшы крыху, сказаў я.

Паштовая скрынка нумар адзін была таксама пустая. Некранутай была і наша запіска. Значыць, сляды «джэкаўцаў» прапалі. Мы блукаем адны ўжо дзён якіх дваццаць.

Асцярожна падаліся да тайніка, дзе ўмовіліся пакідаць звесткі новым знаёмым — Громаву і Лазавому. У купіне знайшлі спісаны блакнот. У запісцы гаварылася, што яны наведваюцца сюды кожны дзень, у адзінаццаць гадзін, вельмі хочуць сустрэцца, пакінулі нам яду. Побач пад другой купінай мы знайшлі шкляны слоік з прыцёртай накрыўкай. У ім былі бутэрброды з маслам, добры кавалак адваранага мяса, бутэлька мёду і нават тэрмас з жалудовай кавай. Кава была яшчэ цёплая. «Гэта наш гасцінец вам у гонар свята. Мёд мы знайшлі ў лесе, у дупле ад дзікіх пчол»,— пісалі Лазавы і Громаў. Перанеслі яны і патроны, гранаты, радыёбатарэі.

Рашылі чакаць. Куды пойдзеш, калі дзень наперадзе?

Прыйшлі Аляксей Лазавы і Іван Громаў. Яны прынеслі кацялок з ядой.

— Дзе вы прапалі? — спытаў Аляксей.— Мы ўжо хваляваліся, хоць бы з вамі нічога не здарылася дрэннага...— І, не чакаючы адказу, выпаліў: — З вамі хоча немец сустрэцца.

Такая навіна нас збянтэжыла. Я, праўда, раней пачынаў з Громавым і Лазавым гаворку пра тое, ці не ведаюць яны каго з мясцовых людзей, хто б асуджаў вайну, нацызм, Гітлера, спачувальна ставіўся да рускіх: яны нам вельмі спатрэбіліся б на варожай зямлі, дзе мы не мелі ніводнай яўкі. Калі б нам такіх людзей назвалі, мы першыя паспрабавалі б сустрэцца з імі, ды так, каб яны папярэдне нічога не ведалі пра нас. Нават цяжка было дапусціць, што ў такой рызыкоўнай справе можна ісці на сустрэчу з немцам па яго ж ініцыятыве.

— Які яшчэ там немец? Вы разумееце, чым гэта можа скончыцца?

— Ды не, не,— замахаў рукамі Аляксей.— Гэта зусім не той немец, які можа прадаць. Мы з ім знаёмы ўжо з год. Мы яму давяраем. Ён нават ведаў і пра парашут, што мы знайшлі і схавалі. Бутэрброды і кава — таксама ад яго. Кожны дзень перадае.

Мы вушам сваім не верылі.

— Дык што ж сказаць Шыллату, немцу нашаму? — не адступаў Аляксей.— Ён просіць, каб мы яму наладзілі сустрэчу з вамі. Яго не трэба баяцца.

— Пакуль што нічога не гаварыце. Ніякіх сустрэч. Ніхто не павінен ведаць, што мы тут. Паўтарыце, як прозвішча немца? — перапытаў я.

— Шыллат. Аўгуст Шыллат. Калі так, то скажам, што вас яшчэ няма тут. Заўтра зноў наведаемся.

Палонныя пайшлі. Не паспелі мы з Генкам абгаварыць гэту навіну, як вярнуўся Аляксей. Аддыхваючыся, сказаў спалохана:

— Браткі, лес прачэсваюць!

Мы агледзеліся. У такім парадзелым лесе манеўраваць нельга.

— Лепш да штабялёў — там мы вас драўмі заложым,— рашуча прапанаваў Аляксей.— Паспеем. Яны яшчэ далекавата.

Выбару ў нас не было. Нам нічога не заставалася, як прыняць гэту прапанову. Падпаўзлі да зарасніку, а далей Аляксей ужо падняўся



ў поўны рост і пайшоў да штабялёў адзін. Аглянуўшыся, ён махнуў нам рукой — можна ісці. Прыгнуўшыся, мы кінуліся наперад. Мне зноў моцна забалела нага, відаць, ад доўгага пераходу і ад «купання» ў ледзяной вадзе. Мы прыпалі да няпоўнага штабеля дроў. Аляксей, Іван і яшчэ два палонныя хутка абкладылі нас з усіх бакоў бярвенцамі.

Неўзабаве пачулася каманда: «Станавіся!» Громаў прашаптаў нам:

— Спакойна. Сабак няма.

Праз нейкі час мы пачулі, як нехта фальцэтам лічыў:

— Айн, цвай, драй... цен!

Мы зразумелі, што вартавы лічыў палонных.

— Лёс вайтэр! — скамандаваў другі голас.

Нам чутно было, як салдаты пратупалі вакол штабялёў, прайшлі далей.

— Парадак, хлопцы! Яны пайшлі,— пачуўся павесялелы голас Громава зусім побач.— Ляжыце пакуль... Я скажу, калі можна будзе вылазіць.

Выбраліся мы са сваёй схованкі толькі тады, калі вартавы, падмацаваўшыся абедам, зноў пайшоў «шпацырын махен» — прагульвацца па прасецы.

Мы вярнуліся на старое месца.

— Трэба зямлянку будаваць,— загаварыў Генка,— а то ні схавацца, ні паспаць няма дзе. Ды і замерзнем пад акрытым небам.

— А я вось пра немца ўсё думаю: варта сустракацца з ім ці не? А калі гэта пастка? Мала на якую хітрасць могуць пайсці, каб толькі нас пералавіць... Невядома, ці перадаюць Зіна з Аняй радыёграмы «Цэнтру». Дзе яны цяпер?.. Калі радыёсеансаў няма, то немцы маглі зусім згубіць сляды разведчыкаў. Ці не тоіцца што-небудзь небяспечнае ў гэтай сустрэчы? Як думаеш, Генка?

— Але ж затое, калі ён — наш, то ў ім і збавенне, і поспех,— сказаў Генка.— Усё роўна без падтрымкі — нам капут...

Як толькі сцямнела, пачалі капаць зямлянку. Месца аблюбавалі пад кустом, каля пянька, каб лепш можна было маскіравацца. Я кінжалам рыхліў зямлю, насыпаў яе ў рэчавыя мяшкі, а Генка адносіў іх і высыпаў у яму, што была непадалёку. Працавалі ўсю ноч без перадышкі. Да раніцы паспелі выкапаць невялічкую нару, але ўжо можна было ляжаць у ёй, выцягнуўшы ногі. Набралі сухой папараці, падаслалі. Уваход замаскавалі елачкай, прысыпалі апалым лісцем. Цесна, нават перавярнуцца з боку на бок нельга. Затое — цёпла. Праўда, хутка мы адчулі яшчэ адну нязручнасць: ад малейшага руху на нас сыпалася зямля.

Дзень сяк-так перагаравалі. Пад зямлёй усё вельмі добра чуваць, што робіцца зверху. Да нашай нары ніхто не змог бы падысці, каб мы не пачулі. Таму мы перагаворваліся, раіліся, што рабіць далей. У мяне з'явілася думка — стварыць новую групу разведчыкаў з ліку ваеннапалонных, такіх, як Громаў, Лазавы. У нас ёсць усё для таго, каб звязацца з «Цэнтрам»: рацыя, камплект сілкавання. А галоўнае, недаравальна пры сабе трымаць такія важныя звесткі аб умацаваннях за ракой Дайме, на подступах да Кенігсберга. Колькі разоў прыходзілася шкадаваць аб тым, што не навучылі ўсіх разведчыкаў радыёсправе, тайнапісу. Як важна было б звязацца з «Цэнтрам». Як, якім чынам зрабіць гэта?

У Генкі, па ўсім відаць, думкі аб тым жа.

— А можа, сярод палонных знойдзецца радыст? — раптам сказаў ён, аж тарганууся. На нас пасыпалася зямля.

Трэба было вылазіць, абтрэсціся, крыху размяцца, бо мы адлежалі бакі, у мяне здранцвела нага. Але ж дзень — небяспечна вылазіць. Прысыпаныя зямлёй, мы чакалі, пакуль звечарэе. Генка надоўга змоўк. Я рашыў суцешыць хлопца, паказаць яму, што не злуюся за яго неасцярожнасць.

— А што мы з тым радыстам рабіць будзем, калі знойдзем? Ты не дагаварыў.

— Як што? А з «Цэнтрам» звязацца!

— Не, Генка, нічога не выйдзе. У нас жа кода няма.

Калі б за фронт пасыльнога выправіць, каб адтуль радыста накіравалі сюды, тады мы маглі б многае перадаць... І тое, што ўжо ёсць, і тое, што яшчэ зможам раздабыць. Святло, што пранікала паміж галінкамі елачак у нашу нару, пачало блякнуць. Вечарэла. Раптам пачуўся залівісты сабачы брэх.

— Чуеш, ганяе! — шапнуў я Генку.

— Не разумею: хто каго ганяе? — перапытаў ён.

— Звера сабака ганяе. Паляванне.

— Праўда, сабака брэша.

Гон набліжаўся. Прамчаўся зусім побач з намі алень, а хутка за ім — і сабака. Толькі б далей ад нашага схованішча забілі аленя...

— Ну і га́ды: вайна, а яны паляваннем забаўляюцца! — Генка памаўчаў крыху, а потым спытаў: — Ці дагоніць сабака аленя?

— Хто ж яго ведае... Паслухаем...

Зноў пачуўся далёкі брэх і зноў пачаў набліжацца да нас. Пачуўся стрэл. Паляўнічы страляў зусім блізка. Генка выглянуў са схованішча.

— На кані! Адзін! Давай чыркнем. Гэта ж, напэўна, важная шышка! Мо сам Эрых Кох ці Мількe! Бо не будзе ж абы-хто парушаць загад Рэйнгарда.

«Яно і праўда,—падумаў я,—можна «чыркнуць». А можа і жывога прыхапіць... Ноч жа напераддзе — паспеем адысціся». Што паляўнічы нейкая важная шышка, не магло быць ніякага сумнення.

Калі фронт прыблізіўся да Усходняй Прусіі, камандуючы групай армій «Цэнтр» генерал-лейтэнант Ганс Рэйнгард выдаў спецыяльны загад, аб якім мы ведалі з паказанняў «языкоў». Пазней мне ўдалося прачытаць гэты загад. Ён быў выкліканы ўступленнем нямецкіх салдат дзеючай арміі на тэрыторыю самой Германіі. У загадзе гаварылася, што шырокія прасторы Расіі адкрывалі арміі інакшыя свабоды, чым тэрыторыя Германіі. Там былі дазволены самавольныя дзеянні для ўладкавання жыцця і задавальнення асабістых патрэб. Неабходныя матэрыялы можна было, як правіла, браць усюды, дзе іх знаходзілі. Пры раскватараванні салдат на насельніцтва не звярталася ніякай увагі. Гаспадаром у доме адчуваў сябе салдат.

Тут жа, ва Усходняй Прусіі, Рэйнгард заклікаў берагчы лясныя багацці і палеткі, дамы і прысядзібныя ўчасткі. Самавольнае забеспячэнне дадатковым харчам і матэрыяламі аб'яўлялася злачынствам.

Мы з Генкам разумелі, што ніхто з «простых смертных» не мог парушыць загад камандуючага.

— Туба! Туба! — падаваў голас паляўнічы. Відаць, ён адганяў ад аленя сабаку.

Неўзабаве пачуўся гул аўтамабіля. Заглух матор. Пачуліся каманды: грузілі здабычу. Аўтамабіль загудзеў зноў, паддаў газу, і праз некалькі хвілін стала ціха.

— Кожнаму сваё,— пакрыўджаным голасам прабурчаў Генка.— Ім пацяшацца, а нам — хавацца...

— Стаміўся ты, браток...



— Я ж ні на што не скарджуся — навошта гэтыя спачуванні? Таўкануліб вось гэту зграю — на сэрцы было б лягчэй...

Мы вылезлі з нары, абтрэсліся, пацягнуліся да хрусту ў суставах. Адразу пайшлі да месца, дзе былі паляўнічыя. Пастаялі крыху, прыглядаючыся ў прыцемках да крывавых слядоў.

Перш-наперш рашылі праверыць паштовую скрынку. Ніякіх перамен. Наша запіска ляжыць някранутая. Затое ў купіне зноў пісьмо. Громаў і Лазавы пісалі, што наступным вечарам, у 19 гадзін, нас будзе чакаць каля штабеля, дзе нас хавалі ў час прачэскі, той самы немец. Апісалі яго прыкметы: невысокага росту, у шэрай шапцы-вушанцы з казырком, за спіной — рэчавы мяшок, у левай руцэ — метровы кіёк. Ён падыдзе і скажа: «Геносэ!» — «Таварышы!» Мы павінны адказаць: «Так! Рана змяркаецца».

— Што будзем рабіць?

— Давай пойдзем.

— Згода!

## ПАРТАЙГЕНОСЭ ШЫЛЛЯТ

Увесь наступны дзень рыхтаваліся да сустрэчы. Прыдумлялі ўсялякія меры перасцярогі. Генка сказаў:

— Нічога мы з табой асаблівага не прыдумаем. Была не была — трэба ісці. А хочаш, я адзін пайду, а ты схавайся і паназірай? Калі што — сячы адной чаргой і па мне і па фрыцах.

Мне падабалася, што ён так рашуча быў настроены.

— Ну, то давай, браток, мыцца, чысціцца, каўнерыкі белыя падшываць: не куды-небудзь, а на дыпламатычныя перагаворы ідзём. Магчыма, удасца наладзіць міжнародныя адносіны. Так сказаць, уступіць у кантакт з другой, новай, Германіяй, якая будзе пасля вайны — Германіяй Эрнста Тэльмана...

Генку развесяліла мая тырада.

— У люстэрка паглядзіся — пячорны чалавек ты, а не дыпламат! Пагаліцца табе трэба, а ўжо без накрухмаленага каўнерыка як-небудзь абыдзешся.

Прабіраліся мы каля невялічкага раўчука. Наўкол стаяў чысты стары лес. Скрозь відаць было далёка. А нам гэта і трэба было. Некалькі густых лазовых кустоў каля раўчука — вышэй чалавечага росту — даволі добра маскіравалі нас. Мы тут распрануліся, раскінулі свае шынялі на зямлі, папырскалі іх, намылілі забруджаныя мясціны і сталі счышчаць кавалкамі дубовай кары, як шчоткамі. Шынялі такі пасвяжэлі, адпрасаваліся. Прывялі ў парадак і боты. Вось толькі пагаліцца было складаней. Тут ужо Генка адчуў сваю перавагу нада мной — ён абышоўся толькі тым, што памыўся ў крынічнай вадзе, а мне трэба было скасіць шчаціну неверагодна тупым лязом. Намазка не было. Пра цёплую ваду думаць забудзься. Галенне зацягвалася. Таму Генка апрануўся і пачаў назіраць. Я ўкленчыў перад крынічкай, вымачыў добра бараду, памыліў яе, стараючыся як мага лепш расцерці далонямі мыла, і, гледзячы ў люстраную ваду, паспрабаваў галіцца. Тупое лязо коўзалася па густой шчаціне — ніякай рады нельга было даць. Аж прыстаў, пакуль пагаліў невялічкую плямку на правай скроні. Лязо так прытупілася, што зусім перастала браць. Вось табе і на — лепш бы не пачынаў, чым з палавінай барады застацца... Каб тое

ведаў, то на хутары прыхапіў бы дзе брытву ці лязо. Мужчын у хатах няма — жанчыны ды дзеці, але ж брытвы, напэўна, пааставаліся.

— *А ты корцікам паспрабуй*,— параіў Генка.

Гэта той самы корцік, які я забраў у маёра-падводніка з даравальным надпісам Гітлера. Я хаваў яго як дарагі трафей. Ён быў вельмі востры, аж свяцілася яго сіняватая сталь.

Генка меў рацыю. Даводзячы на папрузе лязо корціка, я нядрэнна пагаліўся.

Апрануліся, цясней зацягнулі папругі. Да вечара было яшчэ далёка. Трэба было перачакаць астатак часу тут.

— Каб ведалі, адкуль ён павінен ісці — сустрэлі б на паўдарозе, прасачылі б...

Усё ж такі выйшлі да цямна. Нічога падазронага не заўважылі. Генка часта паглядаў на гадзіннік. «Хвалюецца...» — падумаў я.

А вось, нарэшце, паказаўся і той, каго мы чакалі. Ён ішоў не спяшаючыся. *Невысокага росту, каржакаваты, з буйнымі рысамі твару.* У левай руцэ палка. Усё так. Супадае...

— Геносэ! — сказаў ён, спыніўшыся крокі за тры ад нас.

— Так,— адказалі мы адначасова. Генка, апярэдзіўшы мяне, дадаў: — Рана змяркаецца.

— Вас завуць Аўгуст Шыллат?— спытаў я.

— Аўгуст, але не Шыллат, а — Шыллят. Вы завіце мяне «партайгеносэ». Я — камуніст. Мы змагаемся за справу адной партыі. Значыць, мы таварышы па партыі — «партайгеносэ»,— растлумачыў Шыллят.

Мы назвалі свае клічкі. Я папрасіў прабачэння, што не можам назваць сапраўдныя прозвішчы.

— Я разумею. Гэта не мае значэння. Але ж вы — савецкія парашутысты? Так?

— Так.

— Таварышы дарагія, як шкада, што я не сустрэў вас яшчэ 27 ліпеня вечарам. Я ўсё ездзіў па ўзлессі каля вёскі Аўэрвальд, спадзеючыся сустрэцца.

— Памятаеш, яшчэ Павел Андрэевіч сказаў з гэтага выпадку: «Правакатар»? — напомніў я Генку.

— А як жа, памятаю.

— Мы чулі, калі вы нас клікалі,— сказаў я,— але не адгукнуліся, бо думалі, што правакацыя.

— О, дарагія таварышы, усё магло быць па-іншаму, калі б мы тады сустрэліся. Чаму вы толькі ўдваіх? Па чутках, вас павінна быць чалавек пяцьдзесят? Не чуваць жа было, каб так многа загінула...

— Глядзі ты, правільна падлічылі фрыцы. Прыкладна столькі і ёсць.

— Што ён гаворыць? — спытаў Шыллят.

— *Ён кажа, што ва Усходняй Прусіі ёсць разведчыкі акрамя нас.* І яны дзейнічаюць.

— Мы маглі б вам дапамагчы,— паўтарыў немец.

— Яшчэ не позна і цяпер,— асцярожна заўважыў я.

— *О, вядома, так. Вы праўду кажаце.*— Шыллят зняў з плячэй ранец, выняў і разгарнуў бутэрброды.

— Частуйцеся. Мая жонка падрыхтавала. Вы вельмі схуднелыя. Даводзіцца галадаць, так?

— Ды гэта ў прыцемках так здаецца...— адгаварыўся я жартам.

— Не, не. Я бачу. Вам нялёгка. Я сам шэсць гадоў адседзеў у



турме. Ведаю, што такое голад, знясіленне. Нацысты патрабавалі, каб я аддаў сцяг акружной партарганізацыі. Але яны не на таго нарваліся! *Я яго надзейна схаваў.* Ён і сёння там. Захаваў я і свой партбілет.

Мы ўважліва слухалі, прысеўшы за штабелем.

— Вы ешце! Ешце... Бярыце вось каву — запівайце. Ёсць у нашай вёсцы яшчэ адзін камуніст. Яго завуць Эрнст Райчук. Я вас пазнаёмлю з ім. У яго вялікая сям'я — пяць дачок. Вам абавязкова трэба сустрэцца з ім. Калі здарыцца што са мной — будзе ён. Надзейны, свой чалавек.

— А ў вас вялікая сям'я?

— Адзін сын — Ота. І жонка. Вы ведаеце, чаму мяне вызвалілі з канцлагера? Ім спатрэбіўся мой сын. Пушачнае мяса патрэбна. Яму хутка васемнаццаць. Высокі, стройны хлопец. Нацысты прызываюць яго ў войскі «СС». З дня на дзень могуць забраць.

Мне паказалася падазронай яго такая шчырасць. Толькі потым я зразумеў, што ён меў патрэбу падзяліцца, пагаварыць шчыра, без страху. Яму, камуністу, вельмі радасна было сустрэцца з людзьмі адных поглядаў, адной мэты.

— Нам трэба дамовіцца аб канспірацыі. Вы ведаеце, што можа здарыцца са мной і маёй сям'ёй, калі ў СД даведаюцца пра нашы сувязі?

— Здагадваемся,— адказваю.

Шыллят паднёс далонь к губам і дзьмухнуў на яе. Пасля гэтага ён вымавіў адно толькі слова:

— Попел...

— Будзем спадзявацца на лепшы канец. Навошта так сумна...

— Мне ўжо нічога не страшна. Я пражыў шэсцьдзесят пяць гадоў. Мне вельмі шкада Ота. Нельга дапусціць, каб ён служыў нацыстам. Але мы нічога не можам прыдумаць...

— Вы, як старажыл, напэўна, добра ведаеце Усходнюю Прусію. Раскажыце нам пра абарончыя ўмацаванні.

— Так, я многае ведаю. Яшчэ пры кайзеры я служыў на ваенным флоце. Даводзілася быць на ўсім узбярэжжы Балтыкі, у крэпасцях Кенігсберга, Пілау. Але адкладзем размову аб гэтым на пасля. У мяне ёсць надзейныя людзі, якія могуць памагчы ў гэтым больш, чым я. Яны ведаюць, што будавалася тут пры нацыстах. Сёння давайце падумаем пра вас. Як вы жывяце? Як з начлегам?

— Мы выкапалі ў розных месцах некалькі зямлянак. У іх і начуем.

— Прабачце мне за недалікатнасць. Але ж я павінен даць вам параду. Гэта ў інтарэсах вашай бяспекі...

Аўгуст Шыллят папярэдзіў нас, каб мы не выбіралі для стаянак кварталы з чыстым, прыгожым сасняком, што паміж ракой і раўчукамі. Лес гэты рэдкі, забалочаны, у выпадку чаго, дрэнна манеўраваць. Галоўнае ж — там многа дзічыны, і егеры з начальствам, пераважна з ваеннымі, выязджаюць на паляванне. Ён раіў лепш пасяліцца ў квартале 252. Там малады лес. Нізкія густыя елачкі. Гэты квартал ніхто не наведвае. Для сховішча там самае надзейнае месца.

— Я думаў запрасіць вас жыць у мяне. Але ж пакуль нельга, бо ў нас стаяць два салдаты. Адзін працуе на пеленгатары. Ад яго я і даведаўся пра тое, што тут дзейнічаюць савецкія парашутысты-разведчыкі і што іх ловяць.

Шыллят расказаў нам, дзе стаіць яго дом і дом Райчука, прыкметы, па якіх іх лёгка знайсці, калі гэта спатрэбіцца.

— Вы не баіцёся ноччу вяртацца дадому? — пацікавіліся мы ў Шыллята.

— Я добра ведаю мясцовасць. Абміну ўсе патрулі. А калі, урэшце, і сустрэну, дык я ж — немец... Магу сказаць, што быў недзе па гаспадарчых справах. Урэшце, у мяне ёсць чым і абараняцца. Вось...— Шыллят выняў з кішэні свайго куртатага паліто парабелум.— Падумайце, чым мы можам дапамагчы вашай справе,— сказаў ён.

— Ота і жонка ведаюць, што вы пайшлі на сустрэчу з намі?— не без трывогі пытаюся я.

— Вы можаце быць спакойныя — уся наша сям'я заадно. Яны не падвядуць.

— У такім разе, перадавайце ад нас прывітанне Ота і дзякуй вашай жонцы за клопаты.

— Дзякую! Шчыра вам дзякую! — усклікнуў узрадаваны Шыллят.— Прыйду заўтра сюды ў гэты ж час. Да спаткання! — І ён знік у цемры.

— Вось табе і «партайгеносэ»! Сустрэліся б мы на дзянькоў сто раней...— разважліва прагаварыў Генка: ён у асноўным зразумеў сэнс гутаркі.

— Нам, Гена, грэх скардзіцца. Многа каштоўных звестак і так перадалі «Цэнтру». А калі Шыллят сапраўды паможа нам, будзе яшчэ не позна. Нават калі мы тут сустрэнем сваю армію, то наперадзе вунь колькі яшчэ ўмацаванняў... Немцы проста так іх не здадуць. Эх, дзяўчат бы нашых сюды! Аню ці Зіну...

— Дзе яны хоць цяпер? Мо «партайгеносэ» праз гэтага немца, што на пеленгатары, даведаецца, ці хоць працуюць іх рацыі? Але ж як даведаешся: ці то «джэкаўцы», ці з групы Максімава? Можа каго яшчэ сюды закінулі...— сам жа і адказаў на сваё пытанне, якое яго мучыла, Генка.

Зямлянку мы абсталявалі і працавалі ў ёй увесь наступны дзень: наносілі на карту адзнакі разведаных за ракой Дайме ўмацаванняў. Перачыталі ўсё тое, што напісалі нам Громаў і Лазавы, падсвечваючы кішэнным ліхтарыкам. Некаторыя населеныя пункты даводзілася доўга шукаць, бо напісаны яны былі недакладна.

Усё ж яны перадалі шэраг каштоўных звестак. Многае з таго, аб чым напісалі, яны самі бачылі, аб нечым распыталі ў сваіх таварышаў, з якімі адбываюць тут няволю.

— Як бы нам папасці на гэты патаемны хутар Шмаленберг? — уголас разважаў я.— Што там за «шпіёнская школа», пра якую гаварыў Аляксей? Мо фашысты рыхтуюць рэзідэнтаў для засылкі ў наш тыл?

— «Языка» давай возьмем — усё і раскажа...— як нешта вельмі простае, прапанаваў Генка.

Яно то і праўда, што браць «языка» было для нас не складаным. Немцы хоць і былі ўсе ўзброены, але ж яны адчувалі сябе свабодна на сваёй тэрыторыі, хадзілі без перасцярогі. Толькі раней да нас траплялі «языкі» выпадковыя. Складаней высачыць і ўзяць...

— Правільна, браток, кажаш. Возьмем адну свалату і — дапытаем...

Генка не чакаў ад мяне такой поўнай падтрымкі яго рызыкоўнай прапановы. Ён уважліва паглядаў, як бы дапытваючы, ці сур'ёзна я кажу, і ўжо сам сумеўся:

— Малавата нас...

— Як думаеш, Гена, можа паспрабаваць стварыць новую групу? Возьмем Лазавога, Громава. Ужо — чацвёра будзе. Дамо ім тыя аўтаматы, што нам з грузам скінулі. Патроны ж і гранаты яны самі зберaглі.

— Вядома, трэба так зрабіць. Толькі ж гітлераўцы могуць з астатнімі палоннымі расправіцца. Нешта трэба прыдумаць. Мо разыграць захоп іх сілай?

У назначаны час прыйшоў «партайгеносэ». «Нямецкая пунктуальнасць»,— прыпомнілася мне.

— Прывітанне вам ад майго таварыша Эрнста, ад сына Ота і «мутэр» (так ён называў сваю жонку).

Мы моцна пацiснулі адзін аднаму рукі. Шчырасць гэтага чалавека канчаткова пераканала нас у яго добрых намерах памагчы нам. Ён прынёс у тэрмасе гарохавы суп, бутэрброды, каву.

— А тут,— (прыклаўшы руку да грудзей, патаемна і ўрачыста прамовіў «партайгеносэ»,— карта Усходняй Прусіі. Я вам яе пакіну. Толькі трэба недзе разгарнуць, каб растлумачыць вам умоўныя абазначэнні, якія мы самі нанеслі.

— Хадзем у нашу зямлянку,— прапанаваў я. І тут жа сумеўся: ці правільна раблю, што раскрываю сваё сховішча?

— Не, не трэба. Ніхто не павінен ведаць, дзе вы хаваецеся. Мала што можа здарыцца...

— Лічыце, што гэта наша запасная зямлянка. Разведчыкі так лёгка не раскрываюцца,— сказаўшы так, я падумаў, што ні Аляксей з Іванам, ні Шыллят не ведаюць, напэўна, што мы з Генкам засталіся толькі ўдваіх, нічога не ведаем пра астатніх «джэкаўцаў», што не маем сувязі з «Цэнтрам». Ці хоць здагадваюцца яны, у якім мы цяпер становішчы апынуліся? Разведчыкі так проста не раскрываюцца — гэта праўда. Не будзем раскрывацца і мы. Будзем рабіць выгляд, што ў нас усё ў парадку. Чым больш будуць верыць у нашы магчымасці, тым больш будуць нам памагаць.

Мы праціснуліся ў сваю нару, залажылі выхад і ўключылі ліхтарык. Шыллят выняў з-за пазухі ёмісты скрутак. Разгарнуць яго было нельга: мала месца, цесна.

— Я вылезу, пасцерагу,— сказаў Генка.— І прасторней будзе...

— Дзе вы ўзялі такую карту? — здзівіўся я.

І было чаму здзівіцца: гэта была карта гітлераўскага генеральнага штаба з грыфам «зусім сакрэтна».

— Тут — увесь фатэрлянд,— усміхнуўся Шыллят.— Мне даў яе, каб перадаў вам, адзін маёр вермахта. Ён — мой сусед. Нашы хаты стаяць побач. Яго нядаўна цяжка параніла ў Курляндыі. З акружэння вывезлі ў Кенігсберг. Ён настаяў на тым, каб яго на лячэнне пусцілі дадому. Гэту просьбу выканалі з ахвотай: ён зусім безнадзейны. Такія вермахту больш не патрэбныя. Маёр усё разумее. Цяпер ён праклінае нацыстаў і фюрара. Не падумайце, што ён страціў розум. Не. Яму таксама ўсё надакучыла. Вайна прайграна. Ён хоча, каб яна хутчэй скончылася.

— Ці мог бы ён паведаміць нам звесткі аб курляндскай групоўцы войск?

— Думаю, што ён зробіць гэта...

— Цяпер я разгарну сваю карту — яна больш падрабязная. На ёй абазначаны кожны дом, кожная канаўка,— кажу, прадчуваючы, што можна будзе нешта нанесці на яе з таго, што паведаміць «партайгеносэ».

— Дзе тут Міншэнвальдэ? Пакажыце мне. А то я не ўмею чытаць па-руску...

— Вось яно — ваша Міншэнвальдэ,— паказваю.

Шыллят лёгка знайшоў сваю хату на карце і хутар Райчука. А вёрст за дзесяць, у вёсцы Нойвізе, паказаў яшчэ і хутар сваёй цёткі.

— Ва ўсіх гэтых трох дамах вы знойдзеце дапамогу і падтрымку,— сказаў ён.— А калі гэта будзе неабходна, то і сховішча. У Нойвізе да цёткі я пашлю Ота. Ён туды з'ездзіць на веласіпедзе — хлопцу трэба развітацца перад адыходам на службу ў армію. Так што ўсё лагічна? — усміхнуўся ён.

— Дзякую, геносэ,— я абняў яго за плечы.

Шыллят павёў пальцам на карце на захад ад сваёй вёскі.

— Ага,— працягваў ён,— вось Кенігсберг. А вось і Пілау — буйная ваенна-марская база.

Ён падрабязна расказаў план парта-крэпасці, паказаў, дзе знаходзяцца вядомыя яму фарты вакол Кенігсберга, ахарактарызаваў іншыя марскія гавані на Балтыйскім узбярэжжы Германіі. Я ўсё старанна запісаў, адзначыў на карце.

— Ёсць у мяне сястра і ў Берліне. Яе можна выклікаць сюды і арганізаваць сустрэчу з вамі, калі адтуль трэба будуць якія звесткі. А праз тры дні прыйду да вас з Эрнстам ці Ота. Не пярэчыце?

— Будзем рады сустрэцца. Дамовімся аб часе пастаянных сустрэч. Думаю, што зрабіць гэта трэба зараз. На ўсякі выпадак. Мы адшукалі недалёка ад сваёй зямлянкі пянёк, пад якім дамовіліся пакідаць пісьмы.

На трэці дзень мы выбралі зручную мясціну для назірання за падыходам да штабеля з боку вёскі Міншэнвальдэ: разведчыку асцярожнасць ніколі не лішняя. Чакаць прыйшлося ўвесь дзень. Таму мы старанна замаскіраваліся. Добра, што гэтыя дні якраз было ціха, нас ніхто не трывожыў. Гэта наводзіла на думку, што радыёстанцыі «Джэка» недзе далёка або не выходзяць на сувязь з Масквой. Інакш бы іх засякалі пеленгатары, і вяліся б аблавы, прачэскі лесу. Мы чакалі ўбачыць дваіх. Але незадоўга да ўмоўленага часу ўбачылі траіх. Калі яны мінулі нас, мы прыслухаліся, ці не ідзе яшчэ хто-небудзь за імі. Але было ціха. Мы падняліся і, разышоўшыся, дагналі гэтых траіх. Шыллята пазналі адразу, таму не сталі таіцца.

— Гэта мой сын Ота,— узяўшы пад руку высокага, стройнага хлопца з гонарам сказаў бацька.— Глядзіце, які вымахаў! Не думаў ніколі, што ў маёй сям'і можа быць эсэсавец...— з горыччу ўсміхнуўся Шыллят.— А гэта Эрнст Райчук.

Стары чалавек, на доўгіх нагах, з завостраным унізе тварам, глыбока пасаджанымі жывымі вачамі, няўклюдна рушыў да нас.

— Райчук. Эрнст Райчук,— прадставіўся ён.

— Вам ад «мутэр»,— падаючы клунак, сказаў Шыллят.— Тут шарсцяная коўдра і дзве пары цёплых шкарпэтак. Яна вельмі хвалюецца, каб вы не прастудзіліся. Зямлю прымарожвае. «Мутэр» прасіла, каб я зняў у вас меркі — хоча пашыць суконныя пантофлі на лямцы. У зямлянцы ў іх будзе мякка і цёпла. Ногі адпачнуць. А тут — яда,— кончыў ён, перадаючы з рук Ота вялікі скрутак.

— За ўсё — вялікі дзякуй. Пантофлі шыць нявapта,— выказалі мы адзіную думку з Генкам.— Гэта тут лішняе...

— Як гэта лішняе? Гэта нават зусім неабходна,— загаварыў Райчук.

— Нам не да камфорту. У любы момант павінны быць да ўсяго гатовыя...



Доўга цягнулася наша гутарка. Між намі ўсталяваўся поўны давер. Пайшлі чуткі, што будуць эвакуіраваць мірнае насельніцтва ўглыб Германіі. Шыллят і Райчук загаварылі аб тым, што яны хочуць пазбегнуць эвакуацыі, каб сустрэць тут Чырвоную Армію. Яны падумвалі аб тым, каб выкапаць у лесе зямлянку, назапасіць ежы і схавацца ў ёй з сям'ёй, як толькі будзе выдадзены загад аб эвакуацыі.

— А як твае справы, Ота? — звярнуўся я да сына Шыллята, які моўчкі слухаў нашу размову, але не ўмешваўся.

— Са мной ужо ўсё вырашана. На днях забіраюць у маршавую роту,— засмучана адказаў ён.— Калі пашлюць на перадавую, буду шукаць магчымасці, каб перайсці да рускіх...

— Мы ўсе так рашылі,— пацвердзіў Шыллят-старэйшы.— Дарагі таварыш, ці не мог бы ты напісаць Ота даверанае пісьмо да вашага камандавання. Няхай абыдуцца з ім, як са звычайным палонным, а не як з эсэсаўцам? Я ўжо гаварыў вам, што яго прызываюць у войскі СС...

— Я рады выпадку зрабіць для вас нешта добрае. Давайце падыдзем да нашай зямлянкі.

— Не трэба пакуль. Вы падрыхтуйце. Мы з Ота абавязкова прыйдзем яшчэ развітацца з вамі. Тады і забяром.

— Камуністы павінны памагаць адзін аднаму — у гэтым наша сіла,— расчулена сказаў Райчук, і колькі добрых хвалюючых пачуццяў ускалыхнула ў той час гэта зусім не новая, так многа раз чутая думка.

— Вазьміце. Тут звесткі аб Курляндыі — ад маёра,— падаў на развітанне Шыллят невялічкі канверт з тоўстай паперы, перацягнуты ўздоўж і ўпоперак гумкай.

У канверце былі звесткі аб дывізіі, у якой служыў маёр. Але яны былі ўстарэлыя, месячнай даўнасці. Мы рашылі, што яны ўжо страцілі сваю каштоўнасць.

Нарэшце мы сустрэліся з Аляксеем Лазавым і Іванам Громавым. Яны былі заклапочаны.

— У лагеры ходзяць чуткі, што нас збіраюцца перавесці адсюль углыб Германіі,— паведаміў Аляксей.— Усе хвалююцца: невядома, што з намі там зробяць. Мо кінуць у душагубку...

— Што ж думаюць рабіць нашы людзі? — пытаюся.

— У кожнага свае планы. Некаторыя разлічваюць на ўцёкі па дарозе. Але ж вось-вось ляжа снег — куды дзенешся? Тут, у Прусіі, доўга не пратрымаешся. Ды яшчэ без зброі. Лінію фронту таксама нялёгка перайсці,— расцягваючы словы, гаварыў Іван.

— Вас двух мы можам узяць у нашу групу.

— Праўда! Вось дзякуй. А то мы самі хацелі прасіцца, але сумняваліся, што гэта магчыма: разведчыкаў жа падбіраюць там,— Аляксей кіўнуў на Усход,—праверaных людзей, а не з палонных.

— Цяпер застанецеся ці потым прыйдзеце? — спытаў Генка.

— Не, цяпер нельга. Трэба папярэдзіць сяброў. Нешта трэба зрабіць, каб ім за нас не прыйшлося разлічвацца галовамі. Ды і рэчавыя мяшкі трэба прыхапіць — там сякія-такія апранахі, крыху сухароў.

— Хадзем — пакажам, дзе нас шукаць. Назначаць час сустрэчы нявapта. Выбірайце зручны выпадак для пераходу.

Мы павялі Громава і Лазавога да сваёй зямлянкі. Я ніяк не мог папярэдзіць Генку, каб не прагаварыўся, дзе наша зямлянка. Спыніліся крокаў за пятнаццаць ад яе.

— Стукніце па гэтым ствале,— паказаў я на высачэзную стромкую сасну.— Тры разы палкай з роўнымі інтэрваламі. Толькі не моцна. Мы вас пачуем.

Праз два дні пасля гэтай сустрэчы мы пачулі, што да зямлянкі набліжаюцца нечыя крокі. І не аднаго чалавека.

— Геносэ...— пачулася ў цішы.

Мы пазналі голас Шыллята, вылезлі з зямлянкі.

— Пазнаеце, хто прыйшоў са мной? Гляньце вы толькі на яго — апора райха! — у голасе старэйшага Шыллята адчуваўся сарказм.

Ота горка ўхмыляўся. Ён быў апрануты ў чорны мундзір з эмблемай СС у адной пятліцы і чалавечым чэрапам — у другой.

— А на каго цяпер падобны я? — працягваў «партайгеносэ». Ён быў моцна ўсхваляваны.— Мала ім сына, дык яны забралі яшчэ і мяне. Цяпер я, стары дурань, фольксштурман. І гэта ў шэсцьдзесят пяць год! А ў загадзе ж фюрара сказана, што прызываюцца толькі да шасцідзесяці гадоў. Я ім наваюю! Мы з Ота дамовіліся: ён пастараецца як мага хутчэй трапіць у палон. А я? Што рабіць мне? Заўтра раніцай нас абодвух пагоняць: яго — у сваю часць, а мяне з камандай недзе на заліў Курыш Гаф. Цяпер вас будзе наведваць Райчук.

— Шкада, што ён не ведае нашай «паштовай скрынкі»,— сказаў я.

— Ён ведае. І Ота ведае. Я ім паказаў. Інакш цяпер нельга.

— Згодзен з вамі — вы зрабілі якраз тое, што трэба.

На развітанне мы абняліся і пацалаваліся.

— Якое было б шчасце разам з вамі сустрэць Чырвоную Армію!— усклікнуў старэйшы Шыллят.— Вашы павінны скора быць тут. Гэта адчуваецца па тым, як замітусіліся фашысты.

Я перадаў Ота даверанае пісьмо, якое ён павінен перадаць нашым, калі здасца ў палон.

— Будзь толькі асцярожны з ім, інакш яно можа і напсаваць.

— Дзякую, я яго добра схаваю.

Яны пайшлі. Мы зноў адчулі сябе адзінока, сіратліва. Але ж не — гэта толькі першае ўражанне, наплыў пачуццяў. Застаўся Райчук, былі нашы рускія хлопцы Громаў і Лазавы.

— Заўтра першае снежня,— парушыў маўчанне Гена. Ён прыпомніў, які сёння дзень таму, што мы нецярпліва лічылі дні: час працаваў ужо на нас.

Мы ўзяліся за скрутак, які пакінулі Шылляты. Яда, кава, пантофлі. Такі пашыла іх «мутэр», без меркі...

Мы рызыкнулі зняць боты і абуцца па-хатняму ў «мутэрчыны», як казаў Генка, падарункі. Нам здалося, што яны сапраўды маюць нейкую цудадзейную сілу: мы хутка сагрэліся пад коўдрай і шынялямі і заснулі ў сваёй нары.

Раніцой прачнуліся, пацягнуліся: уставаць не хацелася.

— Пацяплела ў нашай нары,— прашаптаў Генка.

Ён выглянуў з зямлянкі і ахнуў ад здзіўленя — выпаў снег! Наша елачка, што маскіравала ход у нару, стала падобна на маскарадную — уся ў зіхатлівых зорачках-сняжынках.

І ўсё ж не радасць, а трывогу прынёс нам гэты маскарадны падарунак матухны-зімы: цяпер і па ваду не сходзіш да раўчука — адразу выдадуць сляды, пакінутыя на снежнай цаліне.

— Ён хутка растане. Першы снег ніколі доўга не трымаецца,— суцешыў я Генку.



У той жа дзень у мяне выспеў новы план. Я доўга не гаварыў пра яго Гену, абдумваў варыянты. Ён цалкам залежаў ад таго, прыйдуць ці не да нас Аляксей Лазавы і Іван Громаў.

## НЕ З КОЖНЫМ ХОДЗЯЦЬ У РАЗВЕДКУ

Шчыра кажучы, недзе пад сэрцам жыла трывога, што мы абодва можам загінуць, не дачакаўшыся сваіх. І звесткі, сабраныя з такімі цяжкасцямі, дарэмна прападуць. Ад іх жа мог залежаць і поспех наступлення нашых, і жыцці многіх савецкіх воінаў, якім трэба будзе штурмаваць прускія бастыёны. Склалася такая сітуацыя, пры якой нам прасцей было здабываць звесткі, чым перадаваць іх. Вось я і падумаў: калі да нас далучацца Громаў і Лазавы, аднаго з іх пашлю з Генкам за лінію фронту, для сувязі. Урэшце, трэба будзе з імі паслаць і карту, перададзеную нам нямецкім маёрам, блакнот і іншыя паперы. Калі ж ім не ўдасца прабрацца да сваіх, то копіі ўсіх здабытых матэрыялаў застануцца тут, у нас.

Я падзяліўся гэтымі думкамі з Генкам. Ён моўчкі выслухаў мяне, і цішыня непрыемнай мяжой лягла паміж намі.

— Пойдзеш? — нарэшце парушыў я гэту мяжу.

— Калі загадаеш... Добраахвотна не пайду,— адказаў Генка, і ў голасе яго адчувалася крыўда.— Калі ісці, то ўдваіх з табой. І як мага хутчэй.

К вечару сышоў снег. Мы праверылі перш-наперш «паштовыя скрынкі». Цяпер іх было ўжо тры, калі не лічыць тую, што засталася за каналам Тымбер, на былой галоўнай базе «Джэка». Усе яны былі пустыя. Чаму ж маўчаць Аляксей з Іванам?

— Мо іх ужо вывезлі? — выказаў меркаванне Гена.

— Магло быць і так. Пачакаем,— адказаў я, стараючыся не траціць надзеі.

Громаў і Лазавы з'явіліся нечакана. Было яшчэ відно. Спачатку мы пачулі іх галасы над самай сваёй зямлянкай. Адышоўшыся, яны з усёй сілы стукнулі па сасне тры разы так, што рэха пакацілася па лесе. Мы выглянулі са сваёй нары: яны стаялі без усякай асцярогі. Скарыстаўшы момант, калі яны стаялі да нас спіной, мы непрыкметна вылезлі і паклікалі іх. Хлопцы аж здрыгануліся ад нечаканасці.

— Цьфу ты! Аж спужаўся! — махнуў рукой Громаў.— Усё роўна як з-пад зямлі выскачылі.

— Так і ёсць — з-пад зямлі. Хваста ніякага за сабой не прыцягнулі?

— Ды не. Не павінны...

— Значыць, застаецеся з намі?

Нам хацелася неяк урачыста адзначыць вяртанне Аляксея і Івана з палону ў рады Савецкай Арміі. Я звярнуўся да іх прыкладна з такімі словамі.

— Вы прынялі прысягу верна служыць Радзіме. Ніхто не знімаў з вас гэтага свяшчэннага абавязку. Пасля ганебнага палону вы зноў уступілі ў рады Чырвонай Арміі і будзеце працягваць нялёгкую і вельмі адказную службу ў дэсантнай разведгрупе.

Генка падаў Аляксею аўтамат, тры гранаты, патроны.

— Віншую з вяртаннем у рады Чырвонай Арміі,— паціскаючы руку, сказаў Генка.

— Маладзец, спраўна гаворыш,— пахваліў яго Лазавы.
— Трэба адказваць: «Служу Савецкаму Саюзу!» — паправіў яго Генка.
Громаў паставіўся да ўсяго больш сур'ёзна.
Усю ноч паглыблялі зямлянку, умацоўвалі сцены і столь бярвеннямі са штабялёў. Раніцой пасяліліся ў ёй учацвярых.
— Хлопцаў у лагеры не пакараюць за вашы ўцёкі? — спытаў я.
— Не. Ахову замянілі. Групу нашу распусцілі: лес ужо не валяць. Майстра Шыллята ўзялі ў армію. А другі — Райчук — захварэў. Немцы сталі быццам не тыя — памякчэлі. Кажуць, нават ёсць новы загад наконт перамены адносін да палонных,— тлумачыў Лазавы.
Увесь дзень Аляксей не змаўкаў. Усё расказваў пра жыццё ў Таганрозе, пра Пятрушынскую касу, пра сваіх братоў-рыбакоў.
Перад тым, як пасляць двух чалавек за лінію фронту, я рашыў, што трэба разведаць яшчэ хутар Шмаленберг. Што там за такая шпіёнская школа? У гэтай жа аперацыі заадно праверым і баявыя здольнасці Аляксея і Івана.
Дні праз тры пасля папаўнення групы рашылі перанесці радыёстанцыю ў зямлянку — яна была схавана кіламетраў за пяць ад нашай стаянкі.
— Пойдзеце ўтраіх,— загадаў я.— Старшым назначаю Юшкевіча.
Выйшлі вечарам. Я правёў іх і вярнуўся да зямлянкі, бо ў любы час мог прыйсці Райчук.
Яны павінны былі вярнуцца гадзіны праз тры. Час ішоў, а іх усё не было. Я пачаў ужо непакоіцца, ці не здарылася чаго ў дарозе. Тым больш, што ў тым баку чуваць былі стрэлы, хоць на стрэлы мы прывыклі ўжо не надта звяртаць увагу — так часта і ў любы час сутак чуліся яны з усіх бакоў.
Вярнуўся Генка з Аляксеем толькі пад раніцу. У руках і за плячыма ў іх нічога не было.
— А дзе ж радыёстанцыя?—спытаў я.— Дзе Іван? Куды дзеўся?
— Не ведаем,— развёў рукамі Аляксей,— ці жывы ён...
Генка расказаў, што яны на прасецы нечакана напароліся на паласаты шлагбаум. Справа ад яго была будка вартавога. Раней на гэтай прасецы, я і сам гэта добра ведаў, нічога не было. Вартавы падаў каманду: «Хальт! Пароль?» І тут пачуўся вінтовачны стрэл, за ім другі. Генка і Лазавы кінуліся ўлева, а Громаў — управа. Генка залёг і даў чаргу па вартавому. Некалькі разоў аклікалі Громава, але адказу не было. Прыйшлося паспешна адыходзіць. Што здарылася з Громавым, даведацца не ўдалося. Але наўрад ці трапіла ў яго куля, бо пасля другога стрэлу Генка бачыў яшчэ, як ён кінуўся наўцёкі. Калі Генка кончыў расказваць, Аляксей сказаў:
— Так і загінуць можна...
— А ты як думаў? — са злосцю адказаў Гена.— На вайне такое здараецца.
Словы Аляксея разанулі і мне слых, але я прамаўчаў і не надаў ім значэння. Быў жа чалавек пад уражаннем нечаканай і першай для яго ў такіх умовах сутычкі, страты сябра.
Не прыйшоў Громаў і ўдзень. Не дачакаліся мы яго і ў наступныя суткі. Я напісаў запіску Райчуку з просьбай паведаміць нам пра лёс Івана Громава, калі яму аб гэтым стане вядома. Аднесці карэспандэнцыю ў паштовую скрынку «партайгеносэ» я выправіў Генку.
Застаўшыся з Лазавым удвух, мы доўга абмяркоўвалі план захопу «языка» з хутара Шмаленберг, у якім была шпіёнская школа. Мне не зусім спадабалася, што Аляксей занадта ўжо выхваляўся сваёй сілай і запэўніваў, што нават адзін мог бы захапіць і скруціць любога «языка». Я ведаў, як нялёгка аднаму захапіць «языка», нават калі той значна слабейшы.



Я спытаў, ці ёсць яшчэ ў лагеры ваеннапалонных надзейныя людзі, якіх можна было б узяць у нашу групу.
— Ёсць у лагеры чалавек па прозвішчу Цялегін. Быццам нічога, хлопец — свой.
Прыйшоў Генка — навін ніякіх.
Мы выбралі хмурны, ціхі вечар і ўзялі кірунак да хутара Шмаленберг. Нячутна зайшлі праз адчыненую брамку на двор. На двары было многа грузавых аўтамашын. Мы схаваліся за крайнімі, каб агледзецца. Грукаючы ботамі, па бруку хадзіў вартавы. У доме было шумна, нязладжаныя мужчынскія галасы гарлапанілі песні. Аканіцы былі зачынены, праз шчыліны прабівалася палосамі святло. Вартавы наблізіўся да нас. Я падумаў, што якраз зручны момант: як толькі ён параўнаецца з намі, мы яго схопім і павалачом праз адчыненую брамку ў лес. Нават калі крыкнуць паспее, то наўрад ці яго пачуюць тыя, што весяляцца ў доме за зачыненымі аканіцамі. Я паклаў руку на плячо Аляксею, даючы знак падрыхтавацца. У гэты момант ён неяк няўклюдна павярнуўся і бразнуў аўтаматам аб машыну. Імгненна прагучаў стрэл, другі. Але гэта не вартавы. Толькі паспеў ён ускінуць аўтамат, як мы з Генкам абодва секанулі па ім кароткімі чэргамі, і ён бразнуўся вобземлю. Мы праціснуліся ў брамку і кінуліся праз поле да лесу. Ужо дабеглі да ўмоўленага месца збору на ўзлессі, як над хутарам адна за адной узвіліся ракеты, паднялася страляніна і гоман. Аляксея не было.
— Я ж добра бачыў, як ён пераскочыў цераз плот,— сцвярджаў Генка.
Я маўчаў. Павінен жа ён прыйсці. Не сюды, дык у зямлянку. Доўга чакаць нам тут не выпадала. Мы паспяшаліся да зямлянкі. Аляксея і тут не было. Я вымушаны быў прызнацца сабе, што спроба стварыць групу з палонных не ўдалася. Не дарэмна ёсць такая прыказка, што не з кожным пойдзеш у разведку.
— Людзі такія трапіліся нам,— разважліва, як стары, сказаў Генка.— Аляксей проста спужаўся.
На душы было неспакойна, цяжка. Думкі, адна чарнейшая за другую, не ішлі з галавы. Трэба прыняць нейкія захады на выпадак, калі Аляксей ці Іван, ратуючы сваю скуру, паспрабуюць нас выдаць. Мы не думалі, што яны прыйшлі да нас з дрэнным намерам. Проста нялёгкая ноша разведчыка аказалася ім не па плячы. Цяпер я міжволі глядзеў на Генку і яшчэ больш любіў, цаніў яго і нават недзе ў глыбіні душы ганарыўся ім. Шчуплы падлетак аказаўся куды мацнейшы за Громава і за такога асілка з выгляду, як Лазавы. Калі хоць адзін з іх трапіць у лапы да немцаў, дзе гарантыя, што ў іх не выб'юць прызнання? Трэба было пакідаць сховішча і зноў пускацца ў вандроўку. Але ж пара не тая...
— Вяртаючыся пасля таго, як прапаў Громаў,— стаў прыпамінаць Гена,— Аляксей сказаў мне: «Калі Івана не забілі, то ён можа схаваць аўтамат у лесе і вярнуцца ў лагер. Яму за гэта нічога не будзе. Скажа, што хацеў уцячы, ды адумаўся. Хіба што могуць пасадзіць у карцар на двое ці трое сутак».
— Чаго ж ты, Гена, раней пра гэта не сказаў?
— А так... Не надаў гэтым яго словам значэння.

Мы рашылі перасяліцца ў квартал нумар 252, туды, дзе «партайгеносэ» раіў абсталяваць сховішча. Зноў перад намі быў канал Тымбер. І на гэты раз давялося распранацца і лезці ў яшчэ больш халодную ваду. Я цяпер дзіву даюся, як мы трывалі, нават ніколі не прастуджваліся: ці гэта ўжо так нягоды загартавалі нас, ці незвычайнае нервовае напружанне ратавала ад усіх хвароб?

На світанні выпаў туман, падмарозіла. Гэта лепш у тым сэнсе, што сабакам цяжэй узяць наш след.

Ісці было слізка, але горш за ўсё было тое, што лёдавая скарынка хрусцела пад нагамі і нашы крокі былі далёка чуваць. Ужо развіднела, калі мы перайшлі шашу і апынуліся ў 252 квартале. Высокі лес з густым падлескам абяцаў добрае схованішча. Мы адшукалі яміну, зарослую хмызам, і заляглі ў ёй. Хоць мы ўзялі з сабой усё, што было ў зямлянцы, у тым ліку і коўдру, што прыслала «мутэр», але ж не рызыкнулі распакоўвацца, нават рэчавых мяшкоў не знялі з сябе. Так і пераднявалі, дрыжучы ад холаду.

Цяпер пакінутая зямлянка здавалася нам такім абжытым, утульным кутком, аб якім можна было толькі марыць. Вяртацца ў яе мы не рызыкавалі, ды і непрыемны асадак застаўся ад няўдалай спробы аднавіць разведгрупу. У той жа час быццам і не было важных падстаў абвінавачваць Аляксея з Іванам — прапалі без вестак у час сутычкі з ворагам. Нам жа, урэшце, невядома, што здарылася з імі...

Двое сутак мы капалі новую зямлянку ў двухметровым абрыве. Столь умацавалі нятоўстымі круглякамі. Уваход замаскіравалі купчастымі елачкамі, якія не зразалі, а перасадзілі, каб не асыпалася ігліца. На ноч знутры ўваход завешвалі плашч-палаткай. Цяпер мы зноў засталіся зусім адны, адарваныя ад навакольнага свету. Як толькі зямлянку больш-менш абсталявалі, адразу ж перанеслі радыёстанцыю. Настройвалі прыёмнік на розныя хвалі: слухалі Маскву, Берлін, Лондан... На нашым напрамку ішлі баі мясцовага значэння. Пра гэта гаварылі зводкі Саўінфармбюро і іншыя радыёстанцыі. Усё-такі мы не гублялі надзеі, што наступленне хутка пачнецца, што ўсталявалася часовае зацішша перад бурай. Нямецкія радыёстанцыі на ўсе лады крычалі пра баявы дух сваіх суайчыннікаў, заклікалі непарушна стаяць на абароне трэцяга райха.

З перасяленнем у квартал 252 нам стала цяжэй наведваць паштовую скрынку «партайгеносэ». Яна засталася за каналам Тымбер, а пераплываць яго ўжо было нельга — каля берагоў вада ўзялася лёдам. Заставаўся толькі абходны шлях. Але ж трэба было ісці толькі ў адзін канец кіламетраў дваццаць, ды яшчэ пераходзіць чыгунку Кенігсберг — Цільзіт і некалькі шасеек і ручаёў. І ўсё ж такі трэба было ісці туды, каб паведаміць Райчуку новае месца стаянкі.

Дзве ночы прабіраліся мы туды. Праверылі паштовыя скрынкі «джэкаўцаў» і «партайгеносэ». Рашыліся заглянуць нават пад купіну, дзе пакідалі нам звесткі і бутэрброды Громаў і Лазавы. Усюды было пуста.

Мы пакінулі запіскі сваім, калі аб'явяцца, і Райчуку.

Вярнуліся і пачалі чакаць. З ежы ў нас засталіся толькі сухары. Але і яны былі на зыходзе, таму наш паёк, мусіць, быў бядне йшы за турэмны. Эканоміць прыходзілася і ваду, бо блізка такой, якую можна піць, не было. У другой палавіне снежня лёг снег. Цяпер ужо надоўга — да вясны. Мы абодва разумелі гэта, і першы наш клопат быў аб тым — як здабываць харч. Тыя сродкі, якімі мы карысталіся летам, зімой былі непрыдатныя. Радыё слухаць не хацелася: эфір запаланіла Германія. Гітлераўцы на ўвесь свет трубілі пра разгром войск саюзнікаў у Ардэнах, прыводзілі лічбы захопленых у палон салдат і тэхнікі арміі Эйзенхаўэра.



— Даюць прыкурыць нашым саюзнікам,— крыва ўсміхнуўся Генка.

«Трымаецца хлапец, духам не падае» — падумаў я з удзячнасцю да свайго сябра.

— Эх, Гена, быў бы ты недзе ўжо кінамеханікам, круціў бы фільмы ў сельскіх клубах... Калгасніцы кармілі б цябе бульбай з капустай і на печы спаць клалі,— кажу яму.

— Ды ну цябе! Хопіць,— агрызнуўся ён.

Даседзецца да апошняга сухара ў зямлянцы — мы такое дапусціць не маглі. Па адным сухары схавалі ў кішэні — «НЗ». А тыя, што засталіся, з'елі да апошняй крошкі і вылезлі з зямлянкі. Каб ведаць, калі пойдзе снег... А яшчэ лепш, калі б разгулялася завіруха... Тады пайшлі б на які хутар. Але ўжо каторы дзень стаіць ціхае надвор'е. Я падумаў, што трэба напрасткі выйсці на выбітую дарогу і ісці да самай вёскі і назад — тым жа шляхам, каб не пакінуць слядоў.

## ЗНОЎ ШЫЛЛЯТ

— Чуеш? — раптам спыніўся Генка.

Нехта хадзіў непадалёк ад нас, пастукваючы палкай па камлях. Мы схаваліся за дрэвы, сталі ўглядацца. Зімовая ноч была ясная— відаць далёка.

Вось да слыху данеслася ўжо і рыпенне снегу.

— Геносэ! — пачуўся нягучны знаёмы голас.

Мы пераглянуліся і, не могучы стрымаць сябе, кінуліся насустрач Шылляту. Ад радасці спляліся ўсе ў адзін клубок і пакаціліся па снезе.

— Я быў пад Гільге, на заліве,— стаў расказваць «партайгеносэ».— Мы там прабівалі палонкі ўздоўж узбярэжжа, каб па лёдзе рускія не выйшлі ў тыл нямецкім войскам. Нічога не скажаш, дурны занятак! Я збег адтуль. Уся наша каманда, згаварыўшыся, разбеглася. Дэзерціры. Дарагія таварышы, я там думаў пра вас! Цяпер, калі ляжыць снег, вам тут адным не выжыць. Хадзем да мяне. Мая «мутэр» дазваляе. Будзеце жыць на вышках у хляве.

— А не рызыкоўна так рабіць? — не хаваючы радасці і баючыся, як бы «партайгеносэ» не перадумаў, сказаў я.

— Вайной рызыкоўна ўсё, што ты ні робіш. Нават калі нічога не робіш,— спакойна адказаў Шыллят.— Я знайшоў запіску, якую вы пакінулі Райчуку. Быў у яго. Дамовіліся, што ён пойдзе ў лес і доўга не будзе вяртацца. Вось я і прыйшоў сюды, шукаючы яго: мала што можа здарыцца з хворым чалавекам.

— Зразумела. Дзякуем. Гэтага мы ніколі не забудзем.

— Забірайце, што вам трэба, і хадзем. Пойдзем дарогай. Я пайду ўперад. Калі што, дам сігнал — тры разы кашляну.

Генка падаў з зямлянкі коўдру, радыёстанцыю.

— Што такое? — пацікавіўся «партайгеносэ».

— Радыёперадатчык.

— Ого! Але з дому перадаваць нельга — адразу запеленгуюць...
— На жаль, перадаваць не можам.
Ішлі па ўкачанай машынамі дарозе. Потым па сцежцы цераз поле, загуменнямі — да самага хутара. Дарэчы, усе вёскі там складаліся з хутароў, акружаных палеткамі. Каля стажка сена на двары Шыллят даў знак спыніцца, а сам пайшоў у абход да дому.
— Гальт! — пачулася з таго боку, куды пайшоў гаспадар.
— Гальт шнаўцэн! — данёсся ў адказ голас Шыллята. Па-руску гэта азначала: «Заткні сваё свіное рыла».
— Гэта ты, Шыллят? — зноў спытаў першы голас.
— Так.
Было чутно, як адчыніліся і зачыніліся дзверы. Да нас падышоў гаспадар. Ён махнуў рукой — за мной. Увайшлі ў хлеў, і ён зачыніў вароты. Вобмацкам, трымаючыся адзін за аднаго, мы падышлі да драбін.
— Лезьце наверх. Там салома. Толькі ціха. У хаце два салдаты. Адзін якраз выходзіў на двор. Я хутка прыйду.
Стараючыся не шамацець, мы ляглі на духмяную, мяккую салому. Яшчэ нічога не паспелі зняць з сябе, як прыйшоў «партайгеносэ».
— Гэта вам прыслала «мутэр»,— як заўсёды ў такіх выпадках, сказаў ён адну і тую ж фразу.— Ешце. Салдаты ўжо ляглі спаць. Пайду і я. Спакойнай ночы.
Раніцой разам са сняданнем гаспадар прынёс нам і свежыя газеты. Пад рэляцыямі аб пераможных контрударах у Ардэнах змешчаны фота — доўгія калоны палонных амерыканцаў.
— Даюць прыкурыць амерыканцам,— паўтараў я Шылляту словы Генкі, паказваючы на фотаздымкі.
— Агонія...— адказаў ён адным словам.
Абед прынесла сама «мутэр». Мы не стрымалі ўдзячных пачуццяў да яе — пацалавалі працавітую, шурпатую руку. На вачах гэтай мажнай жанчыны выступілі слёзы. Яна гаварыла, успамінаючы Ота.
— Мой мілы сын... Мой мілы сын...— паўтарала яна.— Вы думаеце, што ваша пісьмо яму паможа, калі ён пяройдзе да рускіх? Яны яго пакінуць жывым?
— Ды што вы! Нават думкі дрэнныя выкіньце з галавы,—суцяшалі мы.
— Нашы газеты пішуць, што рускія выразалі ўсіх немцаў у горадзе Неменедорф.
— Гэта выдумкі вашага гаўляйтара Эрыха Коха,— запэўнялі мы «мутэр»,— не трэба верыць фашысцкай прапагандзе. Пакараны будуць толькі злачынцы.
— І я так думаю. Не ўсе ж немцы хацелі вайны,— крыху суцешылася «мутэр».— Нацысты хочуць запужаць народ рускімі, Сібірам. Што ім застаецца рабіць — яны стараюцца пераламыць свае грахі на ўвесь нямецкі народ.
— У нас няма мэты знішчыць Германію. Аб гэтым сказана ўсяму свету.
— Салдаты прыходзяць толькі вечарам, так што адчувайце сябе спакойна,— сказала, адыходзячы, «мутэр».
Вечарам Шыллят прынёс дзве пары бялізны і шкарпэткі.
— Пераапраніцеся. Усё сваё пакладзіце ў гэты кош — трэба пракіпяціць і вымыць. Знішчыць паразітаў. Не саромейцеся. Заўтра я



прыйду з нажніцамі і машынкай — падстрыгу вас. Абраслі, як мядзведзі...— Спачувальна ўсміхнуўся «партайгеносэ».
— Мы самі пастрыжом адзін аднаго,— адказаў Генка.
За два дні да Новага года да нас залез на вышкі ўзрадаваны гаспадар.
— Геносэ! — усклікнуў ён.— Салдаты ад нас паехалі. Засталіся ў доме толькі я і «мутэр». Давайце разам сустрэнем Новы год. Райчук прыйдзе.
Перад надыходам новага, 1945 года мы сабраліся за сталом. «Мутэр» прыгатавала святочны стол, спякла пірагі, падсмажыла свініну. Аўгуст прынёс са склепа настойку. Прыйшоў Райчук. Паміж намі быў поўны давер. Не было толькі ўрачыстасці, святочнага настрою. Кожны быў заклапочаны нечым сваім. «Мутэр» усё ўспамінала Ота, якога паслалі на фронт. З дарогі ён прыслаў пісьмо. Ніхто з нас не ведаў, што кожнаму прынясе заўтрашні дзень. Адно толькі было ўсім ясна — новы год прынясе канец вайне.
Стрэлкі на насценным гадзінніку паказвалі, што да Новага года засталося пяць мінут.
Мы паднялі напоўненыя вішнёўкай чаркі.
— За перамогу Чырвонай Арміі! — сказаў Шыллят.
Усе чокнуліся. За сталом вялі зусім не святочную размову. Райчук бедаваў, не ведаючы, што рабіць, калі загадаюць эвакуіравацца. Будаваць у лесе зямлянку неяк усё не даходзілі рукі.
— Мы з «мутэр» рашылі нікуды адсюль не ісці,— цвёрда гаварыў Шыллят.
Дні праз тры да Шыллята прыбегла адна з дачок Райчука. Яна паведаміла, што паліцыя ў некаторых дамах робіць вобыскі: шукае рускіх палонных, якія ўцяклі, калі іх перавозілі ўглыб Германіі.
Шыллята гэта ўстрывожыла. Можна было спадзявацца, што і яго дом не абмінуць. Ён запрог каня ў драбіны, уцягнуў драбіны ў хлеў. Мы з Генкам ляглі на дно, зверху Шыллят накідаў саломы. Так мы і выехалі ў лес. Ад'ехаўшы ў бязлюднае месца, Шыллят даў нам знак вылазіць.
— Як толькі трывога ўляжацца, прыйду па вас у квартал 252,— сказаў ён.
— Можа нам самім паспрабаваць прабрацца за фронт? — падзяліўся я думкай з «партайгеносэ».
— Ні ў якім разе не трэба гэтага рабіць. Салдат усюды поўна. Лепш перачакаць тут, пакуль фронт пракоціцца.
Мы сталі паглыбляцца ў лес. Спачатку ішлі па цаліне, а потым усё часцей і часцей нам траплялiся сляды дзікіх кабаноў, касуль, ласёў. За прасекай на снезе відаць былі чалавечыя сляды. Яны цягнуліся паралельным ланцужком.
— Прачэсвалі,— заўважыў Генка.
Я прыгнуўся паглядзець, ці свежыя сляды.
— Зацвярдзелі. Старыя,— кажу.— Мо к лепшаму, што была прачэска. Цяпер тут і нашы сляды згубяцца сярод іншых.
Вечарам дайшлі да зямлянкі. Дзьмуў калючы паўночны вецер. Вершаліны сосен хісталіся і гудзелі. Калі забрацца ў зямлянку — значыць, сляды абарвуцца тут. Хацелася спадзявацца, што пойдзе снег і засыпле іх. У неабжытай зямлянцы было холадна. Тры дні прасядзелі, падмацоўваючыся хлебам і салам, якое пакінуў нам клапатлівы гаспадар. Куды горш было з вадой. За ёй мы не выходзілі, а снежная не магла замяніць калодзежную ці крынічную.
На чацвёрты дзень прыйшоў «партайгеносэ».

— Хопіць мерзнуць. Пойдзем да мяне,— сказаў ён.— Я вам прыгатаваў такое патаемнае месцейка, што ні адзін паліцай не пранюхае.

— У вас рабілі вобыск? — пацікавіўся я.

— Не,— бадзёра адказаў Шыллят.— Мой дом даў Гітлеру эсэсаўца Ота. Выходзіць, што цяпер гэта надзейны дом.

Шыллят сапраўды прыгатаваў добрую схованку. Яна была на вышках хлява пад трохметровым пластам саломы. Непрыкметны ўваход у яе быў зроблены над конскімі яслямі. З хлява быў прароблены ход у гумно, а адтуль можна было вырвацца ў поле і лес.

У тайніку мы пражылі яшчэ некалькі дзён. Гаспадар прыносіў ежу і заўсёды гаварыў: «Гэта вам прыслала «мутэр». Нарэшце нам давялося сяды-тады перахапіць і гарачага, бо сухамяціна далася ў знакі.

Доўгачаканы дзень настаў 13 студзеня. Мы спусціліся ў хлеў і адчулі, як пад нагамі дрыжала і гула зямля.

Узбуджаны, прыбег да нас Шыллят, за ім «мутэр».

— Пачалося! — усклікнуў гаспадар.

— Хутчэй бы ўсё гэта пранеслася,— зашаптала «мутэр».—Божа, беражы майго Ота...

Артылерыйская кананада не сціхала гадзіны дзве. Калі ўсталявалася цішыня, мы ўзлезлі на вышкі і пачалі наглядаць праз шчыліны за шашой. К вечару шаша ажыла. Суцэльным патокам пацягнуліся за захад высокія ваенныя фуры. Ішлі і ехалі на веласіпедах бежанцы. Гэты паток не спыняўся цэлы тыдзень.

18 студзеня ў дом Шыллята зайшоў салдат. Гэта быў яго надзейны «геносэ», так ён сам сказаў. Рота, у якой служыў гэты салдат, атрымала загад адступіць за раку Дайме. Шыллят прывёў салдата да нас у хлеў.

— Гэта парашутысты. Разведчыкі Чырвонай Арміі,— сказаў яму гаспадар.— Заставайся разам з намі — перачакаеш дзень-два.— І ўжо да нас: — Гумбінен і Інстэрбург ужо нашы.

Салдат, гадоў пад пяцьдзесят, у маскіровачным касцюме, прыставіў вінтоўку да сцяны, выняў пачак цыгарэт. Даўно не брыты, са стомленымі вачыма, ён агледзеўся, шукаючы, дзе можна было б прысесці.

— Можна было б застацца і ў цябе, Аўгуст,— нарэшце загаварыў ён.— Але я пайду за Дайме. Там жа — дом, сям'я... Паспрабую застацца там.

— Ты можаш што-небудзь сказаць разведчыкам? — спытаў гаспадар.

— Што сказаць? Армія нясе вялікія страты. У нашай роце ўцалела менш чым палавіна салдат. У артылерыстаў не хапае снарадаў, у танкістаў — гаручага. Армія пераможана, але яшчэ супраціўляецца.

— Вы можаце назваць нам сваю армію? — звярнуўся я да салдата.

— Хоць я лічу, што немцы прайгралі вайну, але гаварыць не хочацца,— салдат паглядзеў на нас з-пад ілба, патушыў цыгарэту.

Усталявалася няёмкае маўчанне.

— Што ж, цябе можна зразумець, Фрыц,— толькі цяпер назваў яго па імю Шыллят.— На гэтым ніхто не будзе настойваць.

— Адступае 26-ы армейскі корпус,— нечакана адказаў Фрыц.— Калі для вас гэта важна...

— Ён разбіты?



— Не ведаю. Ідуць цяжкія баі. Іх вядзе 3-яя танкавая армія.— Фрыц даў зразумець, што ён сказаў усё, што мог.

— Табе лепш застацца тут,— настойваў Шыллят.

— Я хачу хутчэй да сям'і.— Ён кіўнуў на развітанне і пайшоў да шашы, па якой ішлі адступаючыя гітлераўскія ваякі.

— Не варта так рызыкаваць,— кажу Шылляту, калі салдат пайшоў.

— Не хвалюйцеся. Ён сумленны немец. Я яму веру. Бачыце, як перажывае чалавек за сям'ю.

19 студзеня Гітлер выдаў загад аб знішчэнні ваенных, прамысловых і гаспадарчых аб'ектаў, сродкаў транспарту і іншых каштоўнасцей на тэрыторыі Усходняй Прусіі. Загадана было эвакуіравацца і Шыллятам. У гэтай мітусні ўжо ніхто не звяртаў увагі, што ён дэзерціраваў з фольксштурма.

— Нікуды я не паеду,— гаварыў ён нам.— Нацысты загадваюць абараняць кожны дом. Вось я, як фольксштурміст, і буду абараняць свой дом,— казаў ён не без іроніі, паказваючы на свой мундзір фольксштурміста.

20 студзеня фронт ужо быў каля вёскі Міншэнвальдэ. Чуваць была кулямётная стральба. «Мутэр» з нецярпеннем чакала, што вось-вось можа з'явіцца яе Ота. Вечарам 21 студзеня па шашы гітлераўцы адцягнулі ў лес артылерыйскі дывізіён. Прайшло дзесяць танкаў, пафарбаваных у белы колер. Следам хлынула пяхота. Сапёры ўзарвалі невялічкія масты, якія нам былі відаць.

Настала зацішша. Раптам цішыню парушыў адзіночны артылерыйскі стрэл.

— Я ведаю, дзе спынілася артылерыя,— сказаў «партайгеносэ», разам з намі назіраючы з вышак.— Магу паказаць на карце. Там ёсць невялічкая паляна.

Надыходзіла трывожная ноч.

— Пяройдзем у хату,— прапанаваў гаспадар.— Цяпер мы ўжо на нейтральнай паласе.

Мы таксама лічылі, што цяпер з усходу могуць паказацца толькі свае, і пакінулі сховішча.

Адна за другой уяўляліся карціны сустрэчы са сваімі. Пайшлі 175-я суткі з таго часу, як група «Джэк» прызямлілася ва Усходняй Прусіі. Мы радаваліся і хваляваліся. Было з чым сустрэць сваіх. Ноччу мы ўбачылі праз акно, як загарэлася некалькі хутароў. Полымя асвятляла снегавую раўніну. Спачатку чуць прыкметна, а затым усё больш акрэслена відаць былі постаці людзей, асветленыя пажарам. Салдаты ішлі, расцягнуўшыся ланцугом.

Затаіўшы дыханне, мы чакалі сваіх. Сваімі — нашых звалі і гаспадары. Вось ужо зусім блізка з вінтоўкамі і аўтаматамі ў руках, з ручнымі кулямётамі на плячах на фоне неба сталі відны сілуэты людзей. Нас раздзяляе метраў якіх дваццаць. Засталося пералезці лінію акопаў, што праходзіць побач з домам. Мы гатовы былі выскачыць насустрач. Але што гэта? Адзін салдат спыніўся і падняў руку:

— Займай акопы! — гаркнуў ён па-нямецку.

Гэта былі немцы.

— За мной...— шапнуў Шыллят.

Мы выскачылі ў сенцы і залезлі па драбінах на гарышча.

У гэты момант пачуўся грукат у дзверы.

— Зараз адчыню,— азваўся Шыллят.

— Хто такія? — аклікнулі з двара. Шчоўкнулі затворы.

— Фольксштурман. Фольксштурміст,— адчыняючы дзверы, адказаў гаспадар. Ён паспеў ускінуць на сябе мундзір.

— Чаму не эвакуіраваліся? Бальшавікоў чакаеце?—злосна, ахрыплым голасам закрычалі на яго.— Здраднік! Расстраляць!

— Мне загадалі быць дома да асобага распараджэння.

— Каб праз мінуту і духу твайго тут не было!

Шыллят вывеў свайго варанога каня,«мутэр» паспешліва ўскінула сёе-тое на воз, і драбіны заскрыпелі, аддаляючыся.

У напружаным чаканні прайшла ноч. Раніцай пачала біць наша артылерыя. Пачуўся гул матораў. Застукалі кулямёты. Немцы з акопаў і з дому адкрылі агонь. Побач ірваліся снарады. Усё часцей шчоўкалі кулі па чарапічным даху. Нам пагражала небяспека— загінуць ад сваіх. Лепш было б спусціцца ў хлеў, каб схавацца за каменнымі сценамі. Але больш за ўсё мы баяліся пажару: тады ўжо і нам не ўцалець, і звесткі разведвальныя загінуць без карысці.

Бой разгараўся. Мы злезлі ўніз і больш-менш замаскіраваліся.

Гадзін каля дзесяці раніцы немцы перасталі страляць, пачуліся крыкі, тупат. Тут жа прагучала рускае «ўра!» Мы падышлі да варот. На двары зноў пачуўся тупат і зусім блізка голас:

— Развярні станкач! Куды глядзіш! Бачыш, вунь там перабягаюць!

Мы штурхнулі вароты і выйшлі з хлява.

Была сонечная раніца 22 студзеня 1945 года.

Прарваўшы абарону праціўніка на рацэ Дайме, войскі 39-й арміі павялі наступленне на Земландскі паўвостраў. На поўдзень ад Кенігсберга, трушчачы Хейльсбергскія ўмацаванні, ірваліся да Балтыкі іншыя злучэнні Савецкай Арміі. Абарона Усходняй групоўкі войск была прарвана. Гітлераўцы люта супраціўляліся. Савецкія воіны адваёўвалі адну пазіцыю за другой. Мы з Генам знаходзіліся пры штабе 39-й арміі да таго часу, пакуль нашы войскі не занялі тыя раёны, у якіх нам давялося весці разведку.

На суткі мы адпрасіліся з'ездзіць да Шыллята. Ён са сваёй «мутэр» былі дома. Сустрэліся мы і з Райчуком. Не было толькі Ота. «Мутэр» не траціла надзеі, што ён вернецца.

У горадзе Каунасе, куды мяне паслалі на адпачынак перад новым заданнем, я сустрэўся з маёрам Шапавалавым — непасрэдным кіраўніком нашай разведкі з «Цэнтра». Ад яго даведаўся, што па дарозе ў паўночныя раёны Польшчы загінулі Іван Мельнікаў, Зіна Бардышава, прапаў без весткі Іван Аўчароў. Вярнуўся адтуль толькі Іван Цэлікаў.

Не ведаў тады яшчэ маёр Шапавалаў падрабязнасцей пра тое, як загінула Аня Марозава. Пра яе апошнія дні жыцця расказаў праз многа год польскі пісьменнік Януш Пшыманоўскі. Радыстцы групы «Джэк» Марозавай Анне Апанасаўне пасмяротна прысвоена званне Героя Савецкага Саюза. Яна ўзнагароджана і польскім ордэнам «Крыж Грунвальда».

За выкананне задання мяне і Гену Юшкевіча ўзнагародзілі ордэнамі.

Пераклад з рускай мовы

Міколы ЦІМОШАКА.

# ПАЭЗІЯ

● *Я пісьмы чытаю*

●●



**Валянціна ХАМЧУК**



●

Я пісьмы чытаю. Я пісьмы чытаю
З далёкіх і блізкіх блакітных шырот.
Лісты ад сяброў з нецярпеннем чакаю,
Вылічваю ў думках: ну, чый жа чарод?

Я ведаю ўсё аб іх марах, трывогах,
Аб радасных вехах дасягнутых мэт.
Чытаю радкі — бы іду па дарогах
За лёсам чыімсьці ў нязведаны свет.

Ідуць ка мне пісьмы і ўвечар і ўранні
У вагонах зялёных даўгіх паяздоў...
Вязуць прывітанні, пытанні, прызнанні
Ад добрых знаёмых і даўніх сяброў.

Вы ўчора пісалі, а я ўжо не тая.
Чакайце, у новым абліччы прыйду...
Я пісьмы чытаю, я пісьмы чытаю.
Праз час і адлегласць размову вяду.

●●

Па вясне ў ваду
          мурзатымі жменькамі
Хлапчукі
          шпурляюць каменьчыкі.
Так і мае гады сплываюць ў глыбіню.
А на паверхні — кругі:
адзін,
     другі...
Здаецца,
          ўскалыхваюць берагі.
Дзе вы, мае галчаняты?
Куляецеся
          па вільготнай зямлі,
У тайзе збіраеце голле,
бульбу пячэце ў вуголлях?
Помніце хоць мяне?
          Ці я для вас
таксама,
як гэты камень,
кінуты ў глыбіню...
А на паверхні —
адзін,
     другі —
разышліся і зніклі кругі...

# ПАЭЗІЯ





## Марыя БАРАВІК



●

Ты не крыўдуй, чалавек,
Што на світанні спяваю,
Тады, як сэрцу твайму
Нясцерпна сумна бывае.

Ты не крыўдуй, чалавек,
Калі вазьму засумую
Тады, як сэрца тваё
Нястрымна радасць хвалюе.

Але даруй, чалавек,
Калі мне боль не адужаць,
І я прыйду да цябе
Па веру, праўду і мужнасць.



Восень мая, восень,
Казка залатая,
Пачакай, я памяць
Зноў перагартаю.
...На пруток танюткі
Лезе паслухмяна,
Быццам па загаду,
Баравік духмяны.
Ці не тут мой ранак
Абудзіла песня,
Ці не тут жа радасць
Мне яна прынесла?
Восень мая, восень,
Казка залатая.
Як ні азірнуся —
Тату прыгадаю,



Нібы ён рыхтуе
Дровы на зімоўку...
Як сюды з'яўлюся —
Чую рэха зноўку.



Расказваеш мне пра Волгу:
«Вось бы дамоў хутчэй...»
А ў нас ёсць дзяўчаты Вольгі —
Не адвядзеш вачэй.
А ў нас ёсць Марыі, Веры —
Кужаль упаў на плечы...
Блізкі іх сэрцам вербы,
Сціпласць азёр і рэчак.
Глядзяць яны ашчаслівлена,
Як прылятаюць кані...
Тут, пад блакітнымі ліўнямі,
Страціў спакой валжанін.

*На чарзе публікацыя вершаў*
*Уладзіміра КАРЫЗНЫ, Паўла ПРУДНІКАВА,*
*Алега САЛТУКА, Рамана ТАРМОЛЫ,*
*Алеся ШПЫРКОВА.*

**КЭТРЫН МАКЛІН**

**(Злучаныя Штаты Амерыкі)**

# ТЭЛЕКАДРЫ НЕ ХЛУСЯЦЬ

***Фантастычнае апавяданне***

**Мал. Ю. АРХІПАВА.**

Карэспандэнт «Ньюза» задаў пытанне:

— Якой вы думкі пра чужынцаў, містэр Нэтан? Ці дружалюбныя яны? Ці падобны на людзей?

Па вокнах аднастайна барабаніў дождж, засланяючы ад вачэй аэрапорт, дзе неўзабаве павінны былі прызямліцца я н ы. Лужыны на бетонных узлётна-пасадачных палосах моршчыліся пад ветрам, а трава паміж палосамі паблісквала вільготным срэбрам.

Непадалёку ад месца будучай пасадкі таямнічага касмічнага карабля работнікі тэлестудыі паставілі на багажныя цялежкі сваю апаратуру, рыхтуючыся да знамянальнай падзеі. За далёкімі пясчанымі ўзгоркамі прытаіліся артылерыйскія батарэі, а недзе там, за лініяй небасхілу стаялі напагатове эскадрыллі бамбардзіроўшчыкаў, ахоўваючы свет ад магчымых здрадніцкіх акцый з боку першага касмічнага карабля, які прылятаў на Зямлю з чужой планеты.

— Вы што-небудзь ведаеце пра іхнюю планету? — запытаў карэспандэнт «Геральда».

Да Джазефа Р. Нэтана, чорнавалосага маладога чалавека са зморшчынкамі на худым, стомленым твары, карэспандэнты ставіліся з павагай. Ясна відаць было, што ён хвалюецца. Журналісты не хацелі надта назаляць яму пытаннямі, бо жадалі і далей карыстацца яго прыхільнасцю: заўтра ён зробіцца найвялікшай славутасцю на Зямлі.

— Не, нічога канкрэтнага,— адказаў Нэтан.

— Якія-небудзь здагадкі ці вывады?

— Іхні свет, напэўна, для іх такі ж, як для нас Зямля,— асцярожна адказаў спецыяліст.— Асяроддзе вырашае ўсё. Вядома, у некаторым сэнсе.— Ён кінуў на журналістаў пільны позірк.— Зразумела, якіх-небудзь пэўных вывадаў з гэтага рабіць нельга.

— «Як Зямля...» — прамармытаў нейкі рэпарцёр, запісваючы гэтыя словы.

Прадстаўнік «Таймса» зірнуў на свайго калегу з «Геральда». Той адказаў яму хітраватым позіркам і адразу ж задаў Нэтану пытанне:

— Значыць, вы мяркуеце, што яны для нас небяспечныя?

Нэтан абыякава глянуў у акно і спакойна адказаў:

— Не, я б не сказаў гэтак.

— Тады вы лічыце, што яны настроены дружалюбна? — зноў спытаўся карэспандэнт «Геральда», стараючыся заблытаць Нэтана і дабіцца свайго.

Ледзь прыкметная ўсмешка кранула вусны маладога вучонага:

— Так. Тыя, каго я ведаю.

Тады, нарэшце, задаў пытанне прадстаўнік «Таймса»:

— Як вам удалося ўстанавіць з імі кантакт?

Крыху павагаўшыся, Нэтан адказаў:

— Радыёперашкоды. Касмічныя радыёперашкоды. Ваенныя, мабыць, расказалі вам пра сутнасць маёй работы, ці не так?

Ваенныя зусім нічога журналістам не гаварылі. Афіцэр, які прывёў іх на інтэрв'ю, насупіўшы бровы, уважліва прыслухоўваўся да гутаркі.

Нэтан няўпэўнена зірнуў у яго бок і сказаў:

— Я працую радыёдэшыфроўшчыкам у аддзеле ваеннай разведкі. Карыстаюся накіраваным перадатчыкам. Настройваюся на замежныя хвалі, рэгіструю любыя шыфраванні ці «ператасаваныя» дэпешы і ствараю аўтаматычныя дэшыфравальнікі і распазнавальнікі ўсіх асноўных ператасовачных кодаў.

Афіцэр гучна адкашляўся, але нічога не сказаў.

Карэспандэнты ўсміхнуліся і нешта запісалі ў блакноты.

З таго часу, як ААН прыняла рашэнне аб інспекцыі ўзбраенняў, рэгламент дзяржаўнай бяспекі прынцыпова змяніўся. З прычыны таго, што поўная інфармацыя з'яўлялася цяпер адзінай гарантыяй грамадскасці супраць тайнага пераўзбраення, шпіянаж і здабыванне звестак сталі лічыцца пачэснай справай на карысць грамадства.

Нэтан гаварыў:

— У вольны ад работы час я іншы раз накіроўваў перадатчык у бок зорак. Ад зорак, як вы ведаеце, да нас даходзяць радыёшумы — аднастайны тон, які час ад часу перапыняецца рэзкім свістам. Доўгі час вучоныя ўслухоўваліся ў гэтыя сігналы і даследавалі іх, імкнучыся знайсці адказ на пытанне, чаму зоркавае радыёвыпраменьванне на пэўных хвалях і з пэўнага напрамку вылучаецца раптоўнымі і нерэгулярнымі ўсплёскамі высокага тону. Гэта з'ява паказалася ім ненатуральнай.

Ён змоўк і шматзначна ўсміхнуўся, добра ўсведамляючы, што тое, пра што ён зараз скажа, прынясе яму сусветную славу. А скажа ён пра ідэю, якая раптам прыйшла яму ў галаву, ідэю такую простую, але геніяльную, як і тая, што асяніла Ньютана, калі ён убачыў, як падае яблык.

— Я прыйшоў да вываду, што з'ява гэта не прыродная, і ўзяўся за дэшыфроўку загадкавых імпульсаў.— Нэтан пачаў паспешліва тлумачыць: — Ведаеце, у разведчыкаў ёсць такі стары прыём — яны робяць паскораны запіс якой-небудзь дэпешы, каб яна прыняла выгляд кароткага раптоўнага і рэзкага ўсплёску атмасферных перашкод, а потым перадаюць у эфір.

— Вы хочаце сказаць, што чужынцы пасылаюць да нас закадыраваныя сігналы? — запытаў чалавек з «Ньюза».

— Яно не зусім так. Перадаюць яны не на нас. Калі ў зоркі ёсць населеныя разумнымі істотамі планеты і паміж імі наладжана радыёсувязь, то для эканоміі энергіі сігналы пасылаюцца сканцэнтраваным, шчыльным промнем.— Нэтан паглядзеў на сваіх слухачоў, каб пераканацца, што яны зразумелі.— Ведаеце, як у пражэктара. Тэарэтычна, шчыльны прамень распаўсюджваецца вечна, не трацячы пры гэтым сваёй інтэнсіўнасці. Але патрапіць з адной планеты на другую даволі цяжка. Пры гэткіх адлегласцях нельга разлічваць на тое, што радыёпрамень будзе дакладна скіраваны на цэль больш як на працягу некалькіх секунд. Таму, і гэта зусім натуральна, яны павінны сціснуць кожнае паведамленне ў кароткія складаныя імпульсы-пучкі, працягласцю не больш секунды, і паўтараць іх некалькі соцень разоў працяглай пасылкай, каб забяспечыць надзейны прыём паведамлення. Радыёпучок спецыяльна разгойдваюць, каб у нейкі момант ён трапіў на пэўную планету.

Малады чалавек гаварыў не спяшаючыся, узважваючы кожнае слова, бо памятаў, што яго тлумачэнні прызначаны для газет.

— Калі прамень выпадкова трапіць у наш сектар касмічнай прасторы, узровень шумаў раптоўна набывае выгляд высокага піку. Дзякуючы вялікай адлегласці паміж крыніцай выпраменьвання і Зямлёй хуткасць размаху радыёпучка вельмі высокая. Таму, калі ён выпадкова скіруецца ў бок Зямлі, мы рэгіструем толькі адно кароценькае «біп».

— А як растлумачыць вялікую колькасць раптоўных усплёскаў, якія даходзяць да нас? — спытаўся прадстаўнік «Таймса».— Хіба іншыя зоркавыя сістэмы верцяцца ў плоскасці нашай Галактыкі?

Малады радыёспецыяліст усміхнуўся, і твар яго на імгненне пасвятлеў.

— Магчыма, мы перахопліваем іхнія радыётэлефонныя размовы. Можа, яны паведамляюць адзін аднаму апошнія вынікі спартыўных спаборніцтваў. Магчыма, чалавечы тып — мадэль стандартная.

— Дапускаю нешта падобнае,— згадзіўся прадстаўнік «Таймса». Абодва абмяняліся ўсмешкамі.

Карэспандэнт газеты «Ньюз» запытаў:

— А як атрымалася, што замест галасоў, вы пачалі прымаць тэлевізійныя перадачы?

— Гэта не выпадкова,— цярпліва тлумачыў спецыяліст.— Я распазнаў тэлевізійную радковую разгортку. Мне пашанцавала. Тэлекадры зразумелыя ўсім. Яны не хлусяць.

Каля журналістаў і Нэтана ўвесь час снаваў нейкі сенатар, мармычучы вывучаную на памяць прывітальную прамову і нервова пазіраючы скрозь залітыя вадой вокны на сівую заслону дажджу.

У доўгай зале ўсё было падрыхтавана да таго ўрачыстага моманту, калі сенатар распачне прывітальную прамову да чужынцаў і ўсяго свету. На высокіх штатывах сталі тэлевізійныя камеры і юпітэры, на жураўлях віселі мікрафоны. На стале стаяў самаробны апарат — радыётэлевізійны прыёмнік-перадатчык.

— Я запісаў некалькі камбінавачых сігналаў высокага тону з сузор'я Стральца і пачаў іх даследаваць,— гаварыў далей Нэтан.— Толькі праз некалькі месяцаў мне ўдалося падабраць хуткасць тэлевізійнай радковай разгорткі з такім разлікам, каб атрымаць хоць які-небудзь



ВЫПУСК БЕЛАРУСКАГА ТЭАТРАЛЬНА-МАСТАЦКАГА ІНСТЫТУТА. 1968.



Ірына ВОЛКАВА. З ілюстрацый да паэмы Якуба Коласа «РЫБАКОВА ХАТА». Афорт.



Раніца ляснічага. Фота Генадзя БЯЛІЦКАГА.

Нараджэнне беларускіх волатаў. Фота Івана СТЭЦА.





МАЕ РАВЕСНІКІ
(Раман ТАРМОЛА,
Ніл ГІЛЕВІЧ,
Генадзь БУРАЎКІН)

САЛДАТ — ЗАЎЖДЫ САЛДАТ
(Пятро ПРЫХОДЗЬКА)





УПАРТЫ
(Аляксей КАРПЮК)



ВЫКЛІК БАГАМ
(Анатоль ДЗЯЛЕНДЗІК)



Міхась ЛІСОЎСКІ.

ШЧЫРА, ПА-СЯБРОЎСКУ.

Шаржы.

РУЖОВЫ ПЕРЫЯД
(Еўдакія ЛОСЬ)

кадр. Калі я паказаў кадравую разгортку кіраўнікам майго аддзела, мне дазволілі працаваць над гэтай праблемай у рабочы час і далі ў дапамогу асістэнта. Восем месяцаў пайшло на тое, каб выявіць каляровыя імпульсы і адрэгуляваць колеры з мэтай атрымання колькі-небудзь выразнага малюнка. Былі спробы і памылкі, але ўрэшце ўсё атрымалася выдатна.— Ён зрабіў некалькі крокаў і дакрануўся да апарата. Дынамік ціхенька піскнуў, а на шэрым экране кінескопа мільганула каляровая ўспышка. Адчувальная ўстаноўка была гатова ў любы момант прыняць сігналы міжзоркавага карабля, які набліжаўся да Зямлі.— Спачатку мы ніяк не маглі зразумець, чаму было так многа частот, але, калі наладзілі свой апарат і пачалі запісваць на магнітную плёнку, а потым праслухоўваць усё, што да нас даходзіла, нам стала зразумела, што мы натрапілі на нешта накшталт перадатачнай лініі бібліятэчнага калектара. Галоўным чынам мастацкая літаратура — проза, паэзія і драматургічныя творы.

Карэспандэнт газеты «Пост» спытаўся:

— Якім чынам вы наладзілі сувязь з касмічным караблём?

— Я расклаў на тэлерадкі і запісаў на магнітную плёнку кінафільм «Веснавы абрад» Дзіснея-Стравінскага, а потым перадаў яго ў эфір у тым жа дыяпазоне частот, у якім прымаў іхнія сігналы. Проста для спробы. Я ведаў, што нашы сігналы дойдуць да іх праз шмат гадоў, калі наогул дойдуць. Але я падумаў, што калектар з задавальненнем прыме новы запіс. Праз два тыдні, калі мы запісалі і запаволілі новую серыю касмічных сігналаў, нечакана знайшлі адказ на наша пасланне; маленькі ўрывак з фільма Дзіснея-Стравінскага, які дэманстраваўся перад вялікай аўдыторыяй. Пад канец нам паказалі і саміх гледачоў — як яны сядзелі перад экранам і чакалі працягу сеанса. Сігнал быў вельмі выразны і інтэнсіўны. Аказваецца, наша перадача была прынята нейкім касмічным караблём, фільм ім спадабаўся, і яны захацелі, каб мы ім прыслалі яшчэ што-небудзь.

Малады спецыяліст раптам задумаўся і змоўк. Потым, усміхаючыся, сказаў:

— Вы і самі можаце іх убачыць. Там, у канцы вестыбюля, ідзе прагляд. Мовазнаўцы працуюць над сваім аўтаматычным перакладчыкам.

Афіцэр, які ўвесь час прыслухоўваўся да іх гутаркі, зноў насупіў бровы і закашляўся. Нэтан хуценька павярнуўся да яго:

— Здаецца, з пункту гледжання нацыянальнай бяспекі няма ніякіх прычын хаваць ад іх гэта. Ці не так? Можа, вы ім пакажаце? — Карэспандэнтам ён сказаў: — Праз вестыбюль, у канцы калідора. Калі касмічны карабель пачне набліжацца, вам адразу паведамяць.

Усе зразумелі, што інтэрв'ю закончана.

Усхваляваны малады чалавек адвярнуўся ад журналістаў і сеў перад радыёўстаноўкай. Афіцэр хацеў запярэчыць, але перадумаў і строгім жэстам паказаў рукой на зачыненыя дзверы ў процілеглым канцы вестыбюля.

Карэспандэнты кінуліся туды, адчынілі дзверы і асцярожна ўвайшлі ў цёмную залу з мноствам адкідных крэслаў. У зале ярка свяціўся экран.

Рэпарцёры вобмацкам адшукалі свабодныя месцы і расселіся, але прадстаўнік «Таймса» застаўся стаяць, разумеючы ўсю незвычайнасць падзеі.

У паўзмроку свяціліся яркія каляровыя тэлекадры. Нейкія дзве падобныя на людзей істоты, апранутыя ў нешта накшталт карнавальных касцюмаў, хуценька рухаліся па экране, неяк дзіўна прыскокваючы ці накульгваючы.

Гэта былі чужынцы. Асцярожна, нібы баючыся іх спудзіць, прадстаўнік «Таймса» палез у кішэню пінжака, выняў адтуль свае стэрэаскапічныя акуляры, адрэгуляваў шкельцы і надзеў. У той жа момант абедзве істоты зрабіліся трохмерныя, а экран ператварыўся ў шырокае і, здавалася, вельмі блізкае акно, праз якое быў відаць пакой з шэрымі сценамі. Высокі мажны мужчына ў зялёнай туніцы на імгненне прыплюшчыў свае барвовыя вочы, калі другі нешта яму сказаў. Потым твар яго перасмыкнуўся, і ён паварушыў пальцамі, быццам паказваючы на нешта па-за экранам. Акцёр меладрамы... Другі, ніжэйшы ростам, з жаўтавата-зялёнымі вачыма, падышоў бліжэй да яго. Ён гаварыў у вельмі хуткім тэмпе і больш нізкім голасам. Першы раптам застыў у нерухомай позе і не перапыняў яго. Відаць, маленькі прапанаваў нейкае выгаднае для абодвух здрадніцтва, і высокі ўважліва слухаў яго доказы.

Прадстаўнік «Таймса» намацаў рукой крэсла і сеў.

Напэўна, жэсты і рухі — з'ява ўсеагульная, аднолькава зразумелая ўсім: замілаванасць і агіда (нахіл уперад, нахіл назад), трывога, палёгка... Магчыма, яны першакласныя акцёры.

Раптам сцэны пачалі мяняцца: нейкі калідор, нешта накшталт парку на касмічным караблі, чытальная зала. У зале знаходзіліся і іншыя падобныя на людзей стварэнні. Яны працавалі за сталамі і іншы раз перакідваліся словамі.

Мова іх была вельмі плаўная — амаль адны галосныя, якія зліваліся ў працяглы гук то высокага, то нізкага тону. Гаворачы, яны энергічна жэстыкулявалі.

Карычневыя, шаўкавістыя, коратка падстрыжаныя валасы, рознага колеру вочы, далёка пасаджаныя адно ад аднаго, светла-карычневыя твары. Шыі і плечы масіўныя, нібы ў надзвычай дужага чалавека. Запясці рук вузкія; доўгія, тонкія, вельмі далікатныя пальцы. Здалося, што пальцаў было больш, чым у зямлян.

Побач з прадстаўнікам «Таймса» бесперапынку гуў нейкі апарат, чулася ціхае мармытанне. Ён агледзеўся па баках. Поруч з ім, ля высокага апарата ў авальным корпусе, сядзеў чалавек з навушнікамі. Калі з экрана чуліся гукі чужой мовы, чалавек рэзка шчоўкаў тумблерам на сваёй скрыні, мармытаў нейкае слова ў маленькі ручны мікрафон і з нервовай паспешлівасцю зноў пераключаў тумблер.

Прадстаўніку «Таймса» прыгадаліся перакладчыкі Аб'яднаных Нацый. Прыстасаванне, відаць, уяўляла сабой аўтаматычны вусны перакладчык, а чалавек з мікрафонам быў лінгвістам, які папаўняў слоўнікавы запас машыны новымі лексічнымі адзінкамі. Двое іншых мовазнаўцаў сядзелі каля самага экрана і спяшаліся нешта запісваць у блакноты.

Прадстаўнік «Таймса» ўспомніў пра сенатара, які нервова кружыў па зале, бясконца паўтараючы сваю прывітальную прамову. Аказваецца, яна будзе аўтаматычна перакладзена на мову чужынцаў.

Па другі бок мігатлівага акенца, якім здаваўся тэлеэкран, істота ў зялёнай туніцы гутарыла з астранаўтам у зялёным мундзіры. Абодва знаходзіліся ў ярка асветленай апаратнай касмічнага карабля.

Прадстаўнік «Таймса» зноў пачаў сачыць за падзеямі, што адбываліся на экране, стараючыся зразумець іх сэнс. Яго ўжо зацікавіў лёс героя. Стрыманае хваляванне, якое выдавала толькі лёгкае дрыжанне кісцей рук, дасціпныя, як можна было меркаваць, адказы на пытанні... Істота ў мундзіры спакойна павярнулася да яго спіной і села, цалкам аддаўшыся вырашэнню нейкай навігацыйнай задачы па карце. Раптам рухі яе, як і рухі астатніх персанажаў, зрабіліся плаўнымі і зграбнымі. Здавалася, усе яны знаходзіліся пад вадой ці былі сфатаграфаваны запаволенай здымкай. Асоба ў туніцы не адрывала вачэй ад пераключальніка на дошцы з прыборамі, час ад часу нешта гаворачы пад трывожныя акорды, якія то рабіліся гучнейшымі, то заціхалі. Экран буйным планам паказаў твар чужынца ў туніцы. Ён нешта сказаў, не адводзячы вачэй ад пераключальніка (прадстаўнік «Таймса» заўважыў, што вушы яго былі дасканалай формы сіметрычнымі паўкругамі і не мелі адтулін). У адказ на яго заўвагу прагучаў нізкі голас астранаўта — адно кароценькае слова, якое ён вымавіў, па-ранейшаму седзячы да высокага спіной. Высокі пасунуўся яшчэ бліжэй да дошкі прыбораў. Пераключальнік пачаў разрастацца на ўвесь экран і стэрэаскапічна наплываць на гледачоў. Здалося, да яго нават можна было дакрануцца. На экране паказалася далонь, імклівa рванулася наперад і легла на пераключальнік... У той жа момант пачуўся рэзкі трэск, пальцы растапырыліся і застылі, нібы паралізаваныя. Высокі ў адчаі павярнуў галаву назад і ўбачыў, што за яго спіной стаіць астранаўт у зялёным мундзіры, сціскаючы ў руцэ пісталет. Прагучаў стрэл. Астранаўт глядзеў, як істота ў туніцы пахіснулася і падае. Потым ён нахіліў галаву і зірнуў на сваю руку, якая ўсё яшчэ трымала зброю. Зайграла музыка. На нейкае імгненне апаратная і ўсё, што ў ёй было, афарбаваліся ў мітуслівыя колеры: зялёны з твару астранаўт стаіць у фіялетавай апаратнай і пазірае на некага ў чырвонай туніцы. Потым колеры сталі ранейшыя. У апаратную ўвайшоў другі астранаўт у мундзіры, выхапіў з бязвольнай рукі забойцы зброю, і той унурана пачаў яму нешта ціха тлумачыць. Музыка зайграла гучней, заглушаючы яго словы. Экран пачаў паступова цямнець, нібы акно, што паволі засцілаецца шэрым туманам. Музыка сціхла.

У цемры залы нехта запляскаў у далоні.

Мовазнаўца, які сядзеў побач з прадстаўніком «Таймса», ссунуў навушнікі і таропка сказаў:

— Большага дабіцца не магу. Хто-небудзь хоча яшчэ раз паглядзець?

Ніхто не азваўся. Тады мовазнаўца сказаў:

— Думаю, з гэтага мы ўзялі ўсё. Давайце запусцім стужку, дзе Нэтан і радыст карабля валаводзяцца з настройкай. Б'юся аб заклад — хлопец нічога асаблівага не гаворыць. Дае звычайную лічбавую настройку: «адзін, два, тры...».

У паўцемры завурчала, і экран зноў ажыў. На ім мільганула зала з гледачамі, якія сядзелі перад экранам, і прагучаў абрывісты акорд нейкай знаёмай сімфанічнай музыкі.

— Яны ў захапленні ад Стравінскага і Моцарта,— сказаў прадстаўніку «Таймса» лінгвіст з навушнікамі.— Не любяць Гершвіна. Што вы на гэта скажаце?

Кадры перасталі скакаць, і мовазнаўца пачаў уважліва глядзець на экран. Карэспандэнт газеты «Пост», які сядзеў наперадзе, павярнуўся да прадстаўніка «Таймса».

— Проста дзіва, як яны нагадваюць людзей! — Ён нешта запісаў сабе ў блакнот, відаць, рыхтуючыся да тэлефоннай размовы з рэдакцыяй.— Якога колеру былі ў таго акцёра валасы?

— Нешта не заўважыў,— адказаў прадстаўнік «Таймса», а сам падумаў, ці не напомніць яму Нэтанавы словы пра тое, што каляровыя хвалі адрэгуляваны наўгад і колеры падабраны так, каб атрымалася нешта найбольш верагоднае. Калі госці прыляцяць, можа аказацца, што ў іх ярка-зялёныя твары, а валасы сінія. Надзейным было толькі чаргаванне колераў у кадры, іх супадзенні і кантрасты, суадносіны паміж колерамі.

З дынаміка тэлеэкрана зноў пачуліся гукі чужой мовы. У гэтай расы галасы больш нізкія, чым людскія. Яму асабіста падабаюцца нізкія галасы. «Можа, напісаць пра гэта ў газеце?» — падумаў прад-





стаўнік «Таймса». Не, нельга. Тут таксама нешта не так. Якім чынам Нэтан вызначыў правільную вышыню тону гукавой дарожкі? Прыняў мадуляцыю такой, як яна прыйшла, ці пераўтварыў яе гэтэрадзінам у пошуках найбольш натуральнага гучання? А можа проста Нэтану больш падабаюцца басавітыя галасы?

— Ніяк не магу зразумець, чаму ён узяў на сябе такую цяжкую задачу — прыём тэлевізійных перадач замест простай гукавой радыёсувязі,— паскардзіўся карэспандэнт «Ньюза».— Тэлекадры нядрэнныя. Але што з таго?

— Магчыма, дзеля вывучэння іхняй мовы,— зазначыў карэспандэнт «Геральда».

Цяпер на экране з'явіліся не інсцэніраваныя, а сапраўдныя кадры: малады чужынец завіхаўся ля нейкай апаратуры. Ен азірнуўся, памахаў рукой. Потым, робячы складаныя, ненатуральныя жэсты і старанна вымаўляючы словы, чужынец пачаў нешта тлумачыць пра сваё абсталяванне.

Прадстаўнік «Таймса» падняўся з крэсла, выйшаў у калідор і вярнуўся назад у галоўную залу. Як ні дзіўна, ніхто яго не затрымліваў. У галоўнай зале цяпер сабралася людзей больш, чым тады, калі ён пакінуў яе. Апаратары радыё і тэлебачання стоўпіліся каля сваёй апаратуры, сенатар нарэшце знайшоў сабе крэсла і нешта чытаў, а каля задняй сцяны, саставіўшы крэслы, сядзела восем чалавек, са спакойнай засяроджанасцю нешта абмяркоўваючы. Ён пазнаў некаторых, з кім быў асабіста знаёмы: вядомыя дзеячы навукі, знаўцы тэорыі магнетызму.

Самаробны прыёмнік-перадатчык быў настроены на хвалю таямнічага карабля, што набліжаўся да Зямлі, і па-ранейшаму ціхенька сіпеў, а малады спецыяліст Нэтан сядзеў на краі памоста, абапёршыся падбародкам на далонь. Ён не ўзняў вачэй, калі да яго падышоў прадстаўнік «Таймса»: задумаўся. Журналіст сеў побач з ім і выняў з кішэні пачак цыгарэт, але, успомніўшы, што неўзабаве павінна адбыцца тэлеперадача і таму курыць забаронена, сунуў цыгарэты назад у кішэню, задуменна сочачы, як сцякаюць струменьчыкі дажджу на шыбах.

— Нешта здарылася? — запытаў ён.

Нэтан адказаў яму лёгкім кіўком галавы, нейкі момант яшчэ памаўчаў, потым сказаў:

— А самі вы як думаеце?

— Інтуіцыя...— сказаў журналіст.— Чыстая інтуіцыя. Усё ідзе надта гладка... Кожны прымае ўсё за належнае.

Нэтан крыху ажывіўся:

— Гаварыце. Я вас слухаю.

— Нешта такое ў іхніх рухах...

Нэтан перамяніў позу і глянуў на субяседніка:

— Мяне таксама гэта непакоіць.

— Вы ўпэўнены, што правільна адрэгулявалі хуткасць?

Нэтан сціснуў кулакі і задуменна ўтаропіўся ў іх.

— Не ведаю,— нарэшце вымавіў ён.— Калі дыскі верцяцца хутчэй, усё на кадры пачынае мчацца, і нельга зразумець, чаму вопратка не развяваецца ў іх за спіной, чаму не чуваць, як бразгаюць дзверы, якія так шпарка зачыняюцца, чаму рэчы імгненна падаюць уніз. Калі ж я



збаўляю скорасць, усе яны, здаецца, плывуць у паветры.— Ён скоса глянуў на журналіста.— Забыўся, як вас зваць?

— Джэйкаб Люк,— сказаў ён, працягваючы маладому чалавеку руку.

Нэтан паспешліва схапіў яе і моцна паціснуў.

— Успомніў: вы рэдактар навуковага аддзела нядзельнага выдання «Таймса». Чытаю. Не чакаў, што сустрэну вас тут...

— Скажыце, вы ўсё добра разлічылі? Пры дапамозе надзейных формул? — Джэйкаб Люк выцягнуў з кішэні аловак.

— Навошта непакоіцца? — перабіў яго Нэтан.— Чаму трэба спяшацца з рознымі здагадкамі? — Ён засмяяўся і нервова адкінуў рукою назад свае гладкія чорныя валасы.— Праз дваццаць мінут мы іх убачым.

— Сапраўды?

Нэтан задумаўся. Сенатар перагарнуў старонку часопіса. У дальнім куце пакоя спрачаліся вучоныя. Нэтан правёў далоняй па валасах, быццам баяўся, што яны спадуць яму на вочы і не дадуць нічога ўбачыць.

— Безумоўна...— нарэшце адказаў ён. Потым засмяяўся і хуценька загаварыў: — Безумоўна, мы іх убачым. А як жа інакш? Амаль усе члены ўрада падрыхтавалі прывітальныя прамовы. Армія напагатове і хаваецца за ўзгоркамі. Навокал рэпарцёры. Камеры кінахронікі, тэлебачання — усё падрыхтавана для перадачы рэпартажаў аб іх прызямленні па ўсіх радыёстанцыях свету. Сам прэзідэнт паціскаў мне руку і зараз чакае ў Вашынгтоне...— Нават не перавёўшы дыхання, ён раптам усклікнуў: — Чорт! Усё можа пайсці дагары нагамі! Недзе памылка. Нешта няправільна. Трэба было ўчора сказаць гэтым медным каскам пра мае сумненні, а я пачаў яшчэ падліваць масла ў агонь. Відаць, проста пабаяўся — навокал сноўдала так многа начальства. Разгубіўся...— Нэтан схапіў Джэйкаба Люка за рукаў: — Паслухайце, я не ведаю нават...

На экране кінескопа прабегла зялёная паласа. У дынаміку пачуліся гукі чужой мовы. Сенатар здрыгануўся, узрушана глянуў на экран і паправіў гальштук. Дынамік сціх.

— Што гэта? — заклапочана спытаў Джэйкаб Люк.

— Ён паведаміў,— адказаў праз нейкі час Нэтан,— што карабель збавіў хуткасць, каб увайсці ў шчыльныя слаі атмасферы. Прыбудуць праз пяць-дзесяць мінут, думаю. Гаварыў Бад. Вельмі хваляваўся. Сказаў: «Што за насланнё! На якой пахмурнай планеце вы жывяце!» — Нэтан усміхнуўся: — Жартуе...

Рэдактар навуковага аддзела «Таймса» занепакоіўся:

— Што хацеў ён сказаць словам «пахмурная»? Не можа ж быць, каб па ўсёй тэрыторыі Зямлі ішоў дождж.— За акном дождж сціхаў, і скрозь прасветы ў хмарах ужо зззялі першыя ярка-блакітныя лапікі неба, а кроплі, што беглі ўніз па шыбах вокнаў, паблісквалі вясёлкавымі праменьчыкамі.— А можа, яны садзяцца на Венеру?

Журналіст разумеў усю недарэчнасць сваёй здагадкі, бо касмічны карабель трымаўся курсу, які яму паказваў імпульс перадатчыка Нэтана, і таму ён павінен

быў абавязкова трапіць на Зямлю. Гэты «Бад», відаць, вялікі жартаўнік.

Зноў загарэлася сігнальная лямпачка на шкале прыёмніка, і яны спынілі размову, чакаючы, пакуль будзе запісана і перакладзена перадача. Раптам экран кінескопа ажыў — на ім з'явіўся адбітак маладога чалавека, які сядзеў спіной да гледачоў перад тэлевізійным экранам. Карабель імкліва ішоў насустрач чорнай роўнядзі, і цвёрдая, здавалася, да гэтага чарната, раптам расплылася, ператварылася ў кіпучы вір цёмных хмар. Яны разрасталіся, і нарэшце цемрадзь заслала ўвесь экран. Малады чужынец нешта прамовіў, павярнуўшыся тварам да аб'ектыва тэлекамеры, і ўсміхнуўся сваёй «о»-падобнай усмешкай. Потым перакінуў тумблер, і экран кінескопа зрабіўся шэрым.

Са стрыманым хваляваннем Нэтан прамовіў:

— Ён сказаў нешта наконт таго, што час ужо адкаркоўваць бутэлькі: вось-вось яны прыляцяць.

— Наша атмасфера выглядае не так,— адрэзаў Джэйкаб Люк.— Гэта не зямная атмасфера...

Да іх падышло некалькі чалавек, і адзін з іх спытаўся:

— Што яны гавораць?

— Уваходзяць у шчыльныя слаі атмасферы. Павінны праз пяць-дзесяць мінут сесці,— адказаў Нэтан.

Па зале прабег шэпт, усе ажывіліся. Апаратары тэлебачання ў апошні раз адрэгулявалі аб'ектывы сваіх камер, уключылі мікрафоны, праверылі іх, запалілі юпітэры. Вучоныя падняліся са сваіх месц і, не спыняючы гутаркі, падышлі бліжэй да акна. Журналісты натоўпам уваліліся ў пакой і таксама сталі ля вокнаў, каб быць сведкамі вялікай падзеі. Увайшлі трое мовазнаўцаў, цягнучы за сабой вялізны кантэйнер на колах—аўтаматычны перакладчык. Яны заклапочана сачылі, як яго падключаюць да радыётэлесістэмы.

— Сесці дзе? — жорстка спытаўся ў Нэтана прадстаўнік «Таймса».— Чаму вы нічога не робіце?

— Скажыце, што. І я зраблю,— спакойна адказаў Нэтан, нават не варухнуўшыся.

У голасе Нэтана прагучаў сарказм. Джэйкаб Люк скоса глянуў на бледны, як снег, твар радыёспецыяліста і збавіў тон:

— Вы можаце ўвайсці з імі ў кантакт?

— Не магу. Пакуль не сядуць.

— Што ж тады рабіць? — Джэйкаб Люк зноў выцягнуў з кішэні цыгарэты, успомніў, што курыць забаронена, і сунуў іх назад.

— Толькі чакаць.— Нэтан абапёрся локцем на калена і падпёр падбародак далонню.

Журналіст нічога не адказаў.

Усе моўчкі чакалі. Нейкі лысаваты вучоны ўсё чысціў пазногці і аглядаў іх, чысціў і аглядаў. Другі вучоны старанна праціраў шкельцы сваіх акуляраў, уважліва правяраў іх на святло, надзяваў на нос і зноў знімаў, каб яшчэ раз працерці.

Набліжаўся адзін з найвялікшых момантаў чалавечай гісторыі, і ўсе стараліся сустрэць яго з годнасцю.

Нарэшце, Джэйкаб Люк зірнуў на свой гадзіннік: прайшло ўжо тры мінуты. Ён стаіў дыханне, прыслухоўваючыся, ці не чуваць рокату ракетных рухавікоў. Але навокал панавала цішыня.

З-за хмар выглянула сонца і, нібы магутны пражэктар, заліло пустое лётнае поле аэрапорта яркім святлом.

Зноў загарэўся зялёны агеньчык: атрымана новае паведамленне... Пачуўся голас Бада. Лямпачка пагасла.

— «Навокал цемра,— ціха пераклаў Джэйкабу Люку дэшыфроўшчык разведвальнага аддзела.— Ваша атмасфера вельмі густая». ,

Мінула яшчэ тры мінуты, і Джэйкаб Люк спахапіўся, што чыркае ўжо запалкай, намерваючыся прыкурыць. Ён ціхенька вылаяўся і паклаў цыгарэту назад у пачак.

Нарэшце, быў атрыман новы сігнал ад Бада.

— Яны селі,— прашаптаў Нэтан.

Па пустых бетонных палосах і вільготнай траве аэрапорта шугаў вецер, і нідзе не відаць было срэбранага корпуса касмічнага карабля. Ніводзін гук не парушаў цішыні. Усе прыціхлі, стараючыся пачуць гул рэактыўных рухавікоў.

Нэтан заварушыўся, уключыў перадатчык і, чакаючы, пакуль нагрэюцца лямпы, пачаў дакладней рэгуляваць настройку. Джэйкаб Люк асцярожна падышоў да яго ззаду. Нэтан зняў з кручка на корпусе аўтаматычнага перакладчыка два камплекты навушнікаў, уключыў іх у гнёзды і адзін з іх перадаў цераз плячо журналісту.

Зноў загучаў дынамік. Джэйкаб Люк паспешліва прыладзіў навушнікі і пачуў узрушаны голас Бада, які нешта гаварыў. Потым ён вельмі выразна пачуў голас мовазнаўцы: адно слова па-англійску, шчаўчок магнітафона, другое выразнае слова голасам іншага мовазнаўцы. Голас Бада і галасы лінгвістаў перакрывалі адзін аднаго, але бывалі моманты, калі механічны перакладчык маўчаў, не знаходзячы патрэбнага эквіваленту якому-небудзь незнаёмаму слову.

Бад гаварыў:

— Лакатар паказвае, што паблізу няма ніякіх збудаванняў ці іншых слядоў цывілізацыі. Велізарны ціск газаў, слабае прыцягненне, зусім няма святла. Ваша апісанне было інакшае. Дзе вы, Джо? Гэта не правакацыя? — На нейкае імгненне голас Бада сціх, але хтосьці басам яму нешта ўладна загадаў, і Бад рэзкім тонам прамовіў:— Калі правакацыя, мы гатовы адбіць напад!



— Гаворыць Джо,— спакойна сказаў у мікрафон па-англійску Нэтан.— Ніякай правакацыі. Мы не ведаем, дзе вы. Прымаю меры, каб па вашым сігнале вызначыць месцазнаходжанне карабля. Коратка апішыце навакольную мясцовасць, калі можаце.

У пакоі ярка гарэлі агні рэфлектараў. Усё было падрыхтавана да ўрачыстай сустрэчы гасцей з космасу. Тэлевізійныя студыі ўсяго свету перапынілі свае перадачы па ўсіх каналах, каб ва ўсіх кутках Зямлі людзі сталі сведкамі незвычайнай гістарычнай падзеі.

Калі загарэлася зялёнае святло сігнальнай лямпачкі, дынамік адразу зашыпеў і затрашчаў, потым ледзь прабіліся кволыя невыразныя гукі, якія раптам то зусім заміралі, то крыху гучнелі. У навушніках пачуўся пераклад аўтамата:

— «У нас... тэхнічныя... непаладкі... Здаецца, запасны прыёмнік таксама выходзіць са строю... Яшчэ раз паспрабуем прыняць вашы сігналы... Дзе порт пасадкі?»

Нэтан палажыў на стол мікрафон і пачаў круціць нейкі рэгулятар на пульце блока запісу, потым пераключыў тумблер і сказаў Джэйкабу Люку, не паварочваючы назад галавы:

— Апарат паўторыць тое, што я сказаў ім раней. Некалькі разоў.— Нэтан сеў неяк ненатуральна спакойна.

Раптам на экране кінескопа з'явіўся твар Бада, а з прыёмніка пачуўся яго голас.

Аўтамат пераклаў:

— «Мы пачулі некалькі слоў, потым прыёмнік загуў і сапсаваўся. Наладжваем другі тэлеблок, каб прымаць доўгія хвалі светлавога спектра, якія праходзяць скрозь вашу атмасферу і пераўтвараюцца ў прамені святла. Хутка мы ўбачым, што робіцца навокал. Інжынер гаворыць, што нешта здарылася з рухавікамі на карме. Камандзір загадаў мне перадаць заклік аб дапамозе на нашу бліжэйшую касмічную базу.— Бад усміхнуўся.— Наш сігнал дойдзе туды праз некалькі год. Я вам веру, але выратуйце нас. Інжынер дае ўжо сігнал, што другі тэлеблок гатовы. Чакаем вашай дапамогі».

Экран патух, зялёны агеньчык згас.

Джэйкаб Люк падлічыў, колькі патрэбна часу для адпраўкі сігналу аб дапамозе, для размовы з Зямлёй, для перанaладкі тэлеапарата пад відэалакатар.

— Хутка ж яны ўсё робяць! — Ён неспакойна пераступіў з нагі на нагу.— Недзе памылка з фактарам часу. Усё няправільна. Яны працуюць імгненна.

Не паспеў ён дагаварыць фразу, як зноў пачуўся голас Бада. Пакуль ішла звычайная працэдура запавольвання сігналу і перакладу, Нэтан таропка сказаў:

— Яны недзе тут, недалёка: энергія нашых радыёсігналаў выводзіць са строю прыёмную апаратуру карабля.

«Калі яны ўжо на Зямлі, дык чаму вакол карабля цемра?» — падумаў Джэйкаб Люк.

— Магчыма, яны бачаць у звышультрафіялетавым дыяпазоне. Для гэтай паласы частот наша атмасфера светанепранікальная,— выказаў ён здагадку, калі ўжо ў навушніках пачуўся пераклад:

— «Слухайце апісанне мясцовасці. На лініі гарызонта шырокае балоцістае возера. Яно кішыць вялізнымі расплывістымі стварэннямі. Страшыдлы паглынаюць адзін аднаго. Мы селі амаль на самае возера, на яго рыхлы край. Глеба не вытрымлівае цяжару карабля. Мы грузнем. Інжынер гаворыць, што мы маглі б запусціць рухавікі і ўзляцець, але соплы забіты гразёю і карабель можа ўзарвацца. Калі вас чакаць?»

У Джэйкаба Люка мільганула думка пра каменнавугольную эру. Аднак Нэтан, пэўна, бачыў нешта такое, чаго не бачыў ён. Тады ён спакойна запытаў:

— Дзе яны селі?

Нэтан паказаў пальцам на індыкатары напрамку антэн. Гледзячы праз акно, Джэйкаб Люк правёў позіркам уяўныя лініі да кропкі іх перакрыжавання на ярка асветленай сонцам пустой роўнядзі белага бетону, які ўжо амаль зусім падсох.

Недзе там знаходзіўся касмічны карабель чужынцаў.

Прадстаўніка «Таймса» раптоўна ахапіў страх перад невядомым.

— «Дзе вы? Адкажыце! Мы тонем! Дзе вы?» — перакладаў аўтамат.

Джэйкаб Люк зразумеў, што Нэтан ужо ведае, у чым справа.

— Што гэта? — запытаў ён у маладога спецыяліста.— Можа, яны ў іншым вымярэнні? Альбо ў мінулым? У іншым сусвеце?

Нэтан горка засмяяўся.

— Вось мая гіпотэза,— сказаў ён.— Яны эвалюцыянізавалі на планеце з вялікім прыцяжэннем і разрэджанай атмасферай каля блакітна-белай зоркі. Бачаць ва ўльтрафіялетавым святле. Наша Сонца незвычайна маленькае, цьмянае і жоўтае. Зямная атмасфера надзвычай густая і не прапускае ўльтрафіялетавых праменняў.— Нэтан сумна ўсміхнуўся:— Вось як пажартавала з намі прырода! На якой мізэрнай планеце ўзнікла чалавецтва!

— «Калі ласка, паспяшайцеся — мы тонем!» — заклікаў невядомы карабель.

Нэтан праглынуў рэштку таго, што хацеў яшчэ сказаць, і, зірнуўшы ў вочы Джэйкабу Люку, прамовіў:

— Мы іх выратуем. Ваша здагадка адносна фактару часу правільная. Праўда і тое, што яны рухаюцца не ўласцівым ім тэмпам. Я груба памыліўся. Увёў сябе ў зман ва ўсіх адносінах, асабліва наконт ушчыльнення і паскарэння сігналаў,

нібыта з мэтай нейтралізацыі вагання пучка радыёпраменняў.

— Што вы гэтым хочаце сказаць?

— А тое, што яны не паскараюць сваіх перадач.

— Не паскараюць?!

Джэйкаб Люк раптоўна ўспомніў тэлеспектакль, які ім толькі што паказвалі. Акцёры рухаліся так шпарка, што постаці іх расплываліся, словы вырываліся з вуснаў рэзкімі штуршкамі, зліваючыся ў імклівы паток гукаў. На самай справе ўсё ішло яшчэ хутчэй, бо Нэтан запавольваў сігналы: цэлая гадзіна тэксту — адзін амаль імгненны імпульс! За гэты час чалавек ледзь паспее вымавіць адно слова. Гэта было цяжка сабе ўявіць. Матэрыя не можа вытрымаць такіх рэзкіх пераходаў без сур'ёзных змяненняў: стан нерухомасці — механічны момант — раптоўнае ўзнікненне масы... Нешта вар'яцкае!

— Як тады ўсё зразумець? Як можна наладзіць з імі кантакт, калі мы іх нават і знойдзем? А як іх знайсці? Дзе яны? На многія мілі навокал няма ні азёр, ні рэчак!

Па спіне Джэйкаба Люка прабеглі халодныя дрыжыкі. Ён пачаў машынальна шукаць цыгарэту.

— Якім чынам можна ўбачыць іхні касмічны карабель? — заікаючыся, зноў запытаў прадстаўнік «Таймса».

Роспачным жэстам Нэтан уключыў мікрафон і ціха адказаў журналісту:

— Праз павелічальнае шкло.

**З англійскай.**
**Пераклад Сямёна ДОРСКАГА.**







# ПУБЛІЦЫСТЫКА

- Яўген РАБКО
- Аляксандр САКАЛОЎСКІ
- Валянцін ЖДАНОВІЧ
- Васіль МАЕЎСКІ
- Аляксандр ЮДАНАЎ
- Фёдар РОМА
- Уладзімір ЮРЭВІЧ
- Мікола ГІЛЬ
- Вера ПАЛТАРАН
- Леанід ПАДГАЙСКІ
- Міхаіл СУПАНЕЎ
- Аляксандр ХУДАВЕЦ
- Аляксандр ГУБАНАЎ
- Аляксей СУЭЦІН



**Гродзеншчына і Брэстчына — вобласці-суседзі. Чым жыве камсамолія суседніх абласцей у гэтыя дні, напярэдадні паўвекавога юбілею ВЛКСМ? Якія падарункі моладзь падрыхтавала да свята.**



**Наш карэспандэнт гутарыў з сакратаром Гродзенскага абкома камсамола Яўгенам Рабко і першым сакратаром Брэсцкага абкома камсамола Аляксандрам Сакалоўскім.**

# ПЕРАКЛІЧКА СУСЕДЗЯЎ

**ПЫТАННЕ: Раскажыце, калі ласка, аб камсамольскім жыцці ў сёлетнім, юбілейным годзе. Як камсамольцы ўзбагачаюць спадчыну старэйшых пакаленняў?**

**САКАЛОЎСКІ.** Гэты год асаблівы, святочны — моладзь рыхтуецца да 50-годдзя БССР і Кампартыі Беларусі, да юбілею Ленінскага камсамола. Гэта перш за ўсё справаздача маладых перад старэйшым пакаленнем савецкіх людзей, перад тымі, хто здзейсніў Кастрычніцкую рэвалюцыю, пабудаваў сацыялізм, хто адстаяў Савецкую Радзіму ў гады цяжкіх выпрабаванняў мінулай вайны.

У гэтым годзе асабліва выразна вызначыліся наступныя напрамкі ў нашай рабоце: баявая прапаганда марксісцка-ленінскай тэорыі, павышаная цікавасць моладзі да гісторыі партыі і камсамола, далейшае арганізацыйна-палітычнае ўмацаванне камсамольскіх арганізацый, павышэнне адказнасці кожнага члена ВЛКСМ за справы свайго калектыву.

Важнае месца ў дзейнасці камсамола займае выхаванне моладзі на гераічных традыцыях савецкага народа. У сувязі з падрыхтоўкай да юбілею Ленінскага камсамола мы ўзмацнілі прапаганду гісторыі ВЛКСМ на ўсіх этапах яго дзейнасці. У паходах па месцах баявой і працоўнай славы ўдзельнічаюць сотні маладых рабочых, калгаснікаў, студэнтаў, школьнікаў. Юныя следапыты сабралі цікавыя матэрыялы аб дзейнасці першых у Заходняй Беларусі падпольных камсамольскіх арганізацый: Сінкевіцкай, Яглевіцкай, Запольскай.

Недалёка ад Івацэвіч устаноўлены помнік камсамольцу-партызану Мікалаю Пацітку. У будаўніцтве помніка прымалі ўдзел камсамольцы і моладзь раёна. На сродкі, сабраныя камсамольцамі Баранавіцкага, Маларыцкага раёнаў і горада Пінска, будуюцца помнікі героям-землякам, якімі ганарацца брэстчане: Веры Харужай — сакратару ЦК камсамола Заходняй Беларусі, Вользе Абрамук — бясстрашнаму важаку моладзі і іншым.

**РАБКО.** Бадай, самая яскравая асаблівасць камсамольскага жыцця сёлетняга года — цікавасць моладзі да гісторыі партыі, камсамола Савецкай Беларусі, да выдатнага мінулага сваёй вобласці.

Наша моладзь ганарыцца тым, што на Гродзеншчыне нарадзіўся адзін з кіраўнікоў паўстання 1863 года Валеры Урублеўскі — праслаўлены генерал Парыжскай камуны, член Першага Інтэрнацыянала. Урублеўскага звязвала моцная дружба з Карлам Марксам і Фрыдрыхам Энгельсам.

На гродзенскай зямлі распраўляў свае крылы змагар за народнае шчасце Кастусь Каліноўскі. Наш цудоўны край натхняў Элізу Ажэшку і Адама Міцкевіча, Цётку і Агінскага.

Сучасная моладзь імкнецца быць падобнай на тых, хто ў першых радах змагаўся за Савецкую ўладу. Яна ганарыцца подзвігамі камсамольцаў і камуністаў, на чале якіх ішлі Мікалай Дворнікаў, Сяргей Прытыцкі, Максім Танк, Валянцін Таўлай і іншыя.

Уся краіна ведае пра подзвіг скідэльскіх і лідскіх камсамольцаў-падпольшчыкаў у гады Вялікай Айчыннай вайны. Самаадданай працай моладзь ушаноўвае іх памяць.

Мы з задавальненнем можам адзначыць вялікія перамены, якія адбыліся ў камсамольскай арганізацыі вобласці. У 1944 годзе яна налічвала 920 камсамольцаў, сярод якіх не было ні аднаго з вышэйшай адукацыяй. Цяпер яна аб'ядноўвае больш ста тысяч юнакоў і дзяўчат, звыш 40 працэнтаў з іх маюць сярэднюю і вышэйшую адукацыю. 3 330 камсамольцаў працуюць настаўнікамі, 520 — урачамі, 1 258 — спецыялісты сельскай гаспадаркі.

У юбілейным годзе камсамольцы настойліва вывучаюць гісторыю сваіх камсамольскіх арганізацый, прадпрыемстваў, калгасаў і саўгасаў, ствараюць музеі і куткі камсамольскай славы.

Ідуць пошукі новых імён патрыётаў, якія загінулі на Гродзеншчыне, дапісваюцца старонкі гераічнай барацьбы гродзенцаў.

Нядаўна адкрыўся абласны музей камсамольскай славы, створаны на радзіме скідэльскіх камсамольцаў-падпольшчыкаў. У ім мы імкнуліся паказаць лепшых прадстаўнікоў камсамола Гродзеншчыны за ўсю гісторыю яго існавання. Экспазіцыя адлюстроўвае і справы нашых маладых сучаснікаў. Багаты матэрыял сабраны пра мужнасць камсамольцаў Жаліхоўскага і Клімака. Адзін загінуў у 1964 годзе, ратуючы ад агню грамадскае дабро, другі — летась, ратуючы ад пажару калгасную жывёлу.

Сотні юнакоў і дзяўчат вобласці будавалі Гродзенскі азотнатукавы, Лідскі лакафарбавы заводы, а цяпер працуюць на ўсесаюзнай ударнай будоўлі — узводзяць завод капралактама. Справы, здзейсненыя рукамі маладых, лепшы помнік тым, хто не дажыў да нашых шчаслівых дзён.

**ПЫТАННЕ. Якія пачыны нарадзіліся ў юбілейным спаборніцтве? Вашы вытворчыя падарункі да юбілею камсамола?**

**САКАЛОЎСКІ.** Самаадданая праца, свядомая працоўная дысцыпліна — вось што, у першую чаргу, характарызуе нашы будні.

Камсамольцы Брэсцкага дыванновага камбіната выраšылі вытворчы план 9 месяцаў выканаць датэрмінова, да 15 кастрычніка, звыш плана выпусціць 25 тысяч квадратных метраў дываноў. Тут крынічыць ініцыятыва. Дружна прайшоў трохмесячнік па эканоміі матэрыялаў, а таксама конкурс-агляд на званне лепшага маладога рацыяналізатара. У ленінскі фонд эканоміі ўнесены ўжо дзесяткі тысяч рублёў.

Правафланговымі сацыялістычнага спаборніцтва ў вёсцы ідуць маладыя хлебаробы калгаса «Іскра» Івацэвіцкага раёна. З агеньком працуюць тут два камсамольска-маладзёжныя механізаваныя звяны, перавыконваючы свае вытворчыя заданні. Брыгада меліяратараў правяла асушальныя работы на 540 гектарах забалочаных зямель. Сваімі сіламі камсамольцы



У дазоры Іван Няхайчык.

Рачны порт у Брэсце.



будуюць стадыён з комплексам спартыўных пляцовак, пасадзілі сквер імя 50-годдзя ВЛКСМ, стварылі музей працоўнай славы.

Сёння маладыя брэстчане, якія крочаць наперад пад дэвізам: «Юбілейнаму году ВЛКСМ — ударную працу!», пішуць новыя старонкі працоўнага летапісу.

Камсамольцы Баранавіцкага баваўняна-папяровага камбіната, Бярозаўскай ДРЭС, Кобрынскай швейнай фабрыкі, Пінскага завода штучных скур змагаюцца за зніжэнне сабекошту прадукцыі, за тое, каб кожны малады рабочы перавыконваў нормы выпрацоўкі. Сотні маладых працаўнікоў выйшлі пераможцамі спаборніцтва па прафесіях.

Рацыяналізатарства і вынаходніцтва выхоўваюць у моладзі свядомыя творчыя адносіны да працы. Мы правялі абласную выстаўку работ маладых наватараў, прысвечаную 50-годдзю ВЛКСМ. На ёй было паказана больш ста работ маладых рацыяналізатараў, з іх трыццаць — адабрана на рэспубліканскую выстаўку.

Камсамольцы саўгаса «Мухавец» Брэсцкага раёна і калгаса «Аснежыцкі» Пінскага раёна выступілі ініцыятарамі за добраўпарадкаванне вёсак і паспяховае выкананне планаў культурна-бытавога будаўніцтва. Абком камсамола правёў камсамольска-маладзёжны месячнік па добраўпарадкаванню вёсак, закладзена больш двухсот сквераў і паркаў імя 50-годдзя ВЛКСМ, пасаджана каля мільёна дрэў і кустоў.

На прадпрыемствах, у калгасах і саўгасах вобласці працуе 42 тысячы камсамольцаў. Заслужанай славай карыстаюцца маладыя працаўнікі: Ніна Бакунец — свінарка калгаса «17 верасня» Столінскага раёна, Герой Сацыялістычнай Працы, член абкома камсамола Галіна Скакун — даярка калгаса імя Жданава Брэсцкага раёна, Ганна Канавальчук — шліфоўшчыца Кобрынскага інструментальнага завода, Вера Клімчук — птушніца саўгаса «Сцяг» Брэсцкага раёна, Уладзімір Калмак — цясляр Бярозаўскай механізаванай калоны, Міхаіл Чуб — трактарыст калгаса «Праца» Іванаўскага раёна, Надзежда Грыб — ткачыха Баранавіцкага баваўняна-папяровага камбіната і многія іншыя.

Брэсцкая крэпасць. Яны нарадзіліся ў год геraічнай абароны.



Моладзь прымае непасрэдны ўдзел у кіраўніцтве дзяржаўнымі справамі, у рабоце разнастайных грамадскіх арганізацый. Больш тысячы камсамольцаў — дэпутаты мясцовых Саветаў. Выхаванка камсамола Ксеня Кляцун, звеннявая калгаса «40 год Кастрычніка» Столінскага раёна, выбрана дэпутатам Вярхоўнага Савета СССР, камсамолкі Марыя Наліўка, Тацццяна Кузарчук, Люба Зялінская, Марыя Аляхновіч — дэпутатамі Вярхоўнага Савета БССР.

**РАБКО.** Ініцыятарамі спаборніцтва ў гонар камсамольскага юбілею выступілі юнакі і дзяўчаты гродзенскага завода «Аўтазапчастка», якія змагаюцца за права называцца брыгадай імя Героя Савецкага Саюза Міхаіла Курбатава, што загінуў пры вызваленні Гродна ад фашысцкіх захопнікаў.

Сярод тых, хто крочыць у першых радах спаборніцтва, камсамольскія арганізацыі ўчастка ЗІЛаў, дзе камсоргам Міхаіл Рубінрауд, і рамонтна-механічнага цэха, дзе камсоргам Віталь Фаменкаў. Па ўмовах спаборніцтва ім прадастаўлена пачэснае права паехаць на радзіму Міхаіла Курбатава і ўручыць працоўны рапарт маці Героя. Камсамольцы Сцяпан Быцко, Уладзімір Каламіец, Анатоль Стаякоў узнагароджаны значком ЦК ВЛКСМ «Маладому перадавіку вытворчасці».

Гарачае змаганне ідзе за права называцца брыгадай ці экіпажам імя 50-годдзя ВЛКСМ. Толькі на будаўніцтве завода капралактама дзевяць брыгад спаборнічаюць за гэтае права. Аб тым, якая брыгада займае першае месца, кожны дзень абвяшчае чырвоная зорачка, што запальваецца на дошцы паказчыкаў. Такога гонару не адзін раз удастойвалася камсамольска-маладзёжная брыгада заслужанага будаўніка БССР Міхаіла Ярашэвіча.

Звыш 1 500 юнакоў і дзяўчат Слонімскага раёна змагаюцца за званне ўдарнікаў камуністычнай



Раніца на будоўлі Гродзенскага капралактамавага завода.



Мантаж трубаправода на капралактамавым заводзе вядзе маладзёжная брыгада Анатоля Сіповіча.

Фабрыка ўгнаенняў у Гродна дзейнічае.



працы. Каля шасцісот чалавек ужо ўдастоены гэтага высокага звання. У шэрагу правафланговых — прэсоўшчыца Рая Кулікова і вышывальшчыца Зоя Гуговіч з фабрыкі «Чырвоная зара», ткачыхі Соф'я Кароль і Алена Амельчанкава з фабрыкі «Тэкстыльшчык», слесары Аляксандр Бова і Тамара Каротчыкава, токар Уладзімір Ерш з райпрамкамбіната.

Сельская моладзь гэтага раёна паспяхова ўдзельнічае ў барацьбе за высокі ўраджай, за багацце прадуктаў жывёлагадоўлі. Добрых вынікаў у спаборніцтве дамагліся трактарысты калгаса «На варце міру» Адам Бондар, Аляксей Яфімік, Павел Фарыся, палявод калгаса «Прагрэс» Аляксандр Аляксейчык, цялятніца калгаса «Чырвоная зорка» Таццяна Папкевіч і многія іншыя.

Камсамольская арганізацыя калгаса «Слава працы» Дзятлаўскага раёна — баявы памочнік праўлення арцелі ва ўсіх пытаннях гаспадарчага і культурнага жыцця. 155 юнакоў і дзяўчат налічвае камсамольская сям'я. Дзятлаўскі райком камсамола прысвоіў ёй імя паэта-патрыёта Валянціна Таўлая. Узначальвае арганізацыю малады камуніст Ніна Халопік, якая працуе загадчыцай малочна-таварнай фермы. Многія камсамольцы тут працуюць брыгадзірамі і загадчыкамі вытворчых участкаў. У гэтым годзе 13 камсамольцаў рэкамендаваны ў члены партыі. У калгасе створаны маладзёжны ансамбль «Рэчанька», пра які ведаюць далёка за межамі Гродзеншчыны.

Шмат сіл аддае моладзь добраўпарадкаванню вёсак, будаўніцтву новых жылых дамоў і культурна-асветных устаноў. Ужо забудаваны па генеральнаму плану калгасы «Гвардыя» Берастовіцкага раёна, «Зара» і імя Царука Карэліцкага раёна, «Слава працы» Дзятлаўскага раёна. У новых вёсках — прыгожыя, светлыя дамы, пасаджаны сады, паркі, скверы, у дамах — газ, паравое ацяпленне, радыё, электрычнасць, тэлевізары.

У добраўпарадкаванні і азеляненні вёсак, у стварэнні сквераў і паркаў імя 50-годдзя ВЛКСМ актыўна ўдзельнічаюць школьнікі, настаўнікі.

**ПЫТАННЕ. У фарміраванні камуністычнага светапогляду выключную ролю адыгрывае палітычная адукацыя моладзі. Якія формы палітычнай асветы сталі найбольш папулярнымі, дзейснымі?**

**САКАЛОЎСКІ.** Найбольшую цікавасць праяўляе моладзь да палітычных гурткоў «Наш Ленінскі камсамол», «Кругагляд», «Гутаркі аб партыі», «Біяграфія У. І. Леніна». Папулярнымі сталі клубы «Праметэй», «Глобус», «Радзіма», а таксама Ленінскія ўрокі, клубы рэвалюцыйнай, баявой і працоўнай славы савецкага народа. Яны ўсталяваліся як дзейсныя формы палітычнай адукацыі моладзі.

Сёлета камітэты камсамола паклапаціліся пра павышэнне майстэрства прапагандыстаў, пра скарыстанне ў лекцыйнай рабоце разнастайных дапаможных сродкаў. Падбіралі наглядныя дапаможнікі, скарыстоўвалі тэхнічныя сродкі прапаганды, на заняткі запрашалі цікавых людзей. Напрыклад, заняткі на тэму «Камсамол у гады Вялікай Айчыннай вайны» праводзіліся ў музеі Брэсцкай крэпасці. Слухачы прагледзелі фільм аб гераічнай абароне цытадэлі, пабывалі на месцах баёў, праслухалі расказы ўдзельнікаў абароны пра мужнасць камсамольцаў-брэстаўчан. У часе летніх канікул актывісты займаліся ў паліткулубах, лектарскіх групах, выступалі з лекцыямі па гісторыі камсамола.

У гэтым годзе ўпершыню на Брэстчыне створана сорак два студэнцкія будаўнічыя атрады. Мы разглядаем іх як выдатную школу палітычнага і грамадскага выхавання моладзі.

**РАБКО.** Мы імкнёмся, каб наша моладзь была ідэйна перакананай, палітычна адукаванай, каб яна ўмела даць адпор усякім праявам дробнабуржуазнай ідэалогіі. Наша моладзь з гонарам працягвае рэвалюцыйныя справы сваіх бацькоў, якія змагаліся за сённяшняе шчасце.

Па ініцыятыве камсамольскіх арганізацый Навагрудскага і Ваўкавыскага раёнаў пачалі праводзіцца канферэнцыі «Што дала Савецкая ўлада моладзі». На іх выкарыстоўваецца пераканаўчы мясцовы матэрыял, выстаўкі і дыяграмы, выступаюць ветэраны партыі і камсамола. Яскрава паказваюцца дасягненні раёна, калгаса за гады Савецкай улады, намячаюцца задачы камсамольскіх арганізацый. Гэтая форма палітычнага выхавання моладзі папулярная і шырока выкарыстоўваецца на месцах.



Брэсцкія ткачыхі.

Цясляр Сяргей Бачыла будуе капралактамавы.



ПЫТАННЕ. Дэвіз моладзі — дружба, еднасць. Раскажыце аб сувязях камсамола вобласці з моладдзю братніх рэспублік і краін народнай дэмакратыі.



Шмат дзяўчат на Гродзенскай баваўняна-прадзільнай фабрыцы. І сярод іх — Леаніда Ліхарад выпускае пражу толькі выдатнай якасці.

Брэсцкая моладзь на Мухаўцы.



САКАЛОЎСКІ. Паглыбленню інтэрнацыянальнага выхавання моладзі садзейнічае геаграфічнае размяшчэнне нашай вобласці — яна граніччыць з Польскай Народнай Рэспублікай. Брэст — гэта «вароты» ў Савецкі Саюз для турыстаў і дэлегацый з многіх краін Еўропы.

Камсамольскія арганізацыі шмат робяць, каб пашырыць сувязі і ўмацаваць дружбу з моладдзю братняй Польшчы. Не толькі моладзь, але людзі сталага веку з суседняй Любліншчыны прымалі ўдзел у мотаэстафеце «Брэст — Люблін», прысвечанай 50-годдзю Вялікага Кастрычніка. Разам з моладдзю былі П. Гулаў — член КПСС з 1917 года, дэлегат II з'езда Саветаў, А. Махнач — пісьменнік, удзельнік абароны Брэсцкай крэпасці-Героя, Н. Макараў — Герой Савецкага Саюза, Т. Кухарчук — маладая ткачыха Брэсцкага дыванова камбіната, дэпутат Вярхоўнага Савета БССР.

Незабыўнае ўражанне пакінула маніфестацыя, прысвечаная памяці вязняў Майданека. На тым месцы, дзе знаходзіўся канцлагер, пасланцы брэсцкай моладзі перадалі працоўным Любліна па жмені зямлі з крэпасці-Героя і з пасёлка Леніна на Магілёўшчыне, дзе польская дывізія імя Тадэуша Касцюшкі атрымала першае баявое хрышчэнне ў бітвах з захопнікамі.

Мы праводзім сумесна сімпозіумы, абменьваемся думкамі па актуальных праблемах міжнароднага маладзёжнага руху.

Цікава прайшла навукова-тэарэтычная канферэнцыя, прысвечаная 50-годдзю Вялікага Кастрычніка, у якой брала ўдзел дэлегацыя Люблінскага ваяводства. На канферэнцыі былі заслуханы даклады «Рэха Кастрычніцкай рэвалюцыі



З хуткасцю экспрэса. Любата!



У творчых спрэчках спецыялістаў нараджаецца капралактамавы.



на Люблиншчыне», «Аб сумеснай барацьбе працоўных Польшчы, Украіны і Беларусі за сацыялістычную рэвалюцыю і ўстанаўленне Савецкай улады» і іншыя.

Дэманстрацыяй інтэрнацыянальнага адзінства моладзі з'явілася правядзенне такіх знамянальных дат, як святкаванне 49-й гадавіны Ленінскага камсамола, 22-й гадавіны падпісання дагавору аб дружбе паміж СССР і ПНР, Дня савецкай моладзі і г. д.

У Брэсце пабывалі польскія кінематаграфісты, якія стварылі фільм аб сяброўскіх прыгранічных сувязях.

**РАБКО.** У нас на злётах, канферэнцыях бываюць заўжды прадстаўнікі камсамола і саюзаў моладзі Польшчы. Узмацніліся спартыўныя сувязі, прайшлі міжнародныя сустрэчы па лёгкай і цяжкай атлетыцы, боксу, футболу, ручных гульнях, матаспорту. Яны сталі традыцыйнымі.

У жніўні гродзенскія валейбалісты сустрэліся з валейбалістамі Нігерыі, а футбалісты «Нёмана» правядуць таварыскі матч з дацкімі футбалістамі.

Кожны год у Гродна прыязджаюць вучні з розных куткоў краіны ў школу, якая носіць імя Героя Савецкага Саюза М. Д. Карбышава. Тут можна пачуць і рускую, і ўкраінскую, і літоўскую мовы.

Абменьваюцца вопытам работы камсамольскія актывісты Воранаўскага раёна і Эйшымскага раёна Літвы. Праводзяцца сумесныя семінары, паходы па месцах народнай славы; калектывы мастацкай самадзейнасці Воранаўскага раёна часта выязджаюць з канцэртамі ў калгасы і саўгасы Літвы, а літоўцы, у сваю чаргу, бываюць у нашых калгасах. Беларускія песні і танцы выконваюць літоўцы, а беларусы спяваюць песні літоўскія.

Юныя гродзенцы перапісваюцца са школьнікамі розных рэспублік нашай краіны і з дзецьмі за рубяжом. Нядаўна школьнікі Гродзенскага раёна правялі сумесны злёт атрадаў юных сяброў пагранічнікаў. Праводзяцца фестывалі саюзных рэспублік, фестывалі дружбы дзяцей усёй планеты.

**ПЫТАННЕ. Якія, на ваш погляд, найбольш актуальныя камсамольскія праблемы сёння? Што вас хвалюе?**

**САКАЛОЎСКІ.** Праблем шмат. У першую чаргу мы думаем над тым, каб палепшыць фарміраванне камуністычнага светапогляду моладзі, выхоўваць у яе непрымірымасць да буржуазнай ідэалогіі. Галоўнейшая з задач — паглыбіць змест палітычнай адукацыі. Заняткі ў гуртках і семінарах яшчэ не заўсёды і ўсіх задавальняюць, яны павінны паўней развіваць у юнакоў і дзяўчат цікавасць да грамадска-палітычнага жыцця. Неабходна больш шырока паведамляць моладзі аб палітычным, эканамічным жыцці вобласці, рэспублікі, усёй краіны. Будзем часцей запрашаць на сустрэчы з камсамольцамі і моладдзю партыйных і савецкіх работнікаў, вядомых вучоных і педагогаў, работнікаў культуры і мастацтва.



Самадзейныя артысты з вёскі Глінкі Столінскага раёна.



У Гродзенскім палацы шлюбаў. Нараджаецца яшчэ адна сям'я.

Нам патрэбна больш настойліва прыцягваць маладых рабочых і калгаснікаў у вячэрнія і завочныя школы, развіваць у іх цікавасць да навукова-тэхнічнай творчасці.

Шмат яшчэ трэба зрабіць, каб арганізаваць як след адпачынак моладзі — наладзіць разнастайныя клубы па інтарэсах, спартыўныя секцыі, мастацкую самадзейнасць. Нашых рук і розуму чакаюць таксама добраўпарадкаванне вёсак, ажыўленне дзейнасці ўстаноў культуры.

Наперадзе многа спраў. Таму мы імкнёмся, каб кожная камсамольская арганізацыя была баявым калектывам, каб кожны член ВЛКСМ актыўна і творча аддаваў свае сілы і веды агульнай справе — пабудове камунізма ў нашай краіне.

**РАБКО.** Перш за ўсё, узмацненне ідэалагічнай работы, выхаванне класавай самасвядомасці. Наш абавязак — больш дзейсна вывучаць праблему павышэння грамадска-палітычнай актыўнасці моладзі. Вельмі непакоіць тое, што ў нас усё яшчэ сярод юнакоў і дзяўчат сустракаюцца раўнадушныя, пасіўныя, бесклапотныя. Без шырокага ўцягнення ўсёй моладзі ў грамадска-карысную працу гэту задачу цяжка вырашыць. Нават сярод камсамольцаў ёсць такія, што не выконваюць грамадскіх даручэнняў, ходзяць у «пасіве». Як вядома, роля калектыву ў выхаванні маладога чалавека вельмі вялікая.



Самыя юныя брэстаўчане.

Аднак часам здараецца, што калектыў мала звяртае ўвагі на тое, як малады рабочы адносіцца да працы, як вучыцца, чым займаецца ў вольны час.

Усё настойлівей мы гаворым аб усебаковым развіцці маладога чалавека. Для гэтага нам не хапае клубаў і спортпляцовак. Трэба больш арганізатараў мастацкай самадзейнасці і трэнераў. Не зусім задавальняе нас становішча з кіраўнікамі камсамольскай палітасветы.

Арганізацыя культурнага адпачынку моладзі ў сувязі з пераходам на 5-дзённы рабочы тыдзень — вось пытанне, якое яшчэ слаба вырашаецца і патрабуе штодзённай увагі камсамольскіх арганізацый.

**Гутарку вёў Эдуард КАРНІЛОВІЧ.**
**Фота Ю. Іванова, Я. Макарчука, У. Мяжэвіча, А. Мызнікава.**

**Чарговы нумар — ПРЫСВЕЧАНЫ 50-ГОДДЗЮ КАМСАМОЛА. Сакратар ЦК ЛКСМБ Арсень ВАНІЦКІ выступае з артыкулам да юбілею.**

**У нумары — ПОШТА НАШЫХ КАРЭСПАНДЭНТАЎ, РЭПАРТАЖЫ з ударных камсамольскіх БУДОЎЛЯЎ.**





# ПАВАЖАНЫ ТАВАРЫШ ХЛЕБ!

**РЭПАРТАЖ**

Справіўшы табе юбілейныя дажынкі, людзі зноў засеюць нівы тваім зернем. Потым надыдзе зіма, і хоць зімой работы ў хлебароба не занадта, але ж і свіней, і кароў, і курэй дагледзець трэба. Не паспее ён азірнуцца, як зноў вясна ўдарыць у званы, а з вясны і да восені, сам ведаеш, людзі ўвесь час у полі.

Дык ці не прыйшоў час, паважаны таварыш хлеб, паказаць тых людзей, што ўсё жыццё працуюць на цябе? Глянь і ты сам на герояў палеткаў і ферм. Прыгадай іх лёс, успомні гісторыю. Пазнаём з імі тых чытачоў, якія жывуць у горадзе і ведаюць пра цябе толькі тое, што ты ў іх заўсёды на стале.

Вы падасцё руку, а ён крыху засароміцца і спачатку правядзе далонню па пінжаку, каб выцерці яе. Не, рука ў яго чыстая, калі што — ён так і скажа: «Прабачце, я спачатку памыю рукі...» Пацiскаючы яго далонь, вы адчуеце жорсткія мазалі. Тутужо стане няёмка вам, няёмка за свае рукі, мякчэйшыя і бялейшыя. Але ён усміхнецца, запросіць вас у хату. Гаспадыня пасцеле абрус, а гаспадар возьме круглы бохан хлеба, спечаны на кляновым лісце, і першую скібу з бліскучай хрумсткай скарынкай адрэжа вам. Смачнейшага за гэты хлеб няма! Тую скібу трэба есці проста так, без солі нават, каб яшчэ раз адчуць натуральны смак хлеба. Бо гэты хлеб — з першых рук, з рук хлебароба.

Зразумела, вы не ўтрымаецеся, каб не пахваліць гаспадыню, якая пякла гэтыя круглыя бοханы. Сэрцам адчуваеш, як знікаюць апошнія перашкоды да шчырай гутаркі паміж вамі і гаспадаром. Хлеб шануе той, хто шануе людзей. Спакон веку ў нас так было і так будзе.

●

Як гэта водзіцца на сяле, пачнем з самых старэйшых.

Бацька яго хадзіў па свеце з торбай, батрачыў, пасвіў чужых кароў. Такая жабрацкая доля дасталася б, напэўна, і яму, Андрэю, каб у 1930 годзе не ўступіў ён у калгас. Жыў ён тады пад Плешчаніцамі, між бярэзнікаў і соснаў пасвіў калгасны статак. У калгасе адчуў сябе чалавекам, яго ўсе паважалі, хоць быў пастухом.

Калі пачалася вайна, Андрэй Паўлавіч Мірутка пайшоў у партызаны і хутка стаў разведчыкам у атрадзе імя Катоўскага.

Андрэй Паўлавіч пляжыў немцаў і паліцаяў спрытна, з толкам, з сялянскай кемлівасцю. У адну з яго засад трапіў нават начальнік плешчаніцкай управы са сваімі прыхваснямі.

У сорак трэцім годзе немцы блакіравалі лясы на Лагойшчыне. Андрэй Мірутка пайшоў у разведку і трапіў у лапы ворага. Яму скруцілі рукі дротам, кінулі ў яму з вадой. Білі шампаламі, вадзілі на расстрэл, зноў кідалі ў яму з вадой, зноў білі — хацелі даведацца, дзе партызаны. Ноччу ён раскруціў дрот, падкапаўся пад сцяну і прыбег у атрад. Таполевым лісцем гаіў свае раны і разам з таварышамі прабіваўся з блакады.

Як прыйшлі нашы, Мірутку хацелі выбраць старшынёй калгаса, але ён збег... На фронт. Браў штурмам Кенігсберг, там яго параніла. Паўгода праляжаў у шпіталі.

Перамогу Андрэй Паўлавіч сустрэў пастухом у калгасе імя Гастэлы Мінскага раёна.

Цяпер Андрэю Паўлавічу сёмы дзесятак пайшоў. Ён Герой Сацыялістычнай Працы,



неаднаразовы ўдзельнік ВДНГ, персанальны пенсіянер. Але не на пенсіі. Пад яго пільным вокам — амаль сто кароў.

Андрэй Паўлавіч пасвіць жывёлу без сабакі, не б'е пугай: напалоханая карова не дасць малака. Раніцай, па расе, падсольвае траву. На ферму гоніць статак памаленьку. І яшчэ мноства розных хітрыкаў, якія дасталіся яму ў спадчыну ад бацькі, ведае пастух.

Такіх пастухоў у нас не так многа. Чаму? На гэта адказаў сам Андрэй Паўлавіч:

— Няправільная практыка ў іншых калгасах. Няздатных людзей вылучаюць у пастухі. А гэтую справу любіць і разумець трэба...

●

Памятаеце ў Купалы:

На сход прыйшоў, як заўсягды,
Таварыш Модзін — старшыня,
І слова ўзяў, і кажа так:
— Тут не прыстанішча у нас
Для гультаёў і для гуляк,
А месца для працоўных мас.



Эмануіл Натанавіч Модзін быў заснавальнікам і старшынёй той самай камуны, якая стала галоўнай гераіняй паэмы «Над ракою Арэсай». У 1929 годзе ён прывёў на Любаншчыну чатырыста былых чырвонаармейцаў. Па грудзі ў чорнай балотнай вадзе камунары капалі асушальныя канавы да Арэсы, трактарам узаралі тарфяную цаліну і пачалі збіраць з гэтай адвечнай багны высокія ўраджаі. Камуна імя БВА паказала цудоўныя ўзоры калектыўнай працы, была першай ластаўкай сацыялістычнай культуры ў палескай вёсцы.

Пасля паслалі Модзіна вучыцца. А потым ён стаў дырэктарам саўгаса «Любанскі». Эмануілу Натанавічу цяпер 64 гады, але ён і сёння кіруе гэтай вялікай гаспадаркай.

Саўгас «Любанскі» мае высокія паказчыкі. Летась тут атрымалі 815 тысяч рублёў прыбытку, надаілі па 636 цэнтнераў малака ад каровы і здалі дзяржаве па 180 цэнтнераў мяса на кожныя 100 гектараў ворнай зямлі. У саўгасе 2 800 галоў буйной рагатай жывёлы і 7 000 свіней. Куры знеслі 2 мільёны яек за год. Сярэднія ўраджаі з тарфянікаў (тут, як і ў камуне, калісьці асушылі балоты): 28,7 цэнтнера збожжавых, 332 — бульбы, 357 — цукровых буракоў з гектара.

Саўгасаўцы славяцца сваёй працавітасцю. Вось што гавораць Герой Сацыялістычнай Працы з гэтага саўгаса Фёдар Мікалаевіч Статкевіч:







— У 1931 годзе, калі на гэтай зямлі была яшчэ лугавая гаспадарка, я пайшоў на курсы трактарыстаў. Вучылі нас цэлую зіму. Вучылі без падручнікаў, без наглядных дапаможнікаў. А трактары мы ні разу і ў вочы не бачылі. Усё ж вясной нам уручылі пасведчанні трактарыстаў. А працаваў я некалькі месяцаў на конях... Толькі ў канцы ліпеня прыслалі ў саўгас ХТЗ-15/30. Памятаю нашу першую баразну на балоце. Людзі ішлі ззаду і падтрымлівалі адваленыя скібы, каб не распаўзаліся.

Жылі мы тады ў палатках аж да самых маразоў. Аралі балотную цаліну, вывучалі трактар. Я цяміў няблага, ХТЗ хутка зразумеў, навучыўся на ім працаваць. У 1936 годзе перасеў на ЧТЗ-60, а перад вайной атрымаў НАЦІ-3. На гэтым трактары адправіўся і на фронт. Здаў яго ў Доўску, а сам трапіў у аўтатранспартны полк. Вайну прайшоў ад Масквы да Кенігсберга. Гарматы вазіў.

Вяртаюся ў 45-ым дамоў — ад саўгаснага трактарнага парка нічога не засталося. Але патрошку абжыліся, пайшла справа на лад. У 1952 годзе я вырасціў ураджай жыта — 32,1 цэнтнера з гектара. За гэта і ўзнагароду атрымаў. Сыны мае паглядзелі, як я працую, і таксама падаліся ў трактарысты. Рыгор, Васіль, Іван, Хведар — цяпер саўгасныя механізатары. Яшчэ Валерка расце. Відаць, нашай справе таксама не здрадзіць.

●



З саўгасам «Любанскі» спаборнічае саўгас імя 10-годдзя БССР. Трактарыст Косця Папко ў гэтым спаборніцтве таксама прынёс свайму саўгасу славу. У 1966 годзе ён атрымаў з аднаго гектара па 312 цэнтнераў бульбы. Цяпер Косця — брыгадзір. У яго брыгадзе 20 трактараў. Ёсць новыя, ёсць і такія, што ў іншых гаспадарках ужо даўно спісаны. Такі трактар У-2, на якім працуе Алесь Ануфрыевіч Аўрамец. З павагі да яго стажу, Косця прапанаваў старому механізатару перасесці на новую машыну, але Аўрамец адмовіўся:

— Я і на У-2 цябе даганю!

Сапраўды, на апошняй касавіцы Алесь Ануфрыевіч працаваў лепш за ўсіх.

А Косця? Чым заняты Герой цяпер? Сёлета ён заканчвае завочнае аддзяленне Пружанскага сельскагаспадарчага тэхнікума. Аграномам будзе Косця Папко.



Тамара Шкурко ў 1947 годзе атрымала званне Героя за высокія ўраджаі жыта. Маладая звеннявая з калгаса «Чырвоная ніва» Брагінскага раёна праславілася тады на ўсю рэспубліку.

Тамара вучылася потым у тэхнікуме, у Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі. Цяпер Тамара Іванаўна навуковы супрацоўнік Беларускага навукова-даследчага інстытута садавіны, гародніны і бульбы. Піша дысэртацыю на тэму «Агратэхніка вырошчвання чорных парэчак ва ўмовах БССР».

Тамару Іванаўну наш карэспандэнт сустрэў на доследным участку. Вучні мясцовай школы памагалі ёй зняць ураджай «Галубкі» — так завецца гатунак ягад, якія яна вырасціла. Галінкі кустоў радасна ўскідваліся ўверх, калі з іх здымалі важкія гронкі «беларускага вінаграду». Не дзіва — 4 тоны ягад з гектара двухгадовых кустоў атрымала Тамара Іванаўна. Пры гэтым яна даказала, што на нашых землях палова дарагіх угнаенняў можа быць заменена тарфянай крошкай.



Яе радзіма — Прыбужжа, крынічны куток з чыстым паветрам і маляўнічымі лугамі. З незапомных часоў жывуць тут працавітыя людзі.

У яе цяжкая пасада — даярка. Месца працы — калгас імя Жданава Брэсцкага раёна.

Яе рэкорд — 6 200 літраў малака ад кожнай каровы.

Нібы да агеньчыка, ідуць да яе людзі, каб навучыцца мудрасці працы. Яна, як родная маці, клапоціцца пра моладзь. Ёй шмат пішуць. Бо яна не толькі славутая даярка, але і дэпутат Вярхоўнага Савета СССР.

Такая Лідзія Іванаўна Асіюк, Герой Сацыялістычнай Працы.

На адной ферме з Лідзіяй Іванаўнай працуе яе дачка Галя — таксама ўвішная даярка. І да Галі прыйдзе заслужаная слава.



Надзея Іванаўна Букатая ўжо васемнаццаць гадоў працуе на свінаферме калгаса «Прагрэс» Капыльскага раёна. Толькі летась яна здала дзяржаве тысячу свіней. Падлікі паказваюць, што Надзея Іванаўна кожны дзень атрымлівае па 4 цэнтнеры свініны.

**Валянцін ЖДАНОВІЧ.**

**Фота аўтара, Яўгена МАКАРЧУКА і Леаніда ЭЙДЗІНА.**

# АДМІРАЛ З БЕРАГОЎ СОЖА

Калі ў 1917 годзе голас рэвалюцыйнай «Аўроры» данёсся і да Старой Зенькавіны, невялікай вёскі на правым беразе Сожа, Петрыку споўнілася пятнаццаць гадоў.

Ён, сын удавы Ціханіхі (так звалі аднавяскоўцы яго маці Мар'ю Анісімаўну), тады яшчэ не мог зразумець, што адбылося ў гісторыі. Аднак, назіраючы за падзеямі ў недалёкім мястэчку Карме, куды маці звычайна пасылала яго купіць штонебудзь, а потым — і ў сваёй вёсцы, дасціпны і ўдумлівы падлетак сэрцам адчуў: адбываецца нешта незвычайнае, добрае, справядлівае...

— Ой, матуля!— прыйшоўшы аднойчы з Кармы, узрушаны і радасны гаварыў Петрык.— Што там робіцца! Усе крамы пазачыняны! Багацеі пахаваліся, а местачкоўцы ўсе да аднаго выйшлі на вуліцу. З чырвонымі сцягамі. І пяюць: «Вставай, поднимайся, рабочий народ, иди на врага, люд голодный...»

Але маці абыякава махнула рукой.

— Ат, сынок! Што з тых сцягоў ды песень!.. Калі цара скінулі, таксама з песнямі і сцягамі хадзілі. А што з таго? Людзі вунь на вайне гінуць. І зямлі ў нас як не было, так і цяпер няма. Памешчыкі ды буржуі жывуць, як і жылі, а мы — як марнелі, так і марнеем...

— Не, не, матуля! — не згаджаўся Петрык.— Гэтак больш не будзе. Я на мітынгу сваімі вушамі чуў. Бальшавік выступаў. Казалі, ад самога Леніна прыехаў. Ён проста і ясна сказаў: «Цяпер уся ўлада — Саветам! Фабрыкі і заводы — рабочым! Уся зямля — сялянам!»

Маці ўздыхнула:

— Было б добра, сынок, каб чутае ды ўбачыць. Можа б, і ты з ярма вылез: не пасвіў бы чужых кароў...

Маці... Яна жадала свайму сыну самага найлепшага ў жыцці, ды нічым не магла памагчы. Пасля смерці Ціхана на яе руках засталося пяцёра дзяцей. Петрык, самы старэйшы з іх, памагаў гараваць ёй гора: хадзіў за плугам, браў у рукі касу...

— Гаспадар,— хвалілі Ціханішынага сына суседзі.— Эх, каб даў бог веку Ціхану — ганарыўся б сваім сынам-памочнікам!..

Петрыкаў бацька служыў у ваеннамарскім флоце, на праслаўленым «Варагу» ваяваў з японцамі. Запомнілася Петрыку, як, успамінаючы любімца ваенных маракоў адмірала Макарава, якога яму даводзілася сустракаць па службе, бацька звычайна гаварыў:

— Вучыся, сынок. Вучонаму чалавеку лягчэй жыць на свеце!.. Вунь быў у нас адмірал Макараў...

Ціхан Якімавіч стараўся даць сыну хаця мала-мальскую адукацыю, але старыя раны, атрыманыя на вайне за цара-бацюшку, звялі яго дачасна ў труну. Петрык вымушаны быў пакінуць вучобу і пайсці зарабляць хлеб.

І вось Вялікі Кастрычнік...

Збывалася ўсё, пра што гаварыў у Карме на мітынгу той бальшавік. У Старой Зенькавіне, як і ў іншых вёсках, сяляне пачалі дзяліць панскую зямлю. Атрымала свой надзел і сям'я ўдавы Ціханіхі. Тым часам для дзяцей батракоў і беднякоў адчыніліся дзверы бясплатных школ. І Петрык цвёрда вырашыў зноў пайсці вучыцца.

— Пра гаспадарку асабліва не турбуйся, мама,— супакойваў ён Мар'ю Анісімаўну.— Я буду памагаць...

У Карме Петрык нясмела пераступіў парог новай, народнай школы.

Пятро Бандарэнка, стаўшы вучнем Кармянскай школы, паводзіў сябе вельмі прыстойна, вучыўся выдатна, паказваючы прыклад іншым вучням у паспяховасці і камсамольскай рабоце...

Гэта былі шчаслівыя і трывожныя дні, напоўненыя рэвалюцыйнай рамантыкай. Усталяванне новага ішло ў жорсткіх класавых схватках са старым. Барацьба поглядаў часта пераходзіла ў фізічную расправу і над тымі, хто змагаўся за новы лад, і над тымі, хто трымаўся за старое. У Карме быў створан рэўком, а побач з ім, у валасным Савеце, разам з адданымі ленінскай справе камуністамі Агеевым і братамі Антоненкамі прытаіліся меншавіцка-эсэраўскія агенты. У Літвінавічах, за сем кіламетраў ад Кармы, працавала створаная Панцеляймонам Мікалаевічам Лепяшынскім першая ў рэспубліцы Саве-



таў школа-камуна, а недалёка ад яе, у лясах каля Вашчанак, звіла гняздо белабандыцкая зграя.

Змаганне ішло не на жыццё, а на смерць. Камсамолец Пятро Бандарэнка не быў у баку ад усіх. Яго стрыечны брат Іван Ільюшанка, які ў той час узначальваў кармянскую міліцыю, часта расказваў аб сутычках з ворагамі. І аднойчы заўважыў:

— Гідра контррэвалюцыі дзе-нідзе прыкметна ўзнімае галаву. Адной міліцыі, Пятро, цяжка: патрэбна дапамога...

— Ведаю...— не задумваючыся, адказаў Пятро.— І ў нашу школу пагрозлівыя запіскі падкідваюць. А чаму б не зрабіць так, як у Літвінавічах? Там настаўнікі і вучні ўдзень вучацца і працуюць, а ноччу за вінтоўкі і — на варту...

— Зброя знойдзецца,— Іван па-таварыску паляпаў Пятра па плячы.— Але ж, браце, не кожнаму яе даверыць можна. Там, у школе-камуне, людзі, што называецца, на падбор, камунары. А тут трэба добра прыглядзецца да чалавека перш, чым вінтоўку даць яму ў рукі.

— Не ўсе ж і ворагі. Калі можа з сотні адзін знойдзецца, дык мы яго!.. — Пятро зрабіў рашучы жэст кулаком.

— А каб потым не махаць кулакамі,— параіў Іван,— то трэба добра прыглядзецца да хлопцаў, падабраць найбольш актыўных, баявых.

— Добра! — згадзіўся Пятро.— Падбяром хлопцаў...

Неўзабаве быў створаны атрад для дапамогі рабоча-сялянскай міліцыі і чонаўцам. У яго ўвайшлі і многія вучні. З гэтага часу спраў у Пятра прыбавілася. З раніцы ён з таварышамі — у школе. Удзень працаваў на прышкольным участку і памагаў маці па гаспадарцы. А ўвечары браў вінтоўку і станавіўся на варту першых заваёў Кастрычніка.

— У тыя дні,— успамінае былы член Кармянскага валаснога камітэта камсамола Дзяніс Дзмітрыевіч Шугаеў,— вельмі часта можна было бачыць, як надвячоркам па местачковай вуліцы маршыравала група юнакоў з чырвонымі павязкамі на рукавах, з вінтоўкамі на плячы і спявала сваю любімую песню: «Винтовочка, бей, винтовочка, бей, красная винтовочка, буржуев не жалей!..»

Запяваў песню Пятро Бандарэнка. Памятаю, як нашы хлопцы акружылі бандытаў за Вынашаўкай... От добра тады ім далі: ніводзін бандзюк не ўцёк! У гэтай аперацыі Пятро ледзь не загінуў...

Ішоў 1919 год. На маладую рэспубліку Саветаў абрушыліся новыя ўдары. Краіны Антанты разам з унутранай контррэвалюцыяй імкнуліся з усіх сіл задушыць уладу рабочых і сялян.

**Панас Маскалёў і Пятро Бандарэнка пасябравалі з маленства. Сябрамі засталіся і на Дняпроўскай флатыліі. 1920 год.**

Не, не мог камсамолец Пятро Бандарэнка стаяць у баку ад усенароднай барацьбы з ворагамі.

«Запішуся добраахвотнікам...» — гэтая думка не пакідала яго ўжо некалькі дзён. Сваёй думкай ён падзяліўся з сябрам дзяцінства Панасам Маскалёвым.

— А ці возьмуць?— засумняваўся Панас.— Нам жа яшчэ і семнаццаці няма...

— Папросімся добра, а то і скажам, што нам па васемнаццаць,— разважаў Пятро.— Толькі каб на флот...

— На мора?! — Панас ад радасці ажно падскочыў.— Гэта здо-о-орава!

— Флот — гэта, братка, не абы-што, — падбадзёрваў яго Пятро. — Служба цікавая! — успомніліся бацькавы расказы.

Маці, даведаўшыся ад суседзяў пра сынаў намер, пляснула рукамі:

— А куды ж ты, сынок! І школу яшчэ не скончыў. І дома ты мне найлепшы памочнік!..

— Не плач, матуля,— супакойваў Пятро.— Не ў бандыты іду, а Савецкую ўладу абараняць. Калі што і здарыцца са мной, то наша ўлада ніколі

ў бядзе цябе не пакіне. А не абаронім мы сваю ўладу, то зноў трапім у такое ж гора, у якім жылі пры цары...

Мар'я Анісімаўна як бы і згаджалася, але такое ўжо мацярынскае сэрца — ні за што не хацела адпускаць сына з дому.

Размова маці з сынам так і засталася не скончанай: яны не прыйшлі да згоды.

Праз колькі дзён Пятро не вярнуўся з поля.

— Што б там магло здарыцца? — захвалявалася Мар'я Анісімаўна. Схадзіла да Маскалёвых, і іх Панаса няма.

Сваякі і суседзі сабраліся былі шукаць хлопцаў, як раптам на вуліцы паказаўся конь. Без гаспадара, запрэжаны ў плуг, ён павольна клыпаў па дарозе. А дзе ж араты? Што з ім?

Распрагаючы каня, маці заўважыла скручаную паперку ў грыве. Выхапіла і хуценька да суседа:

— Прачытай, Васіль, што тут напісана...

Сусед нетаропка падсунуў да сябе газнічку і прачытаў:

«Дарагая матуля! Даруй мне за ўсё. Але цяпер, калі міжнародны капітал і гідра контррэвалюцыі хочуць задушыць нас, я больш не магу заставацца дома. Іду ваяваць з ворагамі Савецкай улады. Не турбуйцеся, усё будзе добра... Да хуткай пераможнай сустрэчы!»

Маці выцерла ражком хусцінкі слязу. І з таго дня з трывогай і надзеяй пачала чакаць весткі ад сына.

Не так проста было ў той час дабрацца з Кармяншчыны да мора.

Дзе на параходзе, дзе на выпадковай фурманцы, а больш за ўсё пешшу хлопцы дабраліся да Кіева.

— Тут недзе знаходзіцца ваенная флатылія, — заўважыў Пятро. — Мне брат Міхаіл гаварыў, калі прыязджаў у госці.

У каго ні пыталіся, ніхто з кіяўлян дакладна не ведаў, дзе тая флатылія. Ці можа проста не хацеў сказаць. За горадам выпадкова спаткалі марака, спыталі. Але той, замест адказу, скамандаваў ім налева і абодвух прывёў у штаб.

— Таварыш Паляшук,— адрапартаваў ён.— Трэба праверыць! Можа контрыкі з таго боку перамахнулі.

Вусаты, з абветраным тварам чарнаморац-матрос, якога вартавы назваў Палешуком, уважліва выслухаў хлопцаў. Па ўсім было відаць, што ён задаволены сустрэчай.

— Значыць, марачкамі хочаце быць? — усміхнуўшыся, спытаў.

— Хочам, таварыш камандзір! — за дваіх адрапартаваў Бандарэнка і лапцямі прытупнуў.

— Ну ж і арлы!— падбадзёрыў іх Паляшук.— Бачу: нядрэнныя маракі будзеце... Але ж пакуль Чорнае мора пад ворагам, давядзецца вам на Дняпры паваяваць. Махноўскай, пятлюраўскай і падобнай да іх нечысці і тут хопіць...

Распытаўшы, хто яны і адкуль, чарнаморац радасна ўсклікнуў:

— Дык мы ж, аказваецца, яшчэ і землякі! Вось дык здарова! Што ж, так і быць! Будзеце ў маім атрадзе.

Пазней хлопцы даведаліся, што іх камандзір Паляшук — бывалы марак. У 1917 годзе ўдзельнічаў у вызваленні вязняў з севастопальскай турмы. Ваяваў супраць Карнілава. Узнагароджаны імяннной зброяй.

— З такім камандзірам не прападзём! — радаваліся сябры.

Пятро ва ўсім стараўся быць падобным да свайго камандзіра, старэйшага таварыша, камуніста. Разам з атрадам ён удзельнічаў у разгроме дзянікінцаў, потым махноўцаў.

У адным з баёў недалёка ад Запарожжа вялікая група махноўцаў, перабіўшы сваіх камандзіраў, перайшла на бок рэвалюцыйных маракоў. Гэта былі людзі пераважна непісьменныя, якіх падманулі контррэвалюцыйныя прапагандысты.

— З імі трэба весці вялікую работу,— заўважыў Паляшук, выклікаўшы да сябе Бандарэнку і яшчэ двух матросаў.— Людзі вы пісьменныя, а таму прызначаем вас палітбайцамі: будзеце працаваць з імі. І не толькі вучыць іх розуму, а і сачыць, як яны будуць паводзіць сябе ў баі, пры пераходах, на пераправах...

Цяпер Пятро Бандарэнка не толькі зброяй, але і палымяным словам ваяваў з ворагам. Хутка палітбаец-камсамолец быў узнагароджаны, як і яго камандзір, імяннной зброяй.

Шмат дарог прайшоў Пятро ў тыя гады: Дняпро, Дон, потым Днестр. Там, на Днястры, іх атрад даў махноўцам такога дыхту, што толькі нямногія недабіткі ледзь вынеслі ногі ў каралеўскую Румынію...

Грамадзянская вайна была закончана на Чорным моры.

У 1921 годзе пасля падаўлення контррэвалюцыйнага кранштацкага мяцяжу Пятра Бандарэнку, як і іншых адданых партыі і Радзіме сыноў, накіроўваюць на Балтыку.

У Кранштаце ён служыў многія гады. Тут ён заканчвае курсы рулявых старшын і пасля вучобы плавае на суднах Балтыйскага флоту. У той час пачынае друкаваць у ваенна-марскім часопісе свае апавяданні і нарысы, падпісваючы псеўданімамі «Южный» або «Бондарь-южный». Праз два гады Пятро Ціханавіч паступае ў ваенна-палітычнае вучылішча імя Рашаля, а затым, яшчэ праз чатыры гады — у ваенна-палітычную акадэмію імя Талмачова.

...І зноў Балтыка. Пятро Ціханавіч — камісар праслаўленага лінкора «Парыжская камуна», каманда якога цалкам складалася з беларусаў. Усе свае веды і баявы вопыт аддае ён выхаванню землякоў у сініх бушлатах.

Балтыйцы-беларусы ўпарта авалодваюць майстэрствам, праяўляюць выключную вынослівасць і адданасць Радзіме, справе партыі Леніна. Гэта паказаў цяжэйшы ў тых умовах легендарны рэйс іх лінкора з Балтыйскага ў Чорнае мора. Мінаючы варожыя краіны, каманда «Парыжскай Камуны» з гонарам пранесла непераможны сцяг нашай Радзімы. Па тых гадах гэта быў вялікі подзвіг, які змаглі зрабіць толькі смелыя, мужныя людзі.

За паспяховае выкананне адказных заданняў Камуністычнай партыі і Савецкага ўрада ў сярэдзіне 30-х гадоў брыгадны камісар Бандарэнка быў узнагароджаны ордэнам Чырвонай Зоркі і медалем «За баявыя заслугі».

1939 год... Дывізійны камісар Пятро Ціханавіч Бандарэнка — начальнік Палітычнага ўпраўлення Чарнаморскага флоту. Ён дэлегат XVIII з'езда партыі. У тыя дні беларуская газета «Звязда» пісала пра яго, як пра здольнага ваеначальніка і палітработніка, які карыстаўся вялікай павагай і ў маракоў-балтыйцаў, з якімі ён служыў, і ў чарнаморцаў, да якіх яго накіравалі партыя і Радзіма.

Там Пятро Ціханавіч сустрэў Вялікую Айчынную вайну.

...На 23 чэрвеня 1941 года намячалася нарада палітсаставу Чарнаморскага флоту.

— З дакладам на нарадзе будзеце выступаць вы, — папярэдзіў Пятро Ціханавіч брыгаднага камісара Азарава.— У мяне ёсць другая, не менш важная справа...

Была субота, 21 чэрвеня. Севастопаль ззяў у электраагнях. Як і заўсёды, асабліва ажыўлена і шумна было на Графскай прыстані. Падыходзілі катэры і баркасы з адпушчанымі на бераг маракамі. Сустракаліся сябры з розных караблёў, дзяліліся навінамі.

Праязджаючы ў гэты вячэрні час дадому, Пятро Ціханавіч з трывогай думаў: «Хто ведае, як складзецца жыццё гэтых людзей заўтра?»

Не паспеў Пятро Ціханавіч прывітацца з жонкаю Марынай Аўрамаўнай, пагладзіць па галоўцы трохгадовую Святланку, як настойліва зазваніў тэлефон.

— Вас тэрмінова выклікае камандуючы флоту віцэ-адмірал Акцябрскі,— перадаў Бандарэнку дзяжурны.

Узнімаючыся па лесвіцы штаба, Пятро Ціханавіч спаткаў члена Ваеннага Савета флоту Мікалая Міхайлавіча Кулакова, іншых вышэйшых камандзіраў, якія таксама, як і ён, спяшаліся на выклік. Сустрэўшы іх, начальнік штаба флоту Іван Дзмітрыевіч Елісееў коратка паведаміў:

— Атрымана тэлеграма ад наркома: флоту перайсці на павышаную гатоўнасць...

Бандарэнка, перакінуўшыся адным-двума словамі з Акцябрскім, накіраваўся ў Палітупраўленне. За вокнамі кабінета стала зусім цёмна: на рэйдзе патухлі агні.

Неўзабаве з розных канцоў горада ў палітупраўленне сабраліся палітработнікі, выкліканыя па трывозе.

— Таварышы,— як звычайна, спакойным голасам пачаў Пятро Ціханавіч.— Кожны з нас разумее, у які напружаны час мы жывём. Вайна шугае ў Еўропе. Яна набліжаецца і да граніц Савецкага Саюза. Фашызм быў і застаецца нашым самым злос-



**Пятро Бандарэнка на лінкоры «Парыжская камуна». 1938 год.**

ным ворагам. Таму трэба быць заўсёды напагатове...

Бралася на світанне. Бандарэнка і Азараў накіраваліся, як і было дамоўлена, да камандуючага флоту, удакладніць абстаноўку. У гэты момант грымнулі артылерыйскія залпы.

Была палова чацвёртай гадзіны...

— Няўжо вайна? — Азараў запытальна глянуў на Бандарэнку.

— Так, — сказаў Пятро Ціханавіч.— Відаць, вайна...

Першы дзень вайны прынёс першыя раны. Сярод мірных жыхароў былі ахвяры — забітыя, параненыя, кантужаныя. Было пашкоджана і разбурана некалькі жылых дамоў.

Асабліва перажываў Пятро Ціханавіч, калі даведаўся, што ля Каранцціннай бухты на варожай міне, скінутай з самалёта, падарваўся партовы буксір. Катэры, што выйшлі да месца яго гібелі, падабралі ўсяго пяць чалавек, астатнія дваццаць шэсць загінулі.

Пятро Ціханавіч на гэты раз, як і заўсёды потым, начаваў у палатцы побач з флоцкім камандным пунктам. З ім знаходзіўся і яго намеснік Азараў.

У першыя месяцы вайны Бандарэнку — аднаго з арганізатараў абароны Севастопаля — чарнаморцы часта сустракалі то ў Адэсе, то ў Нікалаеве, то ў Ачакаве...

Ён бываў на марскіх базах, на баявых караблях і ў часцях берагавой абароны, клапаціўся пра забеспячэнне воінаў харчамі і боепрыпасамі. Займаўся выхаваннем людзей. У гутарках з палітработнікамі ён звычайна падкрэсліваў:

— Калі воін ведае, за што ён змагаецца, то яго не пераможа ніякая сіла...

На самыя адказныя ўчасткі пасылала партыя нашага слаўнага земляка, і на кожным з іх ён праяўляў сябе як адданы яе сын.

У верасні 1941 года камандаванне Чарнаморскага флоту атрымала дырэктыву з Масквы: «У сувязі з пагрозай страты Крымскага паўвострава, які з'яўляецца галоўнай базай Чарнаморскага флоту, і з прычыны таго, што ў сучасны момант армія не можа адначасова абараняць Крымскі паўвостраў і Адэскі абараняльны раён, Стаўка Вярхоўнага Галоўнакамандавання вырашыла эвакуіраваць ААР і за кошт яго войск узмацніць абарону Крымскага паўвострава...»

Гэта была адна з самых адказных і складаных ваенных задач. У пачатку кастрычніка Пятро Ціханавіч Бандарэнка як прадстаўнік Ваеннага Савета флоту прыбыў у Адэсу, амаль што акружаную фашысцкімі захопнікамі. Ён адразу ж стварыў і ўзначаліў аператыўную групу.

Група працавала без адпачынку — і ўдзень і ўночы. Палітработнікі сачылі за пагрузкай і пасадкай людзей, камплектавалі каманды малых плаўсродкаў.

Рыхтуючы эвакуацыю войск з Адэсы, наша камандаванне рабіла ўсё для таго, каб увесці ў зман праціўніка. Не гледзячы на цяжкую абстаноўку, яно вырашыла адначасова распачаць наступленне на заходнім і паўднёвым сектарах Адэскага абаранільнага раёна. Удар наносіла праслаўленая ў гады грамадзянскай вайны 25-я Чапаеўская дывізія. Аперацыя прынесла неабходны тактычны поспех: былі захоплены палонныя, гарматы, кулямёты, вінтоўкі. Знаходзячыся на камандным пункце дывізіі і назіраючы за баямі, Бандарэнка заўважыў генерал-маёру Пятрову:

— З такімі арламі, як твае, і Адэсу пакідаць шкада. Але нічога не зробіш...

У тую ж хвіліну побач з КП разарваўся снарад, потым другі.

— Вайна,— страсаючы з рэглана камякі зямлі, прамовіў Бандарэнка.— Цяжкая вайна...

У кастрычніку абаронцы Адэсы праводзілі Пятра Ціханавіча ў Севастопаль. Неўзабаве з адэскага порта адплылі ваенныя транспарты ў Крым.

Эвакуацыя войск прайшла паспяхова. Вораг нават не падазраваў аб такой добра прадуманай аперацыі. І толькі на другі дзень, калі рабочыя-партавікі разабралі ўсе пагрузачна-разгрузачныя механізмы, фашысты зразумелі, у чым справа. Наўздагон транспартам яны паслалі авіяцыю. Але пастаўленай мэты не дасягнулі. Патоплены быў толькі адзін наш транспарт «Бальшавік». Аднак вялікіх страт у жывой сіле не было: нашы катэры і шхуны падабралі апошніх абаронцаў Адэсы.

Пра гэту аперацыю ў сваіх успамінах фашысцкі генерал-фельдмаршал Манштэйн пазней пісаў: «16 кастрычніка рускія эвакуіравалі крэпасць Адэсу, якая была без поспеху акружана 4-й румынскай арміяй, і перакінулі армію, якая абараняла яе, па моры ў Крым. Першыя з дывізій гэтай арміі ў хуткім часе пасля пачатку нашага наступлення з'явіліся на фронце...»

Эвакуацыя абаронцаў Адэсы—вялікі подзвіг маракоў Чарнаморскага флоту. Гэта была непераўзыдзеная за ўвесь час другой сусветнай вайны, як сцвярджаюць ваенныя тэарэтыкі, аперацыя па арганізаваным адводзе войск без страт.

Вайна кідала Пятра Бандарэнку на розныя напрамкі і франты. І дзе б ён ні знаходзіўся, у якое цяжкае становішча ні трапляў,— яго ніколі не пакідала вера ў нашу перамогу. Аптыміст па натуры, Пятро Ціханавіч ніколі не губляўся нават у самай цяжкай і складанай абстаноўцы.

Напружаным, цяжкім быў і 1942 год. Чарнаморскі флот вымушаны быў пакінуць Крым, адысці на абарону Каўказскага ўзбярэжжа.

— У гэты час,— успамінае аднагодак і таварыш Бандарэнкі па камсамольскім юнацтве Дзяніс Дзмітрыевіч Шугаеў,— я знаходзіўся ў Туапсэ. Даведаўшыся, што тут размешчана Палітупраўленне Чарнаморскага флоту і што начальнікам яго Пятро Ціханавіч Бандарэнка, я рашыў наведаць земляка. І вось мы, два камсамольцы 20-х і камуністы 40-х гадоў, сядзім і размаўляем, як роўны з роўным. Я — старшы лейтэнант Чырвонай Арміі, ён—дывізійны камісар... Прыгадалі першыя гады Савецкай улады: і як абаранялі яе, і як раслі і гартаваліся ў баях. Гаварылі пра даваенныя жыццё і пра тое, што будзе з гэтай вайной. Я, прызнацца, быў у адчаі. Выслухаўшы мяне, Пятро Ціханавіч глыбока ўздыхнуў, а потым сказаў: «Мацуйся, Дзяніс... Вось зломім хрыбет фашысцкаму зверу (а гэта будзе абавязкова) і паедзем з табой гасцяваць на Кармяншчыну, у Беларусь.— І жартаўліва дадаў:— Паспытаем яшчэ бульбы з кіслым малаком... Га?..» Гэта была апошняя наша сустрэча. Праз некаторы час я пачуў ад маракоў, што іх «бацю» (так звалі Пятра Ціханавіча матросы) накіравалі на другі флот...



**Пасля вайны наведаў сын маці Мар'ю Анісімаўну. Карма. 1949 год.**

І сапраўды гэта было так. Толькі не на флот, а на флатылію, якая мела не меншае значэнне, паслала Радзіма Пятра Ціханавіча. І гэтае перамяшчэнне адбылося ў самы цяжкі для Айчыны час, калі фашысцкая армія падышла да сцен Сталінграда. Перад Волжскай ваеннай флатыліяй, якой камандаваў контр-адмірал Д. Рагачоў, а членам Ваеннага Савета быў П. Бандарэнка, пастаўлена задача не толькі атакоўваць гітлераўцаў, але і перавозіць па Волзе ўсё неабходнае для абаронцаў акружанага горада. Тут яшчэ раз паказаў сябе наш зямляк стойкім салдатам, умелым арганізатарам, выдатным военачальнікам і палітработнікам.

— Пятро Ціханавіч дзяліў з маракамі ўсе цяжкасці абароны Сталінграда,— успамінае былы супрацоўнік Палітупраўлення Волжскай ваеннай флатыліі, цяпер начальнік Цэнтральнага музея Ваенна-Марскога Флоту СССР контр-адмірал А. Пятроў.— Пад градам куль і асколкаў, нярэдка па пояс у ледзяной вадзе, разам з байцамі яму даводзілася хадзіць у атакі...

Толькі цяжкае раненне перарвала франтавую дзейнасць контр-адмірала Пятра Бандарэнкі. Пасля шпіталя ён некаторы час працуе намеснікам па палітчастцы начальніка Упраўлення ваенна-марскіх навучальных устаноў ВМФ СССР, а затым зноў вяртаецца на пасаду начальніка Палітупраўлення Чарнаморскага флоту.

...За шэсць кіламетраў ад Севастопаля на вяршыні Сапун-гары побач з вялікасным помнікам Славы ўзвышаецца беласнежны круглы будынак. У ім размешчана самая вялікая ў свеце дыярама. Буйнейшы твор батальнага жывапісу апавядае аб штурме савецкімі войскамі Сапун-гары. Адкрываецца дыярама стэндам пад скупой назвай «Арганізатары абароны Севастопаля». На ім — фатаграфіі камандуючага Чарнаморскага флоту П. Акцябрскага, яго намесніка Л. Уладзімірскага і іншых военачальнікаў. Побач з імі — партрэт начальніка Палітупраўлення флоту Пятра Бандарэнкі.

**Васіль МАЕЎСКІ.**

# ПА СЛЯДАХ ПОДЗВІГУ

**У МІНСКІМ ЛАКАМАТЫЎНЫМ** дэпо сказалі мне адрас памочніка машыніста цеплавоза Валерыя Георгіевіча Сямёнава: вуліца Лугавая, 34.

Маленькі, у тры акенцы драўляны домік на беразе Свіслачы. Утульны садок збягае да рэчкі. Дрэвы схіліліся, купаюць свае галіны ў вадзе...

Я іду па слядах подзвігу члена Мінскага падпольнага гаркома партыі Георгія Мінавіча Сямёнава...

У дні, калі ў сталіцы Беларусі — Мінску лютавалі гітлераўцы, у гэтым доме сустракаліся члены падпольнага гаркома партыі. Тут адбываліся пасяджэнні гаркома — распрацоўваліся планы барацьбы з гітлераўцамі, друкаваліся лістоўкі.

Падпольную групу высачылі гестапаўцы. Разам з іншымі быў схоплены і Георгі Сямёнаў.

На фасаднай сценцы вісіць цяпер мемарыяльная дошка: «У гэтым доме ў 1941—1942 гг. знаходзілася канспіратыўная кватэра Мінскага падпольнага гарадскога камітэта КП Беларусі. Кватэра належала члену камітэта Г. М. Сямёнаву. Пакараны смерцю фашыстамі ў маі 1942 года».

...Дзверы адчыніў сам Валеры. Сярэдняга росту, блакітнавокі, русавалосы, ён, кажуць, вельмі падобны на бацьку.

— А ты памятаеш бацьку? — запытаўся я, калі мы з Валерыем пазнаёміліся і разгаварыліся.

— Ведаю пра яго ўсё. А памятаю вельмі мала. Калі ён апошні раз браў мяне на рукі, мне было тры гады. Маці таксама памерла ў часе вайны. Выхоўвала мяне бабуля...

— Вучыўся?

— Вядома. Спачатку ў школе, а калі споўнілася пятнаццаць гадоў, паступіў у Мінскае тэхнічнае вучылішча чыгуначнага транспарту. Ці выпадкова выбраў якраз гэтае вучылішча? Бадай што не. Дзядзька мой — патомны чыгуначнік. Бацька таксама цесна быў звязаны з падполлем Мінскага чыгуначнага вузла, выконваў з чыгуначнікамі баявыя даручэнні партыі.

Валеры закончыў вучылішча і стаў памочнікам машыніста паравоза. Потым на курсах памочнікаў машыністаў яго вучылі кіраваць новымі лакаматывамі, і як толькі ў мінскае дэпо прыбылі магістральныя цеплавозы, за левае крыло аднаго з іх стаў Валеры Сямёнаў.



Георгі Сямёнаў — член Мінскага падпольнага гаркома партыі.

Памочніка прынята называць правай рукою машыніста. Гэта так і сапраўды. Але праўда і тое, што памочніка выхоўвае таксама машыніст. Валеры трапіў у добрыя рукі. Камуніст Уладзімір Аляксандравіч Яцкевіч быў не толькі машыністам вышэйшага класа, але і чалавекам выключнай дабраты, чулы, сардэчны. Ён зрабіў для Валерыя тое, што рабіў бы для свайго сына сам Георгі Мінавіч, калі б быў жывы. І мне захацелася бліжэй пазнаёміцца з самім Уладзімірам Аляксандравічам і распытаць грунтоўна пра тое, як працуе Валеры.

Машыніст Яцкевіч запрасіў мяне да сябе на кватэру і з бацькоўскім замілаваннем расказаў пра свайго памочніка.

Вось яго расказ, які я запісаў:

— Паверце мне, Валеры будзе сапраўдным, добрым машыністам. Гэты хлопец варты свайго бацькі, і я моцна паверыў у яго. А наконт нашай з ім работы, дык я вам скажу: хоць гэта і будзе супраць вядомага сцверджання, што незамянімых людзей у нас няма, а такі памочнік — незамянімы...

У той вечар мы доўга гутарылі з Яцкевічам. У гады мінулай вайны мы з ім былі на адным фронце, толькі ў маіх руках быў аўтамат, у яго ных — рэверс паравоза. Уладзімір Аляксандравіч працаваў машыністам у калоне асобага рэзерву. Калона дастаўляла на фронт людзей, узбраенне, гаручае, боепрыпасы.

— Неяк пад Сталінградам,— расказваў ён мне,— наляцела на нас хмара самалётаў. А адбегчыся ад паравоза — нельга... І хавацца таксама няма куды. Вось мы з стрыечным братам,— ён у мяне быў памочнікам,— і залезлі пад паравоз. Прыціснуліся да бандажоў колаў. А навокал — выбухі, асколкі свішчуць. Адна бомба разарвалася зусім побач, і брат — напавал... Мяне ў нагу і ў бок параніла. Так там і пахавалі брата, каля насыпу... Мяне перавязалі, збіраліся адправіць у тылавы шпіталь, але я ведаў — нельга мне ў шпіталь, таму што няма ў калоне лішніх машыністаў, не хапае іх і так... Пакінулі мяне ў калоне. Тры месяцы хадзіў з кійком: рана на назе не загойвалася.

Пяць урадавых узнагарод мае воін-машыніст. Пасля вайны вярнуўся ў роднае дэпо.

— Сівізна адтуль, з вайны?

— Адтуль.

У той вечар я амаль да поўначы засядзеўся ў гасцях у Яцкевіча. Працягваючы мне на развітанне руку, ён папрасіў не называць ягонае прозвішча.

— А калі гэта будзе неабходна?

— Ну, калі неабходна... Але заўсёды чамусьці, калі пішуць пра памочніка машыніста, на першым плане абавязкова машыніста паставяць. Я, вядома, не журналіст, але вы збіраецеся напісаць, як я зразумеў, пра Сямёнавых, бацьку і сына. Пра іх і пішыце, пра Сямёнава-старэйшага і Сямёнава-малодшага. Я тут ні пры чым...

Так я і зрабіў: напісаў нарыс і даў загаловак «Бацька і сын».

Ці думаў я тады, што праз некалькі дзён мне давядзецца зноў ісці па слядах подзвігу, але ўжо цяпер пісаць пра подзвіг самога Валерыя і яго настаўніка Уладзіміра Аляксандравіча?

Яны вялі «Чайку». Такую назву носіць фірменны хуткі поезд, які курсіруе на трасе Мінск — Талін. Гэта быў іх звычайны рэйс. Прымарожвала. Ноч канчалася, але яшчэ не развіднела. Блішчалі толькі рэйкі наперадзе ў промнях лакаматыўнага пражэктара. А па абодва бакі каляі чорнай сценкаю стаялі родныя лясы...

На поўным хаду мінулі станцыю Пруды. У вочы балюча ўдарыла нейкае сустрэчнае святло: лямпа хісталася на слупе каля самага перона. Колькі разоў прасілі машыністы перанесці куды-небудзь гэты слуп — дык не, не хочуць і слухаць, і д'ябальская лямпа так і слепіць механікаў.

Калі мінулі крывую, памочнік машыніста Сямёнаў сказаў машыністу Яцкевічу:

— Пайду праверу дызелі.

— Добра,— адказаў механік і падняўся з крэсла.

Бытуе на чыгунцы такое правіла: на роўным, спакойным адрэзку памочнік машыніста ідзе ў машыннае аддзяленне, і тады машыніст устае з крэсла і вядзе поезд стоячы. Ён робіць гэта, каб бачыць усё і ні на хвіліну не губляць пільнасць.

Дызелі працавалі нармальна. Сямёнаў праверыў усё, што належала праверыць памочніку ў машынным аддзяленні, і накіраваўся ўжо ў кабіну, на сваё месца, як раптам пачуў рэзкі свіст. Так свішча сціснутае паветра, калі вырываецца з крана. Значыць, нешта прымусіла машы-

## дарогаю бацькоў



Валеры Сямёнаў ідзе дарогаю бацькі. Ён — памочнік машыніста.



Будзем спадзявацца, што і Валерыяў сын выбера сабе такую ж дарогу.



Машыніст Уладзімір Яцкевіч.

ніста абавязкова затармазіць. Што здарылася? Сямёнаў ірвануў дзверы і адразу ж перад сабою ўбачыў праз лабавое шкло кабіны... вагоны. Вагоны несліся на іх. Так здалося ў той момант. На самай жа справе, вагоны стаялі на месцы, а іхні цягнік, іхняя «Чайка» ляцела на вагоны...

— Выключай рухавікі! — не думаючы, закрычаў Валеры, але Яцкевіч нават не варухнуўся. Ён ужо зрабіў гэта. І зрабіў усё, што трэба было зрабіць, каб выратаваць поезд: зрабіў экстранае тармажэнне, адвёў да канца ручку крана прамадзеючага тормаза, выключыў дызель і ўключыў пясочніцу. Усё! Больш ён ужо нічога зрабіць не мог.

Сямёнаў кінуўся ў машыннае аддзяленне да дызеляў. У выпадку сутыкнення там можа ўзнікнуць пажар і нават выбух. Ён адказвае за дызелі, і ён павінен быць там...

Яго штурханула на падлогу. Ён пачуў скрыгат металу і звон шкла. Ударыўшыся галавою аб гідрапомпу, ён не адчуў болю, раптоўна ўскочыў і рынуўся ўперад, у кабіну, да машыніста. На месцы кабіны была сталёвая вагонная рама, якая ўціснулася ў цеплавоз. Дзе Уладзімір Аляксандравіч? Што з ім? Можа паспеў выскачыць? Спатыкаючыся, падаючы, хапаючыся рукамі за сцяну, памочнік ледзь-ледзь дабраўся да задняй кабіны цеплавоза, якая засталася непашкоджанай, і, трацячы прытомнасць, абсунуўся грудзьмі на пульт кіравання.

Праз забыццё трызніліся яму нечыя крыкі. Нехта ўлез у кабіну праз разбітае шкло і выцягнуў яго адтуль. Паклалі проста на снег...

— Я ўрач,— сказаў немалады чалавек без паліто і шапкі, што трымаў руку Валерыя.— Як вы сябе адчуваеце?

— Што з машыністам? — вырвалася ў Валерыя.

— Загінуў,— пачуў ён.

Уладзімір Аляксандравіч Яцкевіч загінуў на сваім пасту. Цяпер ужо ніхто не раскажа, пра што думаў у гэтыя апошнія хвіліны машыніст. Можа, успамінаў дачок сваіх і сына... А можа, і нават хутчэй за ўсё, не меў часу і на гэта: трэба было ратаваць жыццё пасажыраў. І ён зрабіў гэта. Выратаваў усіх людзей да аднаго. Апрача сябе...

За гэты подзвіг Уладзімір Аляксандравіч Яцкевіч узнагароджаны (пасмяротна) ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга, а памочнік машыніста Валеры Георгіевіч Сямёнаў — ордэнам «Знак пашаны».

Трыццаць тры дні праляжаў Сямёнаў у бальніцы. Там, у бальнічным корпусе, я сустрэўся з дазволу ўрачоў з ім. Галава, грудзі і рукі Валерыя былі забінтаваныя, ён быў вельмі схуднелы.

— Ноччу ніяк не магу заснуць,— ціха прашаптаў Валеры.— Усё бачу Уладзіміра Аляксандравіча за пультам. Смерць ён прыняў стоячы... Ён, канечне, ведаў у той момант, што загіне, але застаўся стаяць, як салдат. А была ж магчымасць выскачыць: дзверы — побач... Не, не такі ён быў: для яго існавала толькі адно — ратаваць людзей. І ён выратаваў усіх...

Вочы Валерыя блішчалі ад слёз. Але не гожа мужчыне плакаць, і ён адвярнуўся да сцяны.

Я моўчкі сціснуў ягоную руку і выйшаў з палаты.

І яшчэ я даведаўся, што праз некалькі месяцаў пасля трагедыі камуністы мінскага лакаматыўнага дэпо прынялі Валерыя Сямёнава кандыдатам у члены КПСС. Разам са старэйшымі камуністамі-машыністамі Л. Гусаковым, Я. Ніканаранкавым і М. Байкачовым, якія далі камсамольцу рэкамендацыі для ўступлення ў партыю, на сходзе як бы нябачна прысутнічалі два героі: бацька Валерыя і Уладзімір Аляксандравіч Яцкевіч.

**Аляксандр ЮДАНАЎ.**

Фота **У. МЯЖЭВІЧА.**






# 1968

## КАСТРЫЧНІК

**1—3**

50 гадоў назад (1918) у Вільні праходзіў нелегальны 1-ы Устаноўчы з'езд Камуністычнай партыі Літвы і Заходняй Беларусі.

**1**

15 гадоў назад (1953) пачаліся першыя заняткі ў Беларускім інстытуце інжынераў чыгуначнага транспарту (Гомель).



Інстытут інжынераў чыгуначнага транспарту ў Гомелі.

**10—13**

40 гадоў назад (1928) праходзіў Усебеларускі з'езд калгасаў. Арганізацыя Белкалгассаюза.

**12**

50 гадоў з дня выхаду (1918) у Мінску першага нумара газеты «Падпольная праўда» — органа падпольнага камітэта кампартыі Літвы і Беларусі.

I. М. Сяржанін.



**13**

40 гадоў з дня прыняцця (1928) Пастановы ЦВК і СНК БССР аб рэарганізацыі Інстытута беларускай культуры ў Акадэмію навук БССР.

**14**

70 гадоў з дня нараджэння (1898) І. М. Сяржаніна, вучонага-заолага, члена-карэспандэнта Акадэміі навук БССР.



У. І. Уладамірскі.



П. С. Дурчын.



У. Ф. Сакалоў.



А. Ц. Бажко.

**18**

75 гадоў з дня нараджэння (1893) У. І. Уладамірскага (Малейкі), народнага артыста СССР.

**22**

50 гадоў з дня нараджэння (1918) А. Ц. Бажко, беларускага пісьменніка.

**25**

50 гадоў з дня нараджэння (1918) П. С. Дурчына, беларускага мастака-жывапісца.

**27**

60 гадоў з дня нараджэння (1908) У. Ф. Сакалова, беларускага мастака-графіка.

**29**

50 гадоў Ленінскаму камсамолу (1918).

### Кастрычнік

60 гадоў назад (1908) адбылася стачка на машынабудаўнічых заводах Мінска.

---

Падрыхтавана аддзелам навуковага выкарыстання дакументальных матэрыялаў і інфармацыі архіўнага ўпраўлення пры Савеце Міністраў БССР на падставе матэрыялаў, прадстаўленых цэнтральнымі і абласнымі дзяржаўнымі архівамі рэспублікі.





**СУСЕДЗІ МАЕ** па кватэры ходзяць вельмі заклапочаныя. Сын Толік скончыў сёлета дзесяць класаў і паступаў у інстытут. У Політэхнічны.

— Ён жа ў нас з дзяцінства ўлюбёны ў тэхніку, — захаплялася Толікава мама сваім сынам.

Але паступіць не ўдалося. Сын не набраў патрэбную колькасць балаў.

На вачах у мамы слёзы. Толік жа па-мужчынску цвёрды. І таму не плача, а адказвае басам:

— Пайду на завод.

— На які?

Хлопец узнімае ўгару брыво.

— На завод — і ўсё. Каб стаж ішоў...

Толікаў бацька, чалавек са скептычным складам характару, зазначае:

— Скажы дзякуй, што жывеш у вялікім горадзе, дзе шмат прадпрыемстваў. Я вунь тры гады назад быў у адным райцэнтры, дык ведаеш, колькі там такіх, як ты, без справы швэндалася?

Тут умешваюся я і гавару, што Толікаў бацька аперыруе старымі звесткамі. Я нядаўна аб'ездзіў Палессе і Міншчыну і ўсюды толькі і чуў скаргі на недахоп рабочых рук. У Нараўлянскім раёне, напрыклад, з пяцісот чалавек, што закончылі школу, не засталося неўладкаваным ніводнага.

— Тэ-экс... — скептычна вымавіў Толікаў тата. — Як кажуць, хутка байка баецца...

Усё гэта я прыгадаў, калі браў інтэрв'ю ў **старшыні Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па выкарыстанню працоўных рэсурсаў Фёдара Зміtравіча РОМЫ.**



# ПЕРАД ДАРОГАЙ

— Скажу адразу, — гаворыць ён, — што сусед ваш не ведае сапраўднага становішча справы. У апошні час уладкаванне на працу моладзі, што скончыла агульнаадукацыйныя школы, пастаўлена на ўзровень дзяржаўнай задачы і носіць планавы характар. За мінулыя два гады (1966 — 1967) на прадпрыемствах, у саўгасах і калгасах знайшлі сабе працу каля 176 тысяч выпускнікоў школ. Адным словам, амаль усе, хто меў у гэтым патрэбу.

— Значыць, цудоўна.

— Не, у далоні пляскаць ранавата. Ёсць яшчэ ў гэтай справе многа «агрэхаў». Пагадзіцеся: колькасць — гэта яшчэ не ўсё. На нашых прадпрыемствах вялікая цякучасць кадраў, і ў першую чаргу сярод моладзі. Мы нядаўна пацікавіліся наконт гэтага ў некалькіх міністэрствах і ведамствах. І вось што высветлілася. Па Міністэрству прамысловага будаўніцтва ў 1966 — 1967 гадах было прынята 2 620 выпускнікоў школ, а на 1-е лютага гэтага года іх засталося 1 565. І гэта ў той час, калі недахоп рабочай сілы на прадпрыемствах міністэрства складае тысячы чалавек...

Яшчэ прыклады. З 4 318 маладых рабочых, якія ў 1966 годзе былі прыняты адзінаццаццю буйнейшымі прадпрыемствамі Мінска, ужо ў наступным годзе звольнілася па ўласным жаданні 885 чалавек. Толькі на трактарным заводзе з 595 прынятых праз год звольнілася трэцяя частка.

— Якая прычына?

— Прычын некалькі. Вось Толік, пра якога вы расказвалі, зусім не выпадкова выказаў такую абыякавасць — яму ўсё роўна, на які завод пайсці. А чаму? Таму, што для яго завод — гэта нейкае абстрактнае паняцце, і рабочыя прафесіі — слесар, лякальшчык ці там плавільшчык — яму таксама ні аб чым не гавораць.

— Сям'я вінавата. Ён адзіны сын...

— Можа і сям'я крыху. Але я лічу, што мала ў нас у гэтым кірунку робіць школа: тут не праводзіцца ніякай работы па прафесіянальнай арыентацыі вучняў.

— Прабачце, але ж у многіх школах было ўведзена вытворчае навучанне.

— На жаль, часцей за ўсё да гэтай справы ў многіх школах адносіліся фармальна. Прывязуць у школьную майстэрню стары, спісаны станок ці матор, і, калі ласка, авалодвай прафесіяй. Ці тыя ж прышкольныя агароды ў сельскіх школах. Памятаеце, колькі шумелі, пісалі пра рэкордныя ўраджаі, якія там вырошчваюцца? Але, думаю, што часам гэтыя рэкорды сталі самамэтай, адна школа старалася, як кажуць, абставіць другую. Пра сапраўдную ж мэту — прывіць вучням любоў да сельскагаспадарчай вытворчасці — забываліся.

Між іншым, у гэтым сэнсе нам трэба вучыцца ў нашых суседзяў, літоўцаў, якія аддаюць вельмі вялікую ўвагу прафесіянальнай арыентацыі вучняў. Там арганізаваны спецыяльныя метадычныя кабінеты, і навучанне якой-небудзь пэўнай прафесіі пачынаецца ў першыя ж гады навучання дзяцей у школе.

Мне здаецца, што нашаму Міністэрству народнай асветы час перамяніць адносіны да гэтай справы. Прафесіянальная арыентацыя вучняў павінна актыўна праводзіцца на працягу амаль усяго тэрміну навучання ў школе. Яе трэба ўключыць у вучэбныя праграмы і рыхтаваць для гэтага адпаведныя кадры настаўнікаў. Шмат могуць дапамагчы школе ў гэтай справе прафсаюзныя і камсамольскія арганізацыі.

— Відаць, гэты недахоп павінен выпраўляцца калектывам, у які юнак прыйшоў працаваць?

— Так, на многіх прадпрыемствах з гэтым няблага спраўляюцца. На большасці заводаў і фабрык Гомеля, Магілёва, Брэста, Баранавіч, Рэчыцы, Бабруйска былі своечасова вызначаны рабочыя месцы для ўчарашніх вучняў, распрацаваны планы курсавой падрыхтоўкі, створаны вучэбна-тэхнічныя базы. Навучанне навічкоў даручана лепшым інжынерам і тэхнікам, высокакваліфікаваным рабочым.

Але... Хацелася абысціся без гэтага «але», толькі ж не выпадае, бо ў цэлым па рэспубліцы «акліматызацыя» ўчарашніх школьнікаў, сённяшніх рабочых, пакідае жадаць лепшага.

Я гавару пра вялікую цякучасць маладых кадраў. Лічу, што асноўная прычына тут — вось гэтая самая дрэнная «акліматызацыя». Вінаваты ў ёй, як правіла, не маладыя рабочыя, а кіраўнікі прадпрыемстваў, калгасаў і саўгасаў, куды прыходзіць маладое папаўненне.

Чамусьці ў нас, часам, не разумеюць, што малады чалавек, які ўступае ў новы калектыў, фактычна, пачынае сваё самастойнае жыццё і яму не так лёгка прывыкнуць да новай абстаноўкі, да незнаёмых людзей.

Вядома таксама, што ўчарашняму дзесяцікласніку не вельмі да спадобы хадзіць доўгі час рознарабочым. А такіх выпадкаў колькі хочаш. На камбінаце будаўнічых матэрыялаў у Гродна некаторыя маладыя рабочыя, што маюць сярэднюю адукацыю, па два гады лічацца малярамі першага разраду і зарабляюць усяго па 40 — 50 рублёў у месяц.

У Лунінецкім раённым аддзяленні «Белсельгастэхніка» з 18 выпускнікоў школ, якія прыняты на работу, засталося толькі тры, астатнія звольніліся, бо ў іх не было ніякіх перспектыў набыць якую-небудзь спецыяльнасць — ніхто з хлопцамі не займаўся.

На прадпрыемствах Міністэрства харчовай прамысловасці 260 маладых рабочых дагэтуль не маюць ніякай спецыяльнасці і выкарыстоўваюцца на другарадных работах. Вядома, такі малады чалавек і ў сне думае, як бы падшукаць сабе іншую работу.

Я баюся, што стамлю чытача лічбамі, але не магу стрымацца, каб не прывесці яшчэ некалькі фактаў. Вось яны: з той моладзі, што прынята на работу, прайшлі вытворчае навучанне на прадпрыемствах Міністэрства прамысловага будаўніцтва — 77 працэнтаў, Міністэрства бытавога абслугоўвання — 75 працэнтаў, рэспубліканскага аб'яднання «Белсельгастэхніка» — 66 працэнтаў.

— Відаць, у вёсцы з гэтай справай яшчэ горш? Мне аднойчы даводзілася






# КІМ БЫЦЬ? ЯКІМ БЫЦЬ?

Празвінеў званок. Для тых, хто перайшоў у дзесяты клас, гэта першы званок апошняга школьнага навучальнага года. Для тых, хто прайшоў па конкурсу, каб вучыцца далей, набываць пэўную спецыяльнасць, ён быў першы перад вялікай дарогай у самастойнасць.

А для тых, хто не справіўся з уступнымі экзаменамі? Калі для іх прагучыць рабочы званок — у цэху, у лабараторыі, на калгасным ці саўгасным двары?

Гэта залежыць ад цябе, дарагі сябар, ад твайго імкнення да творчасці, да самавыяўлення, да самасцвярджання. Але табе ў твае семнаццаць ці няпоўных васемнаццаць гадоў патрэбна дапамога, разумнае слова парады, падказка, у якую б ты паверыў і спыніўся на тым адным, чаму, адпаведна сваім схільнасцям і здольнасцям, павінен прысвяціць жыццё.

Ты прыслухоўваешся да парад у сям'і — бацькі ці маці, старэйшых брата або сястры, ты перабіраеш у памяці надарожнае слова настаўніка на выпускным вечары. І не зусім задаволены, няпэўнасць трывожыць цябе, бо не зусім выразна ўяўляеш тое, што табе падабаецца. Добрым сябрам, разважлівым дарадцам можа стаць для цябе кніжка вядомага журналіста **Анатоля АГРАНОЎСКАГА «ІДУ ШУКАЦЬ».** Не зважай, што яна выпушчана ў свет выдавецтвам «Детская литература». Яна звернута да таго, хто збіраецца ў вялікую дарогу і па старым звычаі прысеў, каб сабрацца з сіламі. Прачытай уважліва ўсе чатырнаццаць раздзелаў. Не можа быць, каб ніводзін з іх не прымусіў цябе задумацца ўсур'ёз.

Аўтар прайшоў ужо ладны кавалак сваёй жыццёвай дарогі, сустрэўся не з адной сотняй людзей самых розных прафесій, самых розных поглядаў на сэнс свайго існавання на нашай планеце. Расказвае А. Аграноўскі пра гэтыя сустрэчы з той зацікаўленасцю да твайго лёсу, сябар, якая можа быць толькі ў роднага табе чалавека. Аўтар, па адукацыі гісторык, па ваеннай спецыяльнасці — лётчык, перш чым выявіў свае прафесіянальнае прызванне стаць журналістам, пісьменнікам, пабываў і памочнікам кінаапаратара, і рэтушорам, і мастаком, і школьным настаўнікам. Яму ёсць пра што падзяліцца з табой, і ён гэта робіць у кнізе «Іду шукаць».

А. Аграноўскі не спыняе сваю ўвагу толькі на тых, каму адразу ўдалося знайсці сябе, яго займаюць і тыя няўдакі, якіх жыццё кідае то ўгару, то ўніз, не надта пытаючыся — прыемна гэта ці не. Ён не абмінае і людзей абыякавых, баязлівых, абмежаваных. У кнізе вы сустрэнеце людзей «добрых, не зусім добрых і зусім нядобрых». І расказвае аўтар не пра тое, **кім быць,** а перш-наперш пра тое, **якім быць.**

Прадстаўляючы тую ці іншую прафесію, расказваючы пра той ці іншы занятак, аўтар імкнецца раскрыць адносіны чалавека да той справы, якую ён робіць.

пачуць выступленне намесніка старшыні райвыканкома на раённым вечары выпускнікоў школ. Прамоўца заклікаў юнакоў і дзяўчат ісці працаваць у сельскую гаспадарку. Для лепшай аргументацыі ён пасадзіў побач з сабою маладую дзяўчыну-даярку і, паказваючы на яе, урачыста гаварыў: «Вось у Марылі толькі чатыры класы адукацыі, а зарабляе яна... Колькі, Марыля?» Дзяўчына, саромеючыся, ледзь вымавіла: «Сто пяцьдзесят у месяц». «Бачыце, сто пяцьдзесят! Больш за ўрача». На тых, хто сядзеў у зале, гэты прыклад не зрабіў вялікага ўражання.

— Гэта праўда, — гаворыць Фёдар Зміτравіч, — кожнаму хочацца атрымаць добрую спецыяльнасць. І асабліва набалела гэтае пытанне ў вёсцы. З усёй моладзі, прынятай на работу ў саўгасы летась, прайшла вытворчае навучанне толькі пятая частка. Гэта трэба неадкладна выпраўляць. Мы, напрыклад, цяпер узялі пад дзейсны кантроль уладкаванне моладзі на прадпрыемствах і ў сельскай гаспадарцы. У гэтай справе няма дробязей. Усё важна. Так, мы забаранілі ўсім прадпрыемствам самастойна, без нашага ведама і згоды даваць аб'явы пра найманне кваліфікаванай рабочай сілы. Раней што атрымлівалася? У дырэктара завода, скажам, 200 маладых рабочых ходзяць амаль без усякай кваліфікацыі, а ён дае аб'яву, што наймае слесараў, токараў з высокім разрадам. Вядома, гатовае лягчэй узяць. А ты навучы сваіх!

Пад кантроль узята таксама захаванне заканадаўства аб працягласці рабочага дня для падлеткаў.

— *А якія перспектывы ўладкавання моладзі, што закончыла школы сёлета?*

— У нас усё падлічана і ўзята пад кантроль. Трэба будзе забяспечыць працай звыш 50 тысяч юнакоў і дзяўчат. На прадпрыемствах амаль усіх міністэрстваў выяўлены вольныя месцы. Кіраўнікам прадпрыемстваў, калгасаў і саўгасаў прапанавана адразу ж стварыць навічкам самую спрыяльную атмасферу для плённай працы, арганізаваць вытворчае навучанне ўчарашніх школьнікаў. Гэтага патрабуюць інтарэсы не толькі маладых людзей, але і інтарэсы нашай народнай гаспадаркі, якая развіваецца бурнымі тэмпамі і якая патрабуе свежага прытоку маладых, умелых рук.

**Інтэрв'ю ўзяў Міхаіл ЗАМСКІ.**

---

**Пра машыніста і яго памочніка.** «Працавалі моўчкі, бо ў дарозе не належана размаўляць. «Зялёны!» — заўважыць сігнал памочнік, і машыніст абавязкова пацвердзіць: «Зялёны», і зноў яны маўчаць. Такі парадак, а для іх звычка, што ўелася за доўгія гады. Таксама, як спаць перад начным рэйсам».

І далей — драматычна напружаны расказ пра тое, як загінуў машыніст Мікалай Ведрынцаў, аддаў жыццё, каб выратаваць пасажырскі састаў. «...Многія пасажыры нават не прачнуліся, толькі раніцай яны даведаліся пра катастрофу. Увесь удар прыняў на сябе адзін чалавек... *Чалавек зрабіў тое, што ён павінен быў зрабіць,* нягледзячы ні на што,— гэта і ёсць класічная форма гераізму. Ён прыняў сваё рашэнне без ваганняў, таму што быў падрыхтаваны да яго ўсім сваім жыццём». Жыццё звычайнага паравознага машыніста паўстае перад чытачом ва ўсіх сваіх адметных праявах.

**Пра геолага, які жыве на Чукотцы.** Пра сям'ю геолагаў, якая ўжо чвэрць стагоддзя жыве на краі свету і не збіраецца мяняць сваё жыццё, расказана дзеля таго, каб раскрыць на канкрэтным лёсе неўміручую сілу гётэўскага выслоўя: «Абавязак там, дзе любяць тое, што самі сабе загадваюць». Сям'я Чамаданавых верная свайму абавязку, бо ён для кожнага з іх — неабходнасць, патрэба, глыбокае перакананне, сэнс жыцця. І Чамаданавым добра ў суровых умовах Арктыкі, бо яны выконваюць свой абавязак перад радзімай, перад народам, абавязак, які зліваецца з унутранай патрэбай, з любоўю. «Любоў цэментуе, узмацняе, надае сапраўдную трываласць».

Любоў да працы, любоў да прафесіі — гэтая рыса характару савецкага чалавека прываблівае аўтара кнігі кожны раз, калі *ён знаёміць чытача ўсё з новымі і новымі людзьмі.* У адным з раздзелаў кнігі ён прыводзіць выказванні Карла Маркса з яго гімназічнага сачынення: «Роздум юнака пры выбары прафесіі». Прыводзіць хоць бы такое: «Калі мы выбралі прафесію, у рамках якой больш за ўсё можам працаваць для чалавецтва, дык мы не сагнемся пад яе цяжарам, бо гэта — ахвяра ў імя ўсіх; тады мы адчуем не тую, што варта жалю, абмежаваную эгаістычную радасць, а наша шчасце будзе належаць мільёнам». Прыводзіць аўтар гэтае выказванне для таго, каб разгарнуць перад чытачом сваё разуменне выбару прафесіі, як позірку ў будучыню, як прадбачанне лёсу.

Часам маладыя людзі думаюць, што *галоўнае — здаць экзамены, прайсці конкурс, апынуцца ў інстытуце.* «А далей? — пытаецца А. Аграноўскі.— Ну, дапусцім, здалі вы экзамены, прайшлі, прыняты і нават выбар зрабілі верны, па здольнасцях. А далей што?.. Далей, калі хочаце ведаць, і пачынаецца самае галоўнае». Раскрыццём гэтага галоўнага ў дачыненні *да канкрэтнага лёсу чалавека пэўнай* прафесіі і займаецца аўтар кнігі.

Ён знаёміць нас **з рабочымі,** якія робяць унікальныя турбіны для электрастанцый на Ленінградскім металічным заводзе. Знаёміць, каб пабурыць агульнапрынятую схему росту чалавека: сёння ты просты рабочы, заўтра майстар, паслязаўтра інжынер, начальнік цэха, дырэктар... Знаёміць з Жэнем Кібенкам, які скончыў фізіка-механічны тэхнікум, а ў майстры не пайшоў, працуе слесарам-лекальшчыкам, бо і для гэтай прафесіі патрэбна сярэдняя тэхнічная адукацыя. Знаёміць з токарам-універсалам Толем Зайцавым, з прадстаўніком той катэгорыі рабочых, **якія думаюць,** для якіх сам цэх становіцца лабараторыяй.

І яшчэ — **з доктарам навук** Багданам Вайцяхоўскім, які працуе ў Інстытуце гідрадынамікі Сібірскага аддзялення Акадэміі навук СССР. Працуе, майце на ўвазе, не тое слова, якім можна ахарактарызаваць апантанасць чалавека, што лічыцца ў адпачынку і кожны дзень прыходзіць у сваю лабараторыю, бо, як ён кажа: «Справы не адпусціш у водпуск». Аўтар кнігі робіць слушны вывад: «Адбярыце ў такога Вайцяхоўскага магчымасць працаваць — ваяваць з відавочным, ставіць доследы, корпацца замасленымі рукамі ў дэталях машын, уручаць свае адкрыцці грамадству,— і выйдзе нядака, якому ніякія забавы не ўпрыгожаць жыццё».

Ёсць месца ў кнізе і для няўдак, няўмек ды проста абывацеляў. Аўтар не баіцца юнаму чытачу прадставіць і іх: «вучаць не толькі на станоўчых прыкладах. Хай прыкінуць, якімі трэба быць, але хай адначасова зразумеюць і тое, якімі быць не трэба». І вось ужо прадстае з усім сваім аголеным нутром Пятро Кузьмічоў, які «правільна жыве. Вось ён сам, вось яго карова, вось дом, хлеў, за ім спуск на раку, там лодка, сушацца сеці. Яго сеці... Працаваць ён нідзе стала не працаваў. «Інтарэсу няма». Калі палявоў, калі рыбачыў. А што на завод не ішоў, або там у калгас ці ў прамкамбінат, дык жа і рыба шукае, дзе глыбей». Жыве Кузьмічоў па формуле «толькі для сябе», якая мае і сваё тлумачэнне: «значыць, за кошт другіх». Жыве па воўчых норавах, з суседам судзіцца з-за мяжы, а сусед — яго малодшы сын.

Аўтар кнігі не хоча нічога ўтойваць — ні добрага, ні благога, што сустракаецца яшчэ ў жыцці. Хоць асноўны пафас кнігі складаюць цудоўныя савецкія людзі: энтузіясты, героі, працаўнікі. Адзін з такіх — **лётчык-выпрабавальнік** Рыгор Бахчыванджы — паказан на ўвесь рост з заглыбленнем у вытокі яго энтузіязму. Цікава прасочана, як развівалася гэта даволі рэдкая некалі прафесія. Спачатку выпрабавальнікамі былі ўсе лётчыкі, бо кожны палёт быў выпрабаваннем — паляціць самалёт ці не паляціць, перавернецца ў паветры ці не, сядзе ці не сядзе? Потым пачалі патрабаваць не толькі храбрасці, але і рызыкі, пасля — назіральнасці і памяці. Цяпер лётчык-выпрабавальнік павінен быць яшчэ і эксперыментатарам, інжынерам, тэхнічна пісьменным спецыялістам...

А настаўнік? А хімік? А батанік? А старшыня калгаса?

Анатоль Аграноўскі імкнецца зразумець, «прамацаць» самыя розныя дарогі чалавека па жыцці. І вуснамі аднаго з сваіх герояў — дацэнта Кастылёва — гаворыць: «Спосаб выхавання? Толькі адзін ёсць спосаб — справа. Даць чалавеку цяжкую, абавязкова цяжкую задачу і паглядзець, на што ён здатны. Не цягнуць яго за руку. Не навязваць яму ідэі. Няхай спрабуе, няхай памыляецца. Калі чалавек робіць сваё, ён заўжды дужэйшы».

Шмат дарог у жыцці. І ў кожнага з вас не адвольны выбар — якой дарогай пайсці, бо кожны залежыць ад часу, у якім жыве. Час мяняе аблічча нашай краіны, мяняе нашы мары і імкненні, а значыць, і наш лёс. Сотнямі накірункаў умее час падказаць, дзе, на якім участку жыцця вы здолееце прынесці людзям найбольшую карысць. Толькі трэба ўмець слухаць час. Сакрэты гэтага ўмення і раскрывае кніга «Іду шукаць», прачытаць якую аднолькава карысна і старшакласніку, і студэнту, і тым з юнакоў і дзяўчат, хто ўжо далучыўся да пэўнай справы. Кожнаму ж хочацца зразумець — у імя чаго жыве, мітусіцца чалавек.

**Уладзімір ЮРЭВІЧ.**



# ДВАНАЦЦАЦЬ ДЗЁН СУСТРЭЧ

**Надыходзіць восень, а я ўсё ўспамінаю Свіцязь. Прачытаю альбо пачую дзе-небудзь знаёмае прозвішча, стрэну каго — і зноў, у каторы ўжо раз, прыгадваюцца дні, праведзеныя на беразе чароўнай Свіцязі.**

**Там, на Свіцязі, у новым доме адпачынку на пачатку лета праходзіў другі рэспубліканскі семінар творчай моладзі, які праводзіўся Цэнтральным Камітэтам ЛКСМ Беларусі сумесна з творчымі саюзамі рэспублікі. Удзельнікам гэтага семінара пашчасціла быць і мне. Раскажу пра тое, што засталося не толькі ў маім журналісцкім блакноце, але і ў душы, у сэрцы...**

## МІНСК — НЁМАН — СВІЦЯЗЬ

Кажуць, усё пачынаецца з дарогі. Мне таксама хочацца пачаць з дарогі. З дарогі на Свіцязь.

Першы прыпынак — у Стоўбцах. ля помніка Феліксу Дзяржынскаму. Шэрая стужка шашы кліча ўперад, але мы заварочваем з яе: едзем на радзіму вялікага песняра зямлі беларускай Якуба Коласа.

Зусім побач са Стоўбцамі (а можа гэта толькі падалося, седзячы ў аўтобусе?) — Акінчыцы, былы засценак, дзе нарадзіўся Якуб Колас. Моўчкі, з прытоеным хваляваннем, пазіраем на хатулеснічоўку, у якой пабачыў свет Кастусь Міцкевіч, будучы народны паэт. Няўжо тая самая хата? Што за людзі жывуць у ёй цяпер? З якімі думкамі і пачуццямі заходзяць яны штодня ў хату, на сцяне якой прымацавана мармуровая дошка з надпісам: «Тут, у гэтай хаце, 3 лістапада 1882 года нарадзіўся народны паэт Беларусі Якуб Колас»?

А дарога бяжыць далей. І лес вакол, як скінуць вокам. Лес, які не аднойчы спяваў сваю песню малому Костусю, пасля — Канстанціну Міхайлавічу, лес, які потым так паэтычна, ярка апеў народны





паэт Беларусі Якуб Колас. Відаць, кожны з нас думае пра нешта падобнае, бо вось жа чую — Толя Кудравец, які сядзіць побач са мной, шэпча:

А пойдзеш ў Ліпава лясамі,
Напэўна, стрэнешся з ласямі,
І зайца ўгледзіш, і вавёрку,
І норы воўчыя на ўзгорку...

Нарэшце лес расступіўся, і паказалася Мікалаеўшчына. Спыняемся ля школы, якую пабудаваў юным аднавяскоўцам Якуб Колас і якая цяпер носіць яго імя. Над школьным ганкам надпіс: «Прывітанне ўдзельнікам рэспубліканскага семінара творчай моладзі!» Па абодва бакі дарожкі, ад каліткі да ганка, школьнікі з букетамі пахучага бэзу. Знаёмімся са школай, з музеем Якуба Коласа, з творчасцю школьных паэтаў, членаў літаратурнага гуртка «Каласок».

А потым — хаціна, у якой упершыню, у 1912 годзе, сустрэліся Янка Купала і Якуб Колас і ў якой цяпер жыве брат паэта Іосіф Міхайлавіч Міцкевіч, дзядзька Юзік. Гэта ўжо — Смольня.

Накрапвае дожджык. Усе хаваемся пад ліпы — аж не верыцца, што пасаджаны яны Якубам Коласам, нашым сучаснікам: так шырока раскінулі сваё голле. Пра жыццё і творчасць народнага паэта гаворыць нам тут жа, пад ліпамі, дырэктар філіяла коласаўскага літаратурнага музея Уладзімір Іванавіч Міцкевіч, пляменнік паэта. Пасля рэй вядзе дзядзька Юзік — спачатку тут жа, на двары, а пасля — у музеі. Дзядзьку Юзіка слухаеш з хваляваннем і асалодай. Ён ведае ўсё да драбніц з жыцця і літаратурнай дзейнасці свайго брата, гаворку штораз перасыпае яго нымі вершамі. Здаецца, што і ведаеш жыццёвы і творчы шлях песняра, а слухаеш дзядзьку Юзіка і міжволі сам для сябе адзначаеш, што нешта ў вобліку, у лёсе, у творах Якуба Коласа адкрываецца табе па-новаму, паварочваецца іншым, невядомым ці незразумелым да гэтага, бокам.

Дзядзька Юзік скончыў тым, што запрасіў усіх нас зноў пад коласаўскія ліпы. Там, на мяккім мурожным дыване, былі разасланы вышываныя абрусы, а на іх — жбанкі з малаком, круглыя боханы хлеба — белага, пахучага, быццам велікодныя пірагі.

— От гэта, дарагія таварышы, прывітанне і дар вам ад коласаўскай зямелькі. Калі ласка, частуйцеся,— запрашае гаспадар.

Хтосьці здагадаўся — папрасіў дзядзьку Юзіка пачытаць што-небудзь коласаўскае. Іосіф Міхайлавіч з ахвотаю згадзіўся. І праз колькі хвілін кожны з нас быў зачараваны. Памятаю нейчы ўсхваляваны шэпат: «Гэта ж прыроджаны артыст! Коласа так больш ніхто не чытае! Дзе наша радыё? Гэта ўсё, усё чысцютка павінна быць запісана! Пакуль не позна... Гэта ж неацэнны скарб!» Праходзіць паўгадзіны, гадзіна, а мы, затаіўшы дыханне, слухаем дзядзьку Юзіка, слухаем Якуба Коласа.

Развітваючыся, нехта з нас здагадаўся:

— Дзядзька Юзік, а давайце з намі, на Свіцязь?

Дзядзька Юзік, відаць, не паспеў ачомацца, як апынуўся ў аўтобусе. Праўда, не ў нашым — перахапілі хлопцы з другой машыны...

І зноў дарога. Не даязджаючы Баранавіч, зварочваем на Навагрудак, імчым маляўнічай, у прысадах, брукоўкай... Свіцязь усё бліжэй. Іван Антонавіч Брыль, які едзе ў нашым аўтобусе, таксама хвалюецца: Свіцязь, можна сказаць, яго радзіма. Не вытрымлівае, гаворыць:

— Глядзіце направа. Зараз пакажацца. Выблісне.

Нехта з хлопцаў уздыхае:

— А дзяўчат у нас, браткі, малавата...

— Дык там — свіцязянкі! «Там Міцкевіч закахаўся ў Марылю!»

Жарт абрываецца агульным воклічам:

— Вось яна!

Між дрэў свіціцца-ззяе люстраная гладзь возера-легенды...

## СВІТАННЕ НАД СВІЦЯЗЗЮ

Прыехалі мы надвячоркам. Пакуль уладкоўваліся ды крыху знаёміліся са сваім будучым жытлом, гукнулі вячэраць. Пасля вячэры — урачыстае адкрыццё семінара.

Сакратар ЦК ЛКСМБ Арсень **ВАНІЦКІ** пазнаёміў нас з праграмай семінара, заклікаў усіх удзельнікаў творчай сустрэчы быць актыўнымі, прынцыповымі і шчырымі ў спрэчках і дыскусіях,— каб час, праведзены тут, на берагах Свіцязі, не проста запомніўся, а прынёс карысць, паспрыяў умацаванню плённай творчай дружбы паміж маладымі работнікамі літаратуры і мастацтва.

Цёпла віталі маладых літаратараў, мастакоў, кінематаграфістаў, кампазітараў, архітэктараў, пажадалі ім паспяховай работы, падказалі, на што перш-наперш варта звярнуць увагу ў творчых дыскусіях і абмеркаваннях, першы сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі **Максім ТАНК** і сакратар праўлення **Янка БРЫЛЬ.**

На адкрыццё семінара прыехалі сакратар Навагрудскага райкома партыі **Кацярына КОНДЫРАВА** і сакратар райкома камсамола **Аляксандр ЛАЗОЎСКІ.** Пасля кожны з нас быў шчыра ўдзячны ім за клопаты і ўвагу да нашага семінара. Яны нямала пастараліся, каб мы маглі пазнаёміцца з Навагрудчынай, з яе выдатнымі мясцінамі, сустрэцца і пагутарыць з яе слаўнымі, гераічнымі, гасціннымі людзьмі.



**Перад мікрафонам беларускага радыё віцебская мастачка Людміла Воранава.**

Пакуль былі вырашаны розныя арганізацыйныя пытанні, дык і ноч надышла. І хоць усе былі здарожаны, стомлены, спаць не хацелася.

Сяджу на беразе. Свіцязь зачараванаспакойна дрэмле ў засені магутных дубоў і векавых ліп. Хваля ціха, ледзь чутна, шэпчацца з берагам, з падмытымі, аголенымі каранямі дрэў. Вада тут, каля ног, цёмная — ад навісі дубоў, а далей — светлая, срабрыстая, нібы над возерам ляжаць тонкія пасмы туману. Ціншыня. Нават птушкі прымоўклі. Ціншыня і гожасць. Здаецца, што ты нябачна і нячутна плывеш услед за хвалямі туды, за срабрысты туман, у якім губляецца другі бераг.

«Ах, як нямнога ведаюць пра Беларусь усе тыя, хто не бываў тут і хто па дзіўнай традыцыі, народжанай з лёгкай рукі ўсязнаек, лічаць край гэты краем дзікіх лясоў і тужлівых балот!..»

Гэта — Янка Брыль. Пра Нарач. А здаецца — маё. Быццам ніколі раней і не чытаў, не чуў гэтых слоў, быццам падумалася от так цяпер, тут, уначы, на свіцязянскім беразе...

Пачало шарэць. Цьмяна забялелі ўнізе, пад вадою, каменьчыкі. Пасунуўся, паплыў назад, далей, да супрацьлеглага берага, срабрысты вэлюм-туман. У лесе азвалася адна птушка, другая, трэцяя. А калі раптам неяк нечакана, як гэта заўжды бывае толькі летам, заружавелі ад першых промняў шапкі дубоў там, на тым баку, усё наўкола аж стагнала-разлягалася ад птушыных галасоў.

Дыхнуў ранішні ветрык. Свіцязь, быццам збудзіўшыся ад сну, пасвятлела, уздыхнула, загаманіла: шу-у-х, шу-у-х, шу-у-х.

Пачынаўся над Свіцяззю новы дзень. Першы рабочы дзень нашага семінара...

## ПЕРШЫ БЛІН КОМАМ!

Праграмай семінара былі прадугледжаны дні, цалкам прысвечаныя асобным музам: літаратуры, выяўленчаму мастацтву, музыцы, кіно і г. д.

Першымі праводзілі свой дзень літаратары. Пачаўся ён з гаворкі па агульных пытаннях сённяшняга стану беларускай маладой літаратуры, пра тыя праблемы і задачы, якія стаяць перад літаратурнай моладдзю рэспублікі. Пачаў гэтую гаворку ўступным словам **Янка БРЫЛЬ**. Ён коратка расказаў удзельнікам семінара пра шлях, які прайшла наша літаратура за пяцьдзесят савецкіх гадоў, пра яе лепшыя здабыткі, яе месца і значэнне сярод літаратур краіны і свету.

Малады крытык **Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ** закрануў праблему грамадзянскасці ў літаратуры, і, у прыватнасці, у паэзіі, падкрэсліўшы, што аб гэтым павінны асабліва дбаць маладыя паэты і празаікі, бо, на яго думку, менавіта грамадзянскасці, шырыні далягляду, акрэсленасці і глыбіні думак бракуе многім творам маладых. Гніламёдаў гаварыў таксама аб праблемах выхавання творчай індывідуальнасці маладога паэта і празаіка.

**Анатоль ВЯРЦІНСКІ** сваё выступленне прысвяціў маладой беларускай паэзіі. Радуючыся штогадоваму прыходу ў нашу паэзію маладых талентаў, адзначаючы тое добрае, з чым прыходзяць маладыя ў літаратуру (у прыватнасці, высокі ўзровень прафесіянальнай падрыхтоўкі, шчырасць пачуцця), ён разам з тым з трывогай гаварыў, што вершам маладых часта нестае ведання жыцця, заклапочанасці сапраўднымі турботамі сучасніка, што пошукі маладымі свайго голасу падчас даволі знешнія, павярхоўныя.

Некаторымі думкамі і назіраннямі па рабоце з літаратурнай моладдзю падзяліліся **Міхась СТРАЛЬЦОЎ** і **Барыс САЧАНКА**.

Відаць, самае адметнае і самае прыемнае, чым вызначалася работа семінара, гэта яднанне юных муз, зацікаўленасць моладзі аднаго цэха мастацтва тым, што робіцца ў суседніх цэхах, чым жывуць калегі іншых галін мастацкай творчасці. Узаемная дружба і зацікаўленасць — першая прыступка для больш канкрэтных творчых сувязей і кантактаў. Яна, гэтая зацікаўленасць, праявілася ўжо ў першы дзень.

Так, у гаворцы аб літаратуры прыняла ўдзел мастачка **Наталля ПАПЛАЎСКАЯ**, якая падзялілася думкамі аб афармленні кнігі, падкрэсліла важнасць асабістых кантактаў мастака і пісьменніка. Аператар кінастудыі «Беларусьфільм» **Юры МАРУХІН** і рэжысёр **Ігар ДАБРАЛЮБАЎ** гаварылі аб праблемах кінадраматургіі, якія востра стаяць на абедзвюх беларускіх кінастудыях. Ад імя сваіх калег-кінематаграфістаў яны заклікалі маладых паэтаў і празаікаў смялей спрабаваць свае сілы ў гэтым жанры. Пра тэксты песень, пра іх мастацкую вартасць гаварылі дырэктар Палаца культуры Магілёўскага завода штучнага валакна **Марк ЛЕВІНАЎ**, кіраўнік народнага хору Палаца культуры прафсаюзаў **Уладзімір ЖУРОВІЧ**, паэт **Мікола ФЕДЗЮКОВІЧ**.

Дзень літаратуры закончыўся вялікім вечарам маладой паэзіі — «Галасы роднага краю». Вёў вечар **Янка Брыль**. Са сцэны гучалі вершы **В. Лукшы, Т. Навумчык, Л. Ганчаровай, П. Сушко, С. Хадаронка, Р. Баравіковай, Л. Якубовіча, В. Жуковіча, В. Маскаленкі, М. Дуксы, Л. Філімонавай, С. Законнікава, М. Аўчарэнкі, Л. Дайнекі, В. Гардзея** і іншых. Самадзейныя кампазітары **У. Журовіч, В. Гарбатоўскі, А. Шутаў** выконвалі свае песні, у тым ліку і тыя, што напісаны на словы ўдзельнікаў семінара.

Вершы маладой паэтычнай змены многім прыйшліся па душы. Для некаторых жа, што грахі ўтойваць, гэта было першае блізкае знаёмства з маладой беларускай паэзіяй. Знаёмства было прыемным. Бо вось жа — памятаю — з якім хваляваннем гаварыла пасля аспірантка кафедры архітэктуры Беларускага політэхнічнага інстытута Ірына Іофе:

— Гэта было проста здорава! Можа і сорамна прызнавацца, але я не вельмі цікавілася маладой беларускай паэзіяй і нават не ўяўляла, што ў нас столькі цікавых паэтаў. Пастараюся выправіць сваю памылку. А як пачнуцца заняткі — абавязкова запрашу нашых паэтаў у інстытут.

Што ж датычыць самой гаворкі аб маладой паэзіі і прозе, дык яна, трэба шчыра прызнаць, магла б быць і больш канкрэтнай, і больш шырокай. Дыскусій, спрэчак, па сутнасці, не было. Тыя праблемы і пытанні, якія былі закрануты асобнымі таварышамі, засталіся толькі закранутымі. Чаму так здарылася?

Цяпер, калі прайшоў час, калі можна цвяроза паглядзець на ўсё, здаецца, былі дзве прычыны. Магчыма, вінаваты дакладчыкі, якія не змаглі задаць гаворцы патрэбны тон, запал для спрэчак і дыскусій. А магчыма, гаворкі такой, як хацелася б, не атрымалася таму, што дзень літаратуры праводзіўся на самым пачатку семінара, калі ўдзельнікі творчай сустрэчы не паспелі яшчэ не толькі зблізіцца, але і як след пазнаёміцца.

## ВАША СЛОВА, МАСТАКІ І ДОЙЛІДЫ!

Эстафету творчых дзён ад літаратараў прынялі маладыя мастакі і архітэктары. У іх дзень упершыню на семінары разгарэліся сапраўды гарачыя спрэчкі. Гаворка аб маладым беларускім выяўленчым мастацтве, аб творчасці мастакоў, аб праблемах, з якімі ім даводзіцца сутыкацца, вылілася ў шырокую, а галоўнае, зацікаўленую гаворку.

Супрацоўніца Дзяржаўнага мастацкага музея БССР **Элеанора ВЕЦЕР** расказала прысутным пра сённяшні дзень нашага мастацтва, аб яго тэндэнцыях і пошуках. Менавіта яе эмацыянальнае і разам з тым дзелавое, прынцыповае выступленне выклікала ў іншых жаданне паспрачацца, параіцца.

Запомніліся выступленні кандыдата філалагічных навук **Канстанціна МАКАРАВА**, мастакоў **Георгія** і **Наталлі ПАПЛАЎСКІХ, Нэлы ШЧАСНАЙ**, скульптара **Івана ХОМІЧА**, рэжысёра Лідскага народнага тэатра **Вячаслава ТАЛКА-**

**У вольны ад сустрэч час.**





Выстаўка мастакоў Паплаўскіх выклікала гарачыя спрэчкі.

ЛІНА, кампазітара **Алега ЯНЧАНКІ**, загадчыка рэдакцыі мастацкага афармлення выдавецтва «Беларусь» **Мікалая ГУЦІЕВА.** Яны гаварылі пра дасягненні нашых графікаў, пра пошукі і наватарства, сучасны станковы жывапіс, адносіны да прыкладнога і манументальнага мастацтва, мастацкія выстаўкі і іх наведванне масавым гледачом, пра сатырычныя жанры выяўленчага мастацтва, пра нацыянальную спецыфіку і асаблівасці мастацтва. Пасля гаворка была перанесена ў фае — да экспазіцыі работ маладых графікаў і жывапісцаў. Тут спрэчкі ішлі непасрэдна пра творчыя манеры і почыркі маладых.

У гэты ж дзень своеасаблівую справаздачу трымалі перад сваімі калегамі і маладыя архітэктары. Усе з вялікай цікавасцю слухалі аспіранта кафедры архітэктуры БПІ **Анатоля ЗАНЕЎСКАГА**, які гаварыў аб пошуках у сучаснай архітэктуры, аб перспектывах горадабудаўніцтва. Ён расказаў прысутным пра свой прыбор — макетаскоп, які дазваляе архітэктару зірнуць на макет будучага дома ці мікрараёна не з вышыні птушынага палёту, а так, быццам глядзіш на сапраўдны дом, быццам сам знаходзішся сярод камяніц мікрараёна. Прыборам маладога беларускага дойліда зацікавіліся буйнейшыя тэарэтыкі і практыкі горадабудаўніцтва.

Калега Занеўскага, таксама аспірант кафедры архітэктуры БПІ **Алег ХАДЫКА** гаварыў аб выхаванні ў творчых работнікаў творчага мыслення, пазнаёміў удзельнікаў семінара з першымі архітэктурнымі спробамі будучых дойлідаў.

Дзень выяўленчага мастацтва і архітэктуры закончыўся вялікім кастром, які *да позняй начы палаў на лясной паляне*. Дарэчы, і тут, ля кастра, вызначыўся Алег Хадыка: усім вельмі спадабаліся беларускія народныя песні ў яго выкананні.

## МЕЛЬПАМЕНА БЫЛА НЕЦІКАВАЯ

Гаспадарамі наступнага творчага дня былі маладыя работнікі тэатральнага мастацтва — служкі Мельпамены. На жаль, гэты дзень, хоць і прайшоў хутка, ажыўлена, усё ж аказаўся малазмястоўным і, урэшце, не цікавым.

Напачатку, праўда, гаворка абяцала быць карыснай — аб акцёрскім майстэрстве, *аб праблемах унутранага жыцця* акцёра на сцэне, аб асаблівасцях пастаноўкі твораў класікі на беларускай сцэне і іншым.

Менавіта пра гэта пачыналі гаворку «вядучыя» дня — галоўны рэжысёр Тэатра юнага гледача **Барыс ГАНАГА** і рэжысёр акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы **Валеры РАЕЎСКІ.** Аднак пасля гаворка здрабнілася, звялася да прыватных, не вельмі важных пытанняў. Б. Ганага захапіўся псіхалагічнымі эцюдамі, якія задаюцца пачынаючым акцёрам, і нават прадэманстраваў некаторыя з іх на сцэне. Часам гэта і выклікала пэўную цікавасць, але, часцей, проста ўсмешку.

Пытанні ж нацыянальнай драматургіі, падрыхтоўкі акцёраў і нацыянальных кадраў рэжысёраў, месца і ролі акцёрскай моладзі ў тэатральных калектывах,





Перад калгаснікамі сельскагаспадарчай арцелі імя Калініна выступае малады кампазітар Марк Зелянкевіч.

росту прафесіянальнага майстэрства акцёра,— усё тое, што магло б і павінна было б стаць прадметам гаворкі, было па сутнасці, абыдзена.

## ДО-РЭ-МІ...

Больш цікавым і больш плённым быў дзень музыкі.

Адкрыў яго народны артыст СССР **Рыгор Раманавіч ШЫРМА.** Старэйшы дзеяч беларускага музычнага мастацтва гаварыў аб прапагандзе музыкі сярод народа, аб выхаванні высокага мастацкага густу ў юнакоў і дзяўчат, аб выхаванні ў іх любві да сапраўднай музыкі, а не да танных эстрадных песенек і джазавай какафоніі. Р. Шырма падкрэсліў, што ў гэтай справе павінны шмат зрабіць менавіта маладыя работнікі літаратуры і мастацтва.

Музыказнаўца **Лідзія МУХАРЫНСКАЯ** гаварыла аб вытоках і развіцці музычнай творчасці беларускага народа, аб музычным фальклоры перыяду Вялікай Айчыннай вайны, аб важнасці вывучэння і засваення народнай песеннай творчасці. Яна напомніла маладым кампазітарам аб тым, што трэба часцей прычашчацца з невычэрпнай крыніцы народнага музычнага мастацтва, нагадала той незвычайны поспех, з якім прайшлі ў Мінску выступленні народных хораў з палескіх вёсак Тонеж і Клятная.

Потым студэнтка кансерваторыі **Элеанора ЯЗЕРСКАЯ** пазнаёміла прысутных з творчасцю маладых беларускіх кампазітараў І. Лучанка, Р. Бутвілоўскага, С. Картэса, К. Цесакова. Яе расказ суправаджаўся выкананнем твораў маладых. Студэнтку дапоўнілі самі кампазітары, якія падзяліліся сваімі планамі і задумамі.

А потым быў канцэрт, у якім прынялі

— Гэта ж трэба, такі малады — і кампазітар!



ўдзел студэнты кансерваторыі і Мінскага музычнага вучылішча, а таксама госці — удзельнікі Усесаюзнага фестывалю опернага і балетнага мастацтва, які праходзіў у той час у Мінску ў гонар 50-годдзя БССР І КПБ.

У канцэрце прагучала песня «Свіцязянка», якая была ўзнагароджана найбольш дружнымі, відаць, воплескамі: песня нарадзілася тут, на Свіцязі. Напісаў яе Кім Цесакоў на словы маладога паэта Іосіфа Скурко.

Аднак гаворка аб музыцы, аб творчасці маладых беларускіх кампазітараў, зноў такі, магла б быць больш шырокай і прынцыповай. Ужо адно тое, што закранулі ў сваіх выступленнях Р. Шырма і Л. Мухарынская, давала глебу для роздуму, для спрэчак. Сённяшні стан беларускай песні, напрыклад. Тое, што многія песні нашых кампазітараў, у тым ліку і, можа найперш, маладых кампазітараў, пазбаўлены меладычнасці, напеўнасці, прастаты, нацыянальнай музычнай асновы. Пра гэта таксама трэба было б пагаварыць творчай моладзі. На жаль, дзень музыкі абмежаваўся агуль-

ным, хоць і даволі цікавым, знаёмствам удзельнікаў семінара з творчасцю маладых кампазітараў рэспублікі.

## ГЕРОЙ ДНЯ — ІГАР ДАБРАЛЮБАЎ

Апошнімі свой дзень праводзілі маладыя беларускія кінематаграфісты. Героем гэтага дня, як і два гады назад на нарачанскім семінары, стаў рэжысёр кінастудыі «Беларусьфільм» Ігар Дабралюбаў. Тады, на Нарачы, Ігар паказаў сябрам свой першы фільм «Іду шукаць». Сёлета, на свіцязянскі семінар, ён прывёз толькі што закончаную сваю другую мастацкую стужку — «Іван Макаравіч».

Паказ «Івана Макаравіча» перад удзельнікамі семінара быў, па сутнасці, першым грамадскім праглядам. І таму натуральна, што Ігар перад сеансам хваляваўся болей за ўсіх. Давялося яму пахвалявацца і пасля, слухаючы выступленні таварышаў і сяброў. Фільм выклікаў незвычайны напал страсцей і спрэчак, самае вострае сутыкненне думак.

Думкі і ўражанні ад фільма былі часам дыяметральна супрацьлеглыя. Таму цяжка сказаць, якую ж ацэнку атрымаў «Іван Макаравіч» сярод удзельнікаў семінара. З упэўненасцю можна сказаць толькі адно: новая работа Ігара Дабралюбава не пакінула нікога абыякавым. Мне, напрыклад, фільм спадабаўся, многія яго кадры па-сапраўднаму ўзрушваюць і хвалююць. Вобраз хлапчука, які быў вымушаны ўзваліць на свае слабенькія плечы непамерны цяжар, кранае і запамінаецца.

Сустрэча з «Іванам Макаравічам» не засланіла ў гэты дзень і іншых праблем кіно. Размова, якая пачалася з абмеркавання фільма, ахапіла вялікае кола пытанняў, звязаных са станам нашага сённяшняга кінамастацтва ўвогуле: праблемы кінасцэнарыяў, акцёраў, тэматыкі і мастацкага ўзроўню беларускіх кінастужак і г. д.

Творчыя дні, нягледзячы на паасобныя ўпушчэнні і пралікі, былі — і гэта, мусіць, галоўнае — надзвычай карыснымі для ўсіх удзельнікаў семінара. Менавіта ў гэтыя дні творчая моладзь розных галін літаратуры і мастацтва пазнаёмілася між сабою, а ў дыскусіях і абмеркаваннях былі калі не вырашаны, дык, прынамсі, пастаўлены, акрэслены многія пытанні і праблемы, якія цікавяць усю творчую моладзь, незалежна ад схільнасцей і прызвання.

Музы сябруюць са спортам.



## ПА-СЯБРОЎСКУ, АЛЕ БЕЗ СКІДАК

Што ж, першы творчы дзень — дзень літаратуры — прайшоў, можа, і сапраўды не так, як трэба было б. Тым не менш, гаворка пра літаратуру, пра тое, што турбуе маладых празаікаў і паэтаў, пра іх пошукі, знаходкі і страты на семінары адбылася, прычым гаворка прынцыповая, шчырая, сяброўская. Вялася яна ў тыя два дні, якія былі адведзены для работы творчых секцый. Адразу ж скажу: работа секцый не абмяжоўвалася абмеркаваннем твораў таго ці іншага маладога паэта ці, напрыклад, мастака, архітэктара, кампазітара. На секцыях закраналіся самыя разнастайныя пытанні развіцця беларускай літаратуры і мастацтва.

Першае пасяджэнне літаратурнай секцыі было прысвечана абмеркаванню зборніка вершаў студэнта Літаратурнага інстытута імя А. М. Горкага Міколы Федзюковіча. Пра першую кнігу маладога паэта, якая якраз напярэдадні адкрыцця семінара выйшла ў свет, гаварылі **Рыгор БЯРОЗКІН, Пятрусь МАКАЛЬ, Уладзімір КАРАТКЕВІЧ, Васіль ЗУЁНАК, Анатоль КУДРАВЕЦ.** Адзначыўшы тое добрае, што ёсць у вершах маладога паэта (юная шчырасць пачуцця, добрая ўсхваляванасць, замілаванасць да роднай зямлі, спроба выказацца па-свойму), таварышы па-сяброўску, але прынцыпова, без скідак на ўзрост, гаварылі і пра недахопы першай кніжкі. Недахопы гэтыя — дробязнасць думак і пачуццяў, падмена сапраўднай змястоўнасці ўяўнай глыбакадумнасцю, дэманстрацыя знешняга ўмельства складаць вершы, няўвага да слова, да напаўнення радка, беднасць слоўніка і г. д. І тут жа падкрэслівалася, што гэтыя і падобныя хібы ўласцівы многім іншым маладым паэтам. Таму гаворка пра кнігу Міколы Федзюковіча была карысная для ўсіх маладых паэтаў, удзельнікаў семінара.

От гэтыя шырыня размовы, прынцыповасць і шчырасць былі характэрны для ўсёй двухдзённай работы секцыі. На адным з пасяджэнняў мы абмяркоўвалі вершы інжынера з Навагрудка Міхаіла Аўчарэнкі. Здаецца, Рыгор Бярозкін заўважыў, што ў вершах маладога паэта адсутнічае сувязь лірычнага героя з жыццёвым вопытам самога паэта. Заўвага гэтая выклікала ажыўлены абмен думкамі па такіх важных пытаннях, як шырыня светапогляду паэта, яго маральнае, чалавечае і грамадзянскае станаўленне.

У часе гэтага абмеркавання малады паэт з Брэста **Васіль ЖУКОВІЧ** звярнуў увагу яшчэ на адзін, думаецца, важны аспект творчасці маладых паэтаў:

— Калі я слухаў вершы таварышаў, якія пішуць на рускай мове, я ўспомніў Адама Міцкевіча, які нарадзіўся і вырас тут, дзе мы сабраліся на свой семінар. Адам Міцкевіч — вялікі польскі паэт, але як шмат дала яму гэтая навагрудская зямля і людзі, якія жылі на гэтай зямлі! А от у вершах Л. Ганчаровай, Т. Навумчык, Л. Філімонавай, Я. Росцікава я, на жаль, гэтага не адчуў.

Гэтая заўвага таксама стала прадметам цікавай і карыснай гаворкі.

І яшчэ адзін прыклад. Янка Брыль, Барыс Сачанка, Міхась Стральцоў гаварылі на адным з пасяджэнняў секцыі аб творчасці маладых празаікаў — Міколы Капыловіча, Анатоля Кудраўца, Алеся Жука, Леаніда Главацкага і іншых. Высока ацэньваючы апавяданні М. Капыловіча і А. Кудраўца, напрыклад, старэйшыя і больш вопытныя таварышы, разам з тым, адзначалі, што і ім, найбольш здольным з новага пакалення празаікаў, нестае яшчэ глыбіні зместу, што іх увага да жыцця, спраў і клопатаў сучасніка павінна быць больш пільнай, засяроджанай.

Работай секцыі літаратуры кіравалі вопытныя пісьменнікі — Я. Брыль, П. Панчанка, Р. Бярозкін, А. Вярцінскі, П. Макаль, М. Стральцоў, Б. Сачанка, У. Караткевіч, І. Бурсаў і іншыя. Паслухаць іх думкі і развагі аб літаратуры ўвогуле, іх разбор і аналіз прадстаўленых на абмеркаванне твораў было надзвычай цікава і карысна.

Можна толькі пашкадаваць, што на работу секцый было адпушчана малавата часу — усяго два дні (прычым у гэтыя два дні праводзіліся і іншыя мерапрыемствы). Пагаварыць, напрыклад, пра творчасць усіх маладых літаратараў мы проста не паспелі.

І яшчэ адно. Відаць, не зусім прадумана было і тое, што ўсе творчыя секцыі працавалі ў адзін і той жа час. Таму мастакі не маглі паслухаць таго, што гаварылі кампазітары, а мы, літаратары, у сваю чаргу, не маглі паслухаць іхніх спрэчак. На будучае, відаць, трэба планаваць работу секцый неяк інакш.

## СУСТРЭЧЫ Ў ЗАЛЕ

Семінар, як вядома, праходзіў у год, юбілейны для нашай рэспублікі, для камсамола, і гэта наклала свой адбітак на яго работу. З вялікай увагай слухалі мы лекцыі кандыдата гістарычных навук, вучонага сакратара Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КПБ **Яўгена БАРАНОЎСКАГА** «Вялікі Кастрычнік і ўтварэнне БССР». Не меншую цікавасць выклікала лекцыя кандыдата геаграфічных навук **Уладзіміра НАВІЦКАГА** «Перспектывы развіцця эканомікі і культуры БССР». Пасля лекцыі ў зале завязалася ажыўленая гаворка. Моладзь літаральна засыпала дакладчыка пытаннямі. Якія прамысловыя аб'екты намечана будаваць у бліжэйшы час? Што робіцца і плануецца зрабіць у галіне культурнага будаўніцтва? Якія перспектывы невялікіх гарадоў і рабочых пасёлкаў Беларусі? Ахова помнікаў прыроды і архітэктуры, міграцыя насельніцтва, ліквідацыя адрозненняў паміж горадам і вёскай — самыя розныя аспекты развіцця роднай рэспублікі цікавілі моладзь.

Але, відаць, самыя гарачыя спрэчкі выклікала лекцыя кандыдата педагагічных навук **Якава КАЛАМІНСКАГА.** Яна была прысвечана некаторым пытан-

Прафесар Віталь Талстых ледзь паспявае адказваць на пытанні.



ням сацыяльнай псіхалогіі. Чалавек сярод людзей. Узаемаадносіны паміж сабой і калектывам, паміж начальнікам і падначаленымі. Чаму чалавек паводзіць сябе ў грамадстве так, а не гэтак? Што абумоўлівае яго паводзіны і ўчынкі? Гэтыя пытанні часта даводзіцца вырашаць людзям творчых прафесій, і гаворка пра гэта выклікала жывую зацікаўленасць усіх удзельнікаў семінара. Размовы пра гэта вяліся і пасля лекцыі — у фае, у пакоях, на беразе возера.

Кожны з нас, пэўна, запомніў і лекцыю госця з Масквы, доктара філасофскіх навук **Віталя ТАЛСТЫХ** аб некаторых праблемах сучаснага мастацтва і яго ролі ў жыцці асобы і грамадства, аб праблемах эстэтычнага выхавання падрастаючага пакалення.

Цікавымі і карыснымі былі сустрэчы ўдзельнікаў семінара з маладымі вучонымі — доктарам фізіка-матэматычных навук, прафесарам БДУ імя У. І. Леніна **Уладзімірам СПРЫНДЖУКОМ**, кандыдатам фізіка-матэматычных навук, намеснікам дырэктара Інстытута ядзерных даследаванняў Акадэміі навук БССР **Васілём НЕСЦЯРЭНКАМ** і кандыдатам медыцынскіх навук **Яўгенам КАНАПЛЯКОМ**, лекцыя кандыдата філасофскіх навук **Анатоля МІХАЙЛАВА** аб розных плынях сучаснай буржуазнай філасофіі, гутаркі міністра культуры БССР **Міхаіла МІНКОВІЧА** і старшыні Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па радыёвяшчанні і тэлебачанні **Вячаслава ПАЛЕСКАГА.**

У адзін з апошніх дзён семінара ў госці да творчай моладзі прыйшлі кіраўнікі і гаспадары гасціннай навагрудскай зямлі — члены бюро райкома партыі і знатныя людзі раёна. Аб перспектывах развіцця Навагрудчыны, аб жыцці і працы людзей раёна гаварылі першы сакратар РК КПБ **Валянцін МІЦКЕВІЧ** і брыгадзір калгаса імя Шчорса Герой Сацыялістычнай Працы **Эдуард КАЛЯДА.** І, зноў жа, гэтая апошняя сустрэча не стала проста дзяжурным мерапрыемствам, у прыватнасці, для маладых архітэктараў. Яны адгукнуліся на просьбу сакратара райкома партыі распрацаваць праект міжкалгаснага піянерскага лагера, які плануецца пабудаваць тут, непадалёку ад Свіцязі.

## ЗНОЎ У ДАРОЗЕ

Адной з асаблівасцей і адметнасцей свіцязянскага семінара (у адрозненне ад нарачанскага) з'явіліся шчыльныя кантакты і сяброўскія сустрэчы з моладдзю, школьнікамі і калгаснікамі Навагрудскага і Карэліцкага раёнаў. Экскурсіі, паходы, сустрэчы ў школах і калгасах пакінулі незабыўнае ўражанне ва ўсіх, запомніліся назаўсёды.

У першы ж дзень работы Максім Танк, Янка Брыль, Анатоль Вярцінскі, Пятрусь Макаль, Барыс Сачанка, дзядзька Юзік, а таксама група маладых празаікаў пабывалі ў гасцях у вучняў Валеўскай сярэдняй школы. Я таксама быў там. Гэта была надзвычай цёплая, хвалюючая сустрэча. Пабачыць пісьменнікаў, паслухаць іх сабралася літаральна ўся школа. Я глядзеў на тое, з якой увагай, з якой дзіцячай непасрэднасцю ўспрымалі вучні кожнае слова пісьменнікаў, як рэагавалі на чытанне дзядзькам Юзікам раздзелаў з «Новай зямлі», і, прызнаюся, крышачку зайздросціў гэтым валеўскім школьнікам. Успаміналася сваё пасляваеннае дзяцінства, калі аб такой сустрэчы і марыць мы, вясковыя хлапчукі, не маглі, калі найвялікшым святам была — поруч з кавалкам хлеба — хоць якая-небудзь кніга. А яшчэ думалася пра тое, што пісьменнікам нашым трэба як мага часцей бываць у школах, бо адна такая сустрэча варта падчас дзесяці ўрокаў літаратуры...

Праз некалькі дзён у той жа Валеўскай школе пабывалі маладыя кампазітары і выканаўцы на чале з Рыгорам Раманавічам Шырмам.

Такіх сустрэч за час семінара было нямала: брыгады паэтаў, кампазітараў і музыкантаў пабывалі ў школах Навагрудка, у спевакоў славутага Запольскага народнага хору Карэліцкага раёна.

Моладзь, разбіўшыся на тры групы, выязджала з літаратурна-музычнымі канцэртамі ў калгасы «Рассвет» і «Звязда» Навагрудскага і ў калгас імя Калініна Карэліцкага раёнаў.

Акрамя гэтага, удзельнікі семінара пабывалі ў доме-музеі Адама Міцкевіча ў Навагрудку, падымаліся на Курган бессмяротнасці, насыпаны ў гонар вялікага польскага паэта, аглядалі руіны замка Міндоўга, зрабілі аднадзённы паход па мясцінах баявой і працоўнай славы Прынямоння.

Група мастакоў і архітэктараў на чале з пісьменнікам Уладзімірам Караткевічам (аўтарам сцэнарыя дакументальнага фільма «Памяць») наведалі вёскі Валеўка і Міранічы, дзе знаёміліся з архітэктурай цудоўных помнікаў беларускага драўлянага дойлідства XVII — XVIII стагоддзяў.

Ігар Лучанок сказаў мне пазней пра ўсе гэтыя экскурсіі і сустрэчы:

— Паездкі ў школы і калгасы — бадай, самае прыемнае і каштоўнае, што было на семінары. Паездкі, сустрэчы з людзьмі далі мне асабіста вельмі шмат. Прыемна, што ўсюды, дзе б мы ні былі, нас сустракалі і прымалі надзвычай гасцінна і шчыра. Радасна было бачыць, што наша мастацтва блізка і зразумела людзям. Гэтае адчуванне надае бадзёрасці, упэўненасці, абавязвае працаваць яшчэ больш і лепш.



## ДОБРАЙ ТРАДЫЦЫІ — ЖЫЦЬ!

Дванаццаць дзён (а калі адкінуць дні прыезду і ад'езду, дык усяго дзесяць) — не такі вялікі тэрмін, каб рабіць шырокія вывады і абагульненні. Аднак несумненна адно: кожны з нас спазнаў на семінары шмат цікавага, новага, карыснага, што прыдасца ў далейшай рабоце. Сустрэча творчай моладзі на Свіцязі была карыснай. Такія сустрэчы патрэбны.

Найбольш важны вынік свіцязянскага семінара, мне здаецца, вось які. За час, праведзены разам, маладыя літаратары, кампазітары, мастакі, архітэктары, музыканты, кінематаграфісты паспелі добра пазнаёміцца, а многія — пасябраваць.

На Свіцязі я пазнаёміўся, напрыклад, з кампазітарамі Ігарам Лучанком і Кімам Цесаковым, з мастаком Георгіем Паплаўскім, з кіраўнікамі народных хораў Уладзімірам Журовічам, Альфрэдам Шутавым і многімі іншымі таварышамі, равеснікамі, калегамі. Сяброўскія гутаркі з гэтымі харошымі, сардэчнымі і таленавітымі хлопцамі былі заўсёды прыемныя і цікавыя.

Аднойчы мы ўчацвярых — І. Лучанок, М. Капыловіч, А. Кудравец і я — пайшлі вакол Свіцязі. Па дарозе зайшла гаворка пра песню. Мы папракнулі Ігара і яго сяброў-кампазітараў у тым, што яны, маўляў, часам вельмі непераборлівыя, непатрабавальна адносяцца да тэкстаў, на якія пішуць музыку. Заадно выказалі меркаванне, што кампазітары, відаць, не сочаць за навінкамі нашай паэзіі, не гартаюць старонак «Полымя» і «Маладосці». Ігар мякка запярэчыў:

— Ну, наколькі мне вядома, усе мае сябры даволі добра знаёмы з беларускай паэзіяй. Справа ў тым, што далёка не кожны верш кладзецца на музыку. Верш і песенны тэкст — не адно і тое ж. Гэта азбучная ісціна. Аднак... У тэксце, які прэтэндуе стаць песняй, павінна быць свая прастата (вядома, не спрошчанасць), павінна быць своеасаблівае, менавіта песеннае, развіццё паэтычнага вобраза і думкі, свой рытмічны і меладычны лад і г. д. На жаль, паэты не заўсёды гэта разумеюць і ўлічваюць. Вось тут, на семінары, я гутарыў з многімі маладымі, прачытаў не адзін дзесятак іх вершаў. Былі сярод гэтых вершаў зусім не благія, як мне здаецца, творы, але большасць з іх — адчуваю — песнямі не стануць...

Сяброўскія сувязі, якія завязаліся ў часе семінара, могуць і павінны стаць прыступкай для шырэйшых і больш плённых сувязей. Гэтая тэндэнцыя, калі можна так сказаць, праявілася ўжо там, на Свіцязі. Так, у дні работы семінара нарадзілася не адна «Свіцязянка» — плён творчых кантактаў паміж паэтамі і кампазітарамі, а некалькі песень. Які



На Свіцязі. Нараджаюцца вобразы.



будзе іх лёс — пакажа час, але сам факт сімптаматычны і красамоўны.

У іншых выпадках гэтыя творчыя сувязі і кантакты больш тонкія, яны праяўляюцца больш апасродкавана і, пэўна, праявяцца пазней. Але пачатак ім пакладзены на Свіцязі.

У спрэчках і дыскусіях, у таварыскім абмене думкамі па самых розных пытаннях літаратуры і мастацтва выявілася, што ў творчай моладзі ёсць шмат агульных «пунктаў судакранання», што часта перад імі паўстаюць адны і тыя ж задачы і праблемы. І гэта яшчэ болей збліжала маладых служак розных муз. Аб чым ні вялася на семінары гаворка — ці аб літаратуры, ці аб выяўленчым мастацтве, кіно, музыцы,— заўсёды праяўлялася ўзаемная цікавасць да той ці іншай галіны мастацкай творчасці. Мастакі горача абмяркоўвалі літаратурныя праблемы, паэты з жарам гаварылі пра кіно, а скульптары і архітэктары — пра жывапіс і графіку. Гэтая ўзаемная зацікаўленасць, шчырасць, нейкая душэўная еднасць паміж рознымі атрадамі творчай моладзі не забудуцца.

Семінар, трэба думаць, паспрыяе і творчаму росту моладзі. Гэтаму паспрыяюць і дыскусіі па агульных пытаннях, і канкрэтны аналіз творчасці маладых у секцыях. Апошняе асабліва тычыцца тых таварышаў, якія прыехалі на

семінар з раённых і абласных цэнтраў, дзе яны не заўсёды маюць магчымасць выслухаць разумную параду, атрымаць прафесіянальную дапамогу.

Абуджэнню творчай актыўнасці маладых работнікаў літаратуры і мастацтва, іх звароту да распрацоўкі больш надзённых тэм і праблем паспрыяюць, безумоўна, і сустрэчы на семінары з вучонымі, партыйнымі і камсамольскімі работнікамі, вядомымі пісьменнікамі, дзеячамі культуры і мастацтва, сустрэчы з людзьмі Навагрудчыны.

Што яшчэ?

У апошнія гады ўсталявалася добрая дружба паміж творчай моладдзю і камсамолам для сумеснай работы па ідэйна-эстэтычнаму выхаванню юнакоў і дзяўчат. Умацаванне гэтай дружбы засведчыў яшчэ раз свіцязянскі семінар, дзе творчая моладзь працавала ў цесным кантакце з камсамолам.

Добрую, плённую форму работы з творчай моладдзю знайшоў беларускі камсамол — шматдзённыя нарады-семінары. Семінары гэтыя становяцца ўжо добрай традыцыяй. А добрай традыцыі — жыць!

**Мікола ГІЛЬ,**
**удзельнік семінара.**

Фота **Р. Мярсона.**

• • •




**Віктар КАРАМАЗАЎ. Падранак. Апавяданні. Выдавецтва «Беларусь», Мінск, 1968.**

# СВЕТ ДОБРЫХ ЛЮДЗЕЙ

Кожную суботу, калі на глухім раз'ездзе Ціхі Лес спыняецца прыгарадны цягнік, да вагона, на якім ярка свеціцца лічба «4», падыходзіць немалады чалавек у цёплым бушлаце з бензапілою на плячы. Разгублены, нечым збянтэжаны, ён пачынае шукаць па кішэнях білет і шукае да тае пары, пакуль праваднiца не падгоніць яго: добра, маўляў, добра, ідзі ўжо ў вагон. У прыцемку пустога вагона ён садзіцца на лаўку, употай пазірае на прыпухлыя ад бяссонніцы вочы праваднiцы, і яму не хочацца верыць, што гэта да яго яна гаворыць такія нядобрыя, такія няласкавыя словы. «У Ціхім Лесе ніколі пасажыраў не бывае, толькі ты кожную суботу ў мой вагон садзішся. Дзяўчаты ўсё бачаць. Пасміхацца пачынаюць... Не садзіся да мяне... Чуеш?..» Ён чуе, толькі няпросты вузел завязаўся паміж гэтымі ўжо немаладымі людзьмі, і адчуваецца, што нялёгка ім будзе развязаць яго.

Так пачынаецца апавяданне «Запозненыя паязды». Ужо сама яго інтанацыя, правільна ўзяты «гук», натуральнасць абставін і характараў выклікаюць цікавасць і да Віктара Карамазава, чыё прозвішча ўпершыню сустракаецца на вокладцы кнігі апавяданняў, і да людзей, з якімі ён нас знаёміць.

Чытаеш кнігу далей, і перад вачамі паўстаюць маляўнічыя постаці: асілка-плытагона Букініча, які ў паводку на адарваным крыгаю ад плыта бервяне даплыў да берага, нават вады ў боты не набраўшы; супрацоўніка раённай газеты Гната Сіўца, які ў прашпакляваных гразёю кірзавых ботах ездзіць па раёне на старой кабыле Рыжусе, збірае інфармацыю пра вывазку гною і кантрактацыю цялят; музыкі і паэта ў душы Гарасіма Іванавіча, які, урэзаўшы апошняга гапака, «прысвісне, зухавата, нібы ў бубен, ударыць пальцамі ў ніжнюю дэку скрыпкі, голасам высока падцягне апошнюю ноту і... змоўкне...» Стаяць яны перад табою, гэтыя людзі, і чым больш да іх прыглядаешся, тым больш цікавымі становяцца табе і яны, і іх жыццё, і ты міжволі думаеш: а гэта ж — праўда, тая простая праўда, якую не трэба ні падсвятляць зверху ці з бакоў, бо яна сама спакон веку свеціць людзям, ні прыхарошваць, бо яна сама — найвышэйшае хараство.





Свет, у якім чэрпае свае думкі і назіранні Віктар Карамазаў — гэта свет простых, добрых людзей. Героі яго апавяданняў — плытагоны, леснікі, рыбакі, хлебаробы, і ён расказвае пра іх з ноткамі тае цеплыні і задушэўнасці, з якою расказваюць пра людзей, якіх не толькі добра ведаюць, але і любяць, клопаты якіх прымаюць блізка да сэрца. Ім няпроста і нялёгка жывецца на свеце, гэтым людзям, і пісьменнік не спрашчае адносін, што існуюць між імі.

Віктара Карамазава неяк відавочна адштурхоўвае ўсё лёгкае ў жыцці; ён стараецца мінаць гладкія дарогі, дзе ходзяць вясёлыя ўдачнікі, якім заўсёды ўсё лёгка даецца, і спыняе свой позірк на тым супярэчлівым, у чым пры ўважлівым разглядзе раскрываецца складанасць жыцця. Адсюль ідзе ціхая, задуменная, але настойлівая дапытлівая інтанацыя, якая з'яўляецца самай сімпатычнай якасцю лепшых апавяданняў зборніка. Ідэальных герояў, на якіх можна было б паказаць пальцам і сказаць: «Во, бярыце з іх прыклад!» — такіх герояў у Віктара Карамазава мы не сустрэнем. Пісьменнік імкнецца—і гэта куды важней— каб ідэал прысутнічаў у самім аналізе жыцця і чалавечых адносін, у адмаўленні ўсяго неразумнага, тупога, чэрствага, што яшчэ сустракаецца ў жыцці і што прыносіць вялікую шкоду грамадству.

Чалавек і свет прыроды... Па тым, як намаляваны ў апавяданнях Віктара Карамазава ціхія рачныя затокі, тоні, глухія балацявіны, дзе можна пачуць слонечную песню, прашытыя сонцам бары, адчуваецца, што свет гэты — запаветны куток яго душы. Тут бярэ свой пачатак лірычны струмень, якім прасякнуты такія апавяданні, як «Ліменскі сшытак», «Па слонечную песню», «Падранак» і інш. Нешта няўлоўнае ў іх — тонкасць успрыняцця прыроды ці, можа, адчуванне месца, якое яна займае ў жыцці чалавека,— нагадвае апавяданні Івана Пташнікава. І гэта не столькі, можа, вучоба маладзейшага па вопыту пісьменніка ў больш вопытнага, колькі выяўленне агульнай нацыянальнай традыцыі нашай літаратуры, традыцыі, што ідзе ад Якуба Коласа.

Свет прыроды, які малюе перад намі Віктар Карамазаў, цесна звязаны са светам чалавечых адносін. Сувязі гэтыя складаныя, супярэчлівыя, і героі «Ліменскага сшытка», якія блізка стаяць да прыроды, вельмі добра адчуваюць гэтую супярэчлівасць. Антон Пракопавіч, калгаснік з Мсціслаўшчыны, які прыехаў у Ліменскае лясніцтва па лес на хату, добра ведае, што з гэтых пяці кубаметраў, якія даў яму сельсавет, хату не пабудуеш — трэба, па крайняй меры, яшчэ чатыры разы па столькі — але ён спадзяецца, што потым вырве як-небудзь яшчэ якіх пяць... Потым яшчэ... І калі яго папракаюць, што гэта не па закону, Антон Пракопавіч з горыччу гаворыць: «А дзе ты, міл-чалавек, той законны парадак знойдзеш? Хата мне трэба? Дык з якой трасцы яе ляпіць? Дайце цэглы — палац мураваны пастаўлю. А то на печ адзычаць — і ўсё. А цана якая? Трыццаць рублёў за тысячу цаглінак. На хату пойдзе тысяч трыццаць, вось і лічы, якую капейку трэба вытрасці. Не кожны зможа... На нашай прамкамбінатаўскай цагельні прадзедаўскім заступам гліну капаюць, на тачках возяць... Адкуль сходнай цане быць? Вось і пляжым лясок. А потым крычым, што рэкі мялеюць, травы ды жыта гараць».

Гэта адзін аспект праблемы, якую падымае ў «Ліменскім сшытку» пісьменнік. А вось другі яе аспект, у які, нібыта дапаўняючы Антона Пракопавіча, пераводзіць гаворку герой апавядання «Калі ён побач» — стары рыбак Ягор Лісікаў: «Слухай-ка... Прырода гультаёў не любіць. І падману не любіць. Тут яна — вышэйшая за чалавека. Ты ёй толькі павер, яна цябе навучыць, як жыць. Лепшы прафесар! Хто пройдзе ў гэтага прафесара курс навукі — той чалавек! Вазьмі Гнацьку Мірагашчынскага. Век пражыў — век дабро сеяў. А інстытуту адну прайшоў — лясную».

Чалавек у прыродзе і прырода ў чалавеку — вось найцікавейшая, найскладанейшая праблема, якую ставіць перад літаратурай наш сённяшні, а яшчэ вастрэй паставіць будучы час, і заслугоўвае ўсякай пахвалы той, хто становіцца яе даследчыкам. Іменна даследчыкам — у песнярах дэфіцыту не адчуваецца.

Ёсць у зборніку Віктара Карамазава два апавяданні, пра якія хочацца сказаць асобна,— гэта «Каштаны» і «Апошні брыз». Абодва — пра каханне, і абодва надуманыя, «літаратурныя», чужыя той атмасферы натуральнасці, што пануе ў кнізе. У чым тут прычына? Можа таленту Віктара Карамазава чужая гэтая тэма? Не. Успомнім праваднiцу чацвёртага вагона прыгараднага цягніка і пажыло-

га лесаруба з апавядання «Запозненыя паязды», Кацярыну і Букініча з апавядання «Букініч». Колькі натуральнасці і чалавечае цеплыні ў іх адносінах, як да самага дна прасвечвае іх душы шчырае, глыбокае пачуццё! Чаму ж у «Каштанах» і «Апошнім брызе» пісьменніку не ўдалося тое, што ўдавалася — і добра! — ужо не раз?

«Каштаны». Ялта і Сімеіз, прыморскае ўзбярэжжа і таксі, у якім Інка і Юрка вяртаюцца з прагулкі: Інка паклала Юрку галаву на калені. «Курортнае апавяданне»,— скажаце вы, не даслухаўшы да канца. На жаль, так, курортнае, хаця гэта магло быць добрае апавяданне пра дзявочае каханне — адно на ўсё жыццё. Магло б, ды не стала. Разбярэмся, чаму.

Іна некалі пакахала хлопца. Пакахаў і ён яе, ды ненадоўга: сустрэлася на яго шляху другая, і ён забыў пра Іну. Юрка нечым напомніў Іне таго, першага, і яе пацягнула да яго, але потым, адчуўшы, што не забыла свайго першага кахання, Іна пакідае Юрку. Сюжэт, як сюжэт, а што не вылучаецца навізною, дык, мне здаецца, яшчэ не скора знойдзецца наватар, які такому роду чалавечых адносін, як каханне, дасць іншую формулу, чым славуты «трохвугольнік». Справа тут не ў гэтым. Узровень, на якім даследуюцца чалавечыя адносіны, чалавечыя характары — вось што заўсёды абнаўляе форму. А ўзровень, як вядома, залежыць ад вопыту як усёй літаратуры, так і кожнага пісьменніка. У рускай літаратуры, якая мае вялікі вопыт даследавання інтэлектуальных пачаткаў чалавека, хіба толькі ў колішніх апавяданнях для святочнага дамскага чытання можна знайсці такі трывіяльны дыялог, які мы знаходзім у апавяданні «Каштаны».

«— Не пужайся слёз. Горш, калі плакаць няма сіл. Адчуваеш такое, быццам на грудзі табе ўзвалілі вялізны камень... А камень цісне...

Юрка глядзеў у бок мора. Мора засцілі каштаны.

— Ты супакойся, Іна. Твае каштаны патрэбны не толькі табе.

— Маўчы!

— Яны нясуць табе пакуту.

— Гэта мая справа...»

Трывіяльнасць — вось галоўны недахоп апавядання «Каштаны». Яна — ва ўсім: у светаўспрыманні гераіні, у тым, як яна глядзіць на сябе, як гаворыць. Вось яна папракае Юрку (усе мужчыны, маўляў, аднолькавыя: клянуцца, а потым забываюць свае клятвы); вось расказвае, як хадзіла ў госці да таго свайго першага хлопца («На мне была любімая мая сукенка з вышываным каўнерыкам, беленькія модныя чаравічкі, якія я набыла з першай сваёй палучкі»); вось апісвае сваю апошнюю з тым хлопцам сустрэчу («Я не цяміла, чаго ён хацеў ад мяне, а сэрца ўжо калацілася ліхаманкава, прадчуваючы нядобрае... Ён бачыў маё каханне і думаў, што я ўсё сцярплю, дазволю яму ўсякае хамства...»). Чытаеш усё гэта і адчуваеш, як у патоку банальшчыны тоне ўсё: і цікава задуманы вобраз, і запамінальныя лірычныя дэталі, і добры аўтарскі намер.

Тое ж самае можна сказаць і пра апавяданне «Апошні брыз». І тут перад намі — курортны сюжэт. Санаторый і марская набярэжная, рэстаран і таксі — вось абставіны, у якіх паказаны героі апавядання. У гэтым, безумоўна, няма нічога страшнага, асабліва, калі ўспомніць чэхаўскую «Даму з сабачкам». Бяда ў тым, што пісьменнік недасканала ведае асяроддзе, да якога належаць яго героі, і таму яны паўстаюць перад намі не ў тым, як скульптар сказаў бы, матэрыяле, якога вымагае сама іх прырода. Мастак Яругін, калі Ірма пры першым знаёмстве не адказала яму на ўскосна пастаўленае пытанне, ці замужам яна, адчуў сябе «тым небаракам-рыбаком, з сеткі якога пасля вялікай надзеі выпушчаны незвычайны ўлоў». Вось вам культура эмоцый мастака, паводле задумы аўтара — чалавека душэўна тонкага. Той жа Яругін, пазнаёміўшыся з Ірмай і пакахаўшы яе, кожны дзень «праставаў праз кусты густога ядлоўцу» ў суседні дом адпачынку, дзе жыла Ірма. Уявіце сабе чэхаўскага Гурава, які «прастуе праз кусты» на спатканне да Анны Сяргееўны. Слова, як бачым, можа не толькі ствараць вобраз, але і разбураць яго.

Не, яны не такія бяскрыўдныя, гэтыя «моўныя агрэхі», як нам часам здаецца. Ад гэтай асацыяцыі «жанчына — «улоў», якая прамільгнула ў адчуванні Яругіна пры знаёмстве з Ірмай, ад гэтага аўтарскага — «прастуе праз кусты» цягнецца просты ланцужок і да таго акна, праз якое Яругін позна вечарам прывёў у свой пакой Ірму перад ад'ездам з санаторыя, і да тае пляшкі мадэры, што спатрэбілася ў гэтых далікатных абставінах, і да пярсцёнка, які здымае са сваёй рукі на аэрадроме Ірма:

«— Бяры і памятай...—

— Вянчальны? Што муж скажа?..

— Скажу — згубіла...»

Вось які ў нас яшчэ густ... Вось яшчэ што нам трэба пераадолець...

Проста дзіва дый годзе: калі гаворка ідзе пра вясковых людзей, то тут табе і трапнасць слова, і тонкае яго адчуванне, і да ілюзіі жывая інтанацыя: «Слухай-ка... прырода гультаёў не любіць. І падману не любіць. Тут яна — вышэйшая за чалавека». І дзе падзяецца гэтае ўсё жывое, калі гаворка заходзіць пра чалавека інтэлектуальнай працы! Тут табе палезе і «незямная бясклапотнасць», і «непасрэдная блізкасць стыхіі», тут пісьменнік проста траціць мастацкі густ.

Віктар Карамазаў ідзе ў прозу ад журналістыкі. У гэтым ёсць свае плюсы і мінусы. Багацце ўражанняў у пісьменніка Карамазава ідзе ад журналіста Карамазава — гэта вельмі адчуваецца ў кнізе. Затое некаторыя слабасці выяўленчай манеры пісьменніка маюць сваім вытокам таксама журналістыку. Цікавы чалавек ляснічы Карпенка з «Ліменскага сшытка» і цікава расказвае пра яго Віктар Карамазаў. Але не-не ды і наткнешся ў творы на такое: «...ён убачыў у вачах Антона Драча хваляванне, якое жыло ў ім гарантыяй высокіх думак і пачуццяў аб лесе». Або яшчэ: «...перад вучонымі-лесаводамі ён абараняў вугламерную вілку, зробленую ім для замеру кубатуры дрэва на корані»... У пісьменніка Карамазава з журналістам Карамазавым — упераддзе сур'ёзная спрэчка.

Першая кніга пісьменніка... Яна рэдка бывае без сучка і без задзірынкі. І важныя не сучкі і задзірынкі — яны толькі навука для самога пісьменніка — важна тое, што кніга нясе людзям, літаратуры. Кніга Віктара Карамазава нясе радасць знаёмства са светам добрых людзей, наводзіць на роздум, будзіць цікавасць да жыцця, а гэта — зусім не мала. Літаратуры ж яна абяцае ў будучым цікавага пісьменніка, які стаіць блізка да людзей, да прыроды, а я не ведаю багацейшых крыніц, якія жывяць талент. Калі ён хоча расці.

**Вера ПАЛТАРАН.**





**Алесь КАЎРУС.**
**З крыніц народнай мовы.**
**Выдавецтва «Вышэйшая школа», Мінск, 1968.**

# МОВА ЯКУБА КОЛАСА

Слова — адзіны інструмент у руках пісьменніка. Ад таго, як ён валодае гэтым інструментам, залежыць лёс яго твораў. Коласавы творы жывуць паўнакроўным жыццём. Яны нязменна карыстаюцца попытам у чытача. У чым жа поспех Коласа-апавядальніка? У чым яго майстэрства? Дзе вытокі мовы пісьменніка?

На гэтыя пытанні можна знайсці адказ у кніжцы Алеся Каўруса. Гэта — першая спроба даследаваць моўнае майстэрства аднаго з пачынальнікаў беларускай савецкай літаратуры. Добра напісаная, старанна адрэгаваная дацэнтам Ф. Янкоўскім, кніга А. Каўруса — каштоўны дапаможнік для пісьменніка-пачаткоўца, студэнта-філолага, настаўніка. Хто не ведае, што вывучэнне мовы мастацкіх твораў — слабае месца і ў рабоце выкладчыкаў літаратуры, і ў філалагічнай падрыхтоўцы студэнтаў. Ды і шляхі аналізу мовы мастацкага твора яшчэ далёка не вызначаны. Што знойдзеш пра мову пісьменніка ў падручніках? Тры-чатыры эпітэты (трапная, сакавітая, багатая, народная) звычайна вычэрпваюць моўны аналіз твора.

Як слушна заўважае А. Каўрус у прадмове да сваёй кнігі, для разумення мовы пісьменніка недастаткова выявіць асаблівасць лексікі ці сінтаксісу. «Можна выпісаць усе фразеалагізмы, можна раскласіфікаваць усе словы паводле семантычных і граматычных прыкмет, можна разабраць па часцінках і вінціках складаны механізм твора,— і будзе куча дэталей, але не будзе механізма, не будзе аблічча твора».

Комплексна, не выхопліваючы асобных слоў і выразаў, у пэўнай сістэме аўтар аналізуе мову і стыль дакастрычніцкіх апавяданняў Я. Коласа. Праз усё даследаванне праходзіць думка, што апавядальная мова Якуба Коласа ў агульным сваім руху развівалася ў напрамку арганічнага

спалучэння сродкаў народнай мовы і элементаў кніжна-пісьмовага ўжытку. На працягу ўсёй творчасці пісьменнік выкарыстоўваў «гатовыя» лексічныя, сінтаксічныя сродкі і стылістычныя прыёмы жывой гутарковай мовы і фальклору — гэтай невычэрпнай крыніцы ўсіх моўных скарбаў. Зразумела, не абыходзіўся ён і без сродкаў, выпрацаваных папярэдняй літаратурай. Адчувальны быў уплыў моўнай практыкі «Нашай нівы».

На пачатку XX стагоддзя, калі распачынаў сваю літаратурную дзейнасць Якуб Колас, беларускай пісьмовай мове трэба было нанова сцвердзіць жыццяздольнасць сваіх лексічных і граматычных сродкаў, засвоіць шмат слоў, звязаных з адлюстраваннем новых з'яў у грамадска-палітычным жыцці народа. Гэта канкрэтызуецца назіраннямі аўтара. Так, першыя апавяданні Я. Коласа нагадваюць расказы сялян, што былі сведкамі таго ці іншага здарэння з вясковага жыцця. Мова іх — жывая гутарковая, з усімі асаблівасцямі народнай лексікі і сінтаксісу: тут і інверсійны парадак слоў, і адсутнасць выказніка ў некаторых сказах, і наяўнасць пытальных сказаў з адказам у наступных, прастамоўныя выразы і інтанацыі, уласцівыя гутарковай манеры апавядання.

Якуб Колас заўсёды ўважліва ставіўся да адбору сродкаў народнай мовы. Яго ўвесь час непакоіла думка: ці маюць асобныя словы і спалучэнні права існаваць у літаратурнай мове. Каўрус пераконвае ў гэтым на канкрэтных прыкладах, прасочваючы аўтарскія праўкі ў апавяданнях «Злавіў», «Кірмаш», «Калодка пчол», «Дзяліцьба».

Пры адборы фактаў, пры адшуканні формы іх адлюстравання, як трапна заўважыў даследчык, Коласавым пяром «душа вадзіла». Душа пісьменніка была заўсёды з народам, і таму яна накіроўвала яго на такі шлях, які даводзіў думкі песняра да простых людзей. Прастата, праз якую прасвечвае шматвяковая мудрасць беларусаў,— асноўная рыса мовы апавяданняў Якуба Коласа. Прастата ў лаканічнасці моўных сродкаў, у дакладнасці слова, у яго зразумеласці кожнаму беларусу.

А. Каўрус падрабязна аналізуе з моўна-стылістычнага боку гумарыстычныя апавяданні і апавяданні для дзяцей: «У старых дубах», «Дзеравеншчына», «Сірата Юрка», «На чыгунцы», «Васіль Чурыла», «Малады дубок»— а гэта якраз тыя творы, якія вывучаюцца ў школе на уроках літаратуры або рэкамендуюцца для пазакласнага чытання.

Галоўная асаблівасць коласавых апавяданняў, якія паказваюць лёс сялянскіх дзяцей да рэвалюцыі, на думку даследчыка, у тым, што іх маленькія героі — сыны прыроды. Усе іх радасці, уцехі — у полі, на лузе. Яны захапляюцца хараством надзем'я, імкнуцца пазнаць таямніцы свету. Іх настрою імпануе і апісанне прыроды. Вялікі ахвотнік да назіранняў і разважанняў, Якуб Колас надзяляў гэтым і сваіх маленькіх герояў.

Заканчваючы апошнія старонкі сваёй працы, А. Каўрус гаворыць: «Працэс адбору і выпрацоўкі лексічных адзінак у мове Я. Коласа адбываецца ў цеснай сувязі з агульным працэсам складвання апавядальнай манеры пісьменніка, з працэсам станаўлення беларускай літаратурнай мовы». Між тым, не зусім зразумела яшчэ, як ішоў гэты агульны працэс, у чым праявілася сувязь мовы і стылю Якуба Коласа (у прыватнасці, яго дакастрычніцкіх апавяданняў, якія браліся за аб'ект даследавання) з працэсам станаўлення літаратурнай мовы. Не было б лішне і больш глыбокае пранікненне ў творчую лабараторыю пісьменніка. Тады б ясней вырысаваўся ўклад Я. Коласа ў стварэнне сучаснай беларускай літаратурнай мовы.

Праца Алеся Каўруса,— не перабольшваючы,— істотны ўклад у коласазнаўства. Яна запоўніць той прабел, што адчуваецца ў вывучэнні творчасці народнага пісьменніка з боку мовы, гэтага асноўнага, самага важнага інструменту мастацкай літаратуры.

**Леанід ПАДГАЙСКІ.**

**Неўзабаве чытайце інтэрв'ю пісьменніка Івана НАВУМЕНКІ.**





# ЗУСІМ СУР'ЁЗНА

## ПРЫЕМНАЯ НЕЧАКАНАСЦЬ



Вось што было ў Англіі ў канцы XIX стагоддзя. На спартыўным свяце праходзілі веласіпедныя гонкі. Удзел прымалі мацнейшыя спартсмены, толькі некалькі чалавек выступала ўпершыню. Прагучаў сігнал суддзі, і гоншчыкі рушылі з месца. Праз некаторы час з-за павароткі з'явіўся толькі адзін спартсмен, які намнога апярэдзіў сваіх сапернікаў і першы закончыў дыстанцыю. Чаму адзін? Што здарылася з іншымі? Хто ён, не вядомы нікому малады чалавек, які стаў пераможцам? Суддзі вырашылі, што ён змахляваў і праехаў толькі палову дыстанцыі. Але ўдзельнікі спаборніцтва пацвердзілі, што ён праехаў усю дыстанцыю. Спартсмена акружыў натоўп балельшчыкаў, якія хацелі даведацца, як гэта ён змог развіць такую вялікую хуткасць.

Выявілася, што на колах яго веласіпеда былі не простыя, а пнеўматычныя шыны, пра якія тады яшчэ ніхто ў свеце не ведаў. А вынаходцам іх зусім выпадкова стаў ветэрынарны ўрач Дэнлоп. Аднойчы сын паскардзіўся яму, што колы веласіпеда вельмі моцна прыціскаюцца да зямлі і выклікаюць непрыемнае адчуванне і нават боль. Дэнлоп узяў гумавы шланг, якім паліваў кветнік, і зрабіў з яго кольцы. Надзеў іх на колы, а ўнутр напампаваў паветра. Так і з'явілася першая пнеўматычная шына. А крыху пазней такія ж пнеўматычныя шыны надзелі на колы аўтамабіляў, і гэта адразу павялічыла іх хуткасць.

## КОНСКАЯ СІЛА



Расказваюць, што вядомы вынаходца Джэймс Уат жыў вельмі бедна. Ён пазычаў грошы ў свайго суседа-півавара і ўрэшце быў вінен яму вялікую суму. Пасля доўгага роздуму Уат прапанаваў півавару, каб расплаціцца за доўг, паставіць на яго заводзе паравую машыну. Завод знаходзіўся на ўзгорку, а для вырабу піва патрэбна шмат вады, якую падавалі з ракі. На гэта трацілася шмат працы і грошай. Півавар трымаў цэлую стайню коней, якія абслугоўвалі помпы.

Прапанова Уата зацікавіла півавара, і ён згадзіўся паставіць паравую машыну, але пры адной умове: машына павінна мець такую ж магутнасць, як конь, што абслугоўвае помпу. Уат вырашыў даведацца, якую ж магутнасць мае конь пры падачы вады. Пра гэта даведаўся півавар і выбраў самага здаровага каня, і прытым яшчэ некалькі дзён добра яго карміў. Конь добра адпачыў, яго запрэглі ў помпу і пачалі паганяць пугай, каб больш напампаваў вады. Падлічылі зробленае, і аказалася — за адну секунду конь выконваў работу ў семдзесят кілаграмаметраў.

«Ну што ж,— сказаў півавар,— пабачым, што зробіць твая машына... Але ўлічы, яна павінна быць не слабейшая за каня».

Зробленая Уатам паравая машына выконвала работу ў семдзесят пяць кілаграмаметраў у секунду. Паравы «конь» быў мацнейшы. Так з'явілася адзінка вымярэння магутнасці, якой мы карыстаемся і ў наш час.

## ГУКАВЫ ВАРТАЎНІК

Калі вы ўключаеце магнітафон і слухаеце запісаныя на плёнку песні ці музыку, нікому, мусіць, у галаву не прыйдзе, што гэты апарат можа быць вельмі карысны ў сельскай гаспадарцы.

З дапамогаю магнітафона біяфізікі падслухоўваюць галасы птушак і казюлек. Возьмем, напрыклад, коніка. У спакойным стане ён «спявае» заўсёды адну і тую ж



песню. Але ў часе небяспекі ягоны голас рэзка мяняецца. Пры розных раздражненнях узнікаюць і розныя гукі. Чалавечае вуха не заўсёды можа ўлавіць гэтыя адрозненні. Створаны апарат складаныя гукі раздзяляе на простыя. З дапамогай яго можна прааналізаваць любыя галасы, а таксама ўзнавіць іх.

Тое ж самае і з гракамі. Гэта птушкі карысныя. Але ж яны, бывае, і шкодзяць — выдзёўбваюць на палях насенне. Як пазбавіцца ад іх, не прыносячы шкоды іх здароўю?

Вырашылі выкарыстаць іхнія ж гукі. Запісалі на магнітафонную плёнку іх «размову» пры кармленні, у час адпачынку і ў час трывогі. Трывожныя гукі пры дапамозе магнітафона ўзнавілі на полі. Пачуўшы іх, гракі ўзняліся і паляцелі з поля.

# ВЯСЁЛЫ КУФЭРАК

## ЗБОЖЖА НА АСФАЛЬЦЕ



У мінулыя часы пра вырошчванне збожжа на асфальце гаварылі толькі сатырыкі і гумарысты. І ўсё ж на асфальце не толькі можна вырошчваць яго, але і атрымліваць... падвойны ўраджай. Праўда, для гэтага асфальт закладваюць пад глебу на глыбіню 60—65 сантыметраў. Вядома, ручная праца сябе не апраўдала б, і інжынер-аграном Кларанс Хансен (ЗША) зрабіў спецыяльную машыну. Яна ідзе па полі, узорвае паласу шырынёю каля метра на глыбіню ў 60 сантыметраў, залівае пад яе вадкі асфальт таўшчынёю тры міліметры і потым акуратна ўкладвае глебу на месца. Палосы асфальту ўкладваюцца шчыльна, пласт глебы становіцца воданепранікальным, і гэта дае магчымасць атрымліваць высокія ўраджаі.

## ПАТЭЛЬНЯ-ГІГАНТ

У маленькім італьянскім гарадку Камольі, размешчаным на лігурыйскім узбярэжжы, штогод адбываецца свята рыбакоў. Усё насельніцтва ласуецца рыбаю, засмажанай на адной вялікай патэльні.

Адзін год зробленая спецыяльна для свята патэльня мела шэсць метраў у дыяметры. На гэтай патэльні было засмажана дзве тоны рыбы. Шэсцьсот літраў алею і сто дваццаць кілаграмаў мукі пайшло на прыгатаванне пачастунку.






## ДЗЕ П'ЮЦЬ БОЛЬШ ПІВА!

Як ні дзіўна, але рэкордам па ўжыванню піва валодаюць зусім не немцы з Баварыі, а жыхары Бельгіі. Яны пачынаюць піць піва яшчэ з малых гадоў. У сярэднім кожны бельгіец штогод ужывае па 117 літраў піва. На кожны квадратны кіламетр у гэтай краіне прыпадае тры піўныя.



## АЎТАМАТ ПЕРАД ТУАЛЕТАМ

Каб сабраць кватэрную плату з даўжнікоў, новы мэр англійскага горада Слоу сэр Артур Фрэнкум падаў вельмі арыгінальную думку: ён прапанаваў паставіць у кватэрах аўтаматы перад... туалетамі і ваннымі пакоямі. Дзверы ў гэтыя памяшканні адчыняцца толькі тады, калі ў аўтамат кінеш шасціпенсавую манету.






## ВЕТЛІВАЕ ЗАПРАШЭННЕ

У маляўнічае горнае сяло паблізу Раверэта (Італія) запрашаюць турыстаў такія аб'явы: «У нас няма ні аўтамабіляў, ні матацыклаў, усюды пануе цішыня. Толькі аслы могуць прабрацца горнымі сцяжынамі да нашай вёскі. Паспрабуйце і вы».

## У АБМЕН НА... МАГІЛУ

Жыхар заходненямецкага горада Брэмена паведамляе ў газеце «Везэр-Курыер»: «Мяняю выкапаную, але не выкарыстаную магілу на муніцыпальным могільніку на гатовы летні касцюм 57-га памеру».





## ДЗЕЙСНАЯ ПАГРОЗА

У бельгійскім гарадку Эвел гастраліраваў цырк пана Дэпе. Мясцовыя ўлады спаганяюць з Дэпе падатак, які звычайна плацяць усе прадпрымальнікі. Дэпе рашуча адмовіўся плаціць і пачаў пагражаць, што ліквідуе свой цырк і тут жа, у гэтым гарадзе, распусціць усіх сваіх артыстаў.

Улады адразу адмянілі сваё патрабаванне. Дэпе быў уладальнікам... блышынага цырка.

## ВЯСЁЛАЕ ДРЭВА

«Табе смяшынка ў рот трапіла?» Так пытаюцца звычайна ў дзяцей, калі яны доўга смяюцца і, здавалася б, без дай прычыны. Але ў Амерыцы «смяшынка» можа трапіць у рот самым сур'ёзным чынам і прытым нават даросламу. Там расце «вясёлае» дрэва. Калі чалавек з'есць яго плады (чорныя зярняты велічынёю з гарошыну), пачынаецца прыступ смеху, які цягнецца некалькі гадзін.



# ГРЫМАСЫ І ФОКУСЫ ФОТААБ'ЕКТЫВА




●

Як паведамляе часопіс «Фота Прызма», турысцкае бюро з Сайгона пасылае ў ЗША праспект з запрашэннем: «Наведайце В'етнам». Бюро абяцае фатографам-турыстам неабмежаваныя магчымасці ў выбары надзвычайных сюжэтаў. «Фота Прызма» іранізуе на гэты конт: ці не манахаў, якія жыўцом спальваюць сябе на вогнішчах у знак пратэсту супраць ганебнай вайны, мае на ўвазе праспект? Альбо чарговую атаку арміі вызвалення на амерыканскія базы? Як бы там ні было, але цынізм янкі не мае межаў — летась Паўднёвы В'етнам наведала 50 тысяч амерыканскіх турыстаў.

●

На амерыканскіх самалётах, якія лятаюць над В'етнамам, стаяць фотаўспышкі магутнасцю ў 4,5 мільёна свячэй, што дазваляе паветраным піратам фатаграфаваць в'етнамскую тэрыторыю ноччу з вялікай вышыні.

●

Камера «Бумеранг» — новы сродак фатаграфічнага шпіянажу ЗША. Камера абсталявана ракетнымі рухавікамі і крыламі. Пасля аблёту разведваемай тэрыторыі «Бумеранг» вяртаецца да месца запуску.

●

Для здымкі атамных выбухаў распрацаваны затвор, які можа даць вытрымкі ў мільённыя долі секунды.

●

Амерыканскіх рэпарцёраў і фатографаў так «цёпла» сустракалі ў негрыцянскіх раёнах, што амерыканскія газеты адмовіліся пасылаць туды сваіх карэспандэнтаў. Тады рэдакцыя «Дэтройт Фры Прэс» дамаглася дазволу ў федэральнага ўрада выкарыстаць для здымання танк новай мадэлі, у якім замест гарматы ўстанавілі тэлеаб'ектыў.

●

Японскія фотарэпарцёры, акрамя шматлікай фотаапаратуры, маюць на ўзбраенні клеткі з паштовымі галубамі. У гэтай краіне з вузкімі, пакручастымі, перагружанымі транспартам дарогамі толькі голуб можа своечасова даставіць у рэдакцыю адзнятую плёнку.

●

На заводскіх сходах рабочыя славутай японскай фатаграфічнай фірмы «Канон» спяваюць гімн: «Камера «Канон» — гонар свету, і таму ўвесь свет з намі. Камера «Канон», «Канон», «Канон»! Там, дзе фотаапараты, там абавязкова знойдзеце вы «Канон».

●

«Броніка» — шыкоўны, дарагі японскі фотаапарат. Таму адзін англійскі імпарцёр гэтых камер зрабіў наступную рэкламу: «Вы можаце ў любы час прадаць свой аўтамабіль і купіць «Броніку».





●

Японская аптычная прадукцыя папоўнілася яшчэ адной навінкай: ашыйнікам для паліцэйскіх і вартавых сабак. У ашыйнік уманціравана мініяцюрная фотакамера. Яна пачынае здымаць, калі сабака забрэша на парушальніка парадку.

●

Каб спыніць перадачу чыгуначных білетаў ад адной асобы да другой, у Японіі вырашылі прадаваць білеты з фотакарткай пасажыра на адвароце. Пасажыр будзе сфатаграфаваны ў часе набыцця білета спецыяльным аўтаматам.

●

Фотакарткамі, замест подпісаў, карыстаюцца філіялы дзяржаўнага банка ў Індыі. Гэта адбываецца таму, што большасць індыйскага насельніцтва непісьменная. Фотакартка ўладальніка ашчаднай кніжкі ўклейваецца ў спецыяльны рэестр кожны раз, калі ён атрымлівае ці кладзе грошы ў банк.

●

19 турыстаў-фотааматараў, якія перайшлі на левы борт парахода, каб зрабіць здымкі замка Люінг на возеры Анесі, патапілі параход. Фотааматараў выратавалі. Але іх камеры засталіся на дне возера.

●

Калумбійскі часопіс «Эль эспектадор» надрукаваў здымак шымпанзе, які ў шыкоўным мужчынскім касцюме аб'ехаў на аўтамабілі за рулём усю калумбійскую сталіцу Баготу і ні разу не парушыў правілы вулічнага руху. Але пасля гэтага здарэння калумбійская паліцыя аддала спецыяльны загад, які забараняе шымпанзе кіраваць аўтамабілем.

●

Часопіс «Пары-матч» надрукаваў тры здымкі «сучаснага» Адольфа Гітлера. Здымкі створаны з дапамогай рэканструкцыі сапраўдных здымкаў фюрара і медыцынскіх запісаў. Мяркуючы па рэканструкцыі, шалёны Адольф сёння павінен быць блізарукім, бяззубым старым, які ўвесь трасецца. Здымкі надрукаваны ў сувязі з тым, што заходнеберлінская пракуратура «спахапілася»: яна аб'явіла пошукі «ваеннага злачынцы Гітлера».



●

Для будучых касманаўтаў падрыхтавана спецыяльная тэхнічная бібліятэка. Каля чатырох мільёнаў старонак тэксту было запісана на мікраплёнку. Акрамя таго, створана прыстасаванне, якое хутка знаходзіць і пераносіць на табло патрэбную касманаўту мікрастаронку. Там яна павялічваецца да належнага памеру.

●

Новая супермікраплёнка вынайдзена ў лабараторыях «Кодак». На паверхні 5×5 см можна змясціць 24 тысячы старонак тэксту.



●

Вакол Зямлі лятаюць не толькі штучныя спадарожнікі. Фотакамеры і аб'ектывы таксама сталі касмічнымі целамі. Іх згубілі касманаўты. Шпацыруючы ў касмічнай прасторы, амерыканец Керман захацеў на хвіліну «адкласці» ўбок адзнятую плёнку. Лёгкага штуршка досыць было, каб плёнка «сплыла» ў космас. Відаць, гэта не вялікая страта для вучоных, бо на тых здымках, якія Керман даставіў на Зямлю, нічога не праявілася.

●

На працягу ўсяго існавання фатаграфіі (127 гадоў) было зроблена 140 мільёнаў фотаапаратаў. 90 мільёнаў з іх яшчэ знаходзяцца ў карыстанні. У той час, калі партрэтная фатаграфія яшчэ толькі пачыналася, негатыўная рэтуш не прымянялася. Фатографы «рэтушыравалі» аб'ект здымкі: пудрылі твар, падкладвалі пад шчокі вату, вушы падцягвалі да галавы воскам. Белая сарочка на момант захіналася чорным пакрывалам.

●

Шмат вядомых пісьменнікаў займалася фатаграфіяй. Заўзятым фотааматарам быў Віктар Гюго. Калі ў 1853 годзе французскі ўрад саслаў яго на востраў Джэрсей (за памфлет «Маленькі Напалеон», напісаны супраць Напалеона III), то сярод самых неабходных рэчаў знаходзілася і некалькі фотакамер.

Многа часу аддаў фатаграфіі Чарльз Дзікенс. Любіў гэтую справу Бярнард Шоу. Леў Талстой таксама праседжваў гадзінамі ў цёмнай лабараторыі. Свае кнігі ілюстраваў уласнымі здымкамі Міхаіл Прышвін. Ілья Эрэнбург стварыў некалькі фатаграфічных альбомаў.

●

Большасць футбольных каманд свету адмаўляецца фатаграфавацца перад пачаткам матча. Футбалісты лічаць, што гэта перашкаджае перамагаць.

●

У Ватыкане існуе традыцыя: калі прастол займае новы папа, ён павінен падарыць кожнаму кардыналу свой жывапісны партрэт. Каб не транжырыць марна казну, сучасныя папы пачалі дарыць кардыналам каляровыя фота.

●

Ля ўваходу ў касцёл Сен-Дэні вісіць аб'ява: «Пільнуйце свае кашалькі і фотаапараты, бо гэты будынак служыць не толькі для малітваў!»

●

Мадэрнісцкі касцёл у Тулузе аздоблены не скульптурамі на біблейскія тэмы, а фатаграфіямі класічных твораў.

●

Адзін парыжскі кравец меў многа даўгоў. Яго выклікалі ў паліцыю. Ён прыйшоў амаль голы, каб даказаць, што яго «распранулі» крэдыторы. Але спачатку ён папярэдзіў аб сваім прыходзе фотарэпарцёраў.

●

Французскі Дом адзення паведамляе, што яго краўцы здымаюць мерку з дапамогай фатаграфіі. Апарат для гэтай мэты называецца бадзіграфам.

●

У Англіі створаны апарат, які можа перадаваць каляровыя здымкі на вялікія адлегласці.

●

Адзін англійскі фатограф у вітрыне свайго атэлье змясціў такі прэйскурант цэн: «За адзін фунт стэрлінгаў Вы можаце атрымаць здымак, на якім выглядаеце так, як у жыцці. За два фунты — здымак, на якім вы выглядаеце так, як мяркуеце. Фота, на якім вы такія, як вам хацелася б быць, вы атрымаеце за тры фунты!»





●

У англійскіх гандлёвых школах практыкуецца цікавы метад. Ананімныя фатографы ходзяць па магазінах і робяць цэлыя серыі здымкаў прадаўцоў у самых розных сітуацыях, асабліва, калі прадаўцы грубіяняць з пакупнікамі. Потым гэтыя здымкі дэманструюць прадаўцам. Як правіла, пасля двух-трох такіх сеансаў прадаўцы паспяхова авалодваюць добрымі манерамі.

●

«Якая ганьба!» — уздыхнуў дацкі прэм'ер-міністр, калі яму паказалі здымак, на якім каралева Інгрыд сама падымае пальчатку, а прыдворныя спакойна пазіраюць на гэта.




●

Звычайна іншаземныя турысты дрэнна разбіраюцца ў меню рэстаранаў. На гэтую акалічнасць звярнула ўвагу адміністрацыя пражскага рэстарана «На крэпасці»: яна зрабіла меню на чатырох мовах і ля назвы кожнай стравы змясціла каляровы здымак.

●

На польскім курорце «Закапанэ» можна сустрэць некалькі мядзведзяў. Іх утаймавальнікі — фатографы. З мядзведзямі любяць здымацца аматары вострых адчуванняў.

●

У адным з будапешцкіх фотаатэлье двойчы ў тыдзень фатаграфуюць толькі сабак. Наплыў кліентаў у гэтыя дні незвычайны. Сабачы брэх сатрасае сцены атэлье. Найбольш прыстойна паводзяць сябе перад камерай шатландскія аўчаркі.

●

Загад рабіць толькі «аб'ектыўныя» здымкі атрымала ад кітайскага фотарэпарцёра Сузана Вінцэнт, якая здымала ў Пекіне хунвэйбінаўскую маніфестацыю. Салдат пачаў чытаць ёй цытаты Мао пра аб'ектыўнасць журналістаў, падкрэсліваючы пры гэтым, што «аб'ектыўны здымак» адлюстроўвае чалавека не ў руху, а выключна ў статычнай позе.

Падрыхтаваў Генадзь **БЯЛІЦКІ.**

# ЛІК У НАШУ КАРЫСЦЬ

### Алімпійскі баланс беларускіх спартсменаў

Хутка прыгажуня-смуглянка Норма Энрыкета Басіліо запаліць традыцыйны агонь ля падножжа свяшчэнных пірамід Сонца і Месяца ў Мехіка—сталіцы XIX Алімпіяды. Гэта, між іншым, першы выпадак за сямідзесяцігадовую гісторыю алімпійскіх гульняў, калі галоўнай дзеючай асобай ва ўрачыстай цырымоніі адкрыцця будзе жанчына.

Алімпіяда ў Мехіка будзе рэкорднай па колькасці прадстаўленых тут краін і спартсменаў. Да гэтага часу, як вядома, самай прадстаўнічай была Алімпіяда ў Токіо ў 1964 годзе. Тады выйшлі на старт пасланцы дзевяноста чатырох дзяржаў. Цяпер у сталіцу Мексікі прыедуць спартсмены не меней чым ста дзесяці краін.

Пяты раз прымуць алімпійскія старты савецкія спартсмены. І можна не сумнявацца, што, як і раней, многія з іх здолеюць праславіць сваю Радзіму, і прывязуць залатыя ўзнагароды. Мы маем поўнае права спадзявацца, што сярод іх будуць і прадстаўнікі нашай рэспублікі.

Спартсмены нашай краіны ў 1951 годзе ўпершыню былі дапушчаны да ўдзелу ў чарговых XV Алімпійскіх гульнях. Пасланцы савецкай краіны ў сталіцы Фінляндыі Хельсінкі вытрымалі свой першы алімпійскі экзамен. У неафіцыйным камандным заліку—494 ачкі—яны набралі столькі ж ачкоў, колькі спартсмены Злучаных Штатаў Амерыкі, якія доўгі час непадзельна панавалі на алімпіядах. На першых старонках гісторыі савецкага алімпійскага спорту запісаны імёны і прадстаўнікоў нашай рэспублікі. Іх не многа—усяго шэсць. Гэта—лёгкаатлеты Анатоль Юлін, Цімафей Лунёў, Міхаіл Салтыкоў, Міхаіл Крываносаў, фехтавальшчыкі Герман Бокун і Юлі Дэжсбах. Поспехі іх былі даволі сціплыя—усяго тры ачкі, якія набраў А. Юлін у фінальным забегу на 400 метраў з бар'ерамі. Ён заняў там чацвёртае месца з вынікам 52,8 секунды.

Чарговыя, XVI Алімпійскія гульні ў Мельбурне прынеслі савецкім спартсменам поўную камандную перамогу. Яны значна апярэдзілі сваіх асноўных супернікаў амерыканцаў і па колькасці ачкоў у неафіцыйным заліку (624,5:498), і па агульнай колькасці медаляў (98 : 74), і па колькасці чэмпіёнскіх тытулаў (37 : 32).

Для беларускіх спартсменаў Алімпіяда на «зялёным кантыненце» памятная перш за ўсё першым алімпійскім медалем, атрыманым Міхаілам Крываносавым. Усяго на 16 сантыметраў амерыканец Гарольд Канолі кінуў молат далей, чым Крываносаў. Міхаіл Крываносаў заняў тады другое месца, але яго заслуга перад беларускім спортам застаецца велізарнай: ён даказаў, што спартсмены нашай рэспублікі могуць сапернічаць з мацнейшымі атлетамі свету.

Наступная, Рымская алімпіяда 1960 года для нашай рэспублікі стала рэкорднай і па колькасці ўдзельнікаў—іх было 11, і па колькасці заваяваных узнагарод. Упершыню ў нашай рэспубліцы з'явіліся чэмпіёны Алімпійскіх гульняў. З залатымі медалямі прыехалі барэц класічнага стылю мінчанін Алег Караваеў і экіпаж каноэ-двойкі—брэстчанін Сяргей Макаранка і гамяльчанін Леанід Гейштар. Сярод савецкіх фехтавальшчыц-рапірыстак, якія атрымалі на Алімпіядзе камандную перамогу, была мінчанка Таццяна Пятрэнка (Самусенка). Сярэбраныя медалі заваявалі лёгкаатлет Уладзімір Гараеў і гімнаст Мікалай Мілігула (у складзе каманды), бронзавыя—шпажысты Арнольд Чарнушэвіч і Аляксандр Паўлоўскі за перамогу ў камандных баях. Напомнім для параўнання, што ў Рыме спартсмены Францыі—краіны, якая мае векавыя спартыўныя традыцыі—не здолелі атрымаць ніводнага залатога медаля.



На XVIII Алімпійскіх гульнях у Токіо беларускія спартсмены зноў заваявалі алімпійскія лаўры. Бліскучыя перамогі атрымалі барэц Аляксандр Мядзведзь і кідальнік молата Рамуальд Клім. Гімнастка з Гродна Алена Валчэцкая разам з сяброўкамі са зборнай СССР прынесла нашай краіне камандную перамогу. Таццяна Самусенка была ўдастоена сярэбранага медаля за перамогу ў камандных спаборніцтвах.

Ветэран Алімпійскіх гульняў Марыя Іткіна, прымаючы тры разы запар удзел у Алімпіядах, кожны раз прыносіла савецкай камандзе заліковыя ачкі.

Быць суддзёю на Алімпійскіх гульнях—вялікі гонар. У Токіо ўпершыню такога гонару быў удастоены прадстаўнік нашай рэспублікі, арбітр па фехтаванню Герман Бокун. Успамінаючы сёння пра выступленні беларускіх спартсменаў на мінулых Алімпіядах, нельга не назваць тых, хто іх выхоўваў і рыхтаваў да спаборніцтваў—пра трэнераў Міхаіла Крываносава і Ранальда Кныша, Германа Бокуна і Барыса Левінсона, Паўла Грыгор'ева і Навума Фінкінштэйна.

Такійская Алімпіяда і час, што прайшоў пасля яе, паказалі: на XIX Алімпійскіх гульнях у Мехіка трэба чакаць выключна вострай барацьбы, быць гатовымі да самых здзіўляючых неспадзяванак. На шырокую арэну выйшлі спартсмены тых краін, якія яшчэ нядаўна лічыліся залежнымі і слабаразвітымі. Прадстаўнікі Кеніі— у мінулым заняволенай англійскай калоніі—Вільсан Кіпругут і Кіпчанг Кейна, тунісец Махамед Гамудзі, спрынтэр з рэспублікі Берег Слановай Косці Гасу Конэ—усе яны, напэўна, будуць сярод прэтэндэнтаў на самыя высокія месцы. У апошнія гады з'явіліся вельмі моцныя плыўцы ў краінах Лацінскай і Паўднёвай Амерыкі. Сюрпрызаў цяпер можна чакаць ад баксёраў Кубы і Ганы.

Наогул, у Мехіка разгорнецца ўпартая барацьба за кожны медаль, за кожнае ачко. І ці асмеліцца хто-небудзь наперад назваць пераможцу ў спаборніцтве ў неафіцыйным камандным заліку. Аднак можна цвёрда сказаць, што савецкія спартсмены едуць у сталіцу XIX Алімпіяды ўпэўненыя ў сваіх сілах.



На дыване Аляксандр Мядзведзь.

Беларускія аматары спорту маюць поўнае права ганарыцца тым, што ў першых шэрагах савецкіх алімпійцаў прызыву 1968 года—прадстаўнікі нашай рэспублікі. Іх выступленні ў Мехіка—гэта ў той жа час і своеасаблівы рапарт аб развіцці спорту ў Савецкай Беларусі за 50 гадоў яе існавання.

Ужо цяпер, за месяц да пачатку Алімпіяды, можна амаль беспамылкова сказаць, што яна для Беларусі будзе рэкорднай і па колькасці відаў спорту, і, будзем спадзявацца, па здабытых трафеях.

Кідае молат Рамуальд Клім.



З цвёрдым намерам другі раз заваяваць тытул алімпійскага чэмпіёна едзе за акіян наш выдатны барэц **Аляксандр Мядзведзь.** За гады, што аддзяляюць Токіо ад Мехіка, ён не прайграў ніводнага міжнароднага спаборніцтва. А былі ж і чэмпіянаты свету і Еўропы, буйнейшыя міжнародныя турніры.

Не ведаў паражэнняў і мінскі асілак, кідальнік молата **Рамуальд Клім**. Ён не аднойчы сустракаўся са сваімі асноўнымі супернікамі па алімпійскіх баталіях і ў нас у краіне, і за мяжою і кожны раз меў перамогі, прытым са значнай перавагай. Толькі два атлеты свету пасылалі молат за 73 метры

венгр Дзюла Жывоцкі і беларус Рамуальд Клім. Далей за ўсіх кінуў венгр. Але гэта было тры гады таму назад у час «хатніх» спаборніцтваў. А Клім паказаў усесаюзны рэкорд амаль напярэдадні Алімпіяды, у непасрэдным спаборніцтве з сусветнымі рэкардсменамі. Перавага цяпер на яго баку.

Двухразовым чэмпіёнам свету выйдзе на фехтавальную дарожку ў Мехіка такійскі дэбютант аспірант з Мінска **Аляксей Нікачычкаў**. Пасля доўгіх год пошукаў ён авалодаў перадавой сучаснай тэхнікай фехтавання і, галоўнае, набыў трывалую ўпэўненасць у сваіх сілах.

У перыяд паміж Алімпіядамі ўладальніцай тытула чэмпіёнкі свету была і **Тацўяна Самусенка.** Сітуацыя ў гэтым відзе фехтавання—жаночай рапіры—мяняецца даволі хутка і вельмі крута, але Таццяна ўвесь час застаецца ў шэрагу самых моцных. Свае пазіцыі яна павінна ўтрымаць і на Алімпіядзе.

Цяпер мы маем, нарэшце, бегуна, здольнага паспрачацца з любым сапернікам. Гэта студэнт з Гомеля **Уладзіслаў Сапея,** які за два гады прайшоў амаль фантастычны шлях ад навічка да чэмпіёна краіны. Нашым спрынтэрам спатрэбіліся доўгія гады, каб адкінуць ад усесаюзнага рэкорда 0,1 секунды, Сапея за адзін сезон палепшыў рэкорд на стометроўцы на 0,2 секунды, давёў яго да вышэйшага сусветнага класа.



**Віктар Быкаў на дыстанцыі.**

*Упершыню беларускія спартсмены будуць прымаць удзел на алімпійскіх спаборніцтвах па веласіпедным спорце, прытым па абодвух яго відах—гонках на шашы і трэку.* Дынамавец **Віктар Быкаў** ужо быў у складзе савецкага квартэта чэмпіёнам свету ў гонцы праследавання на чатыры кіламетры. Ён знаёмы з палатном трэка ў Мехіка, дзе ў мінулым годзе на «Перадалімпійскім тыдні» савецкая каманда зноў была пераможцам над сваімі старымі сапернікамі. Будзем чакаць новай, самай галоўнай перамогі. **Аляксандр Дахлякоў** прайшоў вялікую школу гонак у нашай краіне і за мяжой. Ці здольны ён паўтарыць або хоць наблізіцца да рымскага поспеху Віктара Капітонава—пакуль што адзінай перамогі нашых веласіпедыстаў на Алімпійскіх гульнях?

Прагнозы ў спорце—справа ненадзейная, асабліва, калі гэта датычыць Алімпійскіх гульняў. І ўсё ж такі існуюць зусім аб'ектыўныя паказчыкі, якія дазваляюць з большай ці меншай дакладнасцю весці разлікі. А яны даюць падставу спадзявацца, што ў Мехіка беларускія спартсмены збяруць рэкордны для сябе ўраджай ачкоў і медаляў. Упершыню наша рэспубліка пасылае на такія спаборніцтвы аднача сова двух алімпійскіх чэмпіёнаў і чатырох чэмпіёнаў свету. Ніколі яшчэ ў той частцы зборнай алімпійскай каманды Савецкага Саюза, якую пасылае Беларусь, не было столькі вопытных таленавітых і стойкіх барацьбітоў, як цяпер. Да гэтага часу для нашай рэспублікі рэкордам было 21 алімпійскае ачко, здабытае ў Рыме. Думаецца, што ў Мехіка гэтая лічба можа павялічыцца, у кожным разе, да 30. Ну, а калі яна стане большай, мусіць, ніхто не будзе ў крыўдзе.

**Міхаіл СУПАНЕЎ.**

Фота **Д. Церахава.**





# ПІЯНЕР ПАРАШУТНАГА СПОРТУ



Падлеткам Якаў Машкоўскі пайшоў на свой хлеб да лесарубаў, бо яго бацьку-настаўніка расстралялі пілсудчыкі. Гэта было ў гады грамадзянскай вайны. Неўзабаве Якаў паступае ў ваенную школу лётчыкаў, якую заканчвае ў 1925 годзе. Потым — Барысаглебскае авіяцыйнае вучылішча. Пасля яго заканчэння Якава Машкоўскага, таленавітага авіятара, накіроўваюць на работу ў Асавіяхім.

У краіне нараджаўся парашутызм, і Якаў становіцца піянерам новага віду спорту. Аднойчы, у часе трэніровак, разбіўся спартсмен, у якога не раскрыўся ў паветры парашут. І тады, не задумваючыся, Якаў Машкоўскі ўзняўся ў паветра і скокнуў з самалёта на парашуце загінуўшага. Беласнежны купал на вачах соцень людзей павольна апусціў смельчака на зямлю...

Адным з першых у краіне Якаў Машкоўскі атрымаў званне майстра парашутнага спорту. За мужнасць і адвагу савецкі ўрад узнагародзіў яго ў 1935 годзе ордэнам Чырвонай Зоркі. З гэтага часу ён узначаліў усесаюзную парашутную школу і падрыхтаваў сотні інструктараў — майстроў шаўковага купала.

Ішоў 1937 год. У друку разгарнулася дыскусія вакол прапановы адважнага лётчыка Героя Савецкага Саюза М. В. Вадап'янава пра палёт на Паўночны полюс. Машкоўскі тады ж выступіў гарачым прыхільнікам парашутнага дэсанту ў Арктыцы. Паводле яго плана, група смельчакоў спусціцца на парашутах сярод вечнага лёду, каб падрыхтаваць пасадачную пляцоўку для самалётаў. Дэсант меркавалася скінуць у тым выпадку, калі паветраныя караблі не змогуць знайсці месца, прыгоднага для пасадкі. Ідэю падтрымала ўпраўленне палярнай авіяцыі, і Машкоўскаму даручылі парашутную групу арктычнай экспедыцыі. Па яго чарцяжах былі зроблены невялічкія ярка-аранжавыя парашуты.

На Паўночны полюс Якаў Машкоўскі, другі пілот і кіраўнік парашутнай групы, ляцеў у самалёце побач з Вадап'янавым. Стаяла яснае надвор'е. Выбраўшы роўнае снежнае поле, усе самалёты, абсталяваныя лыжамі, прызямліліся без дэсанта. Але парашуцікі Якава Машкоўскага адыгралі вялікую ролю. У той час на Поўначы было ўжо шмат населеных пунктаў-зімовак, дзе паветраныя караблі сесці не маглі. У гэтых месцах грузы прызямляліся на парашутах.

Будні першай савецкай экспедыцыі на Паўночным полюсе засведчаны на шматлікіх здымках фотахронікі ТАСС. І на кожным з іх — вясёлы, энергічны Якаў Машкоўскі. Захавалася фотакартка, зробленая адразу пасля прызямлення ў Арктыцы. Пад крылом самалёта мыецца Вадап'янаў. Побач — Якаў Машкоўскі смяецца і лье ваду на далоні свайму камандзіру. Другое фота — на востраве Рудольфа. Удзельнікі экспедыцыі сустракаюць Першамай, даюць ружэйны свя-



Якаў Машкоўскі (справа) — другі пілот флагманскага карабля «СССР Н-170», які вёў Герой Савецкага Саюза Міхаіл Вадап'янаў у экспедыцыі на Паўночны полюс. 1937 год.

точны салют. Тут — і Якаў Машкоўскі.

Радасна сустракала Масква герояў Арктыкі. Якаў Машкоўскі быў узнагароджаны ордэнам Леніна. У апошнія гады свайго жыцця ён кіраваў спартыўным аддзелам Асавіяхіма СССР. Нездоўга да Вялікай Айчыннай вайны Якаў Машкоўскі трагічна загінуў у часе выканання службовага абавязку.

*Пінскі гісторыка-краязнаўчы музей сабраў цікавы матэрыял пра свайго слаўнага земляка. Па рашэнню выканкома гарадскога Савета дэпутатаў працоўных Катлярская вуліца, дзе нарадзіўся і правёў дзіцячыя гады Якаў Машкоўскі, названа яго імем.*

**Аляксандр ХУДАВЕЦ.**

# ЧАРОЎНАЯ КВЕТКА

Без нас — ніводнага свята. Вось ужо 35 гадоў, як я прымаю ўдзел ва ўсіх урачыстасцях. Мог бы напісаць гісторыю святаў. Цікавая, відаць, атрымалася б рэч. Бо кожнае наша свята — чырвоная рыска ў рахунку стваральных спраў. Але я паспрабую аднавіць другую гісторыю — гісторыю масавых спартыўных выступленняў у БССР. Гэта плён вялікай працы. 5 студзеня 1969 года фізкультурнікі Мінска выйдуць на Цэнтральную плошчу з праграмай, якая абагуліць наш спартыўны рух за пяцьдзесят гадоў.

Я прыехаў у Мінск у 1933 годзе пасля заканчэння ў Маскве Цэнтральнага інстытута фізічнай культуры. Захапляўся штангай, лёгкай атлетыкай, рэгбі, а ў Мінскім тэхнікуме фізічнай культуры выкладаў барацьбу. Больш за ўсё любіў гімнастыку.

Гімнастыка ў тыя гады стала набываць новыя рысы. Будаўніцтва сацыялізма ў СССР, шырачэзная масавасць ва ўсіх справах надалі гэтаму віду спорту палітычны характар. Без гімнастыкі не праходзіў ніводны дзень у арміі і флоце, яна ўваходзіла ў вузаўскую праграму і ў асабістую праграму кожнага маладога чалавека. Гімнастычныя практыкаванні ў новым грамадстве сталі сродкам выхавання. І вось у Маскве, у Ленінградзе пачалі паказваць на стадыёнах і плошчах масавыя гімнастычныя выступленні. Дзве мэты праследаваліся гэтымі выступленнямі: па-першае, прапаганда спорту, а па-другое, адлюстраванне сучасных палітычных падзей.

Прыехаўшы ў Мінск, я адразу ўзяўся за арганізацыю масавых выступленняў. 11 ліпеня 1934 года (у гадавіну вызвалення БССР ад белапалякаў) на стадыёне «Дынама» адбылася наша прэм'ера. Удзельнічала ў ёй каля трохсот чалавек — студэнтаў тэхнікума. Потым мы далучылі да іх мінскіх і іншагародніх спартсменаў. У 1935 годзе мы зноў выступілі перад мінчанамі. Дзяўчаты паказалі практыкаванні з булавамі, юнакі — з прапелерамі, бо тады на ўсю краіну грымелі імёны Чкалава, Белякова і Байдукова.

Мы паступова «ўваходзілі ў ролю». У 1936 годзе на нашых выступленнях прысутнічаў работнік ЦК ВЛКСМ Аляксандр Рыжанкоў. Ён даў вельмі высокую ацэнку выступленням. Па яго рэкамендацыі мы праз дзень выехалі ў Маскву для ўдзелу ў гарадскім фізкультурным свяце на Краснай плошчы.

Вядома, мы былі радасна ўзрушаны. Але сродкаў у нас было вельмі мала, а мяне засмучала, што нашы практыкаванні ступшуюцца на фоне стракатага маскоўскага ўнівермага. Нам быў патрэбен другі фон — спецыяльны, святочны. І вось па ўсім Мінску мы збіраем сцягі. Аксамітныя, шаўковыя, расшытыя золатам і срэбрам. Сабралі сто сцягоў. На Краснай плошчы іх трымалі нашы актывісты, кіраўнікі спартыўных арганізацый. Яны ж перасоўвалі цяжкія паралельныя, паднятыя на розную вышыню, брусы, на якіх нашы спартсмены выконвалі практыкаванні і будавалі піраміды.

Цяпер падобныя выступленні выконваюцца пад музыку. Усе выканаўцы добра яе ведаюць, і кожны музычны такт — каманда. Тады таксама было музычнае суправаджэнне, але яно насіла чыста афарміцельскі характар. Каманды падаваліся кіраўніком пры дапамозе двух сцяжкоў.

І вось «пад аховай» двух асістэнтаў я перасякаю Красную плошчу ад ГУМа, дзе стаяць нашы хлопцы і дзяўчаты, да Спаскай вежы. Узбоч ад яе, метраў за трыццаць ад Маўзалея, збудавана драўляная вышка. Плошча чакае. Мае ногі хочуць бегчы, але ж трэба спакойна і прыгожа крочыць. Нарэшце, я на сваёй «галубятні». Узмах сцяжком: «Увага! Падрыхтавацца!» І я забыўся, што побач урадавая трыбуна, што палова Масквы глядзіць на мае сцяжкі — толькі б усё было гладка, не пераблыталі б мае хлопцы каманды!

Яны не пераблыталі. Былі невялічкія замінкі: першы ж «блін»... Затое мы бліснулі акрабатычнымі практыкаваннямі. Масква ўпершыню ўбачыла адразу дваццаць змешаных пар. Іх праграма па тым часе была даволі складанай.

Так пачалася слава беларускіх гімнастаў. Мы атрымалі запрашэнне на Усесаюзны фізкультурны парад. Ігар Майсееў, у той час балетмайстар Вялікага тэатра, прыязджае ў Мінск, каб паставіць у нашым калектыве танцы. Нашымі дасягненнямі цікавіцца ўрад Беларусі. Нам шыюць спецыяльную форму. Я еду ў Маскву, дакладна вывучаю Красную плошчу, раблю разлікі.

І вось бярозавы гай распускаецца перад Крамлём. Гэта нашы дзяўчаты паднімаюць жывыя бярозкі. З-пад іх выбягаюць «пагранічнікі» і вылятае «самалёт». Ідуць у атаку «танкі». Самалёт і танкі рассыпаюцца дужымі, загарэлымі целамі: цяпер на Краснай плошчы масавая зарадка.

Усё гэта адбываецца ў імклівым тэмпе. Перамогшы маруднасць, мы перамаглі сваіх сапернікаў — масквічоў і ленінградцаў. Марыэта Шагінян пісала ў «Известиях»: «Майсееў і Губанаў зрабілі цуд».

Выступленнямі на ўсесаюзным парадзе Беларускі тэхнікум фізічнай культуры падагуліў шматгадовую працу па выхаванню спартыўных кадраў. Пасля гэтых падзей ён быў узнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга і ператвораны ў інстытут.

Нашы выступленні заўжды былі надзённымі. У 1938 годзе па Краснай плошчы праязджае наш «Блакітны экспрэс». Магутны паравоз, амаль у натуральную велічыню, пабудаваны з веласіпедаў, вяровачнай сеткі і кветак. З яго трубы ўзлятаюць у сіняе маскоўскае неба каляровыя шары. Паравоз цягне чатыры вагоны, у якіх едзе трыццаць дзяцей. Пасярод плошчы з вагонаў і паравоза выскокваюць сотні спартсменаў, каб паказаць ашаламляльнае практыкаванне — хвалі.

Мы доўга шукалі гэтую форму руху. Эмануіл Раманавіч Берман узяў за аснову адзін з танцавальных нумароў вар'етэ, распрацаваў прынцыпова новыя хвалі. Мяккія, пластычныя рухі вялізных шарэнг перадавалі і прыгажосць чалавечага цела, і фізічную сілу.

Спартсмены зноў збіраюцца ў цягнік. Але з плошчы ўжо адыходзіць не мірны састаў, а бронецягнік. Услед гучыць мелодыя вядомай песні: «Наш паравоз».

Уся Масква гаварыла толькі пра выступленні беларусаў. Назаўтра нам прадаставілі права выступіць у фінале спартыўнага свята на маскоўскім стадыёне «Дынама». А праз некалькі месяцаў мы зноў выклікалі агульнае захапленне: на марш-парадзе ўсесаюзнай спартакіяды Чырвонай Арміі наша калона паказала, што такое спартыўны крок. Дагэтуль фізкультурныя калоны хадзілі звычайным крокам. Яркім, маляўнічым, апранутым у ад-



Ваза Губанава на спартыўным святе ў Мінску. 1957 год.

нолькавую форму калонам не хапала зладжанасці, выразнасці. Я паспрабаваў мадэрнізаваць страявы крок, аблегчыць яго, зрабіць больш імклівым. Супраць маёй задумы нечакана выступіў інстытуцкі ваенрук: хіба можна, маўляў, мяняць парадны крок нашай арміі? Але мяне падтрымалі ў ЦК партыі. І вось перамога: маршал Савецкага Саюза Сямён Міхайлавіч Будзённы за прахаджэнне нашай калоны ў марш-парадзе ўручае мне грамату камандуючага Маскоўскай ваеннай акругі. З лёгкай рукі Сямёна Міхайлавіча наш марш перайшоў на ўзбраенне ўсіх фізкультурнікаў краіны.

У перадваенныя гады мы пачалі распрацоўваць вазу. Ваза — шматпавярховая піраміда круглай формы. Аснова яе — металічны каркас. На каркасе размяшчаюцца людзі, якія выконваюць паточныя практыкаванні, у тым ліку — хвалі.

Дарэчы, сакрэт хваляў доўга ніхто не мог зразумець. Спрабавалі і так, і гэтак, але нічога ў нашых калег не атрымоўвалася. Яны памыляліся, калі спрабавалі знайсці нейкі магічны лік, якому падпарадкоўваецца рух хвалі.

Цяпер гэтыя выступленні мною падрыхтаваны і ў іншых гарадах краіны. Сакрэту тут ніякага няма. Проста, у шарэнзе ёсць некалькі чалавек, якія першымі пачынаюць рух. Гэты рух успрымаецца суседзямі на дотык і на дотык перадаецца далей па хвалі. Музыка і трэніраванасць — вось увесь магічны лік.

Толькі ў 1946 годзе я змог вярнуцца да сваёй любімай справы. Я служыў у Уфе, калі прыйшла тэлеграма з Масквы: «Адбыць у Мінск для падрыхтоўкі ўдзелу ва Усесаюзным парадзе фізкультурнікаў».

Мінска я не пазнаў. Замест стадыёна «Дынама» — варонкі ад бомб. Усебеларускі — таксама не існуе. Толькі ў парку імя Горкага захаваўся маленькі стадыён «Харчавік», дзе мы і пачалі трэніроўкі.

А хто ж спартсмены? Сто чалавек навучэнцаў Вышэйшай партыйнай школы. Усе — былыя партызаны. Чалавек семдзесят дала армія, хоць даваенныя спартсмены не паспелі яшчэ дэмабілізавацца. Крышку студэнтаў. Я — лейтэнант, а пад маёй камандай — капітаны і маёры. Тады я зняў форму і загадаў яе зняць маёрам. Бо без дысцыпліны — у спорце немагчыма.

Хутка ў Маскве мы зноў пацвердзілі даваенную славу. Наша ваза набыла сваю цудоўную форму і захапіла гледачоў. У спалучэнні з хвалямі яна глядзелася, як чароўная жывая кветка.

Пасля вяртання ў Мінск я атрымаў даручэнне: паехаць па рэспубліцы, паказаць нашы выступленні. Мы былі ў Бабруйску, у Віцебску, у Мазыры, у Полацку, у Баранавічах, наогул усюды, дзе толькі можна было размясціць на ноч трыста спартсменаў. І ўсюды нас віталі як самых дарагіх гасцей.

Слава вазы з таго часу імкліва расла. Мы зрабілі некалькі канструкцый для розных гарадоў нашай краіны. Фізкультурнікі ўсіх краін сацыялістычнага лагера пераймалі вопыт беларусаў. Ваза стала ўпрыгожаннем самых вялікіх святаў у нашай краіне і за мяжой.

Агледаючыся на гісторыю масавых спартыўных выступленняў, я лічу, што Беларусь у гэтым сэнсе заўсёды задавала тон. І мы па-свойму рыхтуемся да юбілею рэспублікі.

На Цэнтральнай плошчы Мінска пасля ўрачыстага шэсця працоўных узнікне васемнаццаціметровая вежа Крамля як сімвал яднання Беларусі ў адзінай Савецкай дзяржаве. Перад «Спаскай вежай» выступяць на катку лепшыя фігурысты рэспублікі, а ў фінале — узнімецца партрэт заснавальніка Савецкай дзяржавы Уладзіміра Ільіча Леніна.

Так мы задумалі адзначыць яшчэ адно свята — наш юбілей.

**Аляксандр ГУБАНАЎ,**
**заслужаны трэнер БССР.**





# СПАРТЫЎНАЯ МАЗАІКА

●

Раман Гарда, аргенцінскі арбітр, дваццаць гадоў судзіў футбольныя сустрэчы. Ён карыстаўся любоўю футбалістаў, таму што ніколі нікога з тых, хто ў час гульні абражаў яго, не папрасіў пакінуць поле. Гарда не чуў абразы — ён быў... глухі.

На пытанне журналіста, што магло б палепшыць адносіны паміж футбалістамі і суддзямі, Гарда адказаў: «Са свайго вопыту раіў бы суддзям мець зоркія вочы і заткнутыя вушы».

●

Ці шкодна «хварэць» на стадыёне? Спартыўныя ўрачы ў Фрайбургу (ФРГ) зрабілі спецыяльнае даследаванне на трох гледачах у час фінальнай сустрэчы на першынство свету па футболу. Нават у пачатку гульні пульс падняўся з васьмідзесяці да ста. Пры складаных сітуацыях на полі колькасць сардэчных скарачэнняў амаль падвойвалася. У час, калі нямецкія футбалісты білі па варотах англічан, пульс балельшчыкаў перавышаў сто дзевяноста ўдараў у мінуту. Для параўнання: парашутыст у першыя секунды падзення мае пульс сто дзевяноста, веласіпедыст на горнай дарозе — дзвесце. Але гэта — спартсмены з трэніраваным сэрцам.

Адсюль вывад: «хвароба» балельшчыка можа закончыцца трагічна, калі ён не мае адпаведнай фізічнай падрыхтоўкі.

●

Неяк аргенцінскі гаўчо трапіў на футбольны матч мясцовых каманд. Ён уважліва назіраў за ўсім, што адбывалася, і рашыў, што суддзя яўна падыгрываў гасцям. Абурэнне было настолькі вялікае, што гаўчо раскруціў ласо, злавіў суддзю і, прышпорыўшы каня, на якім сядзеў увесь час, зацягнуў палоннага ў пампасы. Там ён прачытаў суддзі лекцыю пра справядлівасць, потым прымусіў вычысціць свайго каня. Аднак на наступны дзень яго выклікалі ў суд, прыгаварылі заплаціць штраф і, апрача ўсяго, на працягу месяца чысціць аўтамабіль пацярпеўшага.

●

На лёгкаатлетычных спаборніцтвах у Перу быў адзін вельмі цікавы выпадак. Некалькі суддзяў, сярод якіх і Ф. Дзіяс, заіка з маленства, стоўпіліся ў сектары для кідання дыска каля шчыта са спрэчным вынікам. У гэты момант адзін са спартсменаў для размінкі вырашыў кінуць дыск, і той плазам упаў на спіну Дзіясу. Дзіяс страціў прытомнасць. Калі ён апрытомнеў, выявілася, што яго заіканне зусім знікла. Спартсмен быў збіты з панталыку, калі суддзя пачаў горача яму дзякаваць.

●

Вось што здарылася аднойчы на такійскіх вуліцах. Парушальнікам руху быў ...кенгуру. Паліцэйскія на матацыклах праследавалі «парушальніка» і нарэшце загналі ў двор аднаго з дамоў. І тут раззлаваная жывёліна зрабіла раптам баксёрскую стойку і накаўціравала некалькіх ахоўнікаў парадку. Толькі дрэсіроўшчыкам з цырка ўдалося ўціхамірыць «баксёра». Высветлілася, што кенгуру і сапраўды выступаў у цырку ў ролі баксёра.

**Віктар ЛАМЕЙКА.**

Раздзел вядзе
міжнародны гросмайстар
Аляксей СУЭЦІН

# ПАЯДЫНКІ ДУЖЫХ

З васьмі прэтэндэнтаў, якія штурмавалі подступы да шахматнага Алімпа, засталіся два савецкія гросмайстры — Віктар Карчной і Барыс Спаскі. Яны бліскуча правялі чвэрцьфінальныя і паўфінальныя матчы ў барацьбе за права гуляць матч з чэмпіёнам свету Цігранам Петрасянам. Пачалася трэцяя частка шахматнай трылогіі: фінальны матч Карчной — Спаскі, а ў 1969 годзе пераможца гэтага матча сустрэнецца з чэмпіёнам свету.

Спаскі ў сустрэчы з дацкім гросмайстрам Бентам Ларсенам пераканаўча давёў сваю перавагу, датэрмінова закончыўшы матч з лікам 5,5 : 2,5. Гэтаму папярэднічала вялікая творчая праца.

Першым прадвеснікам перамогі Ларсена быў матч Барыса Спаскага з Яфімам Гелерам.

Права гуляць белымі атрымаў Гелер. Але гэтую перавагу выкарыстаць ён не здолеў, і ў другой партыі лідарства захапіў Спаскі. Далей на працягу ўсяго турніра падзеі развіваліся выгадна для маладога прэтэндэнта (Б. Спаскаму 31 год, Я. Гелеру — 43 гады). Перамога Спаскага — гэта перш за ўсё перамога сучаснага глыбокага псіхалагізму ў шахматнай барацьбе. У дэбюце ўжо Гелер быў пастаўлены перад прынцыпова новымі праблемамі. Чорнымі Спаскі смела ўжываў французскую абарону, белымі ён імкнуўся да вельмі складанай тактычна гульні на ўсёй плошчы дошкі.

Мы пазнаёмім чытачоў з другой партыяй матча нашых прэтэндэнтаў, якая праходзіла вельмі драматычна і напружана.

**Б. Спаскі — Я. Гелер.** Сіцыліянская абарона:

1. e2—e4 c7—c5
2. Kb1—c3 d7—d6
3. g2—g3 Kb8—c6
4. Cf1—g2 g7—g6
5. d2—d3 Cf8—g7
6. f2—f4 Kg8—f6
7. Kg1—f3 0—0
8. 0—0 Лa8—b8
9. Kf3—h4 Kc6—d4!

Вельмі цікава, што да апошняга, дзевятага ходу чорных партыя гэта супала з 17-й партыяй матча 1966 года Спаскі — Петрасян, дзе далей было: 9. ...Cd7, 10. f5 b5, 11. Cg5 b4, 12. Kd5 a5, 13. Kph1 Ke5, 14. Фd2 Cc6, 15. Лae1 a4, і чорныя атрымалі пры моцнай пазіцыі на каралеўскім фланзе дастатковую контргульню на ферзевым фланзе.

Працяг Гелера выглядае больш актыўным, што сцвярджаецца наступным развіццём падзей:

10. f4—f5 b7—b5
11. Cc1—g5 b5—b4!
12. Kc3—b1

Лепш 12. Ke2, хоць і тады пасля 12. ...Kd7, 13. Лb1 K : e2+, 14. Ф : e2 Ke5 чорныя маюць цудоўную контргульню. Цяпер чорныя завалодваюць ініцыятывай у цэнтры і на ферзевым фланзе.

12. ... Kf6—d7!
13. Kb1—d2 Kd7—e5
14. Kpg1—h1 a6—a5
15. Лa1—b1 a5—a4
16. Kh4—f3

Белыя пераходзяць цалкам да абароны, другога плана яны не маюць тут:

16. ... Ke5 : f3
17. Kd2 : f3 Kd4—b5!

Аднаго каня чорным трэба захаваць. Цяпер чорныя дамагаюцца важных паслабленняў пешачнага размяшчэння партнёра на ферзевым фланзе:





18. Фd1—d2 a4—a3
19. b2 : a3 Kb5 : a3
20. Лb1—e1?!

Важны псіхалагічны момант. Разумеючы, што пасіўная абарона бесперспектыўная, белыя ахвяруюць якасць, але рэзка абвастраюць ход гульні:

20. ... Cg7—c3
21. Фd2—f2 Cc3 : e1
22. Лf1 : e1 f7—f6
23. Cg5—h6 Лf8—f7

Можна і 23. ...Kb5, 24. C : f8 Kp : f8, вяртаючы якасць, але хутчэй імкнучыся выкарыстаць слабасць пешкі белых на ферзевым фланзе.

24. g3—g4 e7—e6
25. Kf3—h4 g6—g5
26. Kh4—f3 e6 : f5?

Не трэба было ўскрываць лінію «g». Калі да гэтага Гелер гуляў вельмі добра, цяпер ён траціць ніць гульні, і перавага пераходзіць да белых. Правільна 26. ...Kb5 і потым ...Kc3 або ...,Kd4, уключаючы ў гульню каня.

27. g4 : f5 Kpg8—h8
28. h2—h4 g5—g4?

Лепш 28. ...gh, 29. Ф : h4 Cb7, імкнучыся хутчэй уключыць у гульню свае фігуры.

29. Kf3—h2 g4—g3

Чорныя не адчуваюць небяспекі. Неабходна было ўключыць у гульню каня: 29. ...Kb5, 30. K : g4 K : d4. Цяпер белыя атрымліваюць рашаючую атаку:

30. Фf2 : g3 Ka3 : c2
31. Лe1—g1 Cc8—b7
32. Cg2—f3!



Дыяграма дае ўяўленне пра безнадзейнасць становішча чорных. Пагражае як 33. Cg7+, так і манеўр 33. Ch5. Чорныя безабаронныя.

32. ... Фd8—d7
33. Cf3—h5 Лf7—e7
34. Kh2—g4! Лb8—g8

Дрэнна 34. ... Ф : f5, 35. Ke3! (Магчыма і 35. Ф : d6) ...K : e3, 36. Cg7+ Kpg8, 37. C : f6+ Kg4, 38. C : g4 Ф : f6, 39. Ce6++! Kph8, 40. Фg8+!, і мат наступным ходам.

34. ... Лb8—g8
35. Фg3—f2 Kc2—d4
36. Kg4 : f6 Лg8 : g1
37. Фf2 : g1

І чорныя здаліся.

Няцяжка пераканацца, што пасля 37. ... Фd8, 38. Ce8! пагроза мата на g7 або g8 вырашае бой.

# ШПАРКІ РАЗГРОМ

Наступная партыя, згуляная ў першынстве Беларусі 1968 года, закончылася шпаркім разгромам ракіроўкі чорных.

**Збароўскі — Зэлькінд.** Сіцыліянская абарона: 1. e4 c5, 2. Kf3 d6, 3. d4 cd, 4. K : d4 Kf6, 5. Kc3 g6, 6. f4 Kc6, 7. Ce2 Cg7, 8. Ce3 0—0, 9. 0—0 Cd7.

Энергічней 9. ...d5, што, паводле тэорыі, вядзе да ўроўнівання гульні.

10. Kb3 Лc8, 11. Cf3 Фc7?, 12. g4 Ke8.

Без прамых тактычных памылак чорныя, пасіўна гуляючы, трапілі ўжо ў вельмі цяжкае становішча.

13. Фe1 Лd8, 14. Фh4 Фb8, 15. f5 Kc7.

Чорныя ўжо не ў стане знайсці добры план абароны. Атака белых ідзе далей без перашкод.

16. Cg2 Cf6 17. g5 Ch8, 18. Лf3 h5, 19. gh Kph7, 20. Лaf1 e6, 21. fg fg, 22. Лf7+.

Чорныя здаліся.

Пасля вымушанага 22. ...Л : f7, 23. Л : f7+ Kpg8, 24. Лf4 пагрозу белых ужо не адаб'еш.

У заключэнне прывядзем яшчэ два эфектныя прыклады атакі на караля праціўніка. Адзін з іх—прыклад атакі ў глыбокім эндшпілі.

**Чэрнікаў—Этрук.** (СССР, Харкаў, 1967 год.)



Пасля 34-х хадоў.

Белыя: Kpg1, Фf3, Лa1, Лd4, Kh2; пп. b5, d3, e5, f2, g4, h4 (11).

Чорныя: Kpg7, Фa8, Лc2, Лh8, Kd5; пп. a3, e6, f7, g6, h5 (10).

35. Л : d5! Ф : d5 (35. ...ed, 36. Фf6+ Kpg8, 37. e6 fe, 38. Ф : g6+ Kpf8, 39. Фf6+ Kpg8, 40. Ф : e6+ Kpg7, 41. Фe7+ і 42. Л : a3 да выгады белых), 36. Фf6+ Kpg8, 37. Л : a3 Лc1+, 38. Kf1 hg, 39. Лa7, Лh7, 40. b6 Лg7, 41. b7 Ф : d3, 42. Фd8+! Ф : d8, 43. Лa8 Лd1, 44. Лc8 Kph7, 45. b8Ф Л : f1+, 46. Kp : f1 Фd3+, 47. Kpg1 g5, 48. h5 Kph6, 49. Лh8+ Лh7, 50. Фf8+ Kp : h5, 51. Ф : f7+ Kph6, 52. Ф : e6+ Фg6, 53. Л : h7+ Kp : h7, 54. Ф : g4+

Белыя выйгралі на 91-м ходзе.

**Дончанка—Штайнберг.** (СССР, Харкаў, 1967 год.)



Пасля 88-га хода белых.

Белыя: Kpe2, Cf5, Ch4; пп. a4, c3, c4, d5, e4, f3, g4 (10).

Чорныя: Kpg2, Kf6, Kg5; пп. a5, b6, c5, d6, e5, f6 (9).

Ужо ў глыбокім эндшпілі чорныя завяршаюць барацьбу прыгожай камбінацыяй.

88. ...K : f3+!, 89. C : f6 Kg5!, 90. C : g5 f3+, 91. Kpd2 f2, 92. Ce7 f1+Ф, 93. g5 Kpf3, 94. g6 Фg2+, 95. Kpc1 Kpe3, 96. C : d6 Kpd3.

Белыя здаліся.





# ПРЭМ'ЕРА

З таго часу, як я стаў кіравацъ балетнай студыяй пры доме культуры арцелі «Чырвоная сінька», у мяне не стала ні хвілінкі вольнага часу. Рэпетыцыя. Заняткі. Зноў рэпетыцыі. Зноў заняткі.

А тут неяк звоніць мой даўні сябар Сымон Часначок.

— Слухай, Антось,— кажа ён мне,— ці хочаш схадзіць на цудоўную прэм'еру? Разумееш, сам бы пайшоў, ды трэба ў камандзіроўку. Па білет у чарзе трое сутак адстаяў. Шкада абы-каму аддаваць.

Прэм'ера, вядома, рэч няпэўная. Ліха ведае, што цябе чакае!

Пытаюся:

— Гэта што, балет ці опера? Гастралёры якія заезджыя ці свае артысты?

Часначок рагоча на тым баку праваду.

— Гэта,—кажа,— мацней за ўсе твае балеты, а іграюць у ёй госці з Украіны і нашы дынамаўцы. Восем заслужаных, адзінаццаць майстроў вышэйшага класа. Уцяміў?

Што Часначок брахун і нічога ў танцах не кеміць, дык гэта кожны ведае. Але восем заслужаных мяне пераканалі. Кажу:

— Добра, пайду, хоць і часу няма. А дзе гэтая прэм'ера будзе?

— Стадыён ведаеш? Не? Ну і адсталы ты элемент, Цыбулька! Зойдзеш, растлумачу, як да яго дабрацца,— і Часначок паклаў трубку.

За ўсю сваю доўгую дзейнасць на ніве танцавальнага мастацтва я ніколі не бачыў, каб на нікому не вядомую прэм'еру ішло столькі народу. Запаланілі ўвесь праспект, віселі на падножках аўтобусаў і трамваяў, спынялі вулічны рух. Ахрыплы міліцыянер зняможана крычаў: «Грамадзяне! Прапусціце машыны, грамадзяне!..»

Грамадзяне не звярталі ніякай увагі. Яны беглі, штурхаліся. Яшчэ за два кварталы мяне сустрэлі нейкія людзі, павіслі на плячах.

— Таварыш, можа ёсць лішні білецік?!.

Я ледзь адбіўся ад іх. І тут мяне падхапіла людская хваля, панесла на стадыён.

«Дзякуй Часначку, што даў білет,— думаў я, шукаючы сваё месца.— Мог жа такую прэм'еру прапусціць...»

А публіка ўсё прыбывала і прыбывала. Па два білеты, ці што, на адно месца прадавалі? Мяне ўжо заціснулі з абодвух бакоў, як раптам паявілася мажная жанчына.

— А-ну, пасунься! Расселся тут, як у тэатры...— Яна штурхнула мяне, уціснулася на лаўку і, заклаўшы два пальцы ў рот, пранозліва свіснула.

— Мадам,— сказаў я,— вы не ў лесе. Вядзіце сябе прыстойна.

Яна ляпнула мяне па плячы і выгукнула:

— Пабалеем!

«А што, і ў гэтым ёсць свая прыгажосць,— падумаў я.— Як у старажытным Рыме...»

Тым часам на зялёную сцэну выбеглі дзесяць танцораў у белым і адзін у чорным світэры. Адзінаццаць мужчын. І — ніводнай жанчыны!.. Новае слова ў балеце!

— Хіба ў іхняй трупе няма ніводнай жанчыны? — спытаў я сваю мажную суседку.

— Ха, сказануў! — выдыхнула яна і зноў свіснула.

На поле выбегла яшчэ адзінаццаць танцораў.

— А гэта хто? — спытаў я.

— Нашы. Вочы табе павылазілі, ці што? — сказала суседка.

«Танцаваць разам без рэпетыцый даволі цяжка...» — падумаў я і ямчэй усеўся, каб не прапусціць ніводнага новага па.

Спачатку танцам перашкаджаў балетмайстар, які невядома чаго бегаў па сцэне, крычаў на танцораў і нават выгнаў аднаго вон. Яго тут жа замянілі другім. Потым танцы наладзіліся. Я выпадкова ўбачыў фотакарэспандэнта, паклікаў яго і папрасіў:

— Братка, здымі мне самыя прыгожыя фігуры...

— Добра,— махнуў ён рукой і пабег да левай кулісы, якой былі вароты з нацягнутай сеткай.



У першым аддзяленні быў выкананы глыбока народны танец «Вясельны карагод». Чалавек — дзіця прыроды. Такі асноўны лейтматыў гэтага танца. Праўда, апладзіраваў чамусьці адзін я.



Другое аддзяленне было прысвечана класічнаму танцу. На пачатак маладыя таленавітыя артысты выканалі па-дэ-труа з балета «Спартак». Паглядзіце, колькі пластыкі, грацыі і сапраўднага майстэрства ў позах акцёраў! Якая натхнёнасць! Колькі экспрэсіі і жыцця! Няхай жывуць таленты!

Затое твіст у выкананні двух заслужаных артыстаў спадабаўся многім.

Шчыра кажучы, дык мне больш па душы прыйшоўся па-дэ-грас. Лёгкі малюнак танца, прыгажосць выканання і тая мілая непасрэднасць, з якой абодва артысты танцавалі яго, назаўсёды запалі ў маё сэрца.

Потым была выдатна пастаўлена сцэна з балета «Атэла». Праўда, Дэздэмону чамусьці іграў мужчына. Я за пошукі!..

Калі Дэздэмону выносілі на насілках, публіка крычала, свістала і тупала нагамі. Вось што значыць сапраўднае мастацтва! Яно хвалюе. Яно не пакідае нікога раўнадушным.

Дэздэмону можна было не адвозіць на «хуткай дапамозе», лішні натуралізм.









Вельмі пераканаўча была сыграна сцэна «Раніца на полі Куліковым». На жаль, балетмайстру нешта не спадабалася, і ён парушыў цудоўны малюнак класічнага танца.



У заключэнне была выканана сцэнка на матыў папулярнай сярод моладзі песенькі «Ідзі, ідзі...» Публіка шалела ад захаплення.

Зрэшты, як і ў кожнай прэм'еры, былі і свае недахопы. Незразумела, навошта кожны танец выконваўся з мячом, які артысты штурхалі нагамі або білі галавой. Але гэты і другія недахопы не сапсавалі наогул добрага ўражання ад цікавай, захапляльнай праграмы маладых майстроў, якая чамусьці ішла пад не зусім паэтычнай назвай — «Футбол».

Ну што ж, футбол, дык футбол... Усё залежыць ад таго, як разумець мастацтва.

P. S. Я даведаўся, што здымкі гэтыя зрабіў **Аляксандр ГЛІНСКІ.** Дзякуй яму за гэта.

**Антось ЦЫБУЛЬКА.**



# НАШ ЧАСОПІС У БУДУЧЫМ ГОДЗЕ *«МАЛАДОСЦЬ—69»*

**ДАРАГІЯ ЧЫТАЧЫ!**

Мы рыхтуемся ўжо да новага года, збіраемся з думкамі пра першыя нумары «МАЛАДОСЦІ». Нам вельмі патрэбна ваша дапамога, каб вызначыць галоўныя раздзелы, асноўную тэматыку часопіса. Вашы меркаванні, вашы прапановы вельмі важныя для нас.

Таму мы **просім адказаць на некалькі пытанняў:**

**1. Якія з празаічных твораў (аповесцей, апавяданняў), апублікаваных у 1968 годзе, вам спадабаліся, а якія не?**

**2. Ці задавальняе вас паэзія на старонках нашага часопіса?**

**3. Што вы можаце сказаць пра дакументальныя аповесці і пра пераклады з іншых моў?**

**4. Што, наогул, вы хацелі б чытаць у раздзелах паэзіі і прозы?**

**5. Якія праблемы жыцця моладзі варта было б асвятляць у раздзеле публіцыстыкі? Што вас цікавіць?**

**6. Ці задаволены вы былі ў 1968 годзе рубрыкамі (нават тымі, што ўзнікалі час ад часу)? Што з іх пакінуць, што памяняць, штоперайначыць, што новае ўвесці?**

**7. Што б вы хацелі бачыць у рубрыцы «Для вас, дзесяцікласнікі»?**

**8. Ці задаволены вы раздзелам крытыкі і бібліяграфіі? Якімі б вы хацелі бачыць на старонках часопіса размовы пра літаратуру і мастацтва?**

**9. А што вы скажаце пра фотаздымкі і работы мастакоў, якімі афармляецца часопіс? Якая з вокладак вам спадабалася, а якая не?**

**10. Ці задавальняе вас фармат часопіса, яго аб'ём? Што вы скажаце наконт шрыфтоў і тэхнічнага афармлення часопіса?**

Калі вы не палянуецеся адказаць на гэтыя дзесяць пытанняў, ды яшчэ адказаць разгорнута, вы тым самым паможаце нам выпрацаваць МАДЭЛЬ «МАЛАДОСЦІ» Ў НОВЫМ, 1969 ГОДЗЕ. Будзьце шчырыя ў адказах, не скупіцеся на крытычныя заўвагі. Не пазніцеся з адказамі. Паведаміце свой узрост, свой занятак (прафесія, студэнт, вучань).

Лісты свае дасылайце на адрас: **Мінск, ГСП, Карла Маркса, 40, рэдакцыя часопіса «МАЛАДОСЦЬ».**

Загадзя вам удзячны.

**Рэдакцыйная калегія.**

# НАШЫ АЎТАРЫ

●

**СВІРКА Юрась** нарадзіўся ў 1933 годзе ў Докшыцкім раёне. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна. Працуе на беларускім радыё. Аўтар зборнікаў вершаў «Шэпчуцца ліўні», «Вечнасць», «Баравіна».

●

**ГРОДНЕЎ Мікола** нарадзіўся ў вёсцы Старая Алешня на Рагачоўшчыне. Скончыў гістарычны факультэт Гомельскага педінстытута. Цяпер працуе ў рэдакцыі часопіса «Беларусь. Выйшлі ў свет яго кнігі: «За бацькоўскім парогам», «Цяжкае шчасце», «Вясна была».

●

**ПАЎЛАЎ Уладзімір** нарадзіўся ў 1935 годзе ў вёсцы Замошша на Случчыне. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна. Працаваў у рэдакцыях газет. Аўтар зборнікаў вершаў «Узлётная паласа», «Далягляд», «Светацені».

●

**НАВУМЕНКА Іван** нарадзіўся на Гомельшчыне ў гарадскім пасёлку Васілевічы ў 1925 годзе. Скончыў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт імя У. І. Леніна і працуе там жа выкладчыкам на кафедры беларускай літаратуры. Аўтар зборнікаў апавяданняў «Семнаццатай вясной», «Хлопцы-равеснікі», «Верасы на выжарынах», аповесці «Вайна ля Цітавай копанкі», раманаў «Сасна пры дарозе» і «Вецер у соснах».

●

**АЛЕСЬ Хведар** нарадзіўся ў 1919 годзе на Бабруйшчыне. Скончыў Гомельскі педагагічны інстытут. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, заслужаны настаўнік школ РСФСР, старшы выкладчык літаратуры ваеннага вучылішча.

●

**ВЫШЫНСКІ Міхась** нарадзіўся ў 1940 годзе ў Мінску. У 1965 годзе скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна і працаваў настаўнікам у Брэсцкай і Мінскай абласцях. Цяпер працуе ў рэдакцыі часопіса «Нёман».

●

**ВАСЬКО Уладзімір** нарадзіўся ў 1937 годзе ў Шчучынскім раёне. Скончыў Гродзенскі педагагічны інстытут. Настаўнічаў. Цяпер працуе ў рэдакцыі дзятлаўскай раённай газеты.

●

**СЕРБАНТОВІЧ Анатоль** нарадзіўся ў 1941 годзе на Шклоўшчыне, у вёсцы Ордаць. Закончыўшы філалагічны факультэт БДУ імя У. І. Леніна, працаваў у рэдакцыях часопісаў і газет. Аўтар зборніка вершаў «Азбука».

●

**ХАМЧУК Валянціна** нарадзілася ў 1946 годзе на Гродзеншчыне. Настаўнічала на Урале, працавала дыванпчыцай у Малдавіі. Вучыцца ў бібліятэчным тэхнікуме ў Магілёве.

●

**БАРАВІК Марыя** нарадзілася ў 1946 годзе ў Глыбоцкім раёне. Скончыла сярэднюю школу. Працуе ў рэдакцыі раённай газеты «Шлях перамогі».

**ЖУРНАЛ «МОЛОДОСТЬ» № 9**

Мастацкі рэдактар **Янка РАМАНОЎСКІ.** Тэхнічны рэдактар **Пятро ЛЫСЕНКА.**
Карэктар **Лідзія ТАЎЛАЙ.**

Рукапісы, аб'ёмам да аркуша, не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: **Мінск, ГСП, вуліца Карла Маркса, 40.**
Тэлефоны: **2-93-854**—сакратарыят і аддзел крытыкі, **2-93-592**—аддзелы паэзіі і прозы, **2-93-892**—аддзелы публіцыстыкі і мастацкага афармлення, **2-93-775**—аддзел інфармацыі.

Здадзена ў набор 1/VII-68 г. Падпісана да друку 2/IX-68 г.
АТ 17617. Тыраж 10720. Зак. 1090. Цана 40 кап. Папера $70 \times 108^1/_{16}$. Фіз. друк. арк. 10. Умоўн. друк. арк. 13,7. Вуч.-выд. арк. 14,5.

**Друкарня выдавецтва «Звязда», Мінск, Ленінскі прасп. 79.**



**ВЫПУСК БЕЛАРУСКАГА ТЭАТРАЛЬНА-МАСТАЦКАГА ІНСТЫТУТА. 1968.**
**Тамара ЧАРНЫШОВА. Вясельны ўбор.** Мастацкае мадэліраванне.